Алесь Крыга

# Выбух над Прыпяцю

ДАКУМЕНТАЛЬНАЯ АПОВЕСЦЬ

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1992

ББК 84Бел7
К85

Эта книга — исповедь белорусов, над чьими судьбами раскинул черные крылья чернобыльский ворон, призыв к милосердию. Автор выступает не в роли постороннего созерцателя, а вместе с полешуками, с которыми живет рядом с эпицентром ядерного взрыва, ищет ответы на мучительный вопрос: как быстрее ликвидировать последствия аварии на Чернобыльской АЭС.

К $\frac{4702120201-133}{М 302(03)-92}$ 31—92

ISBN 5-340-01116-X

© А. А. Крыга, 1992
© Афармленне. М. У. Чуднікаў, 1992

Няма такога бога, які адпускаў бы грахі бязвіннаму чалавеку. А людзі ўсё ідуць і ідуць прычашчацца. Да суседа, знаёмага, употай — у светлае ўлонне сваёй знямелай ад гора душы.

Палессе. Тры гады пасля чарнобыльскай аварыі. Лета — восень трывожнага 1989 года.

Некалі ў маім жыцці ўжо надаралася адчуванне няяснай трывогі і незразумелай безабароннасці. Роўна дваццаць чатыры гады таму назад. На эсмінец «Вогненны», на якім я ў той час служыў, нечакана завезлі хімічныя камплекты. Пад сіпатыя званы вучэбнай трывогі мы ўлазілі ў халодныя гумавыя штаны і курткі і ў адно імгненне рабіліся падобнымі на казачных пачвар, якімі бацькі палохалі нас у дзяцінстве. Але тое, чым мы займаліся на эсмінцы, зусім не нагадвала казку. Кожны з нас скурай адчуваў набліжэнне небяспекі. Асабліва калі мы садзіліся ў сваіх касцюмах за абедзенны стол і, не здымаючы з твару масак, праз гумавую шчыліну вуснаў вучыліся есці. Гэты штодзённы рытуал быццам паралізоўваў волю кожнага з нас, рабіў аднолькава падобнымі на мёртвых манекенаў у зялёным святле вітрын універмагаў.

Ноччу, пад вясёлкавым россыпам паўночнага неба, эсмінец адшвартаваўся ад прычала. Амаль суткі мы ішлі на поўнач. І амаль праз кожныя шэсць гадзін паўтараліся фантастычныя скачкі ў зялёных хімкамплектах. І калі мы ўжо, як тыя касмічныя сабачкі, змірыліся з непазбежным, зразумелі, што нікуды нам не схавацца ад выпрабавання атамнай зброі, што пройдзе яшчэ колькі часу і мы спынімся каля Новай Зямлі, дзе знаходзіўся ядзерны палігон, у кацельнае аддзяленне, у якім мы неслі хадавую вахту, бы ачмурэлы, уляцеў капітан-лей-

тэнант, камандзір нашай баявой часці. Матляючы галавой, ён хрыпла закрычаў: «Усё, хлопцы, вяртаемся дадому! Хай вашы нявесты не турбуюцца. Паўночны флот верне вас спраўнымі мужчынамі...»

Так шчасліва закончылася тая даўняя марская эпапея. Шчасліва для мяне і маіх таварышаў, але не для сябра майго маленства, — Жэні Кулакоўскага.

Я добра памятаю, як Жэнька радаваўся, калі медыцынская камісія прызнала яго годным для службы на падводным флоце. І ў гэтым не было нічога дзіўнага: быў ён неблагім баксёрам, штодзень займаўся гантэлямі і, наогул, лічыўся сярод хлопцаў з Круглай плошчы адным з самых дужых, хоць ніколі не пускаў сваю сілу ў ход.

Адным словам, прызвалі пісьменніцкага сына Жэньку Кулакоўскага на Паўночны флот. А праз год — адправіўся за ім следам і я.

Дзіўныя бываюць сустрэчы. У шэсцьдзесят чацвёртым перад выхадам у далёкае плаванне некалькі матросаў, у тым ліку і мяне, накіравалі ў шпіталь да зубнога ўрача. Вось там, у калідоры першага паверха шпіталя, я і сутыкнуўся твар у твар з Жэнькам. Мы спачатку аслупянелі, а потым кінуліся адзін да аднаго ў абдымкі. Гэта ж трэба, пашчасціла сустрэць на Поўначы суседа. Я, вядома, пацікавіўся, што ён тут робіць.

— А хто яго ведае, — бесклапотна махнуў рукой Жэнька. — Здарылася на лодцы маленькая непрыемнасць, дык на нас нейкія псіхалагічныя эксперыменты ставяць...

Праз год я ўбачыў Жэньку ўжо дома ў цывільным адзенні. Медыцынская камісія прызнала яго нягодным для службы. Аб прычыне ён не расказваў, ды і мне было няёмка пра яе пытаць, аднак, вярнуўшыся на карабель, я праз «матроскі тэлеграф» навёў даведкі пра лодку, на якой служыў Жэнька. «Маленькія непрыемнасці», на якія намякаў мой сябар, на самой справе аказаліся аварыяй рэактара. На бераг спісалі ўвесь экіпаж.

Цяпер, калі я пішу гэтыя радкі ў некалькіх кіламетрах ад Чарнобыля, ужо па-іншаму думаю пра незвычайныя паводзіны Жэнькі. І пра яго раннюю жаніцьбу, і мітуслівае жаданне ўсюды паспець. Ён аднавіўся на вячэрнім аддзяленні універсітэта, пайшоў працаваць. Але спяшалася і нябачная хвароба, кожнае імгненне раз'ядаючы ягонае цела. На што ён разлічваў, так ганячы коней? Мо на міласэрнасць маладой жонкі, якая

зразумее яго, бязвіннага? А можа, як і кожны моцны чалавек, не мог паверыць, што яго адолее нейкае апраманенне, пра якое мы тады амаль нічога не ведалі?

Аднаго не магу дараваць сабе. Перад самай смерцю Жэнькі мы з ім выпадкова сустрэліся ў булачнай. Ён ужо з'ехаў ад бацькоў і, убачыўшы мяне, узрадаваўся, але раптам спахмурнеўшы, сказаў:

— Трэба пагаварыць...

Я з энергіяй здаровага чалавека пачаў адмаўляцца:

— Да нас прыйшлі госці, дык маці паслала купіць торт. Ты пазвані мне заўтра ў рэдакцыю...

Кулакоўскі моўчкі і неяк засяроджана занатаваў у запісную кніжку мой рабочы тэлефон, потым кіўнуў галавой:

— Бывай...

І мы развіталіся назаўсёды, бо праз колькі дзён раздаўся той, ашаламляльна неверагодны, стрэл у скроню, пасля якога Жэнька яшчэ некалькі гадзін пакутаваў на аперацыйным стале...

Так падвёў рахунак пад сваім скалечаным жыццём мой сябар дзяцінства. І калі я думаю пра яго, заўсёды чую шалёна-радасны вокліч нашага капітан-лейтэнанта: «Паўночны флот вас верне спраўнымі мужчынамі...» І яшчэ ўсплывае перад вачамі сціплы помнік на Маскоўскіх могілках у Мінску: «Яўген Аляксеевіч Кулакоўскі. Памёр у 1967 годзе».

Мне заўсёды здавалася, што на тым камені не хапае нейкіх важных слоў. Цяпер я іх ведаю: «Бязвінная ахвяра атама». Бо Жэнькава самазабойства стала нібы прадвеснікам той бязмернай трагедыі, якая абрынулася на нас праз дзевятнаццаць гадоў пасля ягонай смерці.

Пэўна, гэтая балючая памяць, абуджаная страшэннай бядой, якая ненаеднай драпежніцай упільнавала маю Беларусь, і вызначыла няблізкую дарогу ў некалі цудоўны куточак палескай зямлі — на Брагіншчыну.

У той дзень я сеў у доўгі і цесны, як напханы рэчамі чамадан, аўтобус. Ён няспешна каціў у бок Чарнобыля.

Пасля Бабруйска шмат людзей выйшла і на вольнае каля мяне месца прысуседзіўся хударлявы мужчына гадоў шасцідзесяці. Незаўважна завязалася размова. Муж-

чына ехаў у Рэчыцу, дзе нядаўна памерла яго старэнькая, аж пад дзевяноста год, маці. Пасля яе засталася хата, і майго спадарожніка хвалявала жыццёвая проза: як не прадзешавіць селішча. За хату давалі шэсць тысяч. І гэтая акалічнасць нечакана скіравала думкі майго спадарожніка да чарнобыльскай аварыі.

— Каб не тое няшчасце, — уздыхнуў ён, — дык за матчыну хату я ўзяў бы ўдвая больш. У Рэчыцы таксама радыяцыі той аж да падбародка, і калі сёння круціць носам, дык заўтра зусім не прадасі...

Потым ні з таго ні з сяго ён паплыў у маленства. Успомніў, як перад самай вайной арыштавалі местачковага бацюшку Бутрыма, які па сумяшчальніцтву яшчэ выкладаў у іхняй школе гісторыю. Вялі слугу божага праз усё мястэчка пад канвоем, а ў дварах за платамі спалохана хрысціліся жанчыны. Бутрыма любілі, і ніхто не мог паверыць, быццам ён нямецкі шпіён. А вось некалькі гадоў таму назад выпадкова сустрэў у Рэчыцы сына бацюшкі. Працаваў папоўскі нашчадак выхавацелем у сіроцкім доме.

— Ці можа сын шпіёна быць міласэрным? — спытаў у мяне мужчына і, мабыць, па звычцы зноў уздыхнуў. — Вось як бывае: ад бацюшкі хоць сын застаўся, а цяпер можа здарыцца, што маім унукам не наканавана ўбачыць сваіх дзяцей. Распаўзаецца атрута. Ужо і пад самым Мінскам, кажуць, няможна збіраць грыбы...

— Ды навошта тады тыя клопаты з хатай? — пацікавіўся я.

— А хай яе, — ён збянтэжана шморгнуў носам, — гэта сялянская хвароба. Не кідаць жа дабро... Ды і лякарства цяпер заморскага без чырвоненькай наверх не купіш. Чорт яго ведае, мо і ад радыяцыі штонебудзь прыдумаюць, дык, грошы, браце, не пашкодзяць...

У Рэчыцы мой спадарожнік развітаўся са мной. Салон апусцеў. Аўтобус усё гэтак жа няспешна набліжаўся да «зоны жорсткага кантролю». Як на запаволеных кіназдымках, праплыла прадаўгаватая шыльдачка — «Хойніцкі раён». На вуснах усё адчувальней з'яўляўся нейкі незразумелы трывожны прысмак, нібы ты ў самую задуху выпіў шклянку кіслага соку і ён высыхае ў роце. А за акном аўтобуса ўсё беглі і беглі назад, дадому, стромкія бярозкі. Маладзенькія, вясёленькія і ўжо, мабыць, невылечна хворыя...

У гасцініцы мне далі асобны (хоць і невялічкі) нумар. Амаль ушчыльную да ложка — тэлевізар. Якраз па другой усесаюзнай праграме паказвалі цікавую перадачу. Колькі я ні круціў ручку, ладу не дабіўся. Клікнуў на дапамогу дзяжурную.

— Ды што ты, мілы чалавек? — здзівілася яна. — У нас ніколі гэтую праграму ў вочы не бачылі.

— Як гэта? — цяпер ужо здзівіўся я. — Мне ж у аўтобусе паказвалі новую тэлевізійную вежу метраў на сто пяцьдзесят...

Дзяжурная прыцмокнула языком:

— Во, святы, наіўны мужчынка. Вежу тую паставілі, але такую, каб мы не бачылі вярхоўную сесію. Вядома, цёмных людзей лягчэй трымаць у аброці...

Такі вось нечаканы рэзананс векавечнай беднасці на грошы і на разумных мясцовых кіраўнікоў...

Непадалёку ад аўтастанцыі бабуля, тыповая паляшучка, з выцвілымі, некалі, мабыць, блакітнымі вачыма, у такой жа выцвілай сіняй хустачцы гандлюе радыеактыўным часнаком і цыбуляй. Убачыўшы знаёмую, замахала рукамі, завойкала:

— Хадзі сюды, Волечка. Ты ў нас разумная. Растлумач ты мне, што такое бэры тыя? —

Вольга — мажная светлавалосая жанчына — адгукнулася ціхім грудным смехам.

— Ты, відаць, баба Клава, тры гады з печы не злазіла. Бэры — значыцца Берыя.

— Ці не звар'яцела ты? Забілі яго, здаецца, яшчэ ў маё замуства, — відавочна разгубілася старая.

— Забіць забілі, — тлумачыць Вольга, — а дух ягоны перасяліўся да нас. Цяпер лётае па тых нуклідах над дахамі. Выглядае ахвяры, гадзіна...

— От, гора, Волечка, дык гора. Дый што зробіш? Ад свалаты не ўцячэш...

Скрыня, на якой старая расклала сваю небагатую гародніну, засцелена раёнкай. З-пад цыбулі выглядае фотаздымак камбайнера. Пэўна, лідэра сацыялістычнага спаборніцтва. Ідзе жніво...

Старая рэчка Брагінка схавалася ў цвілі пад нешырокім мастком. Вада ані з месца. З аднаго боку — пло-

шча, на якой выдзляецца будынак райкома, і больш сціплы, трохі абшарпаны і састарэлы — райвыканкома. З другога — універмаг, гасцініца і пошта. Ля ўвахода ў гасцініцу стаяць, як тыя тры волаты, агітплакаты. На адным спіной да тратуара сядзіць нейкі чыноўнік, у якога паміж лапатак тырчыць завадны ключ. І надпіс: «Не чакаць указанняў!»

А побач яшчэ адзін «новенькі» лозунг: «Кожная новая пасада — перашкода перабудове!» Такое адчуванне, быццам перавярнулі другім бокам старую кашулю...

Насупраць пошты — універмаг. На другім паверсе ў шырокім акне рэклама: тавары для маладажонаў. Значыць, ладзяць людзі вяселлі. І гэта палохае сваёй непераможнай цягай да прадаўжэння чалавечага роду на знявечанай зямлі...

У пошуку прадуктаў ніяк не абмінеш аўтобусную станцыю. На тым месцы, дзе калісь гандлявала баба Клава, стаіць белая «Волга». Па нумарах вызначаю — з Азербайджана. Каля яе — чорнавалосыя хлопцы. Зазываюць палешукоў купляць дыні. Тры рублі за кілаграм. Падышла маладая жанчына. Без усялякіх эмоцый узважыла дыню.

— Шэсць рублёў, — усміхнуўся малады прадавец.

— Хутка на нашы грошы верталёт купіце, — нязлосна і стомлена кажа жанчына. — Рынак у нас вялікі — палова Беларусі... Так што хапайце, — і, адышоўшы, гаворыць у злосці: — Зляцеліся крумкачы...

Яна пашыбавала па няроўна заасфальтаванай вуліцы. Мабыць, спяшалася да малых...

Мясцовую сталоўку называюць «клубам для мух». Тут ім сапраўднае раздолле. На кухні, праўда, проста да сцяны прыклеена ліпучка. Там іхнія ганаровыя могілкі. Але жывых мух запрашэнне ў царства мёртвых не палохае.

— А што ты хацеў? — здзівіўся мой знаёмы. — Ці да мух нам цяпер? Тут самім бы неяк хоць трохі пажыць...

Ля рукамыйніка мыла няма, як і ручніка. Дэфіцыт у зоне асаблівай увагі...

Боль нашага Палесся здранцвеў у вачах людзей. Яны стаміліся крычаць, ды і не ўмеюць так безвыходна і пранізліва крычаць, каб нарэшце на гэты крык азвалася ўся краіна, увесь свет. А яго, гэтага болю, не адчуваюць многія, ад каго залежыць вырашэнне простых жыццёвых пытанняў. Нават сурвэтак у месцах грамадскага харчавання не ўбачыш. Гавораць, што яны з'яўляюцца ў час прыезду камісій. Не ведаю, бо я ніколі не бачыў на вочы тых сурвэтак. Затое ўшчыльную пазнаёміўся з мясцовымі сталоўкамі. Роўна без дваццаці адзінаццаць зачыняюцца дзверы, дзябёлая прыбіральшчыца ужо нікога не пускае. Перапынак гэты можа цягнуцца гадзіну і нават дзве. Адпускаюць абеды калгасам. Патрэбна, вядома. Але і другая сталоўка нярэдка бывае зачынена: то сандзень, то яшчэ сам чорт не ведае што.

Учора (25 жніўня) узрадаваўся: сталоўка працавала. Але маленькі падвальчык аказаўся пустым. Потым убачыў на прылаўку лісток паперы: «Абедаў няма».

— Прадуктаў не завезлі, ці яшчэ што? — пацікавіўся я, хоць жыхары ўжо да многага прывыклі. Дзе можна ўбачыць, каб да баршчу замест чорнага хлеба прапаноўвалі салодкія булкі?

На гэты раз хлеба завезлі ўдосталь, але не было вады.

— Трэці дзень не працуе каналізацыя, — стомлена растлумачыла касірка.

Самае неверагоднае, што сталоўка гэтая знаходзіцца ў будынку райвыканкома...

Святочны кірмаш на Кастрычніцкай плошчы. Можна купіць радыяцыйную гародніну і садавіну, што прывезлі з калгасаў. Можна, калі ёсць жаданне, выйграць па латарэі начыненага нуклідамі барана. Самая вялізная чарга па заморскія бананы. І цана амаль як у застойныя гады: усяго два рублі за кілаграм. Ні перакупшчыкаў табе, ні кааператараў, ні нават сяброў з поўдня. Праз нейкую гадзіну бананы падмялі. Як і не было заморскага цуда. Толькі адзінокая палівачка змывала сляды...

Зрэдку цераз мясцовую газету жыхары пасёлка атрымліваюць рэкамендацыі, якія ўжываць прадукты,

каб зменшыць у арганізме колькасць нуклідаў. Пасля чарговага паведамлення ўсе пабеглі па таматны і вінаградны сокі, бо нічога болей не купіш. Вырашыў і я заняцца прафілактыкай. Абышоў усе магазіны, нават кафэ — такіх дэфіцытных прадуктаў няма, ды і невядома калі будуць.

— Замежнай камісіі ў нашых краях не прадбачыцца, — пракаменціравала сітуацыю прадаўшчыца.

Яна мае рацыю і, пэўна, багаты жыццёвы вопыт. Сапраўды, нешта пра камісію не чуваць...

На аўтобусным прыпынку стары дзед з мыліцай, трохі п'янаваты, убівае ў галаву інтэлігентнаму на выгляд чалавеку:

— От, сідарава галава. Як у вайну пры Сталіне было? Немец забіваў нас і забіраў тэрыторыю. А чаму забіваў? Дзёрліся мы з ім да апошняга. І цяпер амаль так. Забрала, нячыстая, тэрыторыю і жрэ нас. Значыцца, зноў да апошняга стаяць?..

Малады хлопец, што тоўкся на прыпынку, засмяяўся:

— А ты, стары, чаго журбуеш? Пражыў сваё...

— Сваё? — завалтузіўся дзед. — Цьфу у твае паганыя вочы. За вас, дурняў, перажываю. Мы, бітыя-перабітыя, еханыя, шчэ і бабу магём, каб не гэтая канфузія... Далдоніш, пражыў. Як адмерае табе, так і змоўкнеш. Толькі, каб без нячыстай, ядрона-корань...

Побач з райбальніцай ашчадная каса. Прайшоў дождж. Мокры асфальт, а каля будынка касы стаяць вялікія чорныя лужыны. Людзі іх абыходзяць моўчкі, неяк абыякава.

— Што не падправяць плошчу? — пытаюся шафёра, які, пэўна, прывёз некага ў бальніцу і цяпер бавіць час: звесіўшы ногі з кабіны, са смакам зацягваецца папяросай.

— Ты што, шаломны, чы як? — смешна вырачыў вочы шафёр. — Тут, дзякуй Чарнобылю, хоць нейкі асфальт салдаты паклалі. А падправіць? — Ён на хвіліну задумваецца. — Вось калі яшчэ адзін блок ірване, тады, можа, і падправяць. Гэта ўжо як мае быць. А мо і не. Камісіі ў нас не ходзяць — лётаюць. Анёлы ў чорным...

На дзвярах раённага Дома культуры з няўмела намаляванай афішы трохі самотна пазірае з-пад залішне доўгіх чорных веек рыжавалосая дзяўчына. Пад малюнкам тлумачэнне: «Дзяўчаты ад семнаццаці да дваццаці пяці гадоў запрашаюцца прыняць удзел у першым туры конкурсу «Міс Брагін-89».

На прыступках спынілася яшчэ не старая жанчына з авоськай у руках. Паглядзеўшы на афішу, як у роздуме, паківала галавой:

— І тут несправядлівасць робіцца. Трэба праводзіць конкурс для ўсіх прыгажунь пацярпеўшых раёнаў і назваць яго «Міс Пакутніца»...

Каля будынка бібліятэкі — счарнелы ад непагадзі скасабочаны слуп. На ім — россып белых плям. «Прадаецца дом». На вуліцах Савецкая, Інтэрнацыянальная, Махава... Усё прадаецца і нічога не купляецца...

Гэтыя запісы я рабіў у розныя дні жніўня, але выбраў з іх некаторыя, каб без каментарыяў і з натуры хоць трохі накідаць малюнак будзённага жыцця гарадскога пасёлка, які ўваходзіць у «зону асаблівай увагі».

Віктор Гюго некалі шчыра верыў, што «праўда можа чакаць, бо яна не старэе, яна заўсёды застаецца юнай і маладой і, напэўна, калі-небудзь праб'е сабе дарогу». Нам чакаць злачынна, бо жудасная чарнобыльская праўда захлынаецца, як той пракляты людзьмі чацвёрты блок, пад сваім, пастаўленым на касцях герояў-пакутнікаў і жалезабетоне, саркафагам, з-пад якога яшчэ часам прабіваюцца ў паветра радыеактыўныя выкіды. У тых, хто дыхае атручаным паветрам і корміцца ад хворай зямлі, якая, калі б яна была чалавекам, крычала б ад невыноснага болю, няма магчымасці паслухаць перагаворы, што вяліся ў высокіх інстанцыях, і вызначыць ступень віны кожнага. Але больш як за тры гады пакут і здзеклівых па сваёй сутнасці абяцанняў дапамагчы ахвярам Чарнобыля людзі, на якіх абрынулася страшная катастрофа, якой яшчэ ніколі не было ў доўгай гісторыі нашай планеты, зразумелі, чаго не павінна было быць. Іх цэлы чорны шэраг, гэтых бясконцых «не».

Заплюшчыце на імгненне вочы і ўявіце сабе святочныя калоны першамайскай дэманстрацыі ў вялікіх га-

радах і маленькіх гарадскіх пасёлках, куды ўжо насунуліся радыеактыўныя аблокі, і вы скаланецеся ад бяздушнага, замешанага на адчуванні асабістай бязгрэшнасці і амаль жывёльнага страху за сваю кар'еру, ад якога пачала адлік ланцуговая (нават больш жудасная за ядзерную) рэакцыя хлусні. Як у вар'яцкім калейдаскопе, замільгалі лічбы крытычных адзнак, у якія ўкладваліся жыццё і смерць чалавека, пакуль нарэшце гэтая адміністратыўная рулетка не выкінула магічнае 35 бэр. Да сённяшняга дня тым, хто найбольш пацярпеў ад аварыі, — ды і не толькі ім — незразумела, што гэтая лічба азначае і колькі тых бэр у бульбе, якая сёлета, што тыя гарбузы, урадзіла на гародах брагінцаў.

Як можна гаварыць пра тое, што быццам у зоне «жорсткага кантролю» можна жыць, калі пасля аварыі першы чалавек у рэспубліцы [1], ад слова якога залежала калі і не ўсё, дык вельмі многае, прыехаў да пацярпелых са сваімі чыстымі прадуктамі, а паехаў, пакінуўшы на «доўгую памяць» радыеактыўныя чаравікі. І гэта не плод хворай фантазіі, а людская, таксама доўгая памяць...

Многае прасвятляе ў той крытычнай сітуацыі, што склалася ў палескай зоне, пазіцыя былога старшыні Дзяржкамітэта па ядзернай энергіі Петрасьянца, які адразу пасля чарнобыльскай аварыі на сустрэчы з журналістамі заявіў: «Навука патрабуе ахвяр...» Тады людзі, ашаломленыя бядой, не зразумелі гэтых злачынных слоў, але цяпер задаюць пытанне: «Ад каго наша савецкая навука патрабуе ахвяр? Ад тых маладых салдат, якія голымі рукамі збіралі раскіданы па станцыі радыеактыўны графіт, або ад вясковых пенсіянерак, што ўсё жыццё рабілі на краіну і не зарабілі сабе на старасць?»

І самае жудаснае, што падман на працягу трох гадоў зрабіўся самамэтай. Здавалася б, чым далей мы аддаляемся ад красавіка восемдзесят шостага, тым больш абгрунтаванай і дакладнай павінна быць інфармацыя. Але стэрэатыпы мыслення ў тых, хто займаецца даследаваннем прычын аварыі і яе вынікаў, у адносінах да людзей пацярпелых раёнаў — і наогул да чалавецтва, — застаюцца без змен, якія дыктуюць людскае гора і сваё сумленне.

---

[1] М. М. Слюнькоў.

Да трэцяй гадавіны трагедыі выдавецтва палітычнай літаратуры выпусціла ў свет кніжку «Чарнобыль: падзеі і ўрокі». У ёй столькі навуковай цемры і непрыхаванай лухты, што нават чалавеку не вельмі дасведчанаму ў пытаннях атамнай энергетыкі становіцца сорамна і страшна і за нашых вучоных, і за ўкладальнікаў кніжкі.

Узяць хаця б такое сцвярджэнне: «Выкід прывёў да пераносу невялікай колькасці радыеактыўных рэчываў за межы Еўропы, уключаючы Кітай, Японію, ЗША». Нічога сабе невялікае воблачка пранеслася над намі, каб выпасці аж у Японіі і ЗША! А мо яно было запраграмавана пасыпаць попелам галовы капіталістаў, якімі нас так доўга палохалі і якія аказаліся дзелавымі і міласэрнымі людзьмі?

Калі я ездзіў у Славуціч, вучоныя-ядзершчыкі пракаменціравалі заяву сваіх сталічных калег даволі красамоўна: «Гэта перастраховачны акадэмічны пшык». Але для чаго і каму спатрэбіўся на чацвёртым годзе трагедыі гэты «пшык»? Мо для таго, каб сцвярджаць у гэтай жа кніжцы, што «шостага мая выкіды ў асноўным закончыліся»?

Так паступова, але з іезуіцкай настойлівасцю людзям даказвалі: на забруджанай тэрыторыі можна не толькі жыць, але і карміцца ад сваёй зямлі. Але вось што пра той жа час піша ў сваім «Чарнобыльскім сшытку» спецыяліст-атамшчык Рыгор Мядзведзеў:

«Першага мая ў рэактар было скінута 1900 тон пяску 5 мая пачалася эвакуацыя Чарнобыля. Для вадзіцеляў была ўстаноўлена норма 25 бэр, якая паступова павялічвалася. Вечарам 9 мая прагарэла частка графіту: пад грузам, які быў скінуты, утварылася пустата, і ўсе пяць тон пяску, гліны, карбіду і бору абрушыліся ўніз, выкінуўшы з-пад сябе вялізнае воблака ядзернага попелу, які асеў навокал».

Такім быў Дзень Перамогі. У Брагіне, ды і не толькі ў ім, ад радасці шалелі ў нябачных абдымках радыяцыі маладыя салдаты і трохі старэйшыя за іх афіцэры, бо падрыхтаваліся да яшчэ горшага — атамнага выбуху. Больш жудасная бяда, на шчасце, абмінула нашу краіну, але вецер у тыя спякотныя дні дзьмуў на Беларусь. Пра гэта і цяпер праз амаль чатыры гады пасля аварыі ўспамінаюць з высокіх трыбун, як мімаходзь, амаль шэптам...

Кацярына Мяфодзеўна Юрчанка шмат пагаравала на сваім доўгім вяку, многа чаго пабачыла. І зрабіліся яе вочы ад усіх трывог і турбот, што наканаваў ёй бессардэчны, няправедны лёс, задумлівымі і незвычайна светлымі.

«Ды што ты, сынок, — яна па-вясковаму складвае на каленях распухлыя ад работы рукі. — Калі я кароў пасля вызвалення нашых краёў ледзь не з-за Волгі паўгода гнала, дык то не гора было, а шчасце. Хоць і нямоглыя, праўду сказаць, кароўкі з тылу былі. А вось мужык мой памёр, дачка таксама, кравіначка мая, ды зяць зноў ажаніўся на бабе з дзіцем — вось гэта нявыплаканае, бо слёз не стае, ужо нямашанькі. Славік, мой унучак, як сірацінка. Жонка зяцева нарадзіла сваё дзіця, дык, вядома, і свае бабскія клопаты. А Славік і да мяне забяжыць, і туды прытуліцца — памерці лягчэй, чым бачыць тое. Я, як адвезла на могілкі дачку, думала, не пражыву і колечкі. Але вось і праз чарнобыльскае ліха пераступіла. Як тады ўсё было? Дык як жа: дасюлечкі помню.

Сабраліся мы, значыцца, бабы, усяго шэсць ці сем (яна горка ўсміхаецца) садзіць сросцвенніку майму бульбу. Пятру Афоненку, памёр той ужо чалавек. Вясна тым і цешыць старых жанок, што можна ўжо садзіць нешта. Выйшлі мы на агарод той у Касачыне. Сонейка цёплае, так прыгравае спіну, дык мы, як кошкі, ледзь не мурлычам ад пяшчоты. А тут прылятае ў агарод Мілька Карпенка, што ў пажарнікаў рабіў.

— Бабы, — крычыць нам, — кажуць, у Чарнобылі блок сарваўся...

Адкуль нам ведаць, што той за блок. Дзеўкі вазьмі і пажартуй: «Гэта ж не юшка ў печы — цяпла не выдзьме...»

Махнуў Міцька рукой і заспяшаўся некуды. А тут і абед прыспеў. Паклікаў гаспадар нас у хату. Выпілі мы патроху, загаманілі, заспявалі, што на вяселлі — толькі гармоніка не хапае. Добра на душы.

Паспявалі мы, парадаваліся, а Пятро Афоненка каня запрог. Яму як інваліду калгас выдзеліў. Прыехалі дадому. Глядзім, па вуліцах (тады шчэ асфальту не было) хто швэндаецца, а хто носіцца, як ведзьма тая на памяле. І амаль кожны нясе гарэлку. Мы з суседкай згаварыліся: давай і мы туля ў магазін сходзім. Узялі гарэлкі аж чатыры бутэлькі. Усе хапалі: мо апошні дзень жы-

вем — ніхто нічога не ведае. Дык каму гарэлка ў радасць, каму ў бяду.

Шкрабем паціху дадому, як сустракаю Максімаўну, суседку. Яна разумная жанчына, дырэктарам школы працавала, а ейны Мікалаевіч — урачом па нервах.

— Што вы, бабы, несяцё? — пытаецца ў нас.

— Атруту, — тлумачым.

— І мне купіце. Самой перад дзецьмі няёмка...

Дала яна нам грошыкі. Пайшлі мы назад у магазін а гарэлкі ўжо і нямашанькі.

Вярнулася я дахаты і стала варушыцца на сваім агародзе. А гэта — потым людзі казалі — было ўжо на трэці ці чацвёрты дзень пасля ліха. Калі ўзяліся поцемкі і трэба было ў хаце свяціць, зашчыміла душа, затрывожылася. А як на ноч яе супакоіць? Пацягнулася да Максімаўны.

— А дзе твой Мікалаевіч? — пытаюся.

— Дзяжурыць у бальніцы...

Але трубку ўсё ж зняла і пазваніла.

— Тут да мяне баба Каця прыйшла, — тлумачыць, бо самой быццам і сорамна турбаваць мужыка.

Гавораць яны, а я гляджу — Максімаўна палатнее, сардэчная. Кінула тую трубку, падхапілася да шафы, дастала адтуля пляшку, шклянкі. Пакорпаўшыся ды павойкаўшы, вынула таблеткі нейкія. Ну, чыста ненармальная зрабілася. Выпілі мы з ёй і таблеткамі тымі закусілі.

— Мікалаевіч загадаў, каб заўтра і духу твайго тут разам са Славікам не было, — перадала яна мне мужавы словы.

Ну, калі сам урач загадаў, тут ужо і я замітусілася. Пабегла, дзе тыя градусы дзеліся, да зяця свайго Грышкі. Той у нарыхтоўчай канторы шафёрам рабіў. Мяса тая кантора скупляла. Кажу яму: «Давай сюды ўнука. У Мінск яго да другога зяця павязу...»

А Грышка мой, як конь, шчэрыць зубы:

— Ты што, баба, з глузду з'ехала ці гарохам аб'елася? Славіку заўтра ж у школу...

Як мне спрачацца тутака? Які ні ёсць, а бацька. Пайшоў мой Славік у школу, а Грышка паехаў як на разведку. Потым, гляджу, прылятае да мяне на сваім драндулеце: «Хутчэй збірайце свае хатулі, бярыце Славіка і дзвігайце да сваякоў...»

Я якраз свіней збіралася карміць, дык і цеста тое кінула, і хату нават не зачыніла.

Прыехалі мы ў той Мінск. Дзякуй богу, мая другая дачка шчаслівая. Павяла нас уранні аж у тую лячэбную камісію, што для зяця-начальніка. Дык ва ўнука 520 (я гэта добра помню) мілірэнтген, а ў мяне, старой, ледзьве не ў два разы менш. Во, дзетухна, якая несправядлівасць рабілася.

Славіка паклалі ў бальніцу, а я не далася, кажу: «Хто ж будзе сірацінку даглядаць?..» Угаварыла ўрачоў, а потым і Славік мой выпісаўся і паехаў у піянерскі лагер пад Радашковічы. А я, хоць дачка і ў гвалт, дадому сабралася. Хата ж недагледжаная, ды і курэй дваццаць штук. Праўда, Грышка званіў, што свіней прадаў. Загадалі з Гомлю пяць тон мяса прывезці. Дык за свіней маіх далі трыста рублёў. Толькі я засумнявалася: калі сама нахапала столькі рэнтген, колькі ж тады мае свінні тато шчасця займелі? Мяса ж тое людзям у волась павезлі.

Ну прыехала, значыць, агледзелася. Бульба ўжо добра ўзялася, але, бачу, усё бацвінне нібы чымсьці белым пасыпанае, як уранні пасля марознай ночы. Ды і увесь агарод быццам пасівеў, пакуль мяне тутака не было. Але няма чаго рабіць: узяла капачку, а тут аднекуля прыбеглі салдацікі, ухапілі мяне падпахі: «Сюды нельга, мамаша...»

Што рабіць? Зноў у Мінск паехала. На другі год вярнулася, а суседкі мае, каму не было куды з'ехаць, агароды свае пакапалі. Ну і я ўпрэглася ў работу. Бульбу пасадзіла, агуркі, памідоры, гарбузы. Потым гародніну сваю насіла правяраць, дык узрадавалі на санстанцыі: «Еш, баба, на добрае здароўе...» Палягчала адразу на душы, бо ў Мінску неяк цішком панесла правяраць наш брагінскі вінаград, які дачцэ прывезла, дык тыя чэрці ў халатах страху нарабілі: выкінулі мой вінаград і рукі прымусілі памыць колькі разоў... А ў нас казалі суседкі, прыборы завезлі найлепшыя, ніякай табе трасцы ў прадуктах не водзіцца. — Кацярына Мяфодзеўна тужліва апусціла галаву: — Ці многа ты з той тушонкі, што калі-небудзь даюць, наясіся?

На яе празрыстыя вочы раптоўна набеглі слёзы. Я вінавата маўчаў.

— Ты, дзетухна, на мяне не глядзі, — нарэшце ўзняла галаву старая. — Я чаму плачу? Насіла ўранні гар-

бузы правяраць на санстанцыю. Замахалі на мяне рукамі, завойкалі: «Закапай, баба, іх у агародзе. То ж атрута...» А я ўжо і бульбу прадала сваю. Людзі самі напрасіліся. Раней усё гаварылі, што на нашых агародах чыстыя прадукты, а калі па радыё загаманілі пра адсяленне, дык адразу іх ужо і есці няможна. Мне памерці ў радасць, але ж і Славік мой з агарода ласіўся...»

На другі дзень настрой у Кацярыны Мяфодзеўны трохі палепшыўся.

— Дажыліся да свята, — убачыўшы мяне, усё ж такі трохі самотна ўсміхнулася яна. — Мяса кілаграм па рубель восемдзесят ухапіла. Першы раз два кіло пад самую масленіцу давалі, а цяпер — пад кастрычнік...

Не было ў мяне намеру кідацца ў палеміку з нашай медыцынай. Тым больш няёмка спрачацца з прадстаўнікамі радыяцыйнай медыцыны, бо няма ніякіх сумненняў, што яны добра ўяўляюць абстаноўку ў пацярпелых раёнах, калі іх не заманіш у забруджаныя мясціны нават «Птушыным малаком» — дэфіцытам, які сапраўды вырабляецца з мясцовых прадуктаў у брагінскай кулінарыі.

Вымушае парушаць храналогію дзённіка пякучая горыч, настоеная на даўкім пачуцці разгубленасці, якое вось ужо некалькі дзён запар не адпускае мяне са сваіх жорсткіх учэпістых абдымкаў...

Быў вечар як вечар. Сядзеў у сваім маленькім пакойчыку з акенцамі, падобнымі на крапасныя байніцы, няспешна перагортваў старонкі сшытка і быццам самнасам размаўляў з людзьмі, пра якіх пісаў і з якімі цяпер разам сёрбаю ліха. І трэба ж было бабінаму Славіку, што прытуліўся да старой пераначаваць, уключыць тэлевізар. Пачуў праз сцяну, што перадаюць рэпартаж з прэс-канферэнцыі ў рэспубліканскім навукова-даследчым інстытуце радыяцыйнай медыцыны. Не вытрымаў спакусы — пайшоў глядзець. (Век бы таго не бачыць.)

Дырэктар гэтай навуковай установы, адна назва якой гіпнатызуе палешукоў, нібы бязлітасны ўдаў труса, не міргнуўшы вокам, супакоіў цяперашніх, а заадно і будучых патэнцыяльных ахвяр Чарнобыля: «У забруджанай зоне можна жыць і працаваць, калі выконваць патрабаванні асабістай гігіены...»

Гэтую бадзёрую заяву, хоць і са свінцовым прысма-

кам на вуснах, я ўсё ж такі праглынуў. Хай на яго, таго дырэктара. Ён вучоны, на пасадзе, і дзьме ў тую дуду, якая лашчыць слых каму трэба. Тым больш у яго ёсць за кім валачыцца следам, у каго пры неабходнасці пазычаць пачуццё аптымізму. Хапіла ж міністру аховы здароўя краіны Яўгену Чазаву «сціпласці», каб год назад на прэс-канферэнцыі, толькі ўжо ў сталіцы братняй Украіны, прызнацца: «У тым, што радыяцыя не адбілася на здароўі людзей, вялікая заслуга медыцыны...»

Але ў гэтай беспардоннай заяве, пасля якой фізікі ў тым жа Славуцічы пад іранічны тост: «Віват міністр!» узнялі свае неўзаконеныя сто грамаў, хаваецца балючая праўда.

Мы і сапраўды, нават тыя, хто жыве на пацярпелай зямлі, павінны моўчкі схіліць галовы перад мужнасцю людзей у белых халатах, якія без сучасных сродкаў радыяцыйнага кантролю і бяспекі, быццам наша раззброенае перад самай вайной гераічнае войска, спрабавалі сваімі грудзьмі засланіць людзей ад смяротнага подыху радыяцыі. І не віна тых, з пярэдняга краю, што і яны аказаліся захопленыя чорнай бядой знянацку, таксама, як і людзі, безабароннымі перад навалай. З гэтай кагорты ўрачоў і медыцынскіх сёстраў ужо многіх няма з намі, а многія з іх прынялі такую дозу гама-часцінак, што страшна пакутуюць, ім ужо не да звычайных чалавечых радасцей.

Міне час, і з высветленай полымем чарнобыльскай бяды да нас вернуцца іхнія простыя імёны. Як вяртаюцца з небыцця прозвішчы беларусаў, якіх стараліся забыць тыя, хто імкнуўся выдаць чарнобыльскую трагедыю за лакальны няшчасны выпадак...

З партрэта, як трохі здзіўлены, пазірае на мяне малады з адкрытым прыемным тварам хлопец — Васіль Ігнаценка. Ён з вёскі Спярыжжа, што ў якіх пятнаццаці кіламетрах ад Брагіна, была салдат, пажарнік з пасёлка Прыпяць. Здарожыўся ён не на сваёй роднай зямельцы, якая дала яму жыццё і надзею, а на Міцінскіх могілках, на самым ускрайку новай Масквы. І пахавалі хлопца не па векавечным людскім абрадзе, а ў цынкавай труне, каб той радыяцыяй, што забіла яго, не забруджваў святога месца.

У Брагінскай раённай бальніцы ў брыгадзе «хуткай дапамогі» працуе родная сястра Васіля — Людміла. Можна толькі здагадвацца, які нявыплаканы боль носіць яна ў сваіх грудзях.

У красавіку восемдзесят шостага, калі здарылася з братам бяда, яе як донара для перасадкі касцявога мозгу выклікалі тэлеграмай у Маскву.

— Васілёк, калі я яго ўбачыла, — ціха, быццам мы з ёй размаўляем не ў пакоі, а ў царкве, расказвае Людміла, — яшчэ соваўся без дапамогі. Толькі абняць яго і нават падаць руку мне не дазволілі. Брат сказаў, што адчувае сябе няблага, толькі ў целе нейкая млявасць. А я паглядзела на яго і ледзьве ўцярпела, каб не закрычаць. Твар Васілька зрабіўся цёмна-карычневым, каля вуснаў выскачылі нейкія барадаўкі, а валасы чамусьці як свяціліся, нібы блішчэлі. «Нічога, — усміхнуўся ён, — мы яшчэ пажывем, сястрычка». А потым, калі яму перасадзілі ад мяне касцявы мозг, нечакана спытаў пра свайго сябра Віцю Кібянка, якога пасля смерці героем прызналі. Пажарныя паасобку ляжалі. Таму і не ведаў брат, што Віцёк памёр. Але я не сказала пра тое...»

Цяпер беларускі хлопец Васіль Ігнаценка спіць вечным сном непадалёку ад Валакаламскай шашы, дзе ля сцен Масквы некалі стаялі насмерць воіны генерала Панфілава, а Людміле не дае спакою горкае недаўменнае пытанне: «Як так здарылася, што невылечна хворы брат успомніў пра свайго мёртвага сябра, а жывыя забываліся пра жывых?..»

Калі Людміла Ігнаценка прыехала ў шостую клінічную бальніцу, куды з Чарнобыля звозілі апраменechых, строгія медыцынскія датчыкі адразу зафіксавалі радыяцыйную небяспеку, што зыходзіла ад дзяўчыны. Людмілу памылі пад спецыяльным душам, за грошы міністэрства атамнай энергетыкі выдалі новае адзенне. А яна прыехала ў Маскву не з Чарнобыля — з Брагіна, дзе па-ранейшаму жылі людзі. Якія яшчэ патрэбны былі пацвярджэнні, каб загудзець ва ўсе званы, неадкладна кінуцца на дапамогу тым, хто гараваў на забруджанай зямлі?

Вядома, нямногае ў той трывожны і мітуслівы час можна было зрабіць, але папярэдзіць уголас бацькоў, каб не выпускалі на вуліцу дзяцей, сабраць і закапаць тое адзенне, што было на хлопчыках і дзяўчынках, ды і на саміх бацьках, — гэта быў і службовы, і чалавечы абавязак нашых эскулапаў, нашчадкаў вялікага Гіпакрата.

Але кіраўнікі самай гуманнай у свеце медыцыны, як пра гэта ні горка гаварыць, выбралі іншы шлях — шлях

падману. Усе медыцынскія даныя, якія нібы крычма крычалі аб шырокамаштабнасці чарнобыльскай трагедыі, былі спешна занесены ў чорны рэестр ведамаснай, а значыцца, і дзяржаўнай тайны, якую, дужа хочуць у гэта верыць жыхары пацярпелых раёнаў, не ведалі нават поўнасцю члены Палітбюро.

Гэтая «змова маўчання», як горка жартуюць нашы сябры па няшчасці — украінцы, прывяла да дзяржаўнага злачынства: «Спачатку вывозілі скаціну, за ёй людзіну, а ўжо потым дзяціну...»

Сітуацыя трохі ўтрыраваная, але, як казаў Твардоўскі «...все же, все же...». У рэспубліцы спярша паклапаціліся пра жывёлу, бо гэта — план па мясанарыхтоўках. А план, як вядома, закон, і за яго невыкананне можна згубіць не толькі пасаду, але і партыйны білет. Толькі праз дзесяць дзён брагінскіх хлапчукоў і дзяўчынак пасадзілі ў аўтобусы, амаль цэлы дзень пратрымалі ў трывожным чаканні, пакуль з нейкіх заоблачных у раённым маштабе вяршынь не прыйшла нарэшце доўгачаканая і незразумелая каманда: «Адбой трывозе!..»

Цяпер за тую марудлівасць, якой няма апраўдання, стратэгічную недальнабачнасць, за чужыя грахі і памылкі рахунак прад'яўлены жыхарам пацярпелых раёнаў. І яны ўжо чацвёрты год плацяць па ім дарагой цаной — сваім здароўем і здароўем дзяцей і нават унукаў, якія яшчэ не нарадзіліся.

Што ж датычыцца поспехаў нашай айчыннай медыцыны, дык яны, безумоўна, ёсць... Фактычна адлучыўшы ад чарнобыльскіх праблем сумленных вучоных Беларусі, Міністэрства аховы здароўя стварыла ў забруджаных радыяцыйнымі нуклідамі раёнах паўафіцыйны выпрабавальны «палігон» для сваіх дамарошчаных вучоных і гасцей з-за мяжы.

Такога багатага «матэрыялу» для напісання кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый не ведала сусветная практыка. Гэта выклікала пачуццё разгубленасці нават у стане беларускіх даследчыкаў, а ў некаторых з іх, здаецца, парушылася псіхіка. Інакш як можна расцаніць той факт, што за некалькі дзён да пачатку сесіі Вярхоўнага Савета БССР, дзе павінна была зацвярджацца Дзяржаўная праграма па ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі, на прэс-канферэнцыі ў Беларускім навукова-даследчым інстытуце, пра якую я ўжо

ўпамінаў, урач з лабараторыі радыяцыйнай медыцыны заявіла: «Трэба вывучаць адаптацыю (разбіўка мая. — *А. К.*) дзяцей ва ўмовах радыяцыі...»

Дык што гэта, чэрствасць або навуковы эгаізм на трагедыі жывых? Ды і ці ёсць дзеці ў той жанчыны?

Добра, што Славік яшчэ нічога не зразумеў.

— Хадзі да мяне, дзядзька, — пасунуўся ён на канапе. — Зараз перадача пачнецца «Сустрэнемся пасля адзінаццаці»...

Цяжка пісаць пра такое, але трэба. Для таго ж Славіка трэба...

Калі едзеш па дарозе Брагін—Хойнікі, праязджаеш міма выселенай зоны. Мёртвыя хаты, кінутыя агароды і сады: на дрэвах вісяць пераспелыя яблыкі. Ад калгаса «Чырвоная ніва» адселена вёска Астрагляды, але сельсавет так называецца па-ранейшаму, хоць ужо і знаходзіцца ў Бурках. Непадалёк ад Астраглядаў — «брацкая магіла», куды звозілі з гарадскога пасёлка агароджы, лаўкі, дахі — усё радыеактыўнае дабро. Цяпер на магіле той цягнецца ўгару жоўты палын.

У Святланы Піліпаўны Курыленка, брыгадзіра другой паляводчай брыгады «Чырвонай нівы», настрой пахмурны, як і дажджлівы дзень за акном скасабочанай будыніны, якая гучна называецца клубам. Яе сын Раман не паступіў у інстытут народнай гаспадаркі. Да восьмага класа ён быў выдатнікам, а потым, пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС, школьнікаў адправілі вучыцца ў Гомель, затым у Еўпаторыю. Дзесяты клас Раман ужо заканчваў дома. Амаль увесь навучальны год у іх не было настаўніка нямецкай мовы, нарэшце, за два месяцы да заканчэння школы, знайшлі. Кожнаму дзесяцікласніку вывелі па замежнай мове тройку. Нібы наўмысна сапсавалі атэстат.

Раман, каб толькі не вяртацца дадому, паступіў у тэхнікум. Але што ўжо ў журбе пра гэта гаварыць. Добра, што хлопец уцёк ад радыяцыі. Можа, і прадоўжыцца род Курыленкаў.

А бацька Рамана ляжыць у бальніцы. Паехала да яго ў райцэнтр Піліпаўна: вярнулася назад чорная ад гора. Муж яе хварэе на сэрца, а ніякіх уколаў няма.

— А мой яшчэ і цераз сілу пасмейваецца, — крывіць

куточкі вуснаў Святлана Піліпаўна. — Маўляў, ягоны сусед па палаце ўжо два месяцы ў чарзе за тымі ўколамі ляжыць і не памёр яшчэ. Ды што пра нас, ужо старых, гаманіць... — Яна безнадзейна ўзмахвае шурпатай, у карычневых старых мазалях рукой.

Піліпаўна пачынае расказваць пра вясковых дзяцей, якіх мы і сёння называем нашым шчаслівым будучым. А гэта наша беларускае будучае, надзея нацыі, непрыкаянае і абрабаванае.

Гэтым летам калгасных дзяцей павезлі на адпачынак у піянерскі лагер імя Алега Кашавога, што пад слаўным марскім горадам Калінінградам. Дзеці адтуль вярнуліся худымі, хворымі, нават з насякомымі на целе.

Піліпаўна нечакана, як маладая, падхапілася з лаўкі: пэўна, некага ўбачыла ў акно. Праз нейкую хвіліну вярнулася з хударлявай, па-вясковаму апранутай жанчынай.

— Во, знаёмцеся, — сказала Піліпаўна, — гэта наш сельскі дэпутат Ніна Васілеўна. Хоць і прозвішча яе Цяцера, але яна і арлам не саступіць. Раскажы чалавеку, Васілеўна, пра дачку сваю, як яна ў тым піянерскім лагеры адпачывала.

— Ды ўжо ж не пасаромлюся, — сціснула вусны Ніна Васілеўна. — Глядзіш, мо чалавек дзесьці і раскажа пра наша гаротнае жыццё-быццё. Адправіла я, значыцца, сваю Марыйку ў піянерскі лагер пад Калінінград той. Душа за дзіцё неспакойная, быццам чапляецца за рэбры. А тут якраз ліст ад яе атрымала: піша, што голадна, холадна ёй там, а ў мяне, кажа, вельмі баліць пячонка. Дык усё роўна гоняць на фіззарадку, а важатая яшчэ і лаецца: «Не прыкідвайся, чарнобыльская...» Кінула я хату, узяла з сабой дамашніх харчоў і паехала ў лагер той. Як глянула на дачку, сэрца самлела. Стаіць перада мной нейкая зморшчаная, як стары грыб, дзяўчынка, быццам і не дачка мая. Схапіла я яе і дадому кінулася. Хай ён агнём гарыць, той піянерскі лагер.

А дома зноў гора. На жаўтуху захварэла Марыйка. Паклалі яе ў бальніцу ў інфекцыйнае аддзяленне. Ледзь выхадзілі, сардэчную. Цяпер нашым дзецям без настаўнікаў прапануюць ехаць у Еўпаторыю. Не, ужо досыць, наездзіліся. Больш не трэба ў гора даліваць гора: стаіць на нашых дзецях чарнобыльская пячатка...

Каля многіх хат гарадскога пасёлка чацвёрты год, як адмеціны трагедыі, ляжаць жоўтыя грудкі пяску для дэзактывацыі агародаў. На адну з іх узабраліся тры дзяўчынкі. Светлавалосыя, з вялікімі блакітнымі вачыма паляшучкі. Адна з іх, відаць, самая гарэзлівая, прыхінулася какетліва да агароджы, задзірае хлапчука гадоў шасці — вяснушкавага і тоўсценькага.

— Ты, Косцік, малы і слабы. І не набівайся ў нашу кумпанію...

— Я — слабы? — выкаціўшы гарбузікам пуза, падступае хлапчук да жоўтага грудка. — Я — сільны. На, паглядзі, — ён напружвае на руцэ мускулы. — Бачыла? Ога-го... А ўчора мой сябар Ігар з бальніцы адтуля вярнуўся. Ён мяне джэу-джыцы абяцаў навучыць...

У мяне нядобра сціскаецца сэрца: «адтуля» на мове «чарнобыльскага эсперанта» азначае з Мінска ці Гомеля. Пачаўся навучальны год, а дзеці ўсё яшчэ вяртаюцца дадому...

Чалавек з Хойнікаў для таго, хто жыве ў «зоне жорсткага кантролю» ўжо зямляк. Таксама, як з Нароўлі ці Чачэрска. Тут можна бясконца пералічваць населеныя пункты. Так нечакана я аказаўся «брагінскім земляком» Зінаіды Дзмітрыеўны Чарняк з Хойнікаў. Ехала яна ў Мінск забіраць дадому з Бараўлянаў пасля аперацыі дачку.

Ездзіла яна ў сталіцу часта: дзяжурыла на змену з мужам у аддзяленні рэанімацыі. Слухаў я і гатовы быў стаць на калені перад мужнасцю і цярплівасцю жанчын Палесся.

— Адразу, як даведалася пра аварыю, гэта было ў самае свята, я сказала мужыку свайму, што трэба дачку як можна хутчэй адвезці да бацькоў у Мазыр. А мой чалавек — партыйны, хоць і на невялікай пасадзе, але з тых праўдалюбцаў, што ў чаргу за білетам не станавіліся. Дык вось, заікнулася я, значыцца, пра дачку, а ён, як паўлін той, распушыў хвост. «Ты хочаш, каб людзі на мяне пальцамі тыцкалі, — гаворыць. — Дзе ты бачыла, каб кіраўнікі нашы сваіх дзяцей вывозілі?..»

Я дык чула — так потым і аказалася, — але на свае вочы не бачыла. Таму і адступіла, век сабе гэтага не дарую. Засталася з намі дачка. Ніколі дагэтуль не хварэла, а павялі яе на праверку, дык знайшлі, што пячон-

ка павялічаная. Прайшоў нейкі час, і стала мая дачка падобнай на маленькую цяжарную жанчынку, аж страх той словамі не магу выказаць.

Павезла яе, гаротную, у Мінск. Зрабілі ёй на пячонцы аперацыю, дык неяк прачнулася яна, аж тварык ад пакуты свеціцца, а вочкі тлеюць, што вуглі ў печы. «Мамка, — ціхенька пытае, — а праўда, што ўсё з-за гэтага Чарнобыля?..»

Ды не, даражэнькая, адказваю: усе дзеці хварэюць, а потым папраўляюцца і доўга-доўга жывуць. Яна ўздыхнула і заснула з нейкай светлай усмешкай на вуснах, а я далоняй рот заціснула, каб не закрычаць вар'яткай. Раніцай, праўда, дала выйсце гору. Пытаюся ў чалавека свайго: ну што, абараніў твой білет крывіначку нашу? Апусціў тужліва галаву, збялеў, аж сківіцы пасінелі, але маўчыць. Такі вінаваты і чэсны. А я паглядзела на яго, і куды тая злосць падзелася. Трэба неяк жыць...

Праз колькі часу я пазваніў з Брагіна Зінаідзе Дзмітрыеўне. Спытаў пра дачку.

— А нішто сабе, — уздыхнула ў трубку яна. — Я вам копію пісьма вышлю, што мы пісалі ў «Известия». Надрукавалі яго, а прозвішчы нашых кіраўнікоў, што з'ехалі, выкінулі. Быццам і не людзі намі кіравалі, а цені нейкія. Уверсе цені, унізе цені... Што ж гэта робіцца?

Славік прыпёрся ўвечары з вудамі. Прапанаваў падаросламу:

— Хадзем, Ляксандравіч, на рыбалку. Там карасі водзяцца, што кот бабін...

Сажалка, куды ён кліча, знаходзіцца непадалёку ад аўтастанцыі. Звычайная брудная лужына метраў шэсць на дзевяць. Каб яна не перасыхала, увесь час туды льюць з калонкі ваду. Карасі там сапраўды водзяцца — ніякая халера іх не бярэ.

На шчасце, у той дзень Славік карасёў не налавіў. Затое Кацярыне Мяфодзеўне аднекуль прынеслі свежую рыбу. Пачысціла яна яе, пасмажыла, а вантробы выкінула на агарод на радасць кату Хомку, вельмі хітраму і пражорліваму. Той накінуўся на рыбны далікатэс, як згаладалы. Наеўся аж на тры дні. А потым памяўкаў трошкі, папасціў тыдзень і сканаў.

Пахавала яго Кацярына Мяфодзеўна на сваім агародзе, у кутку, не раўнуючы як тых чарнобыльскіх апаратараў.

Я расказаў пра гэта бабінаму ўнуку. Той шчыра здзівіўся:

— Чаго ты, дзядзька, спалохаўся: кот жа не чалавек. Мы ж з табой вантробы не ясем?..

Я ніяк не мог знайсці адказу на пытанне: чаму такая жывучая хлусня? Як здарылася, што дзеці сталі лабараторным матэрыялам для нашай радыяцыйнай медыцыны і яе «хросных айцоў»? Чаму так доўга голас медыкаў з перыферыі, да якога павінны былі прыслухоўвацца ў першую чаргу, забівалі сваім «брэжнеўскім шматслоўем» штатныя аракулы з Міністэрства аховы здароўя? Каму гэта было патрэбна? Вам, мне, ім?

Так, менавіта ім, аблашчаным промнямі лаўрэацкай славы і закалыханым прыемным звонам узнагарод. Той рэдут, які «айцы» медыцынскай сістэмы (ды і не толькі медыцынскай) узвялі вакол сваіх прывілей, трэба канстатаваць, грамадскасць пакуль не адолела. Ды і наўрад ці гэты штурм мог закончыцца перамогаю: на прыступ кідаліся толькі фанаты-адзінкі.

Стратэгія хлусаў цяпер становіцца зразумелай — як мага далей адцягнуць час масавага і страшнага прасвятлення. Яны быццам падлічылі, што пры сваім жыцці не ўбачаць, як пачне нараджацца пакаленне непаўнацэнных дзяцей, хоць хобра ведалі: радыяцыя пакіне след на чалавеку. Няўжо і сапраўды можна паверыць у тое, што жанчыны ў «зоне жорсткага кантролю» выкармяць радыяцыйным малаком будучых Купалаў ці Вавілавых? Атам, створаны для забойства, ніколі не будзе служыць верай і праўдай людзям. Ён можа на пэўны час скарыцца перад чалавекам, як тыгр перад дрэсіроўшчыкам, але сябрам не стане. Гэта паказала чарнобыльская трагедыя.

Марына Ляўковіч, дарэчы, дачка аднаго з актыўных дзеячаў камітэта «Дзеці Чарнобыля» Артура Ляўковіча, два гады працуе дзіцячым педыятрам у райбальніцы. Я не буду пераказваць усё, пра што мы з ёй гаварылі, прывяду толькі голыя факты.

На дыспансерным уліку ў раёне зараз 1072 дзіцяці, а да аварыі было менш трохсот. У сарака працэнтаў ма-

ленькіх жыхароў райцэнтра павялічаны шчытападобныя залозы, а на сяле — амаль у паловы малышоў, бо яны п'юць малако ад сваіх кароў.

Асноўная частка захворванняў прыпадае на фарынгіты, танзіліты, ларынгіты. Расце тэндэнцыя на пагаршэнне зроку. Ніколі не было раней, каб вострае рэспіратарнае захворванне (знаёмае ўсім нам ВРЗ) так рэзка адхілялася ў аналізах крыві ўлева. Яно ўсё часцей і часцей пераходзіць у бранхіты, вострую пнеўманію, становіцца хранічным і працяглым. А ў самім дзіцячым аддзяленні няма нават сістэмы цэнтралізаванай падачы кіслароду, без чаго ў крытычных становішчах амаль немагчыма змагацца за жыццё дзіцяці.

Патрэбны яшчэ факты? Магу падкінуць катораму аспіранту на кандыдацкую: чаго-чаго, а фактаў на атручаным Палессі хапае. Вось толькі самі аспіранты і іх навуковыя кіраўнікі штосьці да нас не спяшаюцца. Ды час ім суддзя: палешукі не ганарыстыя — самі дзяцей да іх возяць...

Стратэгія падману, як снежная лавіна, накрывае ўсё новыя сферы дзейнасці чалавека. Мы доўга заплюшчвалі вочы на тое, што ў многіх калгасах і саўгасах наўмысна не ўключаюць у фактычную плошчу севазвароту частку сельгасугоддзяў, каб потым пры падліку ўраджайнасці рапартаваць пра высокія паказчыкі, атрымліваць ад начальства падзякі і ўзнагароды. Да авары тыя маніпуляцыі выглядалі не надта хітрай гульнёй гаспадарнікаў на тупым лязе крымінальнага кодэкса. Чарнобыль карэнным чынам змяніў сітуацыю, перавёў яе з катэгорыі службовых махінацый у катэгорыю злачынства супраць цэлай нацыі, у тым ліку і супраць саміх сябе. Але, на жаль, толькі ў маральным аспекце, бо і сёння ў пацярпелых раёнах аруць зямлю нават там, адкуль выселены даўно людзі.

Гэта не адзінкавыя выпадкі. Пра іх ведаюць і ў райкоме, і ў аграпрамысловым комплексе, але на іх вымушаны глядзець скрозь пальцы. Галоўная прычына такога неверагоднага становішча — жорсткі план, які спушчаны раёну зверху.

Ужо каторы старшыня і рад быў бы капітуляваць перад суровымі абставінамі, але, як гавораць, старыя грахі ў рай не пускаюць. Вось і разбаўляецца «ўмоўна

чыстае жыта» адмоўна забруджаным радыеактыўнымі нуклідамі.

Вяртаўся са службовай камандзіроўкі ў Гомель з чарговага «радыяцыйнага пасяджэння» разам з медсястрой Брагінскага дзіцячага сада Марыяй Юр'еўнай Анісенка. Вядома, гаворка зайшла пра здароўе дзяцей.

Пасля аварыі, расказвала Марыя Юр'еўна, да іх прыслалі брыгаду ўрачоў з Віцебшчыны. Пачалі абследаванне. Амаль у кожнага дзіцяці знайшлі нечаканыя адхіленні ад нормы, якіх раней і не ведалі. А дыягназ усім ставяць ніяк не звязаны з радыяцыяй. «Што вы робіце?» — калі надарыўся выпадак, спытала Марыя Юр'еўна. «А што я магу? — пытаннем на пытанне адказаў прыезджы ўрач. — Нам забаронена ўспамінаць пра радыяцыю...»

— А потым, — з нейкім ледзь улоўным спачуваннем працягвала мая спадарожніца, — урач тая абхапіла галаву рукамі і заплакала. Яна раве, я раву, а дзеці за дзвярыма радасна шчабечуць...

Вось і пакладзіце, шматпакутныя беларусы, гэтыя два факты на вагі Феміды. Які з іх перацягне?

Я заўсёды адчуваю пачуццё віны, калі карэспандэнцкія шляхі-сцяжынкі прыводзяць мяне ў дзіцячыя садзікі. Мне здаецца, немаўляткі нашы здагадваюцца — а мо і адчуваюць — што нарадзіліся на свет божы ў ліхі час: дужа яны стрыманыя ў праявах сваіх дзіцячых пачуццяў. А мо баяцца, што я пераапрануся і выйду да іх не добрым доктарам Айбалітам, а злым ведзьмаром з хірургічнай іголкай у руцэ.

Тая ж Марына Ляўковіч, Марыя Юр'еўна Анісенка, многія выхавацелькі і настаўніцы ледзь не плакалі, калі расказвалі, як у дзяцей бяруць на даследаванне з вены кроў. Такую працэдуру вытрымае нават не кожны дужы мужчына, а што тады гаварыць пра малых.

Гаротныя, напалоханыя ад нараджэння маленькія палешукі, акрамя фізічных і маральных пакут, жывуць яшчэ пад пастаянным прэсам рызыкі да ўсіх сваіх хвароб займець і самую пакуль што страшэнную — СНІД, бо аднаразовых іголак і шпрыцаў у раёне няма.

Гэтую небяспеку, што навісла над «дзецьмі Чарнобыля», першым адчулі маці. Менавіта яны, даведаўшыся, што ў Брагінскай сярэдняй школе бяруць з вены

чарговы аналіз крыві, абурыліся і спынілі канвеер «дзіцячага донарскага пункта». Але што могуць зрабіць няшчасныя маці ў паядынку з сістэмай і адсталасцю? Не тут, дык летам у лагерах кроў возьмуць. Таму няма ніякіх гарантый, што трагедыя маленькай Элісты абміне дзяцей пацярпелых раёнаў Беларусі. Ды і як, скажыце мне, можна верыць у адваротнае, калі нават тую дзіцячую кроў, якую ўзялі ўрачы віцебскай брыгады, з-за элементарнай нядбайнасці не змаглі захаваць у дарозе да лабараторыі... Якія да гэтага патрэбны яшчэ каментарыі?

Мяне могуць спытаць, а ці існуе іншы метад даследаванняў? Дык тое пытанне не да мяне, а да медыцынскіх свяцілаў, якія цікуюць за падзеямі з-за высокіх рэдутаў. Я падзяліўся сваім болем і непакоем за лёс дзяцей Палесся. Гэта ўсё, што магу сёння для іх зрабіць...

Недахоп праўдзівай інфармацыі, якая нараджае недавер да ісціны, што, як тыя прадуктовыя пайкі раз у месяц выдаюцца жыхарам пацярпелых раёнаў, значна паскорыў развіццё радыяфобіі — трывалага, неадчэпнага страху перад невядомасцю, перад рэчамі, да якіх дотыкаешся, перад сонечнымі промнямі і кроплямі цёплага дажджу.

Гэты страх ні на адно імгненне не адпускае чалавека, хаваецца ў ім днём і ноччу, прачынаецца разам са світанкам. Ён, у першую чаргу, пасяліўся ў выхавацельках дзіцячых садоў і настаўніцах, якія ўяўляюць памеры небяспекі, што пагражае дзецям, вастрэй за многіх бацькоў.

У Малейках вясковая настаўніца расказвала: «От бяда-зладзейка. Зусім ад страху звар'яцела. То ж трэба такому нарабіцца. Прыйшла дахаты, дай, думаю, свіней пакармлю. Замяшала ў вядро, адкінула засоўку тую, свінні мяне ўбачылі і лычы ўгару цягнуць. А я вазьмі, дурніца, і пздароўкайся з імі: «Добры дзень, дзеткі...» А сама ў слёзы...»

«У суседзяў успыхнуў пажар, вецер перакінуў агонь да нас. У іх троху патушылі, а ў нас хаты зусім папаліла. Унукі нашы нарадзіліся ў горы, але і нам, нямоглым, — хоць галавой кідайся ў палонку. Ніхто не заўважыць...» (З гамонкі старых брагінчанак.)

Старасць — не радасць. Цяжка на схіле гадоў, употай уздыхаючы па маладосці, адчуваць нямогласць. Але яшчэ больш жудасна, калі чалавека, працу якога, здаецца, толькі ўчора славілі з трыбун, і на чыіх плячах трымалася дзяржава, пакідаюць сам-насам са сваёй пакутай і пражытымі гадамі.

Трагедыя Чарнобыля — гэта і трагедыя сумлення. Тая чэрствая абыякавасць да клопатаў бацькоў, на якую мы раней у будзённай мітусні не звярталі ўвагі, цяпер быццам цэліць у самае сэрца, бо Чарнобыль адняў у старых самую светлую і амаль адзіную ў жыцці радасць — прывячаць на ганку сваёй роднай хаты дзяцей і ўнукаў, якія з'ехалі ў горад і не спяшаюцца ў госці да дзядоў і бабуль.

Агароды і сады на Брагіншчыне поўняцца «сялянскімі дэлікатэсамі», за якімі раней імчалі дадому нашчадкі. Цяпер дары прыроды сталі прыгожай атрутай. А гаспадары ўсё корпаюцца па старой звычцы на сваіх агародах, збіраюць багаты, але жалобны ўраджай садавіны і гародніны. Цяга да роднай зямлі, да працы аказалася мацнейшай за ўсе астатнія пачуцці.

З вёсак, якія выселілі ў першыя месяцы пасля аварыі, многія старыя вярнуліся назад ва ўлонне свайго маленства. Іх не палохае радыяцыя, іх губіць, дачасна забівае адчуванне тужлівай адзіноты. Грошы, і немалыя, якія яны атрымалі за скалечаную старасць і загубленую маёмасць, даўно аселі ў бяздонных кішэнях сваякоў і дзяцей, сталі «Жыгулямі», магнітафонамі і каляровымі тэлевізарамі. Скончыліся грошы, і адразу перасохла крыніца любові. Цяпер на родных забруджаных селішчах старыя жывуць без пэўных правоў і дапамогі, бо там, куды яны вярнуліся, ужо няма ні сельсаветаў, ні магазінаў. Гэта мёртвая зямля з жывымі пакуль што людзьмі.

Жаданні перасяленцаў да болю зямныя і простыя: «Хай бы не давалі нам тых грошай, а пабудавалі дзенебудзь на чыстым ускрайку хаткі, каб суседскай грамадой жыць. Мы яшчэ і зямлю ўзнялі б і сады пасадзілі. Памрэм — маладым добрую памяць пра сябе пакінем...»

Але разам старых не сялілі. Не да іх клопатаў тады было. Усунулі, бы авечак, у спешна згабляваныя будыніны, якія прадзімаў вецер. Палілі свае новыя печы, пакуль хапала цярпення і дабрачыннага вугалю. Дома,

хоць і таксама непрыкаяна, — затое цёпла ад свайго агню і суседзяў. Так і жывуць. Не паверыце мне, але, калі ў адселенай вёсцы Сабалі Ягор Кузьміч Лігачоў аб'явіў пра дазвол мінздрава краіны жыхарам гэтай вёскі заставацца на сваіх сядзібах, бабулі нашы плакалі ад шчасця і ўсё намагаліся ўручыць гасцям асеннія кветкі са сваіх чарнобыльскіх кветнікаў... У гэтым шчырым парыве, страшным па сваім трагізме — і наша чэрствасць, і неаплачаны доўг перад тымі, каму мы абавязаны сваім жыццём.

На вуліцы Савецкай даўгахвостыя і галодныя пацукі пагрызлі старую. Некалі ў той быў муж, шавец, былі знаёмыя і заказчыкі. Памёр мужык, разляцеліся па свеце дзеці, а бабуля засталася гараваць свой век адна. І тыя, хто ведаў яе, хутка забылі.

Бабулі, пэўна, было сорамна назаляць людзям. Пахрысціянску залезла яна на печ, дзе і счакала смерць. Але старой трэба было яшчэ спадобіцца зваліцца з той печы — мо яшчэ жывой, а можа, ужо і не. Вось тут і накінуліся на яе пацукі...

Калі нехта з суседак успомніў, што даўно не бачыў бабулі, зайшоў, глянуў... Не дай божа пісаць пра такое...

А на другім канцы гарадка, ужо ў сучасным доме, пенсіянерка, настаўніца, павесіла на балкон сушыць бялізну, прылегла адпачыць і не прачнулася. Але, на яе нежывое шчасце, у доме пасварыліся суседзі. Прыехала разбірацца міліцыя. Хтосьці вазьмі ды і падзівіся: «Нешта настаўніца наша бялізну даўно не здымае...» Пастукалі ў дзверы, адчынілі, а чалавек ужо даўно халодны...

Зайшла ў рэдакцыю жанчына. Уздыхнуўшы, моўчкі апусцілася ў крэсла. Развязала хустку, потым няспешна склала на каленях шырокія далоні. Такое адчуванне, быццам стаміўся чалавек і завітаў адпачыць у цяпле.

— Мо што здарылася? Трэба дапамога? — асцярожна спытаў я.

— Ды чым мне паможаш, калі ногі ўжо не ходзяць, хоць і не надта багата набегла гадоў? Але на пенсіі я

і па інваліднасці, і па старасці, — яна раптам прыклала да вачэй кончык хусткі. — Ніколі нічога ў людзей не прасіла, а во як круцянула... Я во чаго. Мо параіце, што рабіць. Адзінокая я, адна маюся, як ліст той у непагадзь. Жыць мне ў хаце няможна. Дах цячэ, дык вільготна і холадна. Старшыня ў нас новы: не бачыў, як мы, старыя, карэжыліся. Усё абяцае памагчы, а памяць кладзе ў дзіравую кішэню. Летам яно і нічога сабе: начаваць у хаце можна было. Рабіла я на ферме ўлетку, а ўвосень ногі не ідуць. Вось і прыйшла да вас. Шыльдачка на вашай хаціне на вочы трапіла. Мо і пагаварыце са старшынёй? Я ж нічога, дзетка, не прашу: толькі каб дождж падлогу не мыў... Куды ж мне ад яго схавацца?

Я запісаў прозвішча: Марыя Сцяпанаўна Прыходзька. Ад людзей даведаўся: усё жыццё жанчына працавала і нічога не прасіла ўзамен. Вось толькі старасць сагнула ў зямны паклон перад начальствам...

Маленькі пакойчык Хракавіцкага сельсавета пераступіла жанчына гадоў пад семдзесят. У белай хустачцы і чорным касцюме. За ёй узвышаўся высокі светлавалосы хлопец. Спытала ў Раісы Вайцахоўскай, якая робіць за сакратарку, ці можна афарміць завяшчанне на ўнука.

— А што, бабуля, хочаце завяшчаць? — пацікавілася Раіса.

— Машыну, дзетухна, «Жыгулі».

— Гэта ў старшыні, бабуля, толькі заўтра ўранні.

— Во, няшчасце, — пляснула рукамі бабуля. — Унуку майму трэба ў Мінск вяртацца.

— А без мяне можна абысціся? — уставіў слоўца хлопец.

— Думаю, можна. Толькі трэба на машыну дакументы прынесці: нумар, мадэль...

— Дык гэта я ўсё старой напішу, — узрадаваўся нашчадак.

— Ага, Міша, — згодна заківала галавой бабуля. — Ты ўжо едзь, не хвалюйся...

Яны выйшлі з сельсавета, абодва задаволеныя.

— А старой гэтай сем кіламетраў да сельсавета пешку, а яна каля паўсотні гадоў на калгас працавала... — раптам зажурылася Раіса.

Адселеныя вёскі — гэта і бяда, і незажыўная рана і раздарожжа чалавечых лёсаў. Тэрмометр на канцы лета паказвае «на хваробу». У раёне, у некаторых адселеных вёсках, пажары. Марудна сцелецца над тарфянікам белы касматы хвост бяды. Ветру амаль няма, але радыеактыўны язык усё роўна няспешна і няўмольна цягнецца на поўнач.

Людзі вяртаюцца ў свае вёскі. Яны прыпадаюць да сваёй зямлі, што ўскарміла іх, і нічога тут не зробіш. Кліч зямлі мацней за страх перад радыяцыяй. Нехта кінуў акурак, дзесьці з машыны вылецела іскра, і вось ужо атручаны дым папоўз да суседзяў, яшчэ глыбей — у самую душу нашай Беларусі.

Вяртаўся з вёскі Шкураты ў райцэнтр, і амаль усю дарогу за машынай цягнуўся дымны шлейф. Казытала ў горле ад паху гарэлага, асядаў на вопратцы і сядзенні пыл. А за акном у сваіх агародах і на палях корпаліся людзі.

У Брагіне, хоць ён і равеснік прастольнай сталіцы, няма царквы. Перабудова дазволіла веруючым на свае кроўныя грошы адкрыць малебны дом. Праўда, з царкоўным купалам і бацюшкам, які прыехаў «аж адтуля, з-пад самага Мінска».

Бацюшка — фігура ў пасёлку прыкметная. Ёсць у яго дзесьці пяцёра дзяцей і жонка, якая катэгарычна адмовілася ехаць «у тую радыяцыю». На пытанне сваіх прыхаджан, як такое здарылася? — слуга божы адказаў шчыра: «Нічога, як паесць сіроцкага хлеба, дык сама прыбяжыць і павініцца...»

А пакуль веруючыя чакаюць уз'яднання парушанай папоўскай сям'і, бацюшка, мабыць, сумуе. Нават у царкоўнае свята не ўстаяў перад зямной спакусай. Выйшаў правіць службу пад добрай чаркай, што, як казалі бабулі: «Не можа ні разявіць рот, ні закрыць...» Бабулі ўзялі бацюшку пад белыя рукі і адвялі ў суседні пакой, адчыніўшы дзверы насцеж, каб той хоць трохі ачуняў.

На шчасце, падвярнуўся попік з Чамярысаў, які і справіў службу. Аказалася, што ўранні мясцовы міліцыянер прывёз да бацюшкі хрысціць свайго малога, ну, і давялося бацюшку перакуліць некалькі чарак. Не часта слугі закону закідваюць за гальштук са служкамі культу.

Праваслаўныя разыходзіліся па хатах і радаваліся, што ўсё так ладам скончылася: як сам бог паслаў бацюшку-спасіцеля. Каб не было тых нуклідаў, гаварылі яны, дык той, мінскі, ніколі не саграшыў бы.

Але самае цікавае адбылося на наступны дзень. Разбіраць «персанальную справу» нашага папа прыехалі бацюшка з Нароўлі, які раней правіў службу ў Брагіне, і хойніцкі свяшчэннік. Мабыць, суд быў вельмі строгі, бо брагінскі айцец хадзіў ніжэй за той палын, што буяе вакол царквы, і вініўся перад веруючымі...

А вось дзяды і бабулі з вуліцы Пралетарскай колькі ўжо разоў пісалі старшыні пасялковага Савета народных дэпутатаў, які ў іхніх вачах прадстаўляе ўсю Савецкую ўладу, каб замянілі нарэшце радыеактыўныя дахі, але той не адказаў і не павініўся перад людзьмі...

З галоўнай сядзібы калгаса «Чырвоная Украіна» ў добрае надвор'е відаць труба Чарнобыльскай АЭС. Здаецца, працягні руку і дакранешся да яе. Не верыцца, што радыяцыя злітавалася над зямлёй, на якой раскінулася гаспадарка. (Ды і шчыра сказаць, у гэта ніхто і ніколі не верыў). Але людзі тут жывуць і працуюць. Спраўляюць вяселлі і родзяць дзяцей. А над імі, як нябесны праклён, узвышаецца чарнобыльская труба...

Багата ўжо мінула часу ад таго дня, які прывёў мяне ў «Чырвоную Украіну», але кожны раз, калі я думаю пра тое, колькі разоў мы (не толькі беларусы) стаялі на самым краі маўклівай бездані, адкуль — крычы не крычы — няма дарогі назад, перад вачыма заўсёды з'яўляецца з гладкай кладкай, нібы змяіная скура, труба.

Толькі па афіцыйных даных у кастрычніку 89-га на васьмі атамных станцыях адзінаццаць разоў пазапланавана спынялі энергаблокі. У тым ліку і па віне работнікаў на Чарнобыльскай АЭС. Вымушаны былі спыніць работу энергаблока і на Запарожскай АЭС. На той самай станцыі, дзе за два гады да чарнобыльскай аварыі 27 студзеня 1984 года ўзнік моцны пажар [1]. Менавіта ў яго водбліску, як у люстэрку, калі б тое не схавалі ў сакрэтным сейфе, можна было ўбачыць чорны адбітак будучай трагедыі над Прыпяццю.

---

[1] Газета «Известия», 14 лістапада 1989 года.

І там спачатку персанал станцыі спрабаваў сваімі сіламі патушыць полымя, але з-за густога дыму, які ахутаў памяшканні, людзі адступілі. Толькі праз пяць гадзін на месца надзвычайнага здарэння прыбылі пажарныя каманды з Запарожжа. Суткі спатрэбіліся, каб цаной неймаверных намаганняў адолець агонь. Пасля ўтаймавання «атамнага звера» спецыялісты вызначылі. што ў працэсе тушэння пажару ўзнікла рэальная пагроза знішчэння сістэм бяспекі рэактара...

Яшчэ больш крытычна абстаноўка склалася на Армянскай АЭС, дзе пасля кароткага замыкання адбыўся выбух у машыннай зале. Але зноў бог быў літасцівы, і нашы вучоныя мужы, і ведамасныя адміністратары ўздыхнулі з палёгкай.

Гэтае злачыннае спадзяванне на спагадлівасць ядзернай фартуны шмат у чым вызначыла памеры чарнобыльскай трагедыі, калі толькі цаной многіх жыццяў маладых хлопцаў, якія не дакахалі, не прадоўжылі свой род, чалавецтва пазбегла смяротнага выбуху, які загубіў бы паў-Еўропы.

Калі прасачыць за ланцугом небяспечных здарэнняў на атамных станцыях, дык вывад напрошваецца страшны ў сваёй будзённасці і адназначнасці — Чарнобыль быў запраграмаваны яшчэ да таго, як паставілі станцыю, запраграмаваны самой сістэмай кіравання атамнай энергетыкай, закладзены нашай навукай, якая даўно, мо з часоў «лысенкаўшчыны», у многіх аспектах згубіла адчуванне рэальнасці, адказнасці перад людзьмі за свае эксперыментальныя распрацоўкі.

Трывожная інфармацыя, якая паступова расла, нібы ракавая пухліна, патрабавала, хоць і запозненага, хірургічнага ўмяшання. Але тады як прызнаць свае памылкі, перагледзець канцэпцыю будаўніцтва станцый, а значыцца, паставіць пад сумненне свае заслугі, а некаторым і развітацца з цёплымі крэсламі. Ды і цяжар узнагарод не дазваляў выпрастацца на ўвесь рост, каб загаварыў голас сумлення і людзі пачулі праўду.

Гэтую праўду спрабаваў данесці да нас Валерый Аляксеевіч Лягасаў. Цяжка цяпер знайсці прычыну, якая падштурхнула гэтага, безумоўна, сумленнага і дужага чалавека да самазабойства. Заслону над тайнай яго смерці ў нейкай ступені прыўзнімае фраза з дзённіка таго ж Рыгора Мядзведзева: «У групу па ацэнцы неабходнасці эвакуацыі насельніцтва Прыпяці, хутароў

і вёсак, якія знаходзіліся побач з Чарнобылем, увайшлі Шашарын, Сідарэнка і Лягасаў...»

Можна толькі здагадвацца, з якім жорсткім супраціўленнем у ацэнцы памераў трагедыі з боку тых, хто ў сілу свайго службовага становішча стараўся схаваць ад людзей катастрафічныя вынікі аварыі, сутыкнуўся ён. У гэтай няроўнай барацьбе перамаглі нябачныя, але магутныя адміністрацыйныя сілы, і цяпер калгаснікі той жа «Чырвонай Украіны», ідучы на работу ці вяртаючыся пад свой умоўна чысты дах, могуць «любавацца» (мабыць, гэтага ў самым страшным паслячарнобыльскім сне не бачыў акадэмік) на атамную трубу. Але перад смерцю Валерый Лягасаў яшчэ паспеў з горыччу падзівіцца з нашай безгаспадарчасці, якая нярэдка перарастае ў злачынную абыякавасць да лёсаў людзей: «Я зрабіў адназначны вывад, што чарнобыльская аварыя — апафеоз, вяршыня таго няправільнага вядзення гаспадаркі ў нашай краіне, якое вялося на працягу дзесяткаў гадоў...»

Пра стратэгію «глабальных рашэнняў дзеля рашэнняў», са слядамі якой можна сутыкнуцца на кожным кроку (успомнім хаця б фантастычна неабгрунтаваны праект перакіду паўночных рэк), гаварылі і ў салоне цеплахода на падводных крылах, што курсіруе паміж Гомелем і Кіевам.

Цудоўна выглядаў Днепр у вясёлых сонечных зайчыках, якія падалі і з-за высокіх кучаравых аблокаў на ягоную павольную плынь. Ён зачароўваў сваёй непаўторнай прыгажосцю. Нават не верылася ў чарнобыльскую трагедыю. За ілюмінатарам праплывалі зялёныя пагоркі і жоўтыя водмелі, цеплаход, збаўляючы хуткасць, абмінаў маленькія і вялікія астравы, якія яшчэ нядаўна былі месцам паломніцтва маскоўскіх турыстаў, а ў салоне, то заціхаючы, то зноў небяспечна ўспыхваючы, нібы вогнішча, у якое неасцярожна падкінулі сухую яліну, вялася гамонка пра Чарнобыль.

Многа пра што гаварылі мае выпадковыя спадарожнікі, але мне чамусьці запала ў душу адна фраза: «І які гэта вар'ят дадумаўся ў куточку, асененым самім богам, паставіць атамнае страшыдла?»

На гэтае, народжанае, быццам дзіцё ў пакутах, пытанне ніхто не азваўся. А я, вярнуўшыся ў Брагін, перачытаў свае запісы пра хараство палескай прыроды, і, чэсна прызнаюся, мне стала страшна...

Ціхі, лянотны, як зачараваны, надвячорак. Удалечыні за няроўнай санлівай вуліцай загадкава вырысоўваецца ўскраек лесу. Над ім — тонкае павуцінне электрычных дратоў. Яшчэ далей, з-за сініх аблокаў, з вышыні цікуе ярка-чырвоны, быццам вышчарблены па краях, кавалачак сонца. Да зялёнай травы цягнуцца дрогкія ружовыя промні. Адзінокі конь на выгане, раз-пораз ускідваючы грыву, няспешна скубе траву. Жнівень. Коціцца на восень лета...

Проста над сланечнікамі вісіць разрэзаны папалам цёмна-жоўты месяц. Ад яго роўнага нeяркага святла аддае шчымлівай самотай. На лавачках каля прысадзістых хат ледзь чутна перакідваюцца словамі жанчыны ў белых хустках. На спіленай ліпе, як чалавек, падклаўшы пад сябе лапы, выпрастаўся тлусты чорны кот. Толькі насцярожана ўздрыгвае, калі побач нячутна прабяжыць сабака. Спакой і замілаванасць апусціліся на зямлю. І раптам на сініх стрэхах загойсала вясёлая песенька: «Луна-луна, цветы-цветы...» На суседняй вуліцы з-пад шырокага брызентавага навеса для гасцей напомніла пра сябе вяселле. Дачка нашых суседзяў выходзіць замуж.

Жанчыны як па камандзе змоўклі, быццам разам з песняй прыгадалі сваё дзявоцтва... І толькі чорны кот не змяніў позы. Колькі яшчэ такіх цёплых вечароў падорыць нам верасень?..

Бабіна лета. Апускаецца на зямлю бледны сонечны дыск. Мехдвор калгаса «Першамайск». Стомлена прыхінуліся адзін да другога камбайны. Каля іх стаяць гуртам механізатары. Моўчкі і з асалодай зацягваюцца цыгарэтамі. Скончылася жніво, можна трохі пабавіць час.

Незаўважна, як гэта бывае ўвосень, падкраўся вечар. Яскрава адчуваецца прыемны пах, бо непадалёку — якіх два кіламетры — Днепр. Дыхаецца лёгка і хораша, на поўныя грудзі...

Як бы ні абвалоквала цябе хараство прыроды, але ад думак пра радыяцыю можна вызваліцца толькі на

імгненне. Ад іх, настойлівых і здзеклівых, нікуды не збяжыш і не схаваешся: ні на вуліцы, ні ў хаце, нават калі заняты рэдакцыйнымі клопатамі...

На шашы шчыт з картай раёна. На ім заштрыхаваных чорным колерам плям няма. Быццам і не было ніякага Чарнобыля, не пеpажыта-перапакутавана за тры гады. Зваліць слуп на абочыне: «Увага! Радыеактыўная забруджанасць!» — і ўсё будзе як раней?

Але з людской памяці не выкінеш набалелага, як не выкінеш слова з песні. Возера непадалёку ад пасёлка Сонечны. Тут калісь віравала жыццё. На беразе гэтага штучнага вадаёма адпачывалі палешукі. Цяпер ягоныя берагі напамінаюць кінутыя адступаючымі ў паніцы войскамі пазіцыі: яны ашчаціліліся ссохлым пустазеллем і патрэсканым, нібы ад старасці, карычневым насыпам.

Зіма ў 87-м выдалася марозная і доўгая. Возера ад краю і да краю пакрылася тоўстым лёдам. Добра выгуляны, тлусты на сытным харчы карп задыхаўся пад цяжкім панцырам. А людзі, што выкапалі гэтае возера, не маглі яму дапамагчы. Яны самі бязгучна прасілі літасці і дапамогі. І рыба задыхнулася.

Я стаю на дне былога возера і проста фізічна адчуваю, як усё было тады. Прыгрэла вясенняе сонейка, расплавіла лёд, і наваколле запоўніў пах мярцвячыны. Ён каціўся нябачнымі хвалямі над атручанай і апусцелай зямлёй, і, здавалася, уся аж да самага неба прастора — расказвалі сведкі — пахне смерцю.

Так пачыналася вясна 87-га, калі далёка ад гэтых мясцін тыя, ад каго залежаў лёс і будучыня палешукоў, раніцай пагаліўшыся, пырскалі ў твар модны адэкалон і думалі, што пах Чарнобыля да іх не дойдзе...

А ў нас на Брагіншчыне зайцы сталі ледзь не ваўкамі, а тыя ўпадобіліся мядзведзям. І развялося іхняга брата, што тых радыеактыўных камароў перад дажджом.

Позна вечарам вяртаўся на аўтобусе ў Брагін. Фары выхапілі з цемры двух зайцоў. Шафёр сціішыў хуткасць і выключыў святло, потым зноў уключыў. Але зайцам гэтыя светавыя маніпуляцыі, як гавораць, былі «да лямпачкі». Яны, тлустыя і лянівыя, няспешна прадэфіліравалі цераз шашу.

Пра гэты феномен я размаўляў з дырэктарам Камарынскага лясніцтва Уладзімірам Пашынскім.

— Што гаварыць пра зайцоў ці ліс, — загарэўся ён. — Дзікоў развялося ў адселенай зоне, што грыбоў леташняй восенню. Няма людзей, вось і захопліваюць тэрыторыю новыя гаспадары. Зразумець няможна, як звяры жывуць яшчэ. Возьмеш печань у забітага дзіка, а яна, далібог, у руках разлазіцца, быццам мокрая папера. Дзічына тая — сапраўдная атрута. Але ж ёсць аматары за дротам паляваць... Самі ядуць дзічыну з нуклідамі і людзей ёй частуюць.

У выселенай зоне за калючым дротам засталося амаль трыццаць тысяч гектараў лесу. Цяпер там ствараецца радыеэкалагічны запаведнік, у якім плануецца праводзіць даследаванні на жывёлах. А дзе раней былі нашы вучоныя? Такую работу ўжо можна было даўно правесці пад тым жа Чэлябінскам або Сяміпалацінскам... Ніяк не магу зразумець, чаму нашы свяцілы аказаліся голымі, калі давялося выходзіць на вочы да людзей?

І сапраўды, чаму? Матэрыялу ім павінна было хапіць і да аварыі на чацвёртым блоку. А мо тыя ранейшыя радыеактыўныя экземпляры заўчасна сканалі ці яшчэ горш — разбегліся, і іх сёння па ліцэнзіях адстрэльваюць актывісты добраахвотнага таварыства «Рыбалоў і паляўнічы»? Пры нашай безгаспадарчасці і не такое часам здаралася...

Леснікі расказалі мне выпадак, у які я не паверыў бы, каб не прайшоў «чарнобыльскі універсітэт». Ёсць такі кінуты жыхарамі куток — вёска Піркі. Там увосень 87-га года дзед разам са сваёй старой знайшлі лаз у загароджы «зоны адчужэння», пасяліліся ў пустой хаце і «па-стаханаўску», за нейкі тыдзень, назбіралі мора белых грыбоў — насушылі ажно чатыры мяшкі. Паехалі старыя гандляваць у Чарнігаў. Там грыбы тыя за вялікія грошы прадалі. Нават некалькі кілаграмаў прапанавалі мясцоваму рэстарану для фірменных страў.

Дзед той потым па-сялянску разважліва тлумачыў сітуацыю: «А што? Мы ясем, і, слава богу, нічога сабе. Якая ж то атрута?»

У яго пацікавіліся: навошта яму грошы, калі дзяржава ўжо за хату заплаціла?

«Як навошта, — аж усхапіўся стары. — Мы ж не ў камуне жывем, а грошыкі яны і ёсць грошыкі...»

Дзед той зараз пасяліўся з бабай у вёсцы Рудня Жураўлёва.

Ён не адзін такі «палескі кулак». Прадаюць шапкі з лісіц, якіх забілі за «мяжой павышанай рызыкі», мяса, яблыкі... Ды і што возьмеш са старых, якія не могуць забыць — зямля, на якой яны нарадзіліся, за дротам, туды хадзіць нельга...

Ды і што казаць пра дзеда, калі ўжо на маіх вачах узаралі поле былога аэрадрома, дзе амаль самы высокі ў Брагіне радыяцыйны фон. Поле гэта гектараў пяцьшэсць, ушчыльную прымыкае да новага жылога мікраараёна. Хто даў такую каманду, для чаго ўзаралі — тайна. Праўда, ходзяць чуткі, што засеюць поле травой. А пакуль узыдзе тая трава — вясной на жыхароў мікраараёна нанясе багата пылу, а побач жа з дарослымі жывуць дзеці.

Размова з дырэктарам Камарынскага лясгаса пра стварэнне запаведніка радыяцыйнай медыцыны мела свой працяг. У мяне з'явілася жаданне сустрэцца і пагутарыць з яго навуковымі супрацоўнікамі, але я не ведаў, як яе ажыццявіць практычна. На мой розум здавалася, што вучоныя тыя нясуць свой нялёгкі крыж за калючым дротам у трыццацікіламетровай чарнобыльскай зоне. Каб туды праехаць, патрэбен спецыяльны пропуск, ды і рэдакцыйныя клопаты не адпускалі.

Можаце ўявіць маё здзіўленне, калі ад старшыні раённага камітэта народнага кантролю Пятра Пятровіча Кузьмянка я даведаўся, што «навуковы штаб запаведніка» ў складзе шасцідзесяці пяці баявых адзінак размясціўся ў Хойніках, якія па Дзяржаўнай праграме не падпадаюць пад высяленне.

Мала таго, хойніцкі калега Кузьмянка павінен разбірацца са справядлівымі папрокамі жыхароў, якія здзіўляюцца з бяздзейнасці супрацоўнікаў радыеэкалагічнага запаведніка і ніяк не могуць зразумець, за што «вучоныя» атрымліваюць добрыя грошы — не пенсіянеры ж яны яшчэ?

Выходзіць, дарэмна турбаваўся. А ехаць у Хойнікі чамусьці не захацелася.

Мінулага не вернеш, што здарылася — тое здарылася. Рана ці позна вінаватыя ў паслячарнобыльскай трагедыі, ва ўсім, што было і адбываецца сёння, будуць названы. Гэта непарушны закон гісторыі.

Вядома, можна было, як фанерным шчытом, прыкрывацца ад людскога гора і абурэння намеснікам міністра аховы здароўя рэспублікі, які на шматлікіх брыфінгах і з экранаў тэлевізараў раз-пораз запэўніваў цэлую нацыю ў тым, што ў пацярпелых раёнах можна ледзьве не праводзіць свой адпачынак, пакуль ягонае прозвішча не стала амаль для кожнага, хто перажыў чарнобыльскае ліха, адмоўным. Тады яго, як гэта ў нас умеюць і любяць рабіць, перавялі на новую пасаду. І цяпер ужо другі намміністра прымае на сябе ўдары крытыкі і хвалі абурэння. Але навошта нам другі, як гаварыў некалі пісьменнік Віктар Казько, калі мы не ведаем першага? А яны, гэтыя першыя, не прывіды нейкія, а рэальныя людзі.

Я не перажыў разам з палешукамі самых першых трагічных дзён і таму з вялікай асцярогаю занатоўваў у дзённік іхнія ўспаміны. Разгубленасць і здранцвенне, якія агарнулі людзей, пачуццё невядомасці і панічныя чуткі нярэдка пакідалі ў іх памяці задужа перайначанае ўяўленне пра тое, што адбывалася тады. І ўсё ж пра адну падзею, якая хоць неяк можа растлумачыць памылкі і паспешлівыя рашэнні, што прывялі да трагедыі, не магу прамаўчаць. З чалавекам, які расказаў мне гэтую гісторыю, я ў спрэчках і паездках правёў побач не адзін дзень, і займае ён не апошняе месца ў механізме раённага кіраўніцтва. Карэнны паляшук, зբалелы душой, але мужны і шчыры чалавек. Ён не прасіў мяне не называць ягонага прозвішча. Раблю так, бо не хачу, каб «перафарбаваныя ў светлы колер кансерватары» абвінавачвалі сапраўдных — не на словах, а на справе — прыхільнікаў перабудовы.

У першыя майскія дні 86-га ў клубах радыеактыўнага пылу, што ўзнімаўся над прасёлкавымі дарогамі, паспешліва, са слязамі на вачах, мігрыравалі са сваіх абжытых сядзібаў людзі. Хто быў вымушаны пакінуць хату, хто — пацясніцца, каб прыняць пад свой — па нейкіх абстрактных меркаваннях — чысты дах «пагарэльцаў». Адпраўляліся ў блізкую і далёкую дарогу жыхары вёсак і цэлых гаспадарак.

Рабочыя саўгаса «Брагінскі» знайшлі прытулак у

калгасе імя Чкалава. Але ўзнікла заканамернае пытанне: а што далей? Ці застануцца людзі жыць у гэтых мясцінах назаўсёды, ці іх эвакуіруюць куды-небудзь яшчэ? Гэтая неакрэсленасць палохала перасяленцаў больш за радыяцыйную небяспеку.

У тыя, настояныя на трывозе дні пацярпелыя раёны наведаў былы першы сакратар ЦК Кампартыі рэспублікі. Жыхароў у вёсцы Рудня Жураўлёва, куды перабралася частка рабочых саўгаса «Брагінскі», па старой звычцы папярэдзілі, каб яны не дужа выторкваліся на вуліцу, але калі машыны з высокімі гасцямі прыехалі, з-за платоў, з поля, адкуль хто павыбягалі калгаснікі, абступілі высокае начальства. І хоць прыроджаная сціпласць і пачуццё ўдзячнасці за тое, што не забыліся пра іх у нялёгкія часіны, стрымлівалі палешукоў, набалелае ўсё ж такі вырвалася на паверхню: што будзе з намі?

«Абяцаю, — сказаў сакратар, — праз якіх пятнаццаць дзён вы ўсе вернецеся дадому...»

Божухна, як тут узрадаваліся жанкі, загаманілі, заплакалі ад шчасця... Прайшло пятнаццаць дзён, і год, і тры гады — даўно ўжо не існуе на карце таго самага вялікага ў раёне саўгаса «Брагінскі», а людзі так і не вярнуліся пад свой родны дах, ды і не маглі вярнуцца... Праўда, гравійку, па якой ехалі машыны з высокай камісіяй, амаль адразу заасфальтавалі. Але не змаглі, на наша горкае шчасце, заасфальтаваць памяць людзей...

Гэты эпізод можна было б расцаніць як эмацыянальнае жаданне хоць трохі супакоіць вяскоўцаў, падтрымаць іх маральна ў цяжкую гадзіну, каб за абяцаннямі не хавалася пазіцыя замоўчвання рэальных памераў трагедыі. Дастаткова ўспомніць тыя ж самыя святочныя дэманстрацыі, рашэнне міністра аховы здароўя зноў засяліць вёску Сабалі, пра што я ўжо казаў.

Баюся, што мы не атрымаем адказу на пытанне: «Адкуль і ад каго зыходзіла стратэгія паўмер, рашэнняў і аптымістычных абяцанняў?» Гэта тым больш горка, што час перамяніўся — гавары праўду! Не! А праўда, як глыток чыстага паветра, патрэбна цяпер не толькі радавым жыхарам, але і мясцовым кіраўнікам, якія не могуць сказаць людзям, што спявалі з чужога голасу. Іх без віны вінаватых па-чалавечы можна зразумець. У маральным і псіхалагічным плане гэтыя людзі якраз адны з найбольш пацярпелых, бо часткова страцілі давер і павагу народа. Можна толькі ўявіць сабе, як ім

было няёмка і балюча крадком ад людскіх вачэй адвозіць да сваякоў і блізкіх сваіх дзяцей. Іх і сёння падтрымлівае толькі страшнае па сваім трагізме горка-радаснае адчуванне, што яны жывуць і працуюць не на беразе Чорнага мора, а амаль у самым эпіцэнтры атамнага нашэсця, дыхаюць не празрыстым ад лугавога настою, а атручаным Чарнобылем паветрам.

Прыляду ўспаміны Аляксандра Канцавога, які працуе ў Брагіне шафёрам.

«Страх за дзяцей ахапіў мяне, калі дайшлі чуткі пра аварыю на станцыі. Што будзе з намі, ужо справа дзесятая, а вось думка пра малых стрэліла проста ў скроню. Доўга мы з жонкай меркавалі, як зрабіць: ці то пакінуць дзяцей дома, ці то адвезці іх у Добрушскі раён да бацькоў? А тут, на сваё шчасце, сустракаю райкомаўца. «Аляксандр, — пытае ён, — а ты сваіх дзяцей вывез?» Ды не, адказваю, такой каманды не было. «Ну, дык я табе загадваю», — сказаў ён і, неяк вінавата апусціўшы галаву, падаўся ад мяне.

Я адразу схапіў сваіх нашчадкаў і павёз іх у Добруш. Вяртаюся світанкам назад. Якраз толькі сонейка ўстала. І раптам бачу, як па шашы, хістаючыся, нібы п'яная, сунецца проста пад колы машыны адзінокая карова — уся абадраная і ў крыві. Тады я і дацяміў, што, пэўна, перавозілі жывёлу ў Гомель, а гэтая небарака, чорт яе ведае як, вывалілася з кузава на дарогу. Цяпер вось цягнецца за сваімі сяброўкамі па няшчасцю. Тут мяне схапіла за самае сэрца: як жа так — кароў ад Чарнобыля вывозяць, а дзяцей — не?»

Горкія ўспаміны пра тыя першыя дні і сёння жывуць у людзей. І тое, што ўсё ж такі ўспомнілі пра маленькіх палешукоў з вяршыні паслячарнобыльскага ліха, здаецца бацькам не праявай міласэрнасці, а актам аб частковай капітуляцыі, якую была вымушана падпісаць наша бюракратычная сістэма.

Не ўсё, што гаворыць з трыбуны і піша ў прэсе Алесь Адамовіч, правамерна і абгрунтавана. Часам і яму, як гавораць, эмоцыі засцілаюць вочы. Але вось пад гэтымі ягонымі словамі можа падпісацца сваім скалечаным жыццём кожны паляшук.

«...Або здарыцца так, як у Беларусі з радыяцыяй, змагаліся ўсе гэтыя тры гады: плацілі людзям і будавалі дамы, дарогі, сотні мільёнаў уклалі ў безнадзейную справу — прымусіць людзей жыць там, *дзе жыць нельга,* немагчыма...»

У гарадскі пасёлак завітала чарговая камісія. На гэты раз вельмі суровая — па надзвычайных сітуацыях, якую ўзначальвае намеснік Старшыні Савета Міністраў СССР У. Дагужыеў. Таму і людзей на Кастрычніцкай плошчы, што стала пасля Чарнобыля месцам «народнага веча», сышлося мала менш, чым у Мінску на Камароўскім рынку ў нядзелю.

Сустрэчу запланавалі правесці пры зачыненых дзвярах у раённым Доме культуры, а ўсе тыя, каму «забылі» паслаць запрашэнне, таўкуцца ля дынамікаў, якія бліскучымі квадрацікамі вісяць на электрычных слупах. Тут і карэнныя брагінцы, і «паўнамоцныя прадстаўнікі» блізкіх і далёкіх вёсак.

Людзі чакаюць начальства ўжо колькі гадзін запар, бо ўрадавую камісію незапланавана і надоўга затрымалі ў Нароўлі. Там моцная ініцыятыўная група, якая можа спыніць і пешага і коннага. У тым ліку і на лімузіне.

Таму госці і прыехалі да нас на сустрэчу, калі ўжо ад гарадка адступіла жнівеньская спякота і ад старой Брагінкі пацягнула прыемнай вільгаццю.

У мяне была магчымасць трапіць у залу, але, сам не ведаю чаму — быццам нейкая сіла спыніла на плошчы, — застаўся на «галёрцы». І цяпер пра гэта не шкадую. Пасля таго як закончылася сустрэча, я колькі разоў звяраў і перачытваў свае запісы і адчуваў сябе, мабыць, як і ўсе тыя, хто стаяў тады побач са мной, пасажырам маленькай дзіравай лодачкі, якую бязлітасна шпурляе ў акіяне чалавечага гора. Запісы, якія занатаваны ў маім сшытку, я пракаменціраую толькі там, дзе неабходна, — астатняе яны самі скажуць за сябе.

Трэба адразу адзначыць, што асноўны цяжар першага этапу ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі ўзвалілі на сябе салдаты і афіцэры войск хімічнай абароны. І да сённяшняга дня ля шашы Брагін — Камарын стаіць на пастаменце бронетранспарцёр, які першым увайшоў у Чарнобыль. Дык каму, як не камандзірам гэтых часцей, дакладна ведаць радыяцыйную абстаноўку на чацвёртым годзе трагедыі?

Вось кароткая стэнаграма іх выступленняў:

*Камандзір палка:* «Армію адсюль трэба выводзіць. Падыходзіць да мяне ваеннаслужачы, звяртаецца: «Таварыш камандзір, я ўзяў бычкоў у арэнду, дык яны там здохнуць без дагляду. Потым усё жыццё буду за іх з

дзяржавай расплачвацца...» А што я магу зрабіць? Такіх салдат з запасу ў мяне сотні. У асноўным яны не падрыхтаваны да нашай работы. Ды і, наогул, дэзактывацыя, якую мы праводзім, не дае эфекту. Закапалі шэсць вёсак, узровень радыяцыі знізіўся ў некалькі разоў, а праз тры месяцы замералі зноў, а ён стаў такім, як і раней...»

*Голас з прэзідыума:* «Вы разумееце, што гаворыце? Таварыш генерал, што за размовы ў вашых падначаленых?»

*Генерал:* «Я сваім падначаленым веру!»

Як вы думаеце, каго абурыла адкрытасць камандзіра палка? Высокіх гасцей з Масквы? Памыляецеся. Кіраўніка Гомельскай вобласці А. Камая. Пасля гэтага няма чаго здзіўляцца, чаму на з'ездзе народных дэпутатаў інтарэсы беларусаў абараняў украінскі паэт Барыс Алейнік...

Не буду апісваць рэакцыю тых, хто сабраўся на плошчы. Думаю, што яна не патрабуе тлумачэнняў.

Запомнілася і выступленне Наталлі Нікіценкі з Брагіна: «Зямлю для дэзактывацыі тэрыторыі нашага дзіцячага садзіка завозілі з Пецькаўшчыны, а яна там таксама забруджаная. Цяпер у нас дах паказвае 0,187 мілірэнтген, а зямля — 0,167. І гэта пасля дэзактывацыі...»

Мне чамусьці прыгадаўся дзіцячы садзік у калгасе «Пераможнік», які пабудавалі ў мінулым годзе. Ён светлы, чысты, прасторны. Вакол дзіцячых пляцовак — драўляныя фігуры Чарнамора, Залатога пеўніка, Ільі Мурамца... Каля іх весела мітусяцца вясковыя дзеткі. Над імі высокі блакіт неба, а пад нагамі — жоўты пясочак. Што ў іх хаваецца, у гэтым блакітным небе і жоўтым цёплым пясочку?..

Са старшым лейтэнантам хімвойск мы адразу знайшлі агульную мову. Пасядзелі троху на лавачцы каля хаты, дзе я кватарую, пакурылі. Я расказаў пра даўні паход на Новую Зямлю, ён мне — пра радыяцыйную абстаноўку ў Брагіне.

— Ну, а ў нашай хаце можна жыць? — у лоб спытаў я.

— Толькі ў чарнобыльскай зоне, — іранічна супакоіў мяне старшы лейтэнант. — У агародзе павышаны радыяцыйны фон, а на даху — яшчэ больш.

— Дык, можа, пяску падкінеце, каб хоць вакол хаты зямлю пасыпаць?

— Навошта дурная работа? Гэта тое ж самае, што ў вядры без дна спрабаваць насіць ваду. У дождж радыяцыі на твой пясочак падкіне, будзь здаровы. Тут наогул нельга жыць. Нельга...

Ён па-сяброўску, як спачувальна, дакрануўся рукой да майго калена.

— Ну, я пабег. Трымайся, калі што...

Старшы лейтэнант садзіцца ў армейскі грузавік, кузаў якога зацягнуты брызентам. А мне раптам здаецца, што ўсё цела пакрываецца нечым ліпкім і слізкім. Брагінцы называюць гэты стан «радыяцыйнымі ваннамі».

Вечарам, пасля размовы з лейтэнантам, прайшоў добры дождж. Нешта не пісалася. Выйшаў пагуляць па вуліцы. Непадалёк ад рэдакцыі пачуў танюсенькі піск, які даносіўся са страхі старой скасабочанай хаты. Маленькае шэрае кацяня, спалохана напружыніўшы спіну, застыла на самым краі даху і глядзела на зямлю. Колькі яно там, наверсе, лазіла, колькі нахапала тых міліабо максі-рэнтген — не ведаю. Але выглядала кацяня не дужа зайздросна: мокрае, толькі хвост ваяўніча тырчыць. Стаіць і баіцца саскочыць уніз. І сапраўды — высока...

Калі я ўбачыў старшыню Чамярыскага сельсавета Уладзіміра Фаміча Ефіменку, спачатку нават не паверыў сваім вачам, — перада мной, нібы жывы, стаяў герой маёй аповесці «Чайкі над полем» Цыкуля, якую я пісаў таксама на Палессі. Здавалася, зараз ён працягне мне руку і пінжак на ягоных плячах разлезецца па швах.

Голас ва Уладзіміра Фаміча аказаўся густым, але мяккім. Таму, мабыць, калі ён вярнуўся ўспамінамі ў красавік 86-га, мне здалося, што гэты дужы на выгляд мужчына спявае доўгую і маркотную песню.

— Што і казаць, людзі ў нас на Палессі добрыя, чулыя. Каб хто з нашых калгаснікаў адмовіўся ўзяць пад дах чалавека, дык ані-ні. А надвор'е ў тыя дні, як на радасць, стаяла цудоўнае. Толькі яблочкі — цяпер успамінаю — усё ад Чарнобыля і да нас. Кажуць, каб не

ўзяла радыяцыя, піце гарэлку з ёдам. Я наліў у шклянку таго ёду, колькі там ужо і не помню. Глынуў. Як задзёрла ўнутры, аж дыхаць стала няможна. Хай яно гэдзь, такое пітво: і так ад паветра ў горле нібы шкрабком водзяць. Больш я таго ёду не наліваў. Ды і ніхто не разумеў, што наліваць, а што выплёўваць.

Ну, ды ўсё — бяда не бяда, а рабіць і есці трэба. Далі ў раёне надбаўку да зарплаты і яшчэ трыццаць рублёў, як у нас гавораць, «на труну». А нам у вёсцы Чамярысы, на галоўнай сядзібе калгаса, ніякай даплаты не прызначылі. А тое, што мы амаль кожны дзень мотляемся па забруджаных вёсках, ды і жывём у гэтакіх жа самых — каму баліць галава? Такі, значыцца, клопат пра чалавека.

Канешне, здароўе за тыя грошы не купіш, але, калі калгаснік не можа карміцца спакойна са сваёй зямлі, капейка не пашкодзіць. Не вераць людзі — і правільна робяць, — што мы жывём на чыстай зямлі. Вясной і ўвосень аруць трактары, лятаюць туды-сюды машыны, нясе вецер пясок... Якая ж яна чыстая — вёска пасярод забруджанага радыяцыяй наваколля?..

Алена Шыпіла — дэпутат сельскага Савета, даярка калгаса імя Фрунзе. Невысокая, чорнавалосая і вельмі рухавая. Адразу бачна — працаўніца і гаспадыня. Жыве яна з мужам і трыма дзецьмі ў прасторнай хаце. Праз двор — такая ж дагледжаная хата свякрухі. Вёска Асаравічы (таксама — звярніце на гэта ўвагу — цэнтральная сядзіба калгаса) знаходзіцца ў чыстай зоне, але ў гэтую божую міласэрнасць калгаснікі не вераць, бо побач, як вечны напамінак пра небяспеку, — адселеныя вёскі.

— У тым, што мы на паперы лічымся чыстай зонай, мабыць, і наш старшыня сельсавета вінаваты. Былі ж спачатку правільныя замеры: паказвалі яны на павышаную радыяцыю. Дык схавалі дзесьці тыя лічбы. А наш старшыня сельсавета яшчэ і раскукарэкаўся: «Не панікуйце...» Што нам застаецца рабіць? Маўчым.

Толькі вось статак мой гоняць пасвіцца ў адселеную вёску Ляды, адкуль даўно вывезлі жыхароў. У нашым калгасе выганы паганыя. Гоняць нашых кароў у спякоту, а там нават вады няма. Дык возяць туды машынай. Ядуць каровы чарнобыльскую траву. А малако, што

здаю на ферме, чамусьці чыстым аказваецца. Мабыць, сумленныя нашы кароўкі: па дарозе дадому тую радыяцыю выплёўваюць...

Я не стаў пераконваць Алену ў невіноўнасці старшыні сельсавета. Нават калі той закрыў бы сваім целам амбразуру адміністрацыйнага дзота, гэта нічога не змяніла б. Бадзёрыя «славесныя чэргі» не супыніць нават цаной сваёй службовай кар'еры мясцовага значэння, бо лёс соцень Асарэвічаў, на жаль, вырашаўся не на Палессі...

Канец верасня. Стаім з сакратаром партыйнай арганізацыі калгаса «Першамайск» Алегам Паўлавічам Канопліным непадалёк ад сельскага клуба. Чакаем, пакуль збяруцца на свой справаздачна-выбарны сход камсамольцы, і няспешна размаўляем пра настрой калгаснікаў, пра тое, што было і што яшчэ будзе.

— У нас у Малажыне па дакументах — чыстая зона. А ўчора забілі цяля, павезлі здаваць — у два разы радыяцыя вышэй за норму. Нядаўна паслалі нашых дзяцей на абследаванне ў Мінск, дык з дваццаці хлопчыкаў і дзяўчынак адзінаццаць паклалі ў бальніцу. Ва ўсіх павялічылася шчытападобная залоза. І вясной дзяцей нашых там і пакінулі. Вось якая на практыцы «чыстая зона»...

Межы вёскі Малажын і пасёлка Ленінскі, які таксама ўваходзіць у калгас «Першамайск», — у якіх трохстах метрах адна ад адной. Калі тры гады запар афіцыйныя даныя прыводзіліся толькі па цэзію, асаблівых хваляванняў у жыхароў Ленінскага не ўзнікала — не горш і не лепш, чым у іншых мясцінах. Але вось пачалася кампанія па падрыхтоўцы Дзяржаўнай праграмы, і адкуль ні вазьміся вылез з «чарнобыльскага сейфа» на свет божы стронцый, а ўжо за ім плутоній — элемент, часцінка якога можа забіць чалавека.

Па стронцыю, як гавораць заўзятыя карцёжнікі, у пасёлку яўны перабор: амаль як у два разы вышэй за «нармальны» паказчык.

Малажынцы горка жартуюць: «Мабыць, цэзій са стронцыем пасварыліся і цяпер ужо разам не жывуць, а паасобку: аднаму ў нас спадабалася, другому — у пасёлку...»

Жарт той — праз слёзы, ад безвыходнасці і бяды,

твар якой так доўга прыхарошвалі і цяпер яшчэ не спяшаюцца змыць з яго касметыку...

*«У канчатковым ліку мучыць больш за ўсё: тыя рассечаныя радыяцыяй ніці храмасомаў, забітыя і скалечаныя гены, яны ўжо ўвайшлі ў будучае. Увайшлі, увайшлі...»* (Рыгор Мядзведзеў, «Чарнобыльскі сшытак».)

Пасля таго як я ўдосталь паездзіў па Брагіншчыне, пажыў сярод палешукоў, паеў іхняга горкага хлеба, пагаманіў пра жыццё, у мяне, нарэшце, з'явілася ўяўленне пра механізм стварэння «чыстых» і «забруджаных» зон. Я, канешне, не апанент навуковым свяцілам, таму буду аперыраваць толькі фактамі. Тады растлумачце мне, невуку, як можна зразумець, што па адзін бок дарогі жывуць і працуюць людзі, а па другі — якіх сорак—пяцьдзесят метраў — жыхары даўно выселены? У адной вёсцы атрымліваюць двайны заробак, у другой — не?

Такая сістэма паслячарнобыльскага гаспадарання складвалася незаўважна і спакваля. Калі мінуў першы шок і стала зразумела, што маштабы аварыі на Гомельшчыне катастрафічныя, паўстала пытанне не аб адсяленні асобных вёсак, а па сутнасці цэлых раёнаў. Ды яшчэ з такой традыцыйна моцнай сельскай гаспадаркай. А гэта, акрамя розных вялікіх выдаткаў, азначала яшчэ і тое, што трэба было прызнаць сапраўдныя памеры трагедыі, пакараць кожнага за сваю недальнабачнасць і марудлівасць у прыняцці экстранных мер, якіх патрабавала крытычная абстаноўка. Але адзін раз змаўчалі, другі — схлусілі, і вось ужо дзесьці ў высокіх міністэрскіх кабінетах, пэўна, ад самога д'ябла нарадзілася цэлая навуковая канцэпцыя, хоць ні адзін нармальны чалавек не можа зразумець цану адлегласці паміж жыццём і смерцю ў некалькі метраў. Вядома, не раптоўнай смерцю (тады на Палессі ўжо даўно не было б каго хаваць), а маруднай, тэрмін якой навука яшчэ дакладна не ўстанавіла.

Стратэгічная лінія падману ў асноўным была знойдзена. Заставалася, мабыць, адзінае пытанне: як супакоіць жыхароў пацярпелых раёнаў? І выйсце з гэтага становішча адшукалі простае — не плаціць двайную зарплату ў вёсках, дзе знаходзяцца цэнтры саўгасаў і калгасаў. Раз няма «радыяцыйных даплат» — значыцца і прадукцыя, якую пастаўляюць гэтыя гаспадаркі, чыстая: можна яе пячы і смажыць.

Надзея на пакорлівасць людзей, на іхнюю векавечную любоў да роднай зямлі апраўдалася. Механізатары ў радыяцыйным пыле (трактары са спецыяльнымі кабінамі ёсць толькі на паперы) аруць ворыва, даяркі дояць малако, якое па колеру і па паху не адрозніваецца ад звычайнага. А для таго, каб падтрымаць маральна жыхароў пацярпелых раёнаў, з'яўляецца на свет божы такі бадзёры рапарт: «Малочная ферма ў вёсцы Вязок выйшла пераможцам перадкастрычніцкага сацыялістычнага спаборніцтва».

Тут няма ніякай памылкі. Толькі неабходна зрабіць маленькае ўдакладненне: у той вёсцы яшчэ і адзін з самых высокіх паказчыкаў радыяцыйнай забруджанасці ў раёне — сорак тры кюры на квадратны кіламетр.

Мне падумалася: чорт яго ведае — мо напярэдадні зацвярджэння Дзяржаўнай праграмы па ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС нехта ад радасці вырашыў напаследак стрэліць у паветра «пераможным залпам», таму ўзяў падшыўку сваёй раёнкі — а як пісалі раней? Амаль адразу натыкнуўся на афіцыйную эйфарыю, і мяне ахапіла пачуццё нерэальнасці суадносін паміж чалавечай стараннасцю і вынікамі працы.

Старшыня планавай камісіі Ганна Савянок з трыбуны сесіі раённага Савета народных дэпутатаў сказала: «Ход выканання планавых заданняў 1988 года і трох гадоў пяцігодкі дазваляе зрабіць вывад пра тое, што ўсе галіны народнай гаспадаркі Брагіншчыны развіваюцца дынамічна...»

Цяжка спрачацца з фактамі. Ды яшчэ з такімі, ад якіх халадзее ў грудзях. Мабыць, і сапраўды, нідзе больш народная гаспадарка, якая пастаўляе радыеактыўныя збожжа, мяса, гародніну і якая корміць імі жыхароў і жывёлу, не развіваецца так дынамічна і ўпэўнена...

І самае страшнае, што людзі не прыпісваюць сабе незаслужаных або фіктыўных дасягненняў: проста яны не развучыліся працаваць — робяць гэтак жа старанна, як і да аварыі. Іх незаўважна зацягвае нябачная дрыгва абыякавасці да свайго лёсу, а за работай чалавек лягчэй забывае пра сваю трывогу і небяспеку. Гэта адчуванне знаёма і мне...

Усё пачынаецца незаўважна і будзённа. Спачатку ты прыносіш з сабой у сталоўку чыстую хустачку, каб пра-

церці дрэнна памытыя — хоць і сам добра разумееш, што гэта не паратунак ад радыяцыі — лыжкі і відэльцы, як той страус, хаваеш галаву ад струменьчыкаў, што падаюць у дождж з дахаў, стараешся не хадзіць па абочыне, праз гадзіну-другую старанна мыеш рукі.

Так працягваецца дзень, тыдзень, месяц... Пастунова ты адчуваеш, што не можаш засцерагчыся ад небяспекі, якая нібы цікуе за табой на кожным кроку, на кожным уздыху. І раптам нейкая спружына лопне ўнутры. Табе робіцца ўсё роўна, якія лыжкі на тваім стале, ці капае радыеактыўны дождж за каўнер; уранні не хочацца думаць пра вечар і, наадварот, вечарам пра ранне. Ты і сам не заўважыў, як захварэў.

Цябе санліва абвалоквае дзіўнае заспакаенне, млявая, але прыемная апатыя. Ты яшчэ часам можаш схамянуцца, калі, уключыўшы тэлевізар, пачуеш, што нехта недзе (Народны фронт ці ўрадавая камісія) яшчэ змагаецца за лёс палешукоў. Але гэты эмацыянальны ўсплёск толькі на імгненне. Ён асляпляе, як бляск навальніцы. Тады ты ўспамінаеш, што ў цябе ў сталіцы ёсць кватэра, усведамляеш, што заўтра і паслязаўтра не трэба ісці на работу, і, бы ачмурэлы, кідаешся на аўтобусную станцыю, каб праз пару дзён вярнуцца ў горкае ўлонне да людзей, жыццё якіх абмежавана «зонай асаблівай увагі». Ты ўжо і забыў, што некалі баяўся радыяцыі. Ты — хворы чалавек, хоць сябры і блізкія гэтага, здаецца, і не заўважылі...

Людзі добрыя, ці трымалі вы ў руках пашпарт, які сведчыць, што вы жывяце пад радыеактыўным дахам і на забруджаным нуклідамі падвор'і? Думаю, такіх пашпартоў-паперак, акрамя жыхароў пацярпелых раёнаў, ніхто не бачыў.

Расчэрчаны графы: прозвішча, імя і імя па бацьку гаспадара, роспіс дазіметрыста, які рабіў замеры, потым акуратным слупком ідуць адзнакі: агарод — столькі рэнтген, дах — столькі, радыеактыўнасць пад сцёкам са страхі, скажам, 0,5 мілірэнтген. Гэта ўжо сігнал павышанай небяспекі.

Ля самага ганка пад тым сцёкам стаіць пустое вядро. Пытаюся ў невысокага, з круглым, бы поўны месяц, тварам і вечна ўсмешлівага карэспандэнта мясцовага радыё Сяргея Скамароха, навошта стаіць вядро?

— Што ты ў мяне пытаеш? Бацька мой дажджавую ваду збірае. Прывык так рабіць да аварыі і цяпер не адвучыш.

— Дык то ж радыяцыя.

— Ён свінням ваду дае. Кажа, што хутчэй тлусцеюць...

Скамарох смяецца, але я ведаю, што ён не жартуе. Палешукі прывыклі да радыяцыі, як да сваіх старых ватовак, якія носяць, пакуль тыя не разлезуцца...

Над пасёлкам заклапочана і не надта высока стракоча ў небе верталёт. Малыя з вуліцы, дзе я жыву, задзіраючы ўгару галовы, весела крычаць:

— Мярыльнік зноў прыляцеў, мярыльнікі...

— Што, братва, за мярыльнік? — пытаю я.

— Дык ён жа лётае над вуліцамі і замярае, колькі нам яшчэ тут жыць засталося, — як неразумнаму, сур'ёзна тлумачыць мне адзін з хлапчукоў.

Малых палеская зямля не прыцягвае магнітам, як старых...

Ганна Бабрынёва — дырэктар нядаўна пабудаванай Хракавіцкай сярэдняй школы. Будынак радуе вока: школа вялікая, з шырокімі вокнамі, у двары — сапраўдны спартыўны гарадок з футбольным полем.

— Каб рукі паадсыхалі ў тых будаўнікоў, — абураецца Ганна Мікалаеўна. — Фарбавалі сцены амаль без клею, дык дзеці перапэцкаюцца, як тыя вераб'і ў пыле. А каторы і наўмысна аддрукуе пяцярню на пінжаку або сукенцы аднакласнікаў. Малыя яны і ёсць малыя.

Пра спартыўную залу язык наогул не паварочваецца гаварыць. Дошкі ў падлозе расклеіліся, а дзе-нідзе і ўзняліся на дыбкі. Свяцільнікі, ды і вокны, не закрылі шчытамі. Што першае зваліцца на галаву — гадай. А пыл ужо стаяў, як на таку ў час малацьбы збожжа.

Тэлефон не правялі — здарыцца няшчасны выпадак, нават «хуткую дапамогу» не вызавем. Прывезлі цэглу для школьнага ціра. Не паспелі пачаць будаўніцтва, як зваліўся на маю галаву загадчык раённага аддзела народнай асветы: «Калгас не заплаціў за цэглу, таму і забіраем яе ў Дублінскую школу...»

Я ж настаўніца — павінна людзям верыць. Адным словам, звезлі тую цэглу, а я ў праўленне падалася: «Як так атрымалася?» — пытаю.

«Ашукалі цябе, — адказваюць мне і паказваюць квітанцыю, даўно заплачана за тую цэглу. — Даверлівая!»

Так і «ахрысцілі» мяне на пасадзе дырэктара новай школы. Але я на людзей за падман не крыўдую. Каб хапала ўдосталь будаўнічых матэрыялаў для нас, пацярпелых, дык ці б здарылася такое?

Пыл — гора для палешукоў. За тры гады адсталасць не ліквідуеш. Асфальтавыя дарогі ў калгасе «Рассвет». Ад галоўнай вуліцы — налева і направа разыходзіцца шэрая роўная стужка. Праедзеш па ёй дзесяць—пятнаццаць метраў, і зноў пясок, калдобіны, пыл. Хто і каго ашуквае такімі «пацёмкінскімі вёскамі»? Ва ўсякім разе, не палешукі самі сябе...

Калгасны пастух Сідар Мацвеевіч Сідарэнка. Жылісты, яшчэ дужы мужчына, хоць ужо і час на пенсію. Сядзім з ім на лавачцы. Больш гаворыць Сідар Мацвеевіч. Я слухаю.

— Вось тут, — ён паказвае рукой у бок калодзежа. — На самым канцы чэрвеня сорак першага праляцеў нямецкі самалёт. Скінуў толькі адну бомбу, а ў хаце, што за нашай спіною, усю сям'ю пабіла і яшчэ трох чалавек параніла. І мяне таксама. А вось узарвалася амаль побач бомба, а мы і не бачылі. — Ён панурыў плечы. — Нават асколкаў няма, а колькі людзей зложыць рукі. Мусіць, на нас ужо рукой махнулі. Таму, мабыць, і мыла няма, каб па-хрысціянску памыцца ў лазні. Папарыцца па-чалавечы. А мо мы ўжо і не чалавекі? — ён узнімае на мяне васількоага колеру вочы. — Вунь колькі замежных вучоных да нас прыязджаюць у раён. Дзівяцца. Ды і мы з саміх сябе дзівімся: жывём, працуем патроху, як нічога і не здарылася...

Адбылася сустрэча кіраўніцтва раёна, ініцыятыўнай групы і грамадскасці. Першы сакратар райкома партыі Аляксандр Міхайлавіч Пракопаў быў шчырым. Ды і куды дзенешся ад страшных лічбаў? Толькі наіўныя

працячкі або тыя, каму гэтая далёка не святая наіўнасць — прыступак на службовай лесвіцы, могуць паверыць, што ў гарадскім пасёлку можна спакойна жыць, хоць і з некаторымі абмежаваннямі.

Гаварылася на сустрэчы і пра пераарыентацыю жывёлагадоўлі. «Куды арыентаваць тую жывёлу? — недаўменна пацiскалі плячамі людзі. — На той свет? А з зярном што рабіць?»

Што і казаць, прамаргалі, прагаварылі беларусаў. Жлобінская каўбаса, рэчыцкая мінералка, брагінскі напітак з дзіўнай і незразумелай назвай «Ісіндзі», тыя ж брагінскія сасіскі ў цэлафане — вось якую прадукцыю атрымліваюць жыхары пацярпелых раёнаў. Мо яна і без вялікай колькасці нуклідаў, але людзей палохае толькі адна назва населеных пунктаў, дзе вырабляюць гэтыя прадукты і напіткі. І іх можна зразумець...

Цяпер, калі маленькая стрэлка «чарнобыльскага гадзінніка» падыходзіць ужо да чацвёртага дзялення, навуковыя работнікі сталі «радаваць» нас новымі адкрыццямі, якія прыходзяць у выглядзе строгіх інструкцый. Адна з іх ляжыць на маім рабочым стале. Яна ўказвае на неабходнасць рэгулярна выбіраць з-пад сцёкаў забруджаную зямлю, выкапваць не бліжэй чым за дзесяць метраў ад калодзежа і як мага далей ад хаты яму глыбінёй не менш як метр. Потым дно гэтай ямы трэба засыпаць дзесяцісантыметровым пластом гліны і ўжо затым закідваць у яе забруджаную зямлю. Адным словам, нукліды кідаць на нукліды...

Я не гавару пра астатнія пункты, якіх у гэтай інструкцыі аж восем. Для каго, хочацца спытаць, яна складзена? Для войск хімабароны ці для нямоглых старых?

Не ведаю, калі ў мяне з'явілася неадчэпнае жаданне пабываць у «зоне адчужэння», якая паступова распаўзалася ўсё далей ад Чарнобыля і цяпер праходзіць блізка ад нашага гарадского пасёлка, а дзе-нідзе (напрыклад, каля былога адміністрацыйнага цэнтра саўгаса «Брагінскі» Сонечнага і вёскі Піркі) амаль ушчыльную прыціскаецца да шашы, па якой удзень і ўначы праносяцца машыны і аўтобусы. Прычым на многіх участках

з аднаго боку дарогі — калючы дрот, а з другога — выселеныя вёскі, куды можна заходзіць і заязджаць.

Думаю, усё ж такі жаданне наведаць мёртвы куток Палесся дыктавалася ўнутранай патрэбай зразумець і на свае вочы ўбачыць, якая ж яна, зямля, дзе нават наша медыцына забараніла жыць чалавеку? Выпадак такі надарыўся ў час другой паездкі ў калгас «Чырвоная Украіна», які бліжэй за ўсе гаспадаркі да атамнай станцыі.

Выехаўшы з галоўнай сядзібы калгаса вёскі Гдзень на новую шашу, мы звярнулі не ў бок Камарына, а на Чарнобыль. Справа, амаль адразу, міма акенца «уазіка» паплылі слупы з нацягнутым паміж імі калючым дротам.

Пераехалі па мастку Брагінку, якую непадалёк ад яго перакрылі дамбай, каб у час веснавой паводкі вада не правалася на Кіеўскае вадасховішча. Лес, што стаяў побач з шашой, насцярожваў сваім нейкім панурым, як хваравітым, выглядам.

— А ён і сапраўды хворы, — растлумачылі мне спадарожнікі, якія добра ведалі гэтыя мясціны і пагадзіліся дапамагчы ў паездцы. — Дзіва што, некалькі вёсен стаіць па калена ў радыеактыўнай вадзе, тут любога скасабочыць...

У салоне машыны нечакана зноў усплыло прозвішча акадэміка Ізраэля, які пасля чарнобыльскай аварыі добра стараўся, каб схаваць ад людзей праўду. На пачатку 89-га ён праязджаў па гэтай самай шашы ў бок Чарнобыля. Дарога на атамную станцыю праходзіла паблізу ад Гдзені.

Убачыўшы абрысы вёскі, Ізраэль заўважыў, што яе ўжо можна засяляць. Пэўна, машына яго-ная імчала занадта хутка, бо вучоны не прыкмеціў людзей, якія там жылі і працавалі амаль тры гады.

Можа, і перабольшвалі мае спадарожнікі, але такую сітуацыю няцяжка ўявіць, бо ў лёсе Гдзені нібы сышліся тыя, часам недарэчныя і нелагічныя, рашэнні, што прымаліся адразу пасля чарнобыльскага пажару. У маі 86-га яе жыхароў пераважна выселілі ў вёску Шкураты, дзе таксама хапала радыяцыі. Амаль паўгода па Гдзені не прымалі ніякіх рашэнняў, пакуль людзі не вярнуліся самі — дазвол на засяленне прыйшоў ужо наўздагон.

«Пяць дзён, — расказваў мне галоўны інжынер калгаса «Чырвоная Украіна» Пётр Самойленка, — не пры-

возілі да нас хлеба, але потым патроху ўсё наладзілася».

Яшчэ больш дакладна помніцца дзень адраджэння вёскі маладому трактарысту Віктару Мацапуру, дэпутату раённага Савета, які васемнаццатага верасня атрымаў першы нарад на работу, а праз два гады за самаадданую працу на радыяцыйнай зямлі Віктара ўзнагародзілі ордэнам.

Так што гдзеньцам не спатрэбіўся дазвол акадэміка з Масквы. Хаця, канешне, з дазволам ці без яго, яны ўсё роўна рызыкуюць сваім будучым. Я толькі хацеў паказаць, як высока наша навука і вучоныя ўзнесліся над чарнобыльскай зямлёй.

Не буду апісваць падрабязнасці паездкі, якая са шматлікімі прыгодамі заняла амаль восем гадзін, хоць па «зоне адчужэння» мы праехалі ўсяго якіх пяцьдзесят кіламетраў.

Скажу толькі, што, калі салдаты на кантрольна-прапускным пункце — ужо на Украіне — ветліва, але настойліва завярнулі нашу машыну назад, шафёр проста з чарнобыльскай шашы, па якой мы праязджалі ўжо, з'ехаў на прасёлак і мы трапілі ў адселеныя, задратаваныя вёскі.

Дрот з'яўляўся то справа, то злева ад калдобіністай белай дарогі, бо зона двойчы пашыралася, і мы нібы трапілі на атракцыён «Лабірынт», які некалі карыстаўся папулярнасцю ў мінскіх парках культуры і адпачынку.

Вось запісы з гэтай «экспедыцыі».

Дарога ўвесь час пятляе пасярод лесу, і спачатку нічога не выклікае трывогі, хутчэй, наадварот, агортвае пачуццё замілавання перад хараством гэтага ціхага палескага куточка. Паміж дрэў ляжыць чысты, некрануты снег, і здаецца, што ты трапіў у запаведныя мясціны. І раптам бачыш маладыя сосны з доўгімі, не зялёнымі, а карычневымі, іголкамі і пасохлымі вершалінамі. Праходзіць хвіліна-другая — і зноў за вокнамі машыны праплывае зялёны лес. Не паспееў узрадавацца малюнку, як зноў уздрыгваеш ад нечаканасці — на пагорку расцвілі жоўтыя елачкі. Неверагоднае відовішча — вялікія яркія кветкі на белым снезе. Неўзабаве разумееш: тут, у гэтым лесе, свой ляснік — Радыяцыя...

Праязджаем вёску Чыкалавічы. На дарогу недаўменна пазіраюць без зрэнак-шыбін пустыя вочы дамоў. Тамсям хлявы ўжо абваліліся, як і агароджы вакол вуліцы. Толькі дамы яшчэ трымаюцца. У адным з іх вокны акуратна зацягнуты плёнкай — гаспадары, мабыць, верылі, што ад'язджаюць ненадоўга, у другіх яны павыбіты — людзі не спадзяваліся вярнуцца пад свой родны дах, а злаўмыснікі, што «абследавалі» чужыя хаты, не далікатнічалі.

Цішыня і запусценне.

— Гэта яшчэ адзін чарнобыльскі рэактар, толькі маленькі, — тлумачыць мне. — Уяўляеш, калі летам у саму засуху ў гэтай бязлюднай зоне ўспыхне пажар. Такую радыяцыю занясе з дымам — думаць не хочацца...

Я ўяўляю, бо ўжо бачыў, як гараць тарфянікі.

Праехалі яшчэ колькі кіламетраў і апынуліся ў вёсцы Калыбань. Адразу ў вочы кінуліся вялікія сляды на заснежанай вуліцы. Яны роўным ланцужком — не адхіляючыся ні ўправа, ні ўлева — няспешна беглі пад колы. Спыніўшыся, выйшлі з машыны. Не так даўно, вызначылі мае больш вопытныя спадарожнікі, па гэтай вуліцы, як сапраўдныя гаспадары, прайшлі ваўкі.

— Хм-м, куды яны збочылі? — пацікавіўся шафёр.

Па воўчых слядах праехалі амаль праз усю вёску. І толькі каля цаглянага двухпавярховага будынка, у якім на здзіўленне засталіся цэлымі ўсе вокны, ваўкі павярнулі налева ад дарогі.

— Мабыць, пайшлі вучыцца, — іранічна ўсміхнуўся шафёр.

Я не зразумеў, што ён меў на ўвазе.

— Гэта ж некалі школа тут была, — ён кіўнуў галавой у бок будынка. — А цяпер, бачыш, новыя «вучні»...

Мы зноў, не згаворваючыся, выйшлі з машыны. Я доўга глядзеў на маўклівы будынак школы, які ніколі ўжо больш не пачуе дзіцячых галасоў. Потым, нахіліўшыся, чамусьці яшчэ раз зірнуў на сляды.

— Не губляй дарэмна часу: гэта не сляды супрацоўнікаў запаведніка, — засмяяліся мае спадарожнікі, якім я расказаў у дарозе пра тое, як збіраўся некалі сюды прыехаць, каб пагаварыць з прадстаўнікамі нябачнай, нібы тыя атамы, радыяцыйнай медыцыны.

На ўскрайку вёскі адзінока і панура мерзне на снезе руская печ. За ёй — абрысы далёкага лесу, а з двух бакоў на роўным полі палын, палын. Маркотная і самотная, як у фільмах пра вайну, карціна: белая прастора і чорна-карычневы комін.

Хату, якой у доўгія марозныя ночы аддавала цяпло гэтая печ, акуратна разабралі. Дзе цяпер тыя радыеактыўныя бярвенні, нямыя сведкі чарнобыльскай трагедыі, чый дах трымаюць яны на сваіх старых, але, мабыць, яшчэ моцных плячах — адзін бог ведае. Ды і пра тое, што будзе тут праз год, праз дзесяцігоддзі — таксама.

Нешта здарылася з маторам. Шафёр, бязгучна лаючыся ў свае маленькія чорныя вусікі, то корпаецца ў ім, то зноў і зноў спрабуе завесці.

Каб не застацца начаваць у атручаным лесе, вырашылі грамадой вяртацца праз бліжэйшы населены (а дакладней, адселены) пункт Піркі. Там каля паласатага шлагбаума нас і сустрэла міліцыя: маладыя хлопцы, якія па тры месяцы дзяжураць на «пагранічных заставах».

Спачатку яны прачыталі нам кароткую лекцыю пра бяспеку, вельмі здзівіліся, як мы трапілі па той бок калючага дроту, а пасля, як належыць, склалі пратакол.

Да міліцыі ў нас ніякіх прэтэнзій — служба ёсць служба. Праўда, каб не тая канфузія з рухавіком, — яны нас не ўбачылі б як уласных вушэй. А наконт клопату пра здароўе, дык у тых жа Пірках, за нейкую сотню метраў ад КПП, і цяпер дажываюць свой век тры бабулі, адна нядаўна памерла.

А па другі бок шашы, на закансерваваным жывёлагадоўчым комплексе саўгаса «Брагінскі», іх сусед саўгас «Краснае» трымае сваіх кароў...

Усё ж такі міліцыянеры мелі рацыю, калі папярэджвалі пра небяспеку. Пасля таго як мы вярнуліся з «зоны адчужэння», увесь наступны дзень адчуваў у роце незвычайна моцны свінцовы прысмак. Нават падсмажанае мяса ў рэстаране здалося мне надта кіслым. Потым некалькі дзён пярчыла ў горле, шчыпала язык і, нарэшце, адпусціла.

Мо і не трэба было ехаць да той глыбока атручанай зямлі, але затое я цяпер яскрава ўяўляю, як там, паміж намі і Чарнобылем, жудасна, і магу расказаць пра свае адчуванні людзям, для якіх катастрофа на Палессі выглядае хоць і вельмі трывожнай, але ўсё ж такі нейкай абстрактнай з'явай. Можаце паверыць на слова: сёння мне брагінскае паветра здаецца самым чыстым, якім я калі-небудзь дыхаў. А, між іншым, непадалёк ад райвыканкома датчыкі паказалі 0,7 мілірэнтген у гадзіну...

Валявыя і не заўсёды кампетэнтныя рашэнні, якія прымаліся на працягу амаль чатырох гадоў, што мінулі пасля аварыі на атамнай станцыі, стварылі такі заблытаны «чарнобыльскі лабірынт», з якога цяжка знайсці кампраміснае выйсце. Галоўнае, што перашкаджае карэнным чынам змяніць сітуацыю, — адсутнасць кардынальных, нават хірургічных мер, неабходнасць якіх дыктуе рэальнасць. Варта з усёй адказнасцю прызнаць той відавочны факт, што незалежна ад пастаноў і нашых жаданняў пацярпелыя раёны Беларусі ўжо страчаны (на які час — гэта ўжо іншая размова: вучоныя сцвярджаюць, што радыеактыўныя элементы апускаюцца ў глебе штогод на адзін сантыметр).

Сёння непакоіць іншая рэальная пагроза: пакуль у высокіх інстанцыях пралічваюцца варыянты адсялення людзей, перад цярплівасцю і працавітасцю якіх трэба, як перад іконай, стаць на калені, радыяцыя тым часам няспынна робіць сваю чорную справу. Прамарудзіце — і страцім не толькі населеныя пункты, але і жыхароў.

Можа, калі-небудзь нашы вучоныя і знойдуць лякарства, як уратаваць ад радыяцыі зямлю, а пакуль што, пэўна, прыйдзецца прыбегчы да старога, як сам свет, рэцэпта: даць ёй адпачыць і самой пазмагацца са сваёй хваробай.

Як чалавеку, у якога пастаянна баліць галава, немагчыма дапамагчы, пазбавіўшы яго апендыкса, так і нельга араць хворую зямлю, якая курчыцца ад болю, — гэта можа засведчыць любы калгасны механізатар.

Можна не сумнявацца, што крытычную сітуацыю, з якой не выйсці без вялікіх маральных страт і новых грашовых выдаткаў, разумеюць тыя, ад каго сёння залежыць будучае людзей і Палесся. Але ў глыбіні душы, пэўна, як і кожны з нас, яны спадзяюцца яшчэ на нейкі

цуд, супакойваючы сваё сумленне тым, што не стаялі ля вытокаў чарнобыльскай трагедыі: яны толькі выканаўцы, а не стваральнікі стратэгіі замоўчвання сапраўдных памераў няшчасця, якое абрынулася з атамнага рэактара і высокага красавіцкага неба на беларусаў. Перастраховачныя матывы, нерашучасць у барацьбе за чарнобыльскую праўду нарадзілі на свет іезуіцкую формулу: спакой за кошт здароўя і будучага людзей.

Мо некалі і планавалася стварыць зоны жорсткага кантролю і асаблівай увагі, але і цяпер ні той, ні другой на практыцы не існуе. Імчацца па дарогах машыны з грузамі і пасажырамі, цягнецца за трактарамі радыеактыўны шлейф — едзь і ляці, куды тваёй чорнай душы хочацца: хоць да самага Мінска — ніхто не спыніць...

Ці не пара ўсё ж такі ўспомніць папярэджанне нашага беларускага прэзідэнта Акадэміі навук Платонава: *«Ніхто дакладна не ведае, як складваецца норма апраменьвання. Канчатковы вынік няясны. Лепш перабольшваць маштабы, чым чакаць, як усё закончыцца».*

Тое, пра што я пішу, не прыдумаеш, гэта — трывожная ява Палесся. А грошы, як гаварыў Алесь Адамовіч, па-ранейшаму ўкладваюцца ў безнадзейную справу. Толькі адна Брагіншчына за час, які мінуў пасля аварыі, «усмактала» ў атручаную зямлю амаль трыста мільёнаў рублёў. Палепшылася хоць трохі радыяцыйная абстаноўка? Амаль не. Ды і немагчыма яе палепшыць грашовымі ін'екцыямі. Цяпер гэта відавочна для кожнага. Грошы не ў сілах вылечыць атручаную зямлю і гарантаваць здароўе людзям. Час, гавораць палешукі, цяпер працуе супраць чалавека. З гэтым сцвярджэннем таксама нельга не пагадзіцца. Аднак упартыя і трывожныя факты прымушаюць сумнявацца ў тым, што становішча, нават з прыняццем Дзяржаўнай праграмы, карэнным чынам зменіцца.

Я прывяду толькі адзін прыклад. Не буду закранаць лёс Брагіна, бо тут перспектывы туманныя, як тая марозная дымка ў пахмурную раніцу. Але вось вёска Мікулічы па праграме падпадае пад першачарговае высяленне. Вы думаеце, там людзі збіраюць чамаданы? Не, там разгортваецца будаўніцтва.

Перада мной афіцыйны дакумент развіцця Мікуліч на 1990 год. Вось што там чорным па белым запісана:

узвядзенне будынка сельсавета — 160 тысяч рублёў, пральні — 126, зернесушылкі — 150 тысяч. Дык што рабіць людзям: будавацца ці верыць вярхоўнаму органу ўлады? Гэтага ніхто не ведае. А пакуль што жыхары Мікуліч задаюць сабе пытанне: «А ці не лепш і разумней укласці гэтыя сродкі для стварэння спецыяльных мабільных пажарных каманд, якія кантралявалі б адселеную тэрыторыю? Або дабудаваць тыя ж дэзактывацыйныя пункты, бо хочам мы таго ці не, а само жыццё прымушае нас паставіць надзейны, а не з папер, шлагбаум на шляху радыяцыйнай небяспекі». І для гэтага зусім не трэба чакаць, калі Радыяцыя пачне шкрабаць сваімі вострымі кіпцюрамі ў вокны высокіх адміністрацыйных устаноў.

А пакуль мы быццам спыніліся на радыяцыйным раздарожжы. Палешукам працягвае ўжо руку дапамогі пскоўская зямля. У хойніцкі саўгас «Стрэлічы» прыехала з Расіі цэлая дэлегацыя, якая прапанавала пабудаваць саўгас зноўку на сваёй зямлі і забраць да сябе ўсіх жыхароў разам з праўленнем і бухгалтэрыяй.

Я ўжо гаварыў пра тое, як могна развіта ў людзей пачуццё локця, суседства, нарэшце, страху застацца без сяброў і блізкіх на чужой зямлі. Таму і не дзіўна, што рагэты гуманны акт у «Стрэлічах», які мае на сваім рахунку не адзін мільён прыбытку, сустрэлі з прыязнасцю і ўдзячнасцю...

А што мы? Няўжо нікога не хвалюе, дзе будуць жыць і працаваць беларусы, якія ўдосталь папакутавалі і на сваёй зямлі? (Яшчэ не загаіліся раны вайны, а ўжо ўпільнавала атамная навала). Пакуль што сур'ёзных прапаноў ад кіраўнікоў беларускіх гаспадарак у раён не паступала. І гэтая абыякавасць да лёсу беларусаў у маральным аспекце ў чымсьці роўня чарнобыльскай трагедыі...

23 лістапада. Гэты дзень мне запомніўся цэлым шэрагам супадзенняў. У Пірках сустрэў здымачную групу праграмы «Взгляд». Яна прыехала рабіць чарнобыльскі сюжэт і паспела ўжо зняць на плёнку трох бабуль, якія там жывуць. Пастаялі трохі са сталічнымі гасцямі, пад недаўменныя позіркі міліцыянераў з кантрольна-прапускнога пункта, абмяняліся інфармацыяй і раз'ехаліся кожны ў свой бок.

Вярнуліся ў Брагін і адразу на Кастрычніцкай плошчы каля будынка райвыканкома ўбачылі стракаты замежны аўтобус. Аказалася, што завіталі ў госці здымаць няшчасце беларусаў амерыканскія кінадакументалісты.

Нешк пагана стала на душы: вельмі ўжо спяшаюцца нас, яшчэ жывых, зняць для гісторыі...

Прайшло некалькі дзён. Мяне нечакана ўключылі ў камісію па праверцы Брагінскай райбальніцы. І вось перада мной ляжыць папера, якую нельга чытаць без болю: даныя медыцынскіх карт дыспансернага ўліку. У ім больш як сто прозвішчаў хлопчыкаў і дзяўчынак. Не буду цалкам прыводзіць гэты жалобны, як на магільнай пліце, спіс, але некалькі імёнаў маленькіх палешукоў назаву:

Алена Д. — 1985 года нараджэння, доза — 788 бэр.

Андрэй Г. — 1985 года нараджэння, доза — 788 бэр.

Сяргей С. — 1980 года нараджэння, доза — 405 бэр [1].

І такія жудасныя лічбы стаяць амаль насупраць кожнага прозвішча. Не сумняваюся: акадэмік Ільін ведае пра страшныя дозы, якія атрымалі дзеці пацярпелых раёнаў, але па-ранейшаму хлусіць бацькам і грамадскасці пра нейкія 35 бэр.

Ну вось, здаецца, і ўсё. Адвязу дзённік у рэдакцыю, а потым прыйду на магілу Жэнькі Кулакоўскага, пастаю, памаўчу трохі і зноў вярнуся на Палессе. Зямля ў нас зараз белая-белая, як свежая прасціна на васковым целе нябожчыка...

*Ліпень — лістапад 1989 года.*

---

[1] Разлік зроблены па шчытападобнай залозе.

Непадалёку ад двухпавярховага і плоскага, як штык, будынка раённай санстанцыі няўсмешлівыя, нібы ў чымсьці вінаватыя перад людзьмі, салдаты за нейкі дзень спрытна і ціха разабралі асірацелае селішча. Тыя, хто раней жыў у ім, памерлі, а хто мог вярнуць яму жыццё, ужо ніколі не прыедуць на радыеактыўнае падвор'е. Так і надышоў канец сядзібе: спачатку смерць прыбрала гаспадароў, затым — хату.

Зямлю, на якой яна стаяла, акуратна пасыпалі жоўтым пясочкам, зусім як свежую магілу. Вывезлі кудысьці радыеактыўныя бярвёны і падправілі новымі дошкамі плот. Быццам нецвярозы дантыст паставіў у стары рот зуб з напыленнем.

Такая вось гісторыя. Шкада хатку. Мне чамусьці здавалася, што яна, прысадзістая і яшчэ дужая, усё ж такі на нешта спадзявалася. Мо чакала новых гаспадароў, якія зноўку распаляць настылую печ. Хто ж ведае?

А ўчора ўдзень паўз гэтага, з жоўтай адмецінай, былога селішча прайшла без музыкі жалобная працэсія. Неслі на могілкі Міколу Іваненку. Сустракаўся я з ім мімаходзь: увішны на выгляд быў мужчына. Не стары яшчэ — трохі больш за пяцьдзесят. Ды і суседзі казалі — ніколі да гэтага не хварэў. І на табе: прыйшоў з работы і бразнуўся на падлогу. Жонка, бухгалтарка з аптэкі, вярнулася дахаты, а чалавек ейны ўжо і нежывы...

Яшчэ казалі, што Мікола вельмі любіў хадзіць на рынак: не купляць, а ўсё больш пакпіць, падзавесці вясковых жанок. Хлебам не кармі, а дай павыскаляцца, пацешыць душу. Вясёлы быў чалавек.

Рынак той сканаў раней за Міколу, і я зараз вам раскажу, як гэта здарылася...

Вецер маркотна і няспешна перакочвае па няроўным асфальце старое сапрэлае лісце. Субота. Раніца. Студзень. Цёпла і бяссснежна.

Раней на брагінскім рынку не было ні асфальту, ні ўпрыгожаных рознымі брылькамі гандлёвых сталоў. Затое людзей на ім збіралася багата. Самаробныя сталы і проста скрыні поўніліся садавінай і гароднінай, мясам і падсушанымі каўбасамі; у ёмістых мяшках пад устрывожаны акампанемент курэй спалохана і згаладала вішчэлі добрыя парсючкі.

Няўходжаны, нібы падкідыш, брагінскі рынак некалі быў візітнай карткай гарадскога пасёлка. Тут прадавалі і куплялі, абменьваліся навінамі, забаўляліся чуткамі і плёткамі жанкі і мужчыны — на ім пульсавала галасістае жыццё глыбінкі са сваім непаўторным вясковым каларытам і векавымі традыцыямі шчодрых на выдумку палешукоў.

Рынак сканаў не ў той чорны дзень, калі, ашалелыя ад разгубленасці і бездапаможнасці чарнобыльскіх апаратараў, нябачныя атамы вырваліся са сваёй цеснай студні на прастору. Гэта здарылася крыху пазней — людзі адсвяткавалі Першамай і, ідучы раніцай на работу, раптам убачылі на запыленых вуліцах калоны армейскіх грузавікоў з салдатамі.

Вось тады і памёр рынак. Стаў нумарным аб'ектам дэзактывацыі. Прайшло трохі часу, і над яшчэ гарачым асфальтам павіслі зубчатыя, быццам арнамент на аканіцах, вясёленькія брылькі.

Ад гэтай самотнай парадласці і цяпер, праз сорак пяць месяцаў пасля чарнобыльскай навальніцы, млее сэрца. Можа, яшчэ і ад таго, што невялічкая маўклівая плошча чымсьці нагадвае мне сапсаваную талерку радыёпрыёмніка з пасляваеннага маленства. Так і карціць подбегам абмінуць заасфальтаваны пятачок, бо разумееш, што больш ён не загаманіць на розныя галасы.

Дваццаць шостага красавіка трагічнага восемдзесят шостага года сваім загадам брагінскі рынак не на гады, на дзесяцігоддзі ліквідавала Радыяцыя...

Вечарам непадалёку ад рынку нібы палыхае неба. Святло пражэктараў гасіць зоркі. У дзве змены ўзводзяць будынак раённага аддзела міліцыі. Ужо вывелі

другі паверх. Шмат гадоў запар міліцыя тулілася ў невялікай сціплай хаце, а цяпер, калі прынята ўжо рашэнне аб адсяленні жыхароў гарадскога пасёлка, успомнілі пра аддзел унутраных спраў. Брагінцы тлумачаць сітуацыю іранічна: раз у Дзяржаўную праграму па ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі «забылі» ўключыць такую «дробязь», як жыллё, дык міліцыя мае рацыю. Паставіць будынак і перавязе яго ў чыстую зону пад сямейны інтэрнат...

«Біялагічнымі даследаваннямі ўстаноўлены шэраг зрухаў у арганізме чалавека». А. Сцепаненка, віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук БССР. Газета «Звязда» ад 13 студзеня 1990 года.

Што праўда, то праўда. Зрухі адбываюцца. Каб гэта зразумець, не трэба быць ні акадэмікам, ні віцэ-прэзідэнтам, бо за той час, што мінуў пасля аварыі, у брагінскім рэстаране не абедала ніводная камісія. Гэта можа засведчыць любая афіцыянтка. Прыедуць упаўнаважаныя, супакояць жыхароў, а паесці разам з палешукамі дык ані-ні...

Ну, а мне, грэшнаму, дзецца няма куды. Кожны дзень прыходжу ў рэстаран. Неяк у пятніцу трэба было па тэрміновым заданні ехаць у вёску Краснае, дык прывалокся на абед крыху раней, чым звычайна.

У вузкай, нібы той школьны пенал, зале не было яшчэ ніводнага наведвальніка, і пакуль я чакаў, калі прынясуць заказ, да майго століка прысела Валянціна Капусціна, круглатварая і заўсёды ветлівая афіцыянтка. Я ведаў, што яна ўваходзіла ў дэлегацыю брагінцаў на сустрэчы з прадстаўнікамі ўрадавай камісіі па пытаннях ліквідацыі аварыі на Чарнобыльскай АЭС, таму пацікавіўся, чым закончыўся вояж у сталіцу.

— А нічым, — ціхім грудным голасам адгукнулася Валянціна. Пасядзелі трохі моўчкі, потым, цяжка ўздыхнуўшы, растлумачыла: — Кічкайла[1] прапанаваў сабрацца пазней разам з намеснікам міністра па будаўніцтву і яшчэ чорт ведае з кім. Словам, як заўсёды,

[1] Намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР, узначальвае ўрадавую камісію па ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

адны намеснікі і ніводнага начальніка... Гора горкае. А ў мяне з дачкой такое зрабілася, што і словамі перадаць няможна. Ёй дзесяць гадоў было, калі блок той праклятьі ўзарваўся. Такая прыгажуня расла — душа цешылася. А цяпер пачалі вылазіць на галаве валасы: найбольш на скронях. Дачка ў слёзы: «Мамка, мяне ж ніхто замуж не возьме...» Пра што думае неразумная? Тут хоць бы як-небудзь уратавацца. А мужыка такога ж гаротнага, калі дажывём да таго часу, знойдзе. Іх жа, скалечаных, пад вянец таксама не сотні, тысячы прыйдуць... Але ж куды нам ехаць? На ўсе чатыры бакі? Столькі часу цярпліва чакалі і дачакаліся... Няма міласэрнасці на высокіх паверхах. Ні на пазногцік няма...

Валянціна раптам усхапілася, занепакоілася:

— Звар'яцела зусім. Гэта ж трэба такое расказваць чалавеку перад абедам.

Яна пайшла на кухню, а мне і сапраўды не лез у горла кавалак хлеба. Ды і адкуль узяцца апетыту, калі ведаеш, што ў нейкай сотні метраў ад рэстарана з ласкавай назвай «Бярозка» сядзіць за партай прыгожая дзяўчына, у якой вылазяць валасы...

Па дарозе ў Краснае наш шафёр убачыў за рулём стрэчнай машыны свайго сябра, з якім некалі вучыўся ў школе. Вядома, спыніліся. Пакуль даўнія прыяцелі размаўлялі, пастаяў на абочыне. Пэўна, маюць рацыю старыя палешукі, калі сцвярджаюць, што надвор'е як тая гуляшчая дзеўка: распранаецца, калі трэба і не трэба... І сапраўды, нібы ў насмешку над зімой, праклюнуліся ўжо коцікі — гарэзлівыя жоўценькія завушніцы. Па абодва бакі шашы, куды ні кінь позіркам, ярка зелянеюць азімыя — рукатворны дыван, сатканы з жывых клетак і нуклідаў.

— Ці не рана яшчэ? — сарваўшы пушысты коцік, пытаюся ў каржакаватага, што добры дубок, і вечна засяроджанага на сваіх нейкіх патаемных думках Міхася Самойленку, які сустрэў на Палессі сваю саракавую вясну.

— У самы раз, — нібы раптам яму стала холадна, паводзіць ён плячамі-карамысламі. — З такой атамнай грубачкай пад бокам хутка ўраджай пачнем збіраць...

Нейкіх дваццаць кіламетраў да разбуранага рэактара. Жаўцеюць пад лютаўскім небам коцікі...

«Божухна, хай бы памарозіла тыя азімыя, а летам упільнавала засуш. Пашлі нам недарод: колькі б той радыяцыі не ў людзях — у зямлі засталося...» (Крыкспаведзь калгаснай бухгалтаркі, сына якой паклалі на аперацыю шчытападобнай залозы.)

Не памятаю, хто першы з журналістаў ці пісьменнікаў ахрысціў жыхароў пацярпелых раёнаў «заложнікамі Чарнобыля», але, пражыўшы амаль год на атручаным Палессі, магу засведчыць, — больш дакладна і не скажаш. Можа, толькі замест слова «заложнік» паставіць «вязні». Аднак гэта ўжо цалкам залежыць ад эмацыянальнага камертона чалавечай душы. І яшчэ ад таго, адкуль ты пішаш пра Чарнобыль. Калі ў колькіх кіламетрах ад «ядзернай трубы», са сцвярджэннем, што вялікае бачна на адлегласці, можна і не пагадзіцца. Дык вось пра тое, што відаць зблізку.

Па-першае, хлусня, якой штодзень кормяць палешукоў, стала больш каларыйнай (да пустых, як гнілы грэцкі арэх, абяцанняў дадаліся стравы з афіцыйных пастаноў), а па-другое, кіраўніцтва рэспублікі дасягнула галоўнай мэты, да чаго, здаецца, імкнулася ўсе чатыры гады, — жыхары пацярпелых раёнаў сталі не толькі заложнікамі Чарнобыля, але і ўласнай абыякавасці да свайго лёсу. Яны ніяк не могуць улезці ў паўрасчыненыя часам адкрытасці дзверы высокіх устаноў, а калі і ўлазяць, дык не вераць сваім вачам: іх сустракаюць былыя кіраўнікі «зоны жорсткага кантролю», якія, пэўна, ад радасці, што вырваліся на свежае паветра, ушчэнт забыліся пра людзей, якімі толькі ўчора кіравалі і перад кім выстаўляліся змагарамі за сацыяльную справядлівасць.

Сцвярджаць гэтак прымушае мяне не моднае жаданне зваліць усю віну на тых, хто пры ўладзе, а адчуванне глыбокага болю за лёс беларусаў, якія не па сваёй віне сталі ахвярамі тэхнічнай, экалагічнай і маральнай катастрофы. Кожны новы дзень, які палешукі сустракаюць на сваіх забруджаных радыяцыяй сядзібах і ў камунальных кватэрах, гэта чарговая перамога нашай самай гуманнай у свеце рабоча-сялянскай бюракратыі. Адзін з былых раённых кіраўнікоў высокага рангу, які ў свой час астудзіў галовы ўстрывожаных, разгубленых брагінцаў фразай, якая сёння стала кла-

січнай: «З натоўпам не размаўляю...», цяпер у сталічнай паважанай установе адказвае за радыялогію, хоць да той складанай навукі мае такое ж дачыненне, як брагінцы да палётаў у космас.

Пагаварыце з палешукамі (не толькі ў Брагіне, але і ў Хойніках, Нароўлі, Чачэрску, у любым кутку «зоны асаблівай увагі»), і яны вам назавуць не дзесяткі — сотні прозвішчаў людзей, якія на чарнобыльскай трагедыі зрабілі сабе кар'еру, хоць і заплацілі за гэта дарагой цаной — сваім здароўем.

У сваім «Чарнобыльскім дзённіку» я ўжо пісаў, што людзі тут, на Палессі, ніколі не спяшаюцца выносіць прысуд. Перш чым абвінаваціць чалавека, сто разоў падумаюць. Вось і ад'езд сваіх кіраўнікоў яны спачатку ўспрынялі па-філасофску: у кожнага з іх ёсць дзеці, і яны павінны быць шчаслівымі. Але з цягам часу жыхароў пацярпелых раёнаў пачало трывожыць пачуццё глыбокай абразы і амаль дзіцячай разгубленасці: як так здарылася, што людзі, якім яны не жадалі зла, на чыю міласэрнасць і заступніцтва спадзяваліся, папоўнілі кагорту стойкіх барацьбітоў супраць чарнобыльскай праўды?

Мне думаецца, што тут справа не толькі ў чалавечых вартасцях асобы, а ў той адмоўнай генетычнай селекцыі, што вялася на працягу дзесяцігоддзяў, з таго часу, як «правадыр усіх часоў і народаў» паклаў на адну плаху і нацыяналістаў, і інтэрнацыяналістаў. Тады і нарадзіўся тып кіраўніка, які жыў не клопатамі і трывогамі людзей, а празаічнымі думкамі пра сваю кар'еру і дабрабыт. Ды і людзі, пад прэсам страху сказаць «штосьці не тое», не дужа выторкваліся.

Былі, праўда, шчаслівыя выключэнні. Аднак любая зямля, у тым ліку і беларуская, не так часта родзіць сыноў, роўных па стойкасці характару і духоўным інтэлекце Кірылу Трафімавічу Мазураву або Пятру Міронавічу Машэраву. Гэта жыхары пацярпелых раёнаў добра зразумелі. Як і тое, што толькі пагрозай «зламаць шыю» на службовай лесвіцы сёння можна растлумачыць неверагодную чэрствасць і абсурдныя рашэнні, якія прымаліся ў восемдзесят шостым...

Івану Аляксеевічу Нямкевічу трохі больш за сорак гадоў. Былы сакратар парткома саўгаса «Савічы», ця-

пер інвалід другой групы. Глянуўшы на яго, не скажаш, што перад табой хворы чалавек. Уважлівы, цікаўны позірк блiскучых чорных вачэй, а яшчэ — ружовыя шчокі, нібы чалавек толькі-толькі ўвайшоў у пакой з марозу.

Ды і біяграфія Івана Аляксеевіча пісалася спачатку роўным, каліграфічным почыркам, як і заслужыў таго чалавек. Працаваў інжынерам-энергетыкам, потым чатыры гады вучыўся ў партыйнай школе; а затым ужо сем гадоў запар — да таго дня, як расфарміравалі саўгас, узначальваў партыйную арганізацыю.

— Што я хачу сказаць? — засяроджана пазіраючы на свае шырокія далоні, гаворыць Нямкевіч. — У любым калектыве, нават у маленькай ячэйцы, галоўнае — лідэр, бо што-што, а нашы людзі працаваць умеюць, і сялянскай кемлівасці ім за мяжой не пазычаць. У нас якраз такі чалавек з'явіўся — Уладзімір Васільевіч Зубкоў. Магутны мужык, што знешне, што знутры. Нібы падставіў пад гаспадарку плячо і крануў воз пад гару. Насуперак усім законам фізікі цягнуў усё хутчэй і хутчэй. А воз гэты не жартачкі — амаль тры тысячы жыхароў ды восем вёсак. Значыцца, паехалі мы — толькі жыві і радуйся. А тут дваццаць сёмага красавіка моладзь нашу, хлопцаў і дзяўчат, што працавалі ў Чарнобылі, не пусцілі на работу. Не тое каб фігуральна не пусцілі, а не падалі электрычку пад пасадку на станцыю. Так што пад вечар гэтага дня ў нас вушкі сталі тапорыкамі. Што ды як? Разумеем — нешта здарылася, але панiцы не паддаёмся. Ці мала што? Канешне, чуткі пра аварыю загойсалі, але мы ім прасторы не далі...

Праўда, праз нейкі дзень усхваляваліся не на жарт: даведаліся, што пыхнуў блок. Але ў атамнай энергетыцы мы народ цёмны, ды і ніхто, мабыць, не хацеў, каб людзі, што побач са станцыяй працавалі, валодалі інфармацыяй пра тыя атамы. Яно ж зразумела: у каго што як, а ў нас усё самае лепшае. А тут дваццаць дзявятага красавіка кіраўнікоў гаспадарак выклікалі на нараду ў райком партыі. Павестка — паспяховае заканчэнне палявых работ. Вось тады мы з дырэктарам нашым і дацямілі: здарылася нешта сур'ёзнае, бо звычайна ў разгар палявых работ кіравалі намі па тэлефоне. А тут тэрмінова і адразу ўсіх разам у райком.

Паехаў Зубкоў. Вярнуўся з нарады як у ваду апушчаны. «Ведаеш, камісар (так ён мяне называў), хацелі

нас з табой апошнімі ёлупамі перад краінай выставіць...»

«Як гэта?» — пытаюся — . «Вельмі проста. Прыехала здымачная група праграмы «Час» рабіць сюжэт аб завяршэнні веснавых палявых работ у раёне. Панькоў[1] прапанаваў тэлевізіёншчыкам паехаць у наш саўгас. Паказаць, значыцца, як мы весела і радасна працуем напярэдадні свята. Зразумеў цяпер?»

Не зусім, адказваю. Зубкоў заківаў сваёй мудрай сялянскай галавой: «Вось і рабочыя нас з табой не зразумеюць. Прыслухайся, адкуль дзьме вецер, і падумай, што аварыя адбылася не на кандытарскай, а на ядзернай фабрыцы. На нас жа не лікёрныя, а атамныя пары нясе. Я дык адмовіўся скамарохам у горы плясаць: аператары да Кулая[2] ў «Чырвоную ніву» паехалі. Так што ўключай вечарам тэлевізар: пабачыш, якія мы стойкія ўдарнікі працы... Сеем, не звяртаючы ніякай увагі на нейкія там атамы...»

Сёння ўжо дакладна і не помню, ці ў той самы або на наступны дзень паказалі «Чырвоную ніву», нашых суседзяў. Нічога сабе атрымалася: прыгожа. А потым мы ўжо даведаліся, што перадача тая патрэбна была, каб Еўропу супакоіць. Не ведаю, браце, супакоілі яе ці не, а вось нас пад удар падставілі...

На гэтым месцы я перапыню расказ былога сакратара парткома саўгаса «Савічы» і паспрабую пра тое, як разгортваліся падзеі далей, расказаць з яго ных слоў як справаздачу перад нашчадкамі, бо веру — ды і не я адзін — што калі-небудзь наш парламент вернецца да тых трагічных красавіцкіх дзён.

Эвакуацыя саўгаса пачалася чацвёртага мая. Праходзіла яна ў два этапы. Спачатку адсялілі вёскі Стары і Новы Сцепаноў і Перасяцінец. Пункты для часовага прыстанішча выбіралі па прынцыпу, які і сёння не можа не выклікаць у людзей абурэння: у сваёй гаспадарцы. Рабочым саўгаса не дазволілі з сабой захапіць нажытыя потам і нялёгкай сялянскай працай хатні набытак. Толькі ўзяць прадукты харчавання на два дні і пасцель.

---

[1] Былы першы сакратар РК КПБ.
[2] Старшыня калгаса, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР.

Цяпер гэтае вар'яцкае па сваёй абсурднасці і паспешлівасці (хоць і запозненае) рашэнне адгукаецца ў душах жыхароў шчымлівым болем. Яны не вераць, што галоўны прынцып нашай дзяржавы — усё для чалавека.

Заключны этап перасялення прыпаў на жніво. Перад самым вераснем пачалі эвакуацыю цэнтральнай сядзібы — вёскі Савічы. Людзей раскідалі куды каго. Праўда, над некаторымі сем'ямі лёс злітаваўся: іх пасялілі разам у калгасе імя Леніна Буда-Кашалёўскага раёна. Ды і наогул, пра якую прадуманую акцыю міласэрнасці можна гаварыць, калі кіраўнікі гаспадаркі на свой страх і рызыку матляліся з канца ў канец рэспублікі, каб хоць неяк уладкаваць сваіх жыхароў? Гэтыя арганізацыйныя хібы нельга растлумачыць толькі тым, што ў верхніх эшалонах рэспублікі ішла змена кіраўніцтва. (Ды і як можна яго было ў той час мяняць?)

Затарможаная рэакцыя прывяла да таго, што перасяленне Савічаў закончылася толькі ў канцы кастрычніка. Ад былой моцнай гаспадаркі засталося чатыры населеныя пункты: вёскі Грушнае, Двор, Савічы (якую проста не паспелі да зімы выселіць і дзе і цяпер пенсіянеры не атрымліваюць законнай надбаўкі да пенсіі), Цалуйкі і Просмычы. Дзве апошнія перадалі калгасу імя Чапаева.

Вось так разбурылі, раскідалі сялянскае гняздо. Праз год не вытрымала радыяцыйнага напружання сэрца былога дырэктара саўгаса «Савічы» Уладзіміра Васілевіча Зубкова. Стаў пастаянным кліентам бараўлянскай бальніцы былы парторг Іван Аляксеевіч Нямкевіч. Пэўна, не ён адзін. Але і Бараўляны таксама не для кожнага. Ды і на ўсіх, чый лёс і здароўе перакруціў-перайначыў Чарнобыль, не хопіць ніякіх пансіянатаў і бальніц.

А сам Нямкевіч трымаецца, хоць урачы і папярэдзілі яго, каб тэрмінова з'язджаў з атручанай зямлі. Не пераязджае, бо аказаўся занадта нават прынцыповым і сумленным чалавекам.

— Куды ж я паеду? — як бы здзіўляецца ён. — Мае ж людзі зноў Савічы засялілі.

Што тут скажаш чалавеку? Сапраўды ў вёску вярнуліся жыхары і жывуць там сабе пацiху. Але пра гэта я раскажу пазней. Хай трохі сціхне боль ад сустрэчы з былым сакратаром парткома, а цяпер — інвалідам Чарнобыля...

Калі размаўляеш з людзьмі, чыё жыццё скалечыла радыяцыя, неяк не верыцца, што з моманту чарнобыльскай катастрофы прайшло ўжо чатыры гады, бо, паступова і абы-як выкарчоўваючы жыхароў са сваіх сядзіб і роднай зямлі, нібы прарэджваючы ў цемры на градках моркву, у высокіх інстанцыях, здаецца, наўмысна заплюшчылі вочы на тую трагічную абстаноўку, што склалася ў адселеных зонах.

За гэты час на Брагіншчыне пабывала столькі камісій розных рангаў, колькі, пэўна, не прыязджала за ўсе гады існавання савецкай улады. Пабывалі і амаль аднадушна ўхітрыліся не заўважыць небяспеку, якая існуе не толькі для адной нашай рэспублікі з боку ліквідаваных некалі гаспадарак.

А яна, як той майскі радыеактыўны шар над разбураным блокам, усё павялічваецца і павялічваецца ў памерах. І гэты працэс не спыніць, пакуль у забруджанай зоне вядуцца «падпольныя» сельскагаспадарчыя работы і «стронцый змешваюць з цэзіем». І самае страшнае заключаецца ў тым, што селянін, як па сваёй ахвоце, становіцца «саюзнікам» Радыяцыі.

У восемдзесят сёмым, калі адміністратары ад навукі і нашы беларускія кіраўнікі агульнымі намаганнямі ледзь не прымусілі жыхароў пацярпелых раёнаў паверыць у тое, што самае небяспечнае ўжо мінула і цяпер зямля, як цяжкахворы чалавек, пайшла на папраўку, у раёне ўспыхнула эпідэмія, па сваіх памерах і выніку не менш жудасная за нашэсце чумы, — эпідэмія сялянскага прадпрымальніцтва, якая зацягнула ў свой вір не толькі мясцовых кіраўнікоў, але і простых калгаснікаў. Змагацца з гэтай навалай амаль немагчыма, пакуль палеская зямля, нібы тая шахматная дошка, будзе падзелена на белыя і чорныя клеткі, бо адсутнасць індывідуальных дазіметраў і дакладнай інфармацыі нараджае ў людзей пачуццё самазаспакаення, надзею на традыцыйнае славянскае «авось». А сама зямля, здаецца, нічым не адрозніваецца ад той, што была і раней: такая ж шчодрая і ўрадлівая, хоць многія гектары засталіся без гаспадароў. Многія, але не ўсе...

Вёска Пучын да аварыі на Чарнобыльскай АЭС уваходзіла ў саўгас «Слабадскі». Рабочыя гаспадаркі ў свой час былі перасялены ў іншыя мясціны, і зямля засталася без дogляду. Так і ляжала яна да пасяўной восемдзесят сёмага хворая, але яшчэ жывая. Вясной па

ёй, прыціснутай радыяцыяй, пайшлі трактары саўгаса «Камарынскі». Механізатары ўзаралі сто гектараў самай урадлівай зямлі каля Пучына і засеялі іх кукурузай. Тая на добрым радыяцыйным угнаенні вымахала ўвосень на зайздрасць суседзям. І не толькі, як аказалася, на зайздрасць, а і на «шчасце», бо якраз у калгасе «Чырвоны Кастрычнік» выйшла нявыкрутка з кармамі. Кінуліся яго кіраўнікі па дапамогу ў «Камарынскі». Па-суседску згаварыліся пра цану, хоць кожны з іх бачыў, што прадае і што купляе. Чым не прадпрымальніцтва?

Але гэта яшчэ не самая страшная з'ява ў «зоне жорсткага кантролю», бо, прыклаўшы руку да сэрца, землі былога саўгаса «Слабадскі» і калгаса «Чырвоны Кастрычнік» мала чым розняцца па ступені радыеактыўнага забруджання. Так што тая камерцыйная аперацыя не выходзіць за рамкі норм і правілаў гаспадарання, да якіх нібы падбухторваюць кіраўнікоў калгасаў і саўгасаў.

Больш трывожыць, пячэ душу іншае: нямала з'явілася ахвотнікаў паправіць сваё эканамічнае становішча за кошт атручанай зямлі. У тым жа годзе стыхія ўпільнавала адзін з самых чыстых раёнаў вобласці — Жыткавіцкі. Паводка затапіла значную частку сельгасугоддзяў. Вы думаеце, якое выйсце знайшлі кіраўнікі раёна? Амаль тое ж самае, што і «Чырвонага Кастрычніка». Яны накіравалі нарыхтоўчыя брыгады на землі ўжо вядомага нам, выселенага саўгаса «Слабадскі»...

Улічваючы тое, што нават на забруджанай нуклідамі тэрыторыі вельмі слаба арганізаваны радыяцыйны кантроль, няцяжка ўявіць сабе, якія неабсяжныя магчымасці для рэалізацыі прадукцыі маюць у Жыткавічах...

Такіх прыкладаў адміністрацыйнай абыякавасці да здароўя і будучага людзей можна прывесці не адзін дзесятак. Яны сёння ўжо сталі звычайнай справай і, здаецца, нікога не толькі не насцярожваюць, але і не хвалююць.

Глеба, на якой узраслі злоўжыванні супраць самога існавання чалавека, добра падрыхтавана той атмасферай сакрэтнасці, якой ахуталі палескую зямлю і чарнобыльскую трагедыю адміністрацыйна-камандны апарат і наўмысна скажоныя рэкамендацыі і заявы вучоных рангу «ганаровых акадэмікаў». Некаторыя прозвішчы я ўжо называў раней, а цяпер цалкам прывяду загад, які

многае тлумачыць, чаму і сёння адбываецца тое, што ніколі не павінна было здарыцца ў цывілізаваным грамадстве.

У пачатку студзеня мне перадалі «Чернобыльский вестник». Газета гэта выходзіць у маладым горадзе фізікаў-атамшчыкаў Славуцічы, і інфармацыя на яе старонках заўсёды канкрэтная і лаканічная, як трапны стрэл, што забівае чытача на месцы. Нумар за шостае студзеня менавіта такі.

«Міністэрства аховы здароўя СССР, У-2617 «С» ад 27.06.86 г.

Засакрэціць зводку аб аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Засакрэціць зводку аб выніках лячэння.

Засакрэціць зводку аб ступені радыеактыўнага паражэння персаналу, які прымаў удзел у ліквідацыі вынікаў аварыі на ЧАЭС.

Начальнік III Галоўнага ўпраўлення Міністэрства аховы здароўя СССР

Шульжэнка».

Гэты дакумент падпісаны роўна праз два месяцы пасля чарнобыльскай трагедыі, калі ўжо можна было ацаніць і памеры, і вынікі аварыі на чацвёртым блоку. Ацаніць і прыняць экстранныя меры для выратавання людзей. Яны і былі прыняты, але такія, ад якіх і сёння, прачытаўшы гэты антычалавечны загад, не можа не здранцвець сэрца нават у самага чэрствага чалавека. Можа, але зноўку не ў кожнага. У гэтым мяне пераканала сустрэча з кіраўнікамі аддзела аховы здароўя аблвыканкома, якая адбылася на канцы студзеня, калі я ўжо ведаў пра той сакрэтны загад.

Грамадская камісія, у склад якой для асвятлення яе работы ў друку ўключылі і мяне, выявіла цэлы шэраг сур'ёзных недахопаў у правядзенні спецыяльнай дыспансерызацыі насельніцтва раёна. Віна за іх у большай ступені ляжала на медыцынскіх брыгадах, якія прыязджалі ў райбальніцу па вахтавым метадзе. У медыцынскія карткі былі занесены вынікі даследаванняў, якіх людзі не праходзілі. А некаторыя, каб не траўміраваць псіхіку, наогул не звярталіся да ўрачоў. Пра такія выпадкі камісія мела заявы ад многіх жыхароў.

Адным словам, у брагінскім паветры акрамя радыяцыі запахла яшчэ і медыцынскім скандалам. Тут ужо кіраўнікі абласной медыцыны заварушыліся, праявілі і аператыўнасць, і настойлівасць, якой у іх нешта не прымячалася раней. Таму і не дзіўна, што ў той дзень, калі абмяркоўваліся вынікі работы грамадскай камісіі, плошча перад райвыканкомам нагадвала выставачную пляцоўку легкавых аўтамабіляў.

Усё, што адбывалася на пасяджэнні, перадаць няроста, бо я, мабыць, упершыню за ўвесь час знаходжання ў «зоне асаблівай увагі» зразумеў усю магутную несакрушальнасць адміністрацыйнай сістэмы, калі ёй прыходзіцца абараняць чысціню свайго службовага мундзіра.

Каб апісаць той фарс, трэба нарадзіцца Салтыковым-Шчадрыным, а ў зале сядзелі толькі жыхары пацярпелага раёна, і тое, што яны не падалі з крэслаў, як дзеці на піянерскіх лінейках [1], значна аблягчала задачу медыцынскім адміністратарам. Па-першае, раённую камісію абвінавацілі ў «местачковым падыходзе да праблемы аховы здароўя» (праўда, пасля таго, як госці папрасілі паглядзець заявы жыхароў, якія не праходзілі дыспансерызацыю, і «забылі» вярнуць іх назад), а па-другое — прадэманстравалі перавагу спецыяльнай медыцынскай адукацыі над усімі астатнімі.

Словам, пасяджэнне вылілася ў папулярную лекцыю, пасля якой слухачы, калі і не адчулі сябе здаровымі, дык займелі аптымізм на будучае. Сапраўды, паспрачайся каторы з кніжкамі, якія напісалі вядомыя замежныя вучоныя, або з тым фактам, што японцы па сваіх здольнасцях і арганізацыі працы пераўзышлі амерыканцаў, быццам жыхары Краіны ўзыходзячага сонца скінулі атамную бомбу на Злучаныя Штаты, а не наадварот.

За ўсім гэтым славесным шалупіннем госці нават і забыліся, што размаўляюць з людзьмі, якія і сёння жывуць на радыеактыўнай зямлі, бо ў адрозненне ад Японіі ланцуговай ядзернай рэакцыі ў Чарнобылі не адбылося: радыеактыўныя элементы, якімі забрудзіла наваколле, у пасіўным стане сталі актыўнымі вылучальнікамі радыяцыі. А ў райбальніцы жыхары не могуць

---

[1] «Чернобыльский вестник», № 10, 1990 г.

прайсці праверку на найсучасных апаратах, бо яны часта не працуюць.

Пра гэтую будзённую прозу я паспрабаваў пагаварыць з загадчыкам аддзела аховы здароўя аблвыканкома Антонам Аляксеевічам Раманоўскім. Што і казаць, мужчына ён упэўнены ў сабе, па-свецку элегантны і яму (я гэтаму неаднойчы быў сведкам) да твару юпітэры тэлевізійнай студыі. А мне яшчэ і трохі пашанцавала, бо Антон Аляксеевіч, пэўна, не здагадваўся, што я ўваходзіў у склад грамадскай камісіі. Таму гэтае інтэрв'ю да пэўнага часу праходзіла шчыра і бадзёра.

Пытанне: Антон Аляксеевіч, як вы адносіцеся да работы апарата СВЧ?

Адказ: Ён створаны адной з вядучых англійскіх фірм і па сваіх параметрах знаходзіцца на высокім узроўні сусветных стандартаў.

Пытанне: Тады як зразумець той факт, што амаль усе прыборы, якія атрымала вобласць, не працуюць па тэхнічных прычынах?

Адказ: Чалавецтва яшчэ не навучылася ствараць абсалютна надзейную тэхніку...

Пытанне: Тады чым можна растлумачыць, што адна з лепшых, як вы сцвярджаеце, фірм абанкруцілася амаль адразу, як паставіла ў нашу краіну свае апараты?

На гэтым інтэрв'ю і закончылася. Наступіла красамоўная паўза з гогалеўскага «Рэвізора». Кіраўнік абласной медыцыны паглядзеў на мяне так, нібы бачыў упершыню, і паспяшаўся да машыны. Не магу сцвярджаць безапеляцыйна, але мне здалося, што ў ягонай скуранай папцы засталіся заявы ад жыхароў у грамадскую камісію...

Так што калегі таварыша Шульжэнкі з Міністэрства аховы здароўя, чые прозвішчы яшчэ не папоўнілі спіс «герояў» Чарнобыля, могуць спаць спакойна: іх службовыя інтарэсы і духоўны камфорт пільна ахоўваюць на забруджанай радыенуклідамі тэрыторыі. Ахоўваюць і вельмі спадзяюцца на ўзаемнасць...

Мяне заўсёды ахоплівае горкае пачуццё шчымлівай безвыходнасці і разгубленасці, калі на восьмым дзесятку рабоча-сялянскай улады ў лістах, што прыносіць рэдакцыйная пошта, запыняюся, як над безданню, над

словам — *прасіцель.* (Падкрэслена мной. — *А. К.)* Такіх пісьмаў у маім рабочым стале шмат, і яны нагадваюць пранізлівы крык параненых птушак.

Прасіцелька Наталля Парфір'еўна Малочка з вёскі Просмычы просіць дапамагчы атрымаць цукар і мыла. Прасіцель васьмідзесяціпяцігадовы Мікіта Апанасавіч Пінчук з той жа самай вёскі просіць пераканаць старшыню калгаса, каб той даў каманду забраць у яго тону бульбы, якую ён сабраў са свайго агарода. «Мне ўжо многа гадоў — аж думаць страшна, — скардзіцца чалавек, — мо заўтра памру. Дык хто ж забярэ маю бульбу?»

Ёсць і цэлыя вёскі прасіцеляў: Кірава, Галубоўка, Карлаўка, Кавака... І ўсюль амаль аднолькавае — не завезлі радыеактыўныя дровы або брыкет, не забралі радыеактыўную бульбу...

Людзі жывуць будзённымі клопатамі і надзеямі, бо не ведаюць усёй праўды пра Чарнобыль, не разумеюць тое, што дым над комінамі іхніх хат, гэта таксама маленькі разбураны атамны рэактар, бо ніхто ім не скажа, што брыкет для печаў дабываюць у адселеных раёнах, а сена прывозяць з-за калючага дроту... І гэта яшчэ адна нябачная здалёку трагедыя людзей, якім хлусілі і сёння, нібы свядома, асуджаюць на пакуты і заўчасную смерць. А яе не просяць, ні ў людзей, ні ў бога, ні сабе, ні сваім блізкім, нават прасіцелі...

«Жыццё з завязанымі вачыма на бедным пайку інфармацыі адыходзіць у нябыт». (З выступлення першага сакратара Брагінскага РК КПБ А. М. Пракопава на пленуме абласнога камітэта КПБ 16 студзеня 1990 года.)

Не ўсё так проста з пытаннямі адкрытасці. Гэта зведаў на сабе і новы першы сакратар, калі ў час аварыі дзень і ноч пад пякучымі сонечнымі промнямі і густым радыеактыўным пылам матляўся па вёсках і пасёлках, а партыйнае кіраўніцтва, узнагародзіўшы ордэнам «Дружбы народаў» былога рэдактара раённай газеты, які так і не навучыўся пісаць сакраментальнае слова «радыяцыя», усё ж такі на канцы вырашыла адзначыць былога старшыню райвыканкома Пракопава медалём,

бо, калі дзялілі ордэны, той займаўся адсяленнем людзей...

Вядома, справа не ва ўзнагародах, але і па іх можна меркаваць пра шкалу, па якой вызначалася вартасць чалавека. Калі згаджаешся, падтрымліваеш пазіцыю рэспубліканскага ці абласнога кіраўніцтва, — патрэбны работнік, высунуў галаву, як дурань, з-за плота — сабе ў клопат.

«Патрэбныя работнікі» — хто раней, хто пазней — з'ехалі з атручанай зямлі; ну, а тыя, што выторкваліся, цяпер расплачваюцца за іхнія грахі. А найбольш — просты люд раёна...

У ланцугу, якім сёння палешукі прыкаваны да добра падкормленай радыеактыўнымі дабаўкамі зямлі, множства шчыльна падагнаных адзін да другога звенняў. І каб зараз жыхары пацярпелых раёнаў разам затупалі нагамі, гэты надзейна скляпаны ланцуг, пэўна, захістаў бы не адно крэсла на высокіх паверхах...

Ракопаў мае рацыю ў галоўным: той ружовы туман, якім амаль чатыры гады ахутвалі Чарнобыль, паступова ўзнімаецца ўсё вышэй і вышэй, і жыхары «зоны жорсткага кантролю» ўжо могуць разгледзець свой адбітак у люстэрку, спавітым жалобнай рамкай, — яны, аказваецца, жывуць пад дахамі, на якія неба накінула ці не ўсю табліцу Мендзялеева, таму, што іх здароўе і само жыццё прынесены на ахвярны алтар непасрэднымі віноўнікамі аварыі і іх высокімі заступнікамі. Асудзіўшы за гэты час «стрэлачнікаў», сістэма паспела вывесці з-пад удару сваіх верных слуг. І цяпер іх прозвішчы цяжка адшукаць у адміністрацыйнай калодзе, якую добраператасавалі. Аднак сляды ганебнай палітыкі ў адносінах да простага чалавека, да яго будучыні і дзяцей схаваць немагчыма. І не толькі таму, што сам час, як той уедлівы контрразведчык, адкрывае ўсё новыя сакрэты і тайны паслячарнобыльскай трагедыі, — проста загаварылі людзі, якім загадвалі маўчаць...

Вячаслаў Мікалаевіч Буслаў па спецыяльнасці аграном-радыёлаг, напярэдадні чарнобыльскай аварыі загадваў раённай кармавой лабараторыяй. Пасля красавіка восемдзесят шостага амаль усе ягоныя падначаленыя выехалі з дзецьмі на аздараўленне ў розныя канцы рэспублікі і краіны, і застаўся ён з адзінай памоч-

ніцай — лабаранткай Таняй Кісловай. У канцы чэрвеня з віцебскай станцыі хімізацыі сельскай гаспадаркі прывезлі Буславу радыяметр ДП-100 — набліжалася жніво, і трэба неўзабаве правяраць збожжа, — а заадно і прызначылі загадчыкам радыялагічнай лабараторыі пры раённым упраўленні сельскай гаспадаркі. У яе функцыі ўваходзілі праверка і выдача заключэнняў на зерне, якое ішло на прадуктовыя, фуражныя і тэхнічныя мэты. На падставе гэтых заключэнняў Хойніцкі хлебапрыёмны пункт павінен быў сартыраваць яго па ступені забруджанасці радыенуклідамі. Але выпадкаў, каб зерне вярталі або знішчалі з-за павышанай радыеактыўнасці, не было, хоць Буслаў сцвярджае, што дваццаць працэнтаў зерня мела паказчыкі вышэйшыя за тыя сакрэтныя параметры, якімі кантрольная служба кіравалася ў сваёй рабоце.

— Скажу больш, — перапыніўшы на імгненне расказ чалавека, які згаладаўся папраўдзе, змарнаваўся душой ад неадчэпнага адчування асабістай віны, гаворыць Буслаў. — Тое, што рабілася ўчора і сёння робіцца, можа прысніцца толькі чалавеку з хворай псіхікай...

Вячаслаў Мікалаевіч Буслаў быў маленькім вінцікам у гэтым магутным канвееры хлусні, які, не ў прыклад іншым тэхнічным вынаходніцтвам, так і не сапсаваўся. Пазіцыя загадчыка лабараторыі амаль нічога не вырашала і не магла змяніць у самой сістэме безадказнасці, якую стварылі людзі на пасадах, але быццам без прозвішчаў. І калі Буслаў усё ж такі ўзнімаў голас пратэсту, яго проста выстаўлялі за дзверы вялікіх і малых кабінетаў, як таго дакучлівага прасіцеля.

Самі ўмовы, у якіх працавала лабараторыя, не толькі не адпавядалі нават мінімальным санітарным нормам, але яшчэ і быццам падкрэслівалі залежнасць і непатрэбнасць самога існавання радыяцыйнай службы. А той факт, што яе вынеслі за межы Брагіна, яшчэ раз высветліў яе жабрацкі лёс.

Памяшканне, якое выдзелілі Буславу, магло зацікавіць нейкую кінастудыю для здымкаў фільма жахаў: няўходжанае, з сапраўднай арміяй нахабных раздабрэлых пацукоў, што, не звяртаючы аніякай увагі на людзей, бегалі па аголеным электрычным дроце, і кожнае імгненне можна было чакаць пажару або, у лепшым выпадку, кароткага замыкання.

Аднак і гэта яшчэ не ўсё: у трыццаці метрах ад станцыі нейкі разумнік ці вар'ят загадаў размясціць сметнік, куды звозілі радыеактыўныя адходы пасля дэзактывацыі. Няцяжка ўявіць сабе, які магутны гама-фон апрамяняў і сам будынак, і людзей, што ў ім працавалі.

Буслаў быў вымушаны закансерваваць свае прыборы: не да кантролю ў такой абстаноўцы, калі не ведаеш, з якога боку цябе самога падсмажвае радыеактыўнае вогнішча. Праўда, праверку вяла ветэрынарная лабараторыя, але пра якую адказнасць і скрупулёзны аналіз можна было гаварыць, калі працавалі ў ёй вахтавым метадам: сёння тут, а заўтра ўжо далёка ад радыяцыі...

Таму і круціць сёння Буслава неадчэпнае пытанне: «Хто ж канкрэтна быў вельмі зацікаўлены, каб лабараторыя загадала «доўга жыць»? Каму карцела бескладотна існаваць побач з жудаснай трагедыяй уласнага народа?»

У той час, калі нам, як памінальную малітву, укладвалі ў вушы, што абстаноўка **ў пацярпелых раёнах не** выклікае асаблівай трывогі, малады трактарыст з вёскі Пасудава (цяпер яна адселена) старанна трамбаваў сілясную яму і раз-пораз, нібы ачмурэлы, каб не страціць за рулём прытомнасць, выскокваў з кабіны, у якую ўлазілі атрутныя языкі радыяцыі. Выскачыць, удыхне настоенае на радыеактыўных часцінках паветра і зноў за рычагі. А дзесьці непадалёку спецыяліст па кормавытворчасці ўжо вядомага чытачу калгаса «Чырвоны Кастрычнік» Рыгор Нячоса, рызыкуючы сваім здароўем, лётаў на грузавіку па пакінутых жыхарамі вёсках у пошуку сена для калгасных кароў...

Падкажыце мне пасля гэтага, у якой яшчэ краіне можна знайсці такіх адчайных і бесхрыбетных дыпламаваных спецыялістаў і выхаваных на ідэях марксізму механізатараў-камікадзе?

Але вернемся зноў да шматпакутнай буслаўскай лабараторыі. Ледзь не да дзірак стаптаў свае боты яе загадчык аб высокія парогі, каб далі нарэшце новае памяшканне і апаратуру. Прыбораў так і не выклянчыў (і нескладана здагадацца чаму), а вось памяшканне вырваў. Як ні дзіўна, дапамагла антыалкагольная кампанія: якраз застаўся бясхозным вінны цэх на брагінскім заводзе. І то шчасце, надумаў Буслаў. Ухапіўся за той цэх, як тапелец за саломінку. Ухапіўся і сам быў не рады, бо, калі перанёс свае прыборы ў памяшканне,

стрэлкі на іх зашкаліла — такі быў высокі радыяцыйны фон... Пра які кантроль можна было весці размову ў такіх умовах? Тут самому самы час ратавацца...

І ўсё ж такі Буслаў не скарыўся перад націскам нябачнага праціўніка. Дамогся, каб хоць з дапамогай гастралёраў-шабашнікаў паставіць з блокаў пакойчыкі, і цяпер можна расказаць людзям пра тое, што ніколі не змог бы зрабіць без сваёй сялянскай і незразумелай начальству настойлівасці. Я прывяду толькі некалькі фактаў, якія рэльефна высвятляюць адносіны да здароўя жыхароў і ўвогуле праблем пацярпелых раёнаў з боку тых, хто па сваім службовым абавязку павінен быў клапаціцца пра жыццё чалавека.

Як вам падабаецца, што часовыя дапушчальныя нормы бульбы, якая ішла на корм жывёле, былі ў 1,2 раза ніжэйшыя, чым для чалавека? Абсурдна, неверагодна, як гаварыў вядучы папулярнай тэлевізійнай перадачы Капіца, але, на вялікую бяду, дакументальна запратакаліраваны факт.

А ў саўгасе «Краснае» нарыхтавалі кармы ва ўрочышчы Радчанкаў Востраў, якія пры праверцы аказаліся ў мінус шостай ступені забруджанасці радыенуклідамі. (Пры такіх паказчыках прадукцыя павінна тэрмінова закапвацца ў зямлю). На ўсе трывожныя сігналы Буслава — нуль увагі.

Калгас «Рассвет», які і сёння лічыцца чыстым па гама-фоне, вывез з тэрыторыі былога калгаса імя Калініна 1305 тон кармоў, забруджаныя радыяцыяй землі якога знаходзіліся пад пільным наглядам нашай міліцыі. Накармілі калгасных кароў, і адразу ступень забруджанасці малака падскочыла вышэй за дапушчальную норму амаль у тры разы. Куды пайшло тое малако? Дзесьці на малаказаводзе яго разбавілі з чыстым і адправілі, мабыць, не толькі ў брагінскія магазіны. Вось такія эксперыменты ў зоне асаблівага клопату і ўвагі...

Гэты жалобны пералік наўмысных парушэнняў можна прадоўжыць, але, думаю, тых, хто заахвочваў да іх людзей, якія не ведалі рэальнай абстаноўкі, ад гэтых фактаў не кіне ў халодны пот, бо яны па-ранейшаму застаюцца для палешукоў дужа абстрактнымі, нябачнымі істотамі.

А пакуль што праз тры месяцы пасля прыняцця Дзяржаўнай праграмы па ліквідацыі вынікаў аварыйна

Чарнобыльскай АЭС сітуацыя ў гаспадарках раёна выглядае наступным чынам: жывёле даюць радыеактыўны корм, а тая спраўна ўгнойвае ім зямлю. Такі вось векавы кругаварот, які не спыніць ні даярцы, ні старшыні калгаса, ні загадчыку радыяцыйнай лабараторыі. Не спыніць, пакуль на атручанай зямлі будуць жыць людзі...

На развітанне я спытаў у Буслава, чаму ён вырашыў не маўчаць, расказаць праўду.

— Даўно хацеў гэта зрабіць, — ён стомленым, як вінаватым позіркам запыніўся на маім твары. — Калі наверсе хаваюць праўду, яна абавязана прабіцца знізу. Ды і прозвішча ў мяне сімвалічнае — Буслаў, — ён ледзь прыкметна ўсміхнуўся куточкамі вуснаў. — Значыцца, павінен у дзюбе прыносіць надзею...

Здараецца, што да нейкіх падзей або сустрэч вяртаешся з прычыны знешне ніяк не звязанай з імі. Нязапешна, нібы шэрыя аблочкі, плывуць будні, нішто, здаецца, не парушае ціхую плынь жыцця прыціснутага трагедыяй гарадскога пасёлка, як раптам перад вачыма нібы ўспыхвае бліскавіца: асвятляе няроўным трывожным святлом зямлю, па якой ты ходзіш, неба, пад якім жывеш і на нешта яшчэ спадзяешся...

Такім днём стала для мяне серада, 28 лютага. Вечарам забег у камітэт народнага кантролю, які знайшоў прытулак пад дахам райвыканкома. Пагаварылі пра штучны дэфіцыт у зоне асаблівай увагі, пажурыліся з той прыкрай акалічнасці, што і на шостым годзе перабудовы мясцовы гандаль мацнейшы за Савецкую ўладу, а дырэктар камбіната грамадскага харчавання — за самога мэра гарадка, і, калі збіраліся разыходзіцца, нехта, ўжо і не помню хто менавіта, вазьмі і пажартуй, што ў магазін непадалёку завезлі кансерваваную фасолю, з тлушчам. Пакуль прадаўшчыцы яшчэ не абзванілі сваіх прыяцелек і знаёмых, ёсць шанц назапасіць тых бялкоў.

Кожны ратуецца ад радыяцыі як можа. Вырашыў і я прыхапіць бляшанку таго дэлікатэсу, а калі выйшаў з магазіна на цьмяна асветленую рэдкімі ліхтарамі вуліцу, ледзь не сутыкнуўся з капітанам мясцовай міліцыі Аркадзем Анапрыенкам. Выгляд у таго быў засмучаны, нават разгублены, быццам з-пад ягонага носа нейкі злаўмыснік прыхапіў патрульную машыну.

— Што здарылася? — пацікавіўся я.

Аркадзь, нібы яму ціснулі боты, пераступіў з нагі на нагу.

— Ты старшага лейтэнанта Башака ведаеш?

Я адмоўна пакруціў галавой.

— Сына ўчора яго з Кіева прывезлі. Усяго два гадочкі малому набегла. Рак крыві... — Аркадзь азябла здрыгануўся плячыма. — Во, халера дык халера, трасца ёй у бок. То ж трэба дзіця не пашкадаваць...

Капітан гаварыў пра радыяцыю, якой жыхары пацярпелых раёнаў пасылаюць праклёны, нібы жывому чалавеку. Ён глядзеў на мяне запытальна, мабыць, чакаў нейкіх суцяшальных слоў, але што я мог сказаць чалавеку. Пастаялі трохі, памаўчалі.

Развітаўшыся з Аркадзем, завярнуў на пакручастую слізкую сцяжынку, што цераз агароды вяла напраcткі дадому. У душы было холадна і няўтульна. На імгненне запыніўся каля высокай разлапістай асіны, на якой, нібы вялікая баброваая шапка, сядзела буслінае гняздо. Летась у ім вывеліся маленькія бусляняты. Я ўбачыў іх, калі яны ўжо лёталі. Суседзі казалі, што буслы вяртаюцца сюды кожны год.

«А ці вернуцца яны сёлета? — раптам тужліва падумаў я. — Лепей бы не вярталіся, хоць Буслаў і ўпэўнены, што буслы ў дзюбах прыносяць надзею...»

Нешта загадкава-страшнае хаваецца ў тым, што межы радыяцыі не бачны і амаль ніяк не выяўляюцца. Можна спакойна сядзець на лаўцы, пад якой павышаны гама-фон, і ні з таго ні з сяго спалохацца службовага кабінета, які па тваёй просьбе праверыў дазіметрыст.

Такое пачуццё насцярогі і разгубленасці ахоплівае цябе і ў дарозе. Праплываюць за акном прыгажуні-бярозкі, плячыстыя жаўтаватыя елкі, і нельга здагадацца, дзе за табой цікуе большая небяспека. Хаця, напрыклад, каля Рэчыцы адчуваеш сябе трохі спакайнейшым, чым пад'язджаючы да Брагіна.

Вяртаўся ў рэдакцыю напярэдадні Восьмага сакавіка. Мой спадарожнік раптам узгарэўся пад Рэчыцай назбіраць сваёй жонцы букецік пралесак. Спыніліся на дарозе, аблазілі асветлены сонечнымі промнямі лес і нічога не знайшлі.

— Во, ёлуп, — раптам ляпнуў сябе далоняй па лбе

мой спадарожнік. — Сёння ж уранні перадавалі, што пралескі занеслі ў Чырвоную кнігу. — Ён раптам спахмурнеў: — Пэўна, хутка і нас, карэнных палешукоў, туды запішуць... Такія вось дзялы, такія вось паганыя перспектывы...

Так, перспектывы ў нас, на Брагіншчыне, невясёлыя...

«У некаторых сталоўках Гомеля выяўлена мяса ялавічыны, якое паступіла з Гомельскага мясакамбіната з перавышэннем кантрольных узроўняў па ўтрыманні радыяцэзію. У прыватным сектары рэгістравалася перавышэнне часова-дапушчальных узроўняў утрымання радыяцэзію ў малаку і малакапрадуктах.

Выяўлены непрыгодныя пробы: мяса ялавічыны — у Хойніках, рыбы — з ракі Прыпяць Мазырскага раёна, буракоў і бульбы — у вёсцы Ламачы Хойніцкага раёна; сухіх грыбоў — у Гомельскім, Калінкавіцкім, Кармянскім, Хойніцкім раёнах». (Паведамленне абласной санэпідэмстанцыі.)

А на Брагіншчыне цішыня. Можна падумаць, што сюды дзень і ноч, мінуючы іншыя пацярпелыя раёны, нясуцца магутныя рэфрыжэратары з чыстымі каларыйнымі прадуктамі, а на кожнай калгаснай ферме, хлебапрыёмным пункце, у кожным магазіне сядзяць у цнатліва-белых халатах пільныя кантралёры з самымі сучаснымі прыборамі, распрацаванымі нашымі вучонымі.

Мабыць, такой думкі прытрымліваюцца і ў высокіх рэспубліканскіх установах, бо тое, што здарылася з дэлегацыяй брагінцаў 13 лютага ў Мінску, нельга назваць выпадковасцю.

Калі прынялі Дзяржаўную праграму, якая была не падмацавана канкрэтнай базай — будаўніцтвам жылля, у сталіцу, што тая мітуслівая ўзрушаная чарада, у пошуку справядлівасці і міласэрнасці пацягнуліся прадстаўнікі жыхароў пацярпелых раёнаў, хоць па ідэі праграма павінна была падвесці доўгачаканую рысу пад амаль чатырохгадовай барацьбой палешукоў за права не на існаванне — само жыццё і будучыню.

Пасля ўсіх абяцанняў вырашыць праблему перасяленцаў, якія шчодра раздаваліся з перадвыбарных тры-

бун, каб займець мандат даверу, можна было і сапраўды паверыць, што нарэшце «цяжкавагавы чарнобыльскі цягнік» зрушыцца з месца. У гэта паверылі і жыхары гарадскога пасёлка, калі збіраліся на другую сустрэчу. Іх нават не насцярожыў той падазроны факт, што абмеркаванне патрабаванняў аб высяленні было прызначана менавіта на трынаццатае, нібы іншых дзён у календары не існуе. І хоць многія брагінцы пасля чарнобыльскай аварыі кінуліся ва ўлонне мясцовай царквы, тым не менш «чорнай лічбы» не спалохаліся: прыбылі ў сталіцу, як і дамовіліся... А там іх ніхто не чакаў. Паспешліва, за два дні да афіцыйнай даты выкліку, старшыня ўрадавай камісіі па ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі з'ехаў у Маскву, а ў Гомелі, па дзіўным супадзенні, у гэты час праходзіла сесія абласнога Савета, і ў ёй абавязаны былі прыняць удзел першы сакратар райкома партыі і старшыня райвыканкома...

Тым не менш паўнамоцныя прадстаўнікі Брагіна ўсімі праўдамі і няпраўдамі з дапамогай «нефармалаў» пераадолелі міліцэйскі кардон і прабіліся ў кабінет Старшыні Вярхоўнага Савета БССР. Тут не па любові, а пад націскам перадвыбарных акалічнасцей, было падпісана пагадненне аб прынцыпах эвакуацыі жыхароў гарадскога пасёлка і вызначаны асноўны пункт будаўніцтва жылля — Смаргонь, горад, які ў перспектыве павінен хутка развівацца ў сацыяльным і эканамічным плане.

Добра памятаю, як радаваліся гэтай навіне жыхары Брагіна. Пасля стольких гадоў пакут перад імі нібы адчыніліся дзверы агульнай камеры, у якой людзі пачыналі задыхацца ад пачуцця безвыходнасці і атручанага радыяцыяй і ведамаснай хлуснёй паветра. Усе з надзеяй чакалі пастановы ўрада, якая заканадаўча замацавала б дамоўленасці, падпісаныя за зачыненымі дзвярыма. Але бег час, прайшлі без асаблівых страт для апарату выбары, а афіцыйнай пастановы так і не было. Найбольш нецярплівыя брагінцы кінуліся ў няблізкі шлях — у Смаргонь. А там мясцовае кіраўніцтва толькі развяло рукамі: «Ды што вы, дарагія таварышы, будаваць жыллё мы будзем, але для Магілёўшчыны...»

Няма слоў: бяда упільнавала беларусаў агульная. У тым жа Краснаполлі або Слаўгарадзе людзі пакутуюць не менш за брагінцаў, але сутыкаць інтарэсы і надзеі няшчасных, ні ў чым не вінаватых людзей, рабіць з іх сапернікаў, прымушаць, як баявых пеўняў, змагацца за

права жыць у чыстай зоне — шлях, які можа прывесці «аблашчаных атамамі і адміністрацыйнай чэрствасцю людзей» да рэгіянальнага канфлікту. І калі абрабаваны Чарнобылем чалавек стане ворагам такому ж гаротніку-суайчынніку, брату па пакутах і крыві, з каго тады спытаць? І не таму, што ахвяры ашалелых атамаў не ведаюць канкрэтных прозвішчаў тых, хто ў свой час займаўся праблемамі Чарнобыля. Проста людзі, якія ўзначальвалі і ўзначальваюць шматлікія камісіі, мяняюцца як у калейдаскопе: толькі быццам бы дамовіліся з адным, як ужо трэба размаўляць з новым кіраўніком. А той, як вядома, за словы і абяцанні свайго папярэдніка не нясе юрыдычнай адказнасці. Вось так і круцяцца жыхары пацярпелых раёнаў, нібы тыя ручныя ваверкі ў коле, зачараваным, мабыць, самім д'яблам. А калі яны ўжо надта дапякуць нейкага высокага начальніка або надакучаць яму сваёй правінцыяльнай назойлівасцю, могуць пачуць такое, у што не адразу і паверыш...

Я доўга вагаўся, прыводзіць ці не змест гутаркі выхавацелькі брагінскага дзіцячага сада Вольгі Лук'янаўны Ярмак з былым намеснікам міністра аховы здароўя Бур'яком, але калі размова ідзе пра будучыню беларусаў, тут ужо не да дыпламатычных рэверансаў.

Менш за ўсё мне хочацца выставіць яго віноўнікам таго горкага становішча, у якім сёння апынуліся палешукі і іх дзеці, аднак за словамі гэтага адказнага работніка адчуваецца схаваная ад вачэй грамадскасці рэспублікі пазіцыя тых, яшчэ больш адказных кіраўнікоў, якія стаяць, ды і стаялі раней, за ягонай спіной.

На пытанне Вольгі Лук'янаўны, чаму так доўга не высяляюць жыхароў гарадскога пасёлка, дзе толькі па цэзію, не ўлічваючы астатніх радыеактыўных элементаў, амаль трыццаць кюры на квадратны кіламетр, Бур'як адказаў: «Вас калі-небудзь выселяць таму, што вы ненармальныя людзі. Жыхароў ахапіла радыяфобія... Але на ваша месца прыедуць іншыя і будуць там працаваць...»

Пра гэта Вольга Лук'янаўна расказвала нейкім нежывым, драўляным голасам, быццам па Бібліі паўтарала тэкст несправядлівага і жорсткага прысуду і сабе, і сваім маленькім безабаронным выхаванцам. А мяне не пакідала адчуванне, што я ўжо дзесьці чуў падобныя

словы. Але дзе і калі? Перагружаны чарнобыльскай інфармацыяй мозг, нібы спавіты чорным павуціннем, не прыйшоў на дапамогу. Ноччу ў сваім пакойчыку я пераварушыў стос дакументаў і кніг, якія былі звязаны з чарнобыльскімі падзеямі, і, нарэшце, знайшоў тое, што шукаў.

Прэс-канферэнцыя для журналістаў у Савеце Міністраў Украінскай ССР амаль адразу пасля аварыі. На пытанні адказвае віцэ-прэзідэнт Акадэміі медыцынскіх навук Л. А. Ільін. У яго пацікавіліся, калі людзі зноў змогуць вярнуцца ў свае хаты?

«Пасля ўсіх работ па ліквідацыі вынікаў аварыі можна ставіць гэтае пытанне, — адказаў акадэмік. — Неабходна правесці дэзактывацыю глебы, дамоў, кватэр і гэтак далей... Я магу ўдакладніць, што ўсе ўзроўні радыяцыі, якія фіксаваліся ў гарадах, па ўздзеянні на чалавека зусім не шкодныя. Кожны з нас пры рэнтгенаскапіі зубоў атрымлівае непараўнальна большую дозу...» [1]

Прайшло чатыры гады, а рэха «акадэмічнага голасу», хоць бязлітасныя факты сведчаць пра тое, што ў пацярпелых раёнах кожны дзень ахвярамі невядомых раней хвароб становіцца ўсё больш людзей, працягвае гучаць у вушах медыкаў. І не толькі гучаць, але і падштурхоўваць іх да ўсё новых бесчалавечных рашэнняў, з якімі амаль немагчыма змагацца, бо яны спускаюцца зверху ўніз па нябачных жыхарам каналах... Нават абгрунтаваныя разумныя пастановы тарпедуюцца «сістэмай адміністрацыйнага братэрства», як некалі ў акіяне падводныя лодкі наўмысна пускалі на дно безабаронныя і непаваротлівыя транспарты з мірнымі жыхарамі і паранненымі...

Здаецца, калі прынята рашэнне аб перасяленні жыхароў з таго або іншага, забруджанага радыенуклідамі, населенага пункта, аб тым, каб будаваць там нейкія аб'екты, не павінна весціся і гаворкі. На практыцы атрымліваецца інакш. Існуе, напрыклад, пастанова Вярхоўнага Савета БССР і рашэнне Гомельскага абласнога Савета народных дэпутатаў пра тое, што на тэрыторыях,

---

[1] «Чернобыль: дни испытаний». «Юридическая литература», М., 1988.

дзе шчыльнасць забруджанасці пятнаццаць і больш кюры на квадратны кіламетр, будаўніцтва забараняецца. І амаль адразу пасля гэтага рашэння на свет божы вылузаліся, нібы чорныя груганяты з курынага яйца, два пісьмы з ведамстваў, падпісаныя намеснікам міністра аховы здароўя рэспублікі Філонавым і галоўным урачом Гомельскай абласной санэпідэмстанцыі Ключановічам, дзе планка бяспечнага пражывання, а значыцца і будаўніцтва на атручанай зямлі, узнімаецца да сарака кюры.

Не думаю, што мае асаблівае значэнне той факт, хто менавіта падпісаў гэтыя паперы. Але па сваёй бяздушнасці іх можна параўнаць з той разбуральнай сілай, якая разбэшчвае і азлабляе людзей, — «ценявой эканомікай», што, нібы той спрут, аблытала краіну. Дакументы, ухваленыя нашымі медыцынскімі свяцiламі, — яскрава сведчаць і пра ценявую медыцынскую псіхалогію: інакш іх з'яўленне растлумачыць нельга. Тыя, хто даў «дабро» на антыгуманную акцыю, па сутнасці перакрэсліваюць надзеі і мары людзей на лепшую долю. Але зноў-такі іх прозвішчы ўсё яшчэ тайна...

А між тым радыеактыўныя рэчывы, якія разам ці паасобку вальготна разлегліся на палескай зямлі, нават не пасоўваючыся ў лянотнай дрымоце і адчуваючы сваю сілу, кожны дзень напамінаюць пра небяспечнае суседства. Праверка на радыеактыўнасць нават недасканалымі прыборамі дазіметрычнага кантролю пацвердзіла, што тыя «чыстыя» сельгасугоддзі, з якіх яшчэ толькі ўчора знімалі неблагі ўраджай, нарадзілі атручанае зерне. А яны, гэтыя даброты зямлі з адмецінай «бяспечна», пайшлі ў прадукты харчавання і, вядома, на корм жывёле. Ну, а тая накарміла нас мясам і малаком...

Восенню 1989 года мяне ўразілі плантацыі кукурузы ў калгасе імя Фрунзе. Старыя палешукі называюць пачаткі «кіяхамі». Дык вось гэтыя кіяхі, поўныя, з залацістым буйным зернем, не маглі не радаваць вока. Я паласаваўся адным зярняткам: адразу ў роце стала непрыемна і суха, нібы я незнарок раскусіў ампулу з горкім лякарствам.

Калгасны камбайнер, малады яшчэ хлопец, у пыльных ботах з шырокімі тупымі насамі і ў зімовай шапцы

з апушчаным на каўнер ватоўкі вухам, убачыўшы, як перакрывіўся мой твар, засмяяўся:

— Кукуруза гатунку «Палеская свінцовая». Вытрымліваем яе на корані, каб зерне набрала самыя высокія кандыцыі для пасадкі на наступны год...

Потым неяк засмучана правёў далоняй па перапэцканым, як у таго качагара, твары і нечакана паскардзіўся:

— Вось бычкоў нашых на мясакамбінат не прынялі. Сказалі, што колькі месяцаў трэба вытрымліваць на чыстых камбікармах. Дык навошта мы тут, як дурныя куры, у радыеактыўным пыле качаемся?..

Наўрад ці ўспомніў бы я пра таго маладога механізатара, каб не пазнаёміўся неўзабаве з дакументам для службовага карыстання, які, з аднаго боку, выклікаў пачуццё аптымізму, што чарнобыльская бяда прымушае прымаць хоць нейкія рашэнні, а з другога — засмуціў. Як жа так здарылася, што маладога хлопца, у якога мо ёсць, а можа, яшчэ будуць дзеці, ведаючы, што поле, на якім ён араў і збіраў ураджай, было лежбішчам радыенуклідаў, прымушалі на ім працаваць, хоць у гэтым годзе са севазвароту калгаса імя Фрунзе толькі па цэзію-137 выключаюць 867 гектараў з 2342, якія знаходзяцца на балансе гаспадаркі? А куды ў такім разе дзенецца тое радыеактыўнае зерне, якое ўбіраў малады камбайнер? Можаце не сумнявацца, яго засеюць.

Яшчэ трывожней (калі наогул што-небудзь можа быць больш трывожным, чым тое, што робіцца на Палессі) становішча ў калгасе «Шлях да камунізму», дзе па цэзію «арыштаваны» 464, а па стронцыю — 643 гектары. А гэта ж тая самая гаспадарка, жыхароў якой Ягор Кузьміч Лігачоў, калі наведваў Брагіншчыну, узрадаваў паведамленнем, што па распараджэнні нашага самага «гуманнага ведамства акадэміка Чазава» адселеная вёска Сабалі атрымала «другое жыццё». Як вам падабаецца такі гуманізм і рашучыя захады па ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі?

Так што парушэнні ў правядзенні сельскагаспадарчых работ, арганізацыі радыяцыйнага кантролю — гэта не што іншае, як неафіцыйны «дазвол» на медыцынскія эксперыменты над чалавекам, за якія пакуль што ніхто не панёс пакарання, наадварот, той жа акадэмік Ільін у

васемдзесят сёмым стаў Героем Сацыялістычнай Працы...

З «дапамогай» і «з падачы» самых высокіх дзяржаўных устаноў і ведамстваў палеская зямля сёння дужа нагадвае пашытую жабраком з чорных і жоўтых кавалкаў дзіравую коўдру. З усіх гаспадарак, апошніх з магікан, што працягваюць функцыяніраваць у раёне, у 1990 годзе выключана з карыстання больш як **дванаццаць тысяч** (разбіўка мая. — *А. К.)* гектараў зямлі.

Ну, а тыя палі, на якіх сёння гудуць трактары, яны што, прыгодныя для сельгасработ? Адказ не патрабуе акадэмічных ведаў: адназначна — не! Ды і тыя, былыя пасяўныя, плошчы не накрыеш, як цяпліцу, плёнкай. Вецер, гэты яшчэ адзін бязлітасны вораг людзей і палескай зямлі, бесперапынна раскідвае чорнымі жменямі радыеактыўны пыл. А той жа калгас «Шлях да камунізму» знаходзіцца ў мяжы гарадскога пасёлка, вуліцы якога некалі заасфальтавалі, каб зменшыць уздзеянне на жыхароў радыяцыі...

Нам увесь час даказваюць, і не без поспеху, што на ліквідацыю вынікаў чарнобыльскай аварыі не хапае сродкаў. Палешукі з разуменнем ставяцца да складаных эканамічных праблем, у якіх апынулася наша краіна. Але яны не могуць дацяміць, адкуль бяруцца грошы і будаўнічыя матэрыялы на ўзвядзенне аб'ектаў на зямлі, з якой абяцаюць выселіць жыхароў?

Можна пагадзіцца яшчэ з тым, што пакуль у тым жа Брагіне працуюць і жывуць людзі, ім патрэбна бальніца (непазбежныя выдаткі той заганнай палітыкі замоўчвання сапраўдных памераў трагедыі) або станцыя абезжалезвання вады для піцця. Аднак як растлумачыць ім з'яўленне на канцы чацвёртага паслячарнобыльскага года пераліку вёсак, у якіх плануецца пачаць газіфікацыю і рэвакуацыю? Ды і ніхто і не знаёміць простых палешукоў з гэтым пералікам. Начальства мае рацыю, бо прачытай каторы, што, напрыклад, вёску Багушы, якую закапалі пасля аварыі, збіраюцца адбудаваць зноўку, у яго ад непаразумення і жаху, пэўна, заварушацца на галаве валасы...

Я размаўляў на гэтую тэму з былым партызанам Ахрэмам Вікенцьевічам Зыбенкам. Ён спачатку не паверыў мне, а потым, задумаўшыся, сказаў:

— Во, чорт, то ж звар'яцелі нашы начальнікі. Далібог, перакруціла нячыстая іхні розум. Памятаю, вытурылі мы нелюдзяў ад нашых хат. Вярнуліся землякі на свае спаленыя селішчы. Грамадой адбудаваліся, але яшчэ не год і не два на сваёй зямельцы на мінах чужынцаў падрываліся. А цяпер наша вотчына, нібы тое міннае поле: куды ні ступі — усюль міны з атручаным паветрам... Не магу зразумець, якому нехрысцю спатрэбілася калечыць людзей?..

І я не магу, бо ўсе вёскі (а іх аж чатырнаццаць) яшчэ ў восемдзесят шостым сталі «нябожчыкамі» і адтуль даўно эвакуіраваны людзі. Дык, можа, нашы вучоныя за гэты час знайшлі лекі, каб вылечыць зямлю? Вядома, не. Нават супрацоўнікі радыеэкалагічнага запаведніка ўжо два гады толькі на паперы (хоць і атрымліваюць двайную зарплату) лічацца навуковымі работнікамі, бо адмаўляюцца па акту прыняць ад лясніцтва пад сваю апеку тыя трынаццаць тысяч гектараў лесу, што былі выдзелены ім для даследчых работ.

Чаму адмовіліся? Па-першае, ім выгадна, што іх «выпрабавальны палігон» ахоўваюць нешматлікія гаротныя леснікі, якія як могуць змагаюцца з пажарамі,, праводзяць там іншыя прафілактычныя работы, а па-другое, як сцвярджае дырэктар запаведніка, ім не выдзелена дастаткова сродкаў для набыцця неабходнай тэхнікі і гэтак далей. Ну, чым не бліскучы ўзор «адміністрацыйнай бухгалтэрыі»: на высокую заработную плату грошы ёсць, а на тэхніку — не. Вось і баліць галава ў галоўнага ляснічага Камарынскага лясгаса, як «адкамандзіраваць» без скандалу навуковых работнікаў, каб не раздражнялі ў бядзе «радыеактыўных гусакоў». А тыя, у сваю чаргу, не вельмі спяшаюцца вяртацца ў акадэмічныя пенаты: з аднаго боку Хойнікі, дзе яны ўладкаваліся, не Брагін, а з другога — не хочацца губляць шанц займець атэстацыю бясстрашных змагароў з вынікамі чарнобыльскай аварыі, а заадно мо і сабраць грошай на японскую відэаапаратуру.

А там, за калючым дротам, сапраўды страшна. Там можна згубіць не толькі мыльны аўтарытэт, але і здароўе... Нездарма ж намеснік міністра аховы здароўя БССР Філонаў, калі на сустрэчы з жыхарамі пацярпелых раёнаў яго спыталі, ці быў ён у «зоне жорсткага кантролю», з выглядам сярэдневяковага рыцара адказаў: «А як жа, быў у Камарыне...»

Намеснік міністра, пэўна, не зразумеў, што для брагінцаў той Камарын (хай не пакрыўдзяцца на мяне шматпакутныя жыхары) нешта накшталт Ялты: побач Дняпро, а шчыльнасць забруджанасці пяць кюры. Адным словам, «курорт» у забруджанай зоне...

Трохі прасвятліў пазіцыю вучонага люду ляснік Савіцкага лясніцтва Рыгор Іванавіч Набок. Ён мясцовы абарыген, верны слуга і абаронца зямлі, што яго ўскарміла.

— Вось на ёй, згвалтаванай, мне і паміраць, — нібы гаворка вядзецца пра вельмі далёкі час, які не міне кожнага з нас, уздыхнуў ён. — І труну сабе загадзя згаблюю з радыеактыўных дошак. Многа не пражывеш, калі ў тым жа Пучынскім лесе (нядаўна замяралі ваенныя) 500 мілірэнтген у гадзіну. А маладыя лес мы садзім. Глядзіш, і знойдуць новыя пасадкі нейкія патаемныя сілы, каб перамагчы апрамяненне. Як жа без веры жыць на зямлі?

Так, без веры жыць нельга. Тым больш што амаль ніводны просты калгаснік не ведае, што перыяд поўнага распаду толькі па цэзію-137 тры стагоддзі, час, які прыблізна аддзяляе пятроўскую эпоху ад нашай перабудовы. Таму і працуюць людзі на Палессі мо яшчэ больш упарта, чым некаторыя на чыстай зямлі. А тыя «бічы», якіх у сваіх кароткатэрміновых інспекцыйных паездках у пацярпелыя райцэнтры «напалохаўся» публіцыст Васіль Якавенка, не робяць надвор'я: яны, як гавораць, і ў багатай Амерыцы не фермеры...[1]

У люльцы, смешна пакрывіўшы белы таўсташчокі тварык, бесклапотна пасопвае маленькі палешучок. Былы воін-«афганец» Сяргей Даніленка асцярожна нахіляецца над ім, каб паправіць коўдру. Павярнуўшыся да мяне, прыкладвае палец да вуснаў, над якімі задзірыста тырчаць «афганскія вусікі», — памаўчы.

Я гляджу на гэтую сямейную ідылію, на маладога бацьку і ягонага чатырохмесячнага першынца Алёшку, на чыста прыбраны пакой, чую, як на кухні гаспадарыць

---

[1] Васіль Якавенка. «Земля тревоги нашей». «Сельская газета» ад 17 лютага 1990 года.

жонка Сяргея, і мне не верыцца, што будучае гэтай шчаслівай сям'і ад яе не залежыць. А гэты спакой і цішыня — падманлівыя і небяспечныя, як і ўсё навокал.

Сяргей, які толькі што паказваў мне альбом з фотаздымкамі сваіх загінуўшых сяброў, заўтра сядзе за руль трактара, што стаіць у двары хаты, якую толькі нядаўна для маладажонаў паставіў калгас, і за кабінай «Беларуса» пацягнецца вясельная шэрая фата Радыяцыі...

Я неяк няёмка паварочваюся: пад маімі нагамі агідна рыпяць маснічыны, і Сяргей уздрыгвае, нібы пачуў над самым вухам нечаканы стрэл.

Выходзім на ганак. Закурваем.

— Не боязна? — ківаючы галавой у бок поля, па якім, ахутаны сіняватым туманам, паўзе магутны «Кіравец», пытаю я.

— Страшнавата, — адгукаецца Сяргей. — Жудасней, чым там... Сваім уласным жыццём распараджацца лягчэй. А ў мяне Лёшка. Ён у чым перад людзьмі вінаваты? Але што рабіць? Тут я нарадзіўся, і няма куды мне ехаць. Скажы, ці існуе на карце такое месца, дзе чакаюць мяне?..

Няпраўда, ледзь не вырвалася ў мяне. Але не магу хлусіць: хата, якая прыняла б пад свой гасцінны чысты дах сына былога салдата і аднаго з лепшых механізатараў калгаса «Пераможнік», пакуль што не пабудавана. Ды і няма цвёрдай упэўненасці, што яе калі-небудзь паставяць... Гэта мы абодва добра разумеем. Таму і маўчым...

Такіх чароўных таямніча-самотных надвячоркаў, як тут, на Палессі, я ніколі не бачыў: ні на Поўначы, ні на Далёкім Усходзе. Нават аксамітныя камчацкія сопкі, што разам з дабрадушным малінавым сонцам быццам купаліся ў бледна-зялёнай вадзе заліва Трох Блізнят, так і не сагравалі, і не цешылі душу. Тыя краявіды, хоць і вабілі да сябе таямнічасцю і хараством, не былі зямлёй майго бацькі і маці, маёй бабулі Праскоўі, якая, пераехаўшы да нас, унукаў, з прывольных, любых сэрцу Пушкароў у галасістую сталіцу, ніяк не магла прывыкнуць да стрыжаных «пад вожыкаў» гарадскіх газонаў... Але маю сарамлівую і шчодрую сэрцам бабулю — як хочацца ў гэта верыць — мы з малодшым братам неўга-

монным Косцікам усё ж такі хоць чымсьці сагравалі і падсалоджвалі яе гарадское жыццё...

Івану Віктаравічу Гардзіенку і ягонай жонцы Кацярыне Сяргееўне і на сваёй роднай зямельцы, у вёсцы Дублін, што ў якіх пяці кіламетрах ад райцэнтра, адзінока і няўтульна. Гаспадыня, як нечаканаму госцю, вынесла мне проста на двор старое крэсла, сама ж з мужам сваім села на шырокую лаўку каля хлява. Мне сорамна і няёмка сядзець у крэсле, нібы таму падзішаху, але людзі прывячаюць мяне ад усяго сэрца, як падарожніка, які завярнуў на адзінокі агеньчык папрасіць шклянку вады.

Проста ў вочы сякуць ружовыя сонечныя промні, лашчыць твар цёплы вецярок, і мне пастулова здаецца, што я з гэтымі старымі і сардэчнымі палешукамі знаёмы даўно. А тут яшчэ аднекуль весела і спрытна выбегла казляня. Убачыла незнаёмага чалавека, спынілася на сваіх тонкіх ножках, потым даверліва паклала мне на калені прадаўгаватую хітрую морду.

— Марусенька наша, прыгажуня родненькая, — замілавана ўсплёсквае рукамі гаспадыня.

— А ў нас яшчэ і карова ёсць, — хваліцца гаспадар.

Я адчуваю, як кроў прылівае да твару: менавіта з-за гэтай самай каровы я і завітаў да Гардзіенкаў.

Медыкі ў адзін голас сцвярджаюць, што малако ад уласных кароў найбольш небяспечнае для чалавека. І мне хацелася даведацца, ці здаюць гаспадары сваё малако дзяржаве?

— У нас раней, — раптам падхоплівае гаспадаровы словы Кацярына Сяргееўна, — амаль у кожным двары былі адна-дзве каровы. Мы дык нават у тым годзе здалі амаль тону малака. А потым калгас наш забраў жывёлу. Пагаравалі мы са старым, пакручыніліся, а потым узялі старшыню ў перакрут: няможна нам без каровы...

— А як жа? — устаўляе слова гаспадар. — Што ж гэта за хрэновіна, каб дзяржава карміла селяніна? Поўнае зацямненне. Усё жыццё, колькі помню сябе, было наадварот: мы кармілі дзяржаву...

Кацярына Сяргееўна счакала, пакуль закончыць сваю думку яе муж, і зноў загаварыла:

— Цяпер усяго дзве кароўкі на ўсю вёску. Дзякуй богу, у нас сваё малако ёсць, — не вытрымала, каб не пахваліцца, яна. — А то равуць, як някормленыя бычкі радыяцыя, радыяцыя... А што, наша калгасная жывёла

чыстую траву скубе або за ёй лепшы догляд, чым дома?

— Ды пра што гаварыць, — узрушана сячэ далоняй паветра Іван Віктаравіч. — Селянін, хоць і не разумней за таго вучонага, што паперкі піша, але на нашай зямлі пасля чарнобыльскай трасцы ўсё агульнае, — што сваё, што калгаснае, — атрута, яна і ёсць атрута... Я ж не трымаюся за хлеў свой, але, калі ўжо эвакуіравацца — во, халера, не думаў, што калі-небудзь гэтае слова пачую, — дык усёй грамадой, разам з суседзямі... А калі нашы начальнікі вобчаству не могуць зрабіць ласку, дык усё роўна аб'ядаць краіну не маем права...

Чэсна прызнаюся, мабыць, упершыню ў сваім жыцці я нібы знямеў. Ды і што можна сказаць Чалавеку, які ў горы думае пра тое, каб не ўзяць у сваёй дзяржавы лішні кавалак хлеба або шклянку малака?..

Вось я і сустрэў на атручанай зямлі Палесся першую вясну. Для тых палешукоў, хто перажыў полымя Чарнобыля, яна ўжо пятая. І кожную вясну, як жорсткі напамінак пра трагедыю, у цёплыя сакавіцкія дні над сухой патрэсканай зямлёй сцелецца дым, а ўгару, як стараючыся лізнуць шурпатым языком блакіт неба, узнімаецца полымя. Паляць мінулагоднюю траву, смецце, нібы надаюць дыханне і сілу сонным атамам.

У коле пажару вёска Людвінова. Ярка палаюць копы сена, дзе-нідзе ўзяліся агнём маладыя дрэўцы і кустарнік, тлее атрутай тарфянік... Так і вярзецца, што, як у даўніну, абкружылі вёску татара-мангольскія орды і кідаюць на шэрыя стрэхі хат, на жыхароў вогненныя стрэлы. Але то не чужынцы: гэта войска, якое за чатыры гады «навербавалі» знакамітыя палкаводцы — нашы вучоныя, медыкі, кіраўнікі розных высокіх рангаў. Людзі як могуць ратуюцца ад гэтай радыяцыйнай навалы, якая паўтараецца кожную вясну. Але куды ад яе ўцячэш ці схаваешся, калі трэба карміць і дзяцей, і сябе? Вось і сноўдаюць, нібы тыя маленькія працавітыя мурашы, у разводдзях дыму і смуроду трактары з культыватарамі. І там, у полі, глытаючы пыл, дзесьці працуе мой новы знаёмец Мікалай Касьян...

Калі б мне прапанавалі намаляваць чалавека-баравічка, я напісаў бы яго з Мікалая Касьяна. Невысокі,

крэпенькі, з чорнымі выразнымі вачыма і смаляной какой валасоў, ён пазірае на мяне адкрыта і задзірыста: ну, што? — раз знайшоў, — вось я: бяры мяне, калі хочаш, будзем размаўляць на любую тэму.

І мы размаўляем з трактарыстам калгаса імя Тэльмана доўга і няспешна. Бяда, якой ён дзеліцца, агульнае гора ўсіх палешукоў, над якімі раскрыўся «чарнобыльскі парасон». Але гаворка наша ўсё больш на сялянскія тэмы. Мікалай Касьян узначальвае механізаванае звяно. Мяняліся ў ім механізатары (у які год больш, у які менш), але калектыў існаваў і працаваў.

— Усё, — неяк напружыўшыся, гаворыць Мікалай, — больш звяна Касьяна не існуе. Хопіць з нас рабіць падвопытных трусоў...

У гэты момант адчыняюцца дзверы і ў залу, дзе мы сядзім, улятае, бы тое птушаня ў расчыненую фортку, гарэзлівы хлапчук.

— Трое ў мяне мальцоў, — цяплеюць вочы Касьяна. — Ты яшчэ пагуляй трошкі, сынку, а я тут з дзядзькам тое-сёе абгавару...

Адчуваецца, што бацькава слова для сына закон: ён пакрыўджана шморгае носам, неяк падазрона, спадылба глядзіць на мяне, але дзверы зачыняе за сабой акуратна і ціхенька.

— Пераходны ўзрост, — задумліва ўсміхаецца Касьян, — а ўжо характар... Ды і мне кажа жонка, бог лішку ўпартасці даў. Ну, падумай сам: які нармальны чалавек палезе араць тую адселеную зямлю? Псіхаваны нейкі, кажуць. А то і вясковы дурань. А я палез. Вядома, не сам. Мы са сваім звяном сеем і ўбіраем. Атрымалася, што ў восемдзесят восьмым нашаму звяну не хапіла нейкіх шасцідзесяці гектараў да тысячы пад зернавыя. Дробязь, вядома, для цябе, гарадскога чалавека, а для механізатара — справа гонару. Тышча яна, пэўна, і ў Афрыцы тышча.

Канешне, не ад нас тая рызыкоўная ідэя зыходзіла. Старшыня наш, як мімаходзь, намякнуў: вунь побач клін адселенай зямлі. Падумалі мы з хлопцамі, паварушылі мазгамі і вырашылі: што наша калгасная, што тая кінутая сабалёўская — адна халера.

Пачаў я ўзнімаць тую зямлю. Пакарэжыўся на ёй, не давядзі бог нават ворагу. Ссохлася яна, як спрасавалася, парасла багата пустазеллем. Але я адолеў яе, непадатлівую. Яна і «аддзякавала» ў жніўні: усяго па

нейкіх дзесяць—дванаццаць цэнтнераў з гектара сабралі. Слёзы таго ката, жартавалі хлопцы, што вясной пад носам не ўпільнаваў цнатлівую кошку...

Мікалай нечакана ўстае з крэсла, нібы ў яго перасохла ў горле, зачэрпвае ў вядры вады, потым працягвае:

— Тады і найшло на мяне прасвятленне: нельга трывожыць хворую чарнобыльскую зямлю — ні ў зоне, ні на якой мы сёння жывём і працуем. Мы што? Наша жыццё вырашыў Чарнобыль. А вось карміць людзей атрутай, якіх яшчэ не зачапіла гора, няможна. Не па-людску гэта... Таму і збіраюся з'ехаць адсюль...

— Куды? — пытаюся я, бо ўжо ведаю, што Смаргонь, дзе для брагінцаў абяцалі пабудаваць жыллё, і іншыя населеныя пункты не гатовыя прыняць перасяленцаў, ды і прызначаны яны цяпер жыхарам з іншых пацярпелых раёнаў.

— Свет не без добрых людзей, — неяк няўпэўнена паціскае плячыма Касьян. — Няўжо нікому не патрэбны механізатары? Толькі, калі будзеш пісаць пра мяне, — нечакана жорстка гаворыць ён, — запомні: гэта не я здрадзіў роднаму куту і аднавяскоўцам, — мяне пагнала ў пошукі чужога кута і ад сваіх людзей чэрствасць тых, хто сядзіць над намі. Чатыры гады — не чатыры дні, паперкамі і абяцаннямі сыты не будзеш, а ў мяне дзеці...

Пасля таго як мы развіталіся з Касьянам, я яшчэ доўга стаяў на вуліцы і глядзеў на яго вабную хату. Неяк не верылася, што неўзабаве яна асірацее, заўчасна састарыцца і памрэ, як тое селішча каля дома, дзе я кватарую. Але так будзе: Касьян з кагорты тых людзей, якія, заціскаючы рукой на грудзях рану, каб не бачылі крыві свае і чужыя, пойдзе ў няблізкі свет, каб толькі ўратаваць сваіх дзяцей...[1]

Свет не без добрых людзей. Мы так прывыклі да гэтых слоў і нават не адчуваем, што ў недалёкай перспектыве яны могуць стаць выключэннем, а не правілам, той высновай чалавечай маралі, на якой мы выхоўваліся. Бо нават ухваленая дзяржпраграма па-ранейшаму ня-

---

[1] У 1990 годзе па стронцыю са севазвароту калгаса імя Тэльмана выключаецца 140 гектараў зямлі.

спешна рыпіць, нібы новы воз з «нязмазанымі коламі», трасецца на ямах, якія, ці не наўмысна, выкапваюць на шляху розныя ведамствы і ўстановы. Часам яна заяе пыняецца, каб замяніць «кола», і зноў патроху рухаецца невядома куды. Так помсцяць нацыі нерашучасць і пастаяннае зырканне па баках і на «высокую столь»: ці не абрушыцца яна на галаву нашаму кіраўніцтву, калі раптам яно прыме нейкія неардынарныя, экстранныя меры без дазволу Масквы.

Мы і самі вінаватыя ў тым катастрафічным становішчы, у якім апынуліся многія паўднёвыя раёны рэспублікі. Практыка «прасоўвання» наверх па службовай лесвіцы людзей, якія пасля аварыі хлусілі і супакойвалі краіну, а найбольш нашых замежных суседзяў, якая ўкаранілася ў прававую аснову дзяржавы не сёння і не ўчора, цяпер, высветленая чарнобыльскім зрывам, выглядае надта ўжо адыёзнай канструкцыяй бюракратыі, якая патрабуе капітальнага рамонту.

Хай не крыўдуе на мяне былы намеснік старшыні Гомельскага аблвыканкома Тамара Фёдараўна Крутаўцова за тое, што я вымушаны ёй напомніць адну са старонак «чорнай кнігі» паслячарнобыльскай трагедыі, якіх ужо шмат запоўнена скалечанымі чалавечымі лёсамі і з якой многія былыя кіраўнікі пацярпелых раёнаў сёння хацелі б вырваць некаторыя старонкі або зноўку перапісаць свае заявы і выказванні.

На прэс-канферэнцыі пасля страшэннай аварыі чацвёртага блока Тамару Фёдараўну спыталі: «Ці прымалі ўдзел у першамайскай дэманстрацыі дзеці?»

Адказ быў безапеляцыйны: «Не, не прымалі...» Гэтай заявай яна, нібы шчытом, прыкрыла хоць на нейкі час кіраўнікоў высокага рангу. І не дзіўна, што нечакана для палешукоў узнеслася аж у міністэрскае крэсла. Але мінулае не выпарылася з памяці жыхароў пацярпелых раёнаў: амаль у кожнай школе настаўнікі нядобрым словам успаміналі тую заяву.

Ды што папракаць работніка абласнога маштабу, калі сам Старшыня Дзяржаграпрома БССР Ю. М. Хусаінаў запэўніў, «што ў Хойніках маслазавод закрыты і не працуе...». А гэты завод і сёння спраўна выконвае «напружаныя вытворчыя планы», як, дарэчы, і ягоны брагінскі сваяк...

Людзі, што перажылі-перапакутавалі дваццаць шостага красавіка, прывядуць вам (пераважна работнікі

культурных і асветных устаноў, мясцовая інтэлігенцыя) сотні такіх безадказных заяў, бо для іх Чарнобыль не нейкая абстрактная з'ява, а несціхаючы боль сэрца.

Няцяжка ўявіць сабе, як жыхары пацярпелых раёнаў успрынялі паведамленне ў друку пра турыстычны рэйс на цеплаходзе «Канстанцін Сіманаў», у які пад выглядам ахвяр Чарнобыля адправіліся кіруючыя работнікі, іх сваякі, жонкі і дзеці, усе тыя, хто меў магчымасць адрэзаць сабе кавалак ад «чарнобыльскага пірага».

Пры ўсёй павазе і пачуцці ўдзячнасці да аўтараў артыкула «Ты — мне, я — табе» цяжка згадзіцца са сцвярджэннем, што арганізатары ваяжу «вырашылі спекульнуць на чарнобыльскай тэме» [1]. Не, не на чарнобыльскай тэме спекулявалі гэтыя «падарожнікі», а на скалечаным лёсе людзей, якіх ахутаў ядзерны туман, на будучыні іх дзяцей, на разбураных сямейных гнёздах, нарэшце, на векавечным пачуцці міласэрнасці. І гэта яшчэ адна з неверагодных па сваёй чэрствасці і эгаізме старонак чарнобыльскай кнігі.

Амаль кожны дзень, сутыкаючыся з абыякавасцю да іх жыцця і будучыні, палешукі ўсё менш і менш схільныя верыць шматлікім абяцанням і пастановам, бо адчуваюць вакол сябе нейкую незразумелую ім «паперную валтузню», якая не дае пакуль што канкрэтных вынікаў. Яны не разумеюць, чаму іх мясцовыя кіраўнікі і дэлегацыі жыхароў лётаюць па рэспубліцы ў пошуку жылля для перасяленцаў, імчацца ў сталіцу, у абласныя цэнтры, як апошнія жабракі?

Нашто ўжо, здаецца, вытрыманы і карэктны намеснік старшыні Брагінскага райвыканкома Віктар Міхайлавіч Буйневіч, але і той у сярэдзіне сакавіка на нарадзе ў Віцебскім аблвыканкоме, дзе абмяркоўвалася пытанне аб будаўніцтве ў вобласці жылля для раёна, ускіпеў бы той самавар: «Вы што, хочаце прымусіць жыхароў зоны жорсткага кантролю заваёўваць для сваіх дзяцей чыстую тэрыторыю? Або каб мы па-ранейшаму кармілі нуклідамі свой народ?»

Яго можна зразумець, бо як пастаўляла Брагіншчына да аварыі больш дваццаці тысяч тон малака і больш дзесяці тысяч тон мяса, так і пастаўляе сёння.

Не трэба, думаю, тлумачыць, што гэта за чыстыя

---

[1] Штотыднёвік «Праца», № 7 ад 15 лютага 1990 г.

прадукты, хоць у самым праўдзівым нашым друкаваным органе «Аргументы и факты» супрацоўнік Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута радыялогіі сельскай гаспадаркі спрабуе даказаць, што мяса з пацярпелых раёнаў пастурае чыстае. Галоўны доказ — жывёлу перад здачай на мяса дзяржаве вытрымліваюць на чыстых кармах. «Значыцца, і нам, хворым, — жартуюць па звычцы брагінцы, — дастаткова два месяцы паесці чыстыя камбікармы, і можна стаць, як нованароджаныя... Але дзе напасешся на нас тых чыстых кармоў, калі іх жывёле не хапае?..»

Вось такі рэзананс, бо кожнаму палешуку, што жыве на зямлі Чарнобыля і сваімі рукамі выкормлівае жывёліну, гэтая публікацыя здаецца яшчэ адной няўдалай спробай, накіраванай на тое, каб зноў адцягнуць вырашэнне чарнобыльскай праблемы і супакоіць людзей. І гэта на Брагіншчыне, дзе самая высокая шчыльнасць забруджанасці радыенуклідамі і самы высокі працэнт дзіцячай смяротнасці!

Няма сёння ніякага сакрэту, што дапушчальныя медыцынскія нормы забруджанасці на тое ж малако ці мяса паступова павялічваліся. А як, скажыце, думаць інакш, калі толькі 22 сакавіка жыхары гарадскога пасёлка даведаліся пра тое, што па даных Белгідрамета максімальная забруджанасць па цэзію ў Брагіне складае шэсцьдзесят сем кюры на квадратны кіламетр?

Каб пацвердзіць абгрунтаванасць падазрэнняў палешукоў, прывяду яшчэ адзін факт, які, пэўна, не ведае шырокая грамадскасць нашай рэспублікі, пра тое, што здарылася ў першыя дні пасля катастрофы ў Чарнобылі на Кіеўшчыне, хоць, у адрозненне ад беларусаў, там адразу прынялі больш аператыўныя і рашучыя меры па выратаванні людзей. (Ва ўсякім разе, не ў прыклад нашым кіраўнікам не «раілі ўбіраць ураджай з тэрыторыі, з якой былі адселены жыхары.)

Вось сведчанне дацэнта Вышэйшай юрыдычнай школы МУС СССР Барыса Куркіна: «Калі ў крытычныя дні на пачатку мая 1986 года ў с т о р а з о ў (разбіўка мая. — *А. К.*) павялічыўся радыяцыйны фон у вадзе Кіеўскага мора, Міністэрства аховы здароўя і воднай гаспадаркі, Дзяржаўны камітэт гідраметэаралогіі СССР адразу ж павысілі ў сто разоў максімальна дапушчаль-

ныя нормы канцэнтрацыі і заявілі, што ўсё адпавядае нормам і падстаў для хвалявання няма...»[1]

На жаль, і гэты факт абнародаваны толькі цяпер, бо лячыць застарэлую хваробу заўсёды цяжэй, чым выявіўшы яе адразу. Я маю на ўвазе захворванне на наўмысную дэзінфармацыю насельніцтва.

Мы ўшчыльную падышлі да праблемы, якая ў рэспубліцы па сутнасці лічыцца амаль вырашанай: перасяленне тых жыхароў, якія першымі прынялі на сябе жорсткі і бязлітасны па сваёй апрамяняльнай сіле ўдар стыхіі, падрыхтаванай намаганнямі нашых вучоных-ядзершчыкаў і падтрыманай Міністэрствам аховы здароўя СССР. Чарнобыль цесна сплёў інтарэсы гэтых двух ведамстваў, на прадстаўнікоў якіх мы, грэшныя, яшчэ нядаўна глядзелі як на святых у абліччы людзей. Цяпер пазалота на фасадах іхніх палацаў навукі аблезла, а самі вучоныя з гэткіх магутных мэтраў сталі амаль нябачнымі карлікамі, а пра медыцынскіх аракулаў і гаварыць не прыходзіцца. Праўда, і тыя, і другія ўвесь час напамінаюць пра сваё існаванне. Першыя ўмудрыліся «ўкрасці» з чарнобыльскай скарбонкі народных ахвяраванняў больш шасцідзесяці мільёнаў рублёў для пагашэння сваіх выдаткаў, якія самі і нанеслі людзям, а другія — дзесьці ў маскоўскіх кабінетах «схавалі» пералік медыцынскіх супрацьпаказанняў, па якіх людзі не могуць пражываць на забруджанай тэрыторыі, а значыцца, пры перасяленні павінны адразу атрымліваць жыллё. Наша рэспубліка, хоць і са значным спазненнем, такі пералік прадставіла, а ў саюзных інстанцыях яго проста «згубілі». Вось так.

І гэта яшчэ не ўсё. Многія з тых, каго перасялілі чатыры гады таму назад, вярнуліся на свае селішчы. Нават робячы папраўку на экстрэмальную сітуацыю, пры адсяленні не ўлічваліся традыцыі беларусаў, якія складваліся стагоддзямі, іх звыклы ўклад жыцця і быту. І цяпер, нават пасля чарнобыльскай трагедыі, амаль у кожнай вёсцы па-рознаму святкуюць з'яўленне на свет дзяцей, спраўляюць вяселлі і провады ў армію, ды і сталы для гасцей накрываюць з улікам даўніх традыцый, не гаворачы пра рытуал пахавання нябожчыкаў...

Ніхто не сцвярджае, што адразу была магчымасць

---

[1] «Чернобыльский вестник», № 11, 1990 г.

вырашыць гэтую няпростую праблему, але, заглушыўшы атамны рэактар, успомніць пра людзей, якіх з каранямі вырывалі з роднай зямлі, аблегчыць ім жыццё, улічыць векавыя звычкі — гэта быў святы абавязак прававой дэмакратычнай дзяржавы, якой, яшчэ да Чарнобыля, мы паспелі абвясціць сябе. Абвясціць абвясцілі, але так і не здолелі пазбавіцца ад вялікадзяржаўнай фанабэрыстасці, збаяліся паказаць сваю эканамічную і духоўную нямогласць перад усім светам. Цяпер за тое мы зноў расплачваемся дарагой цаной. Адна з іх — тыя людзі, што зноўку вярнуліся на сваю атручаную зямлю.

Калі я пісаў пра лёс былога парторга Івана Аляксеевіча Нямкевіча, дык абяцаў расказаць пра жыхароў засаўгаса «Савічы», якія без дазволу мясцовай улады засялілі былую цэнтральную сядзібу. Ну, што ж: думаю такі час прыспеў...

З даўніны ад нашэсця ворагаў нашы продкі ўмацоўвалі свае селішчы: насыпалі крапасныя земляныя валы, выкопвалі равы. Так яны спрабавалі ўратавацца ад знянацкага нападу чужынцаў і ад свайго рызыковага люду. Гэтыя старажытныя помнікі нашай гісторыі, адмеціны развіцця цывілізацыі засталіся і на Палессі. Адно з такіх гарадзішчаў знаходзіцца ў нейкіх трыццаці кіламетрах ад гарадскога пасёлка і ў якіх пяцідзесяці метрах ад камарынскай шашы, пра якую я пісаў ужо раней. Яна і сёння застаецца той атручанай радыяцыяй транспартнай артэрыяй, што звязвае Брагін з былым райцэнтрам. (Існаваў некалі такі Камарынскі раён.)

Старажытнае гарадзішча ў народзе называюць Салавіца. Я заехаў туды па дарозе ў Савічы. Вядома, час пакінуў на лесе, на зямлі, дзе некалі жылі нашы продкі, свой няўмольны адбітак. Але адразу пасля шашы, удоўж якой растуць бялюткія бярозкі, лес стаў змрочным, як незадаволены чымсьці: елкі суседнічалі з асінай, сасной, густым кустарнікам. Канешне, гэта быў не той лес, у якім ад чужога нядобрага вока хаваліся шмат стагоддзяў таму назад людзі, але ўсё роўна няўлоўны подых даўніны нібы вітаў у паветры.

Высокі пакаты насып абкружаў вялікую паляну; перад ім, зарослы травой, цягнуўся роў. І ўсё. Больш нічога не напаміналася пра старажытнае селішча. Але мяне патроху ахапіла адчуванне, што я стаю над магілай сваіх родзічаў, якіх ніколі не бачыў, і я таксама ў чымсьці

вінаваты перад імі. Можа, у тым, што сюды пакланіцца іх нялёгкай долі ўжо не прыходзяць палешукі (кульнуць на зямлі зачынальнікаў нашага роду чарку-другую, як нейкіх пяць гадоў таму назад).

«І ўсё ж такі, — падумаў я, — тыя людзі ў сваім гарадзішчы, абнесеным ровам, памерлі на сваёй светлай зямлі, якая давала ім ежу і крынічную ваду, і апусціліся ў яе цёплае сховішча спакойна і з палёгкай, адчуваючы ціхі покліч роднай зямлі...»

Савічы, якія раскінуліся па другі бок шашы, не абнесенны ні ровам, ні нават кантрольна-прапускнымі пунктамі. Праз усю вёску цягнецца роўная стужка заасфальтаванай дарогі. Па знешнім выглядзе можна адразу беспамылкова вызначыць, у якую хату ўжо вярнуліся гаспадары, а ў якую яшчэ — не. Але пра тое, што вёска жыве нейкім сваім, прытоеным, насцярожаным, жыццём, нагадваюць хутчэй не людзі, а вясковая жыўнасць. То выскачыць, як з перапуду, ледзьве не пад колы машыны, перапэцканы ў пыл гусак, узмахне крыламі і зноўку, спалохана гагочучы, схаваецца за плот; па звычцы забрэша наўздагон сабака, але і той не надта надрывае голас.

Толькі зрэдку стрэнецца чалавек, хаця я ўжо ведаю, што ў вёску вярнулася больш як сто сем'яў. Затое каля магазіна нашу машыну — адкуль ні вазьміся — абступілі палешукі, найбольш пенсіянеры.

— Ты, таварышок, случай не начальнік? — вынырнуў з натоўпу каржакаваты, нізенькі дзядок у паношанай зімовай шапцы.

— А хто ж яго ведае, — пажартаваў я, — хто для вас тут начальнік, а хто не?..

— І то праўда, — згадзіўся са мной дзядок. — Яно так прыперла, што на ўсю вёску адзіны начальнік — наша жытло горкае...

Ён хітравата заплюшчыў вока, нейкім няўлоўным рухам твару апусціў аж да падбародка кончык жоўтага пракуранага вуса. Потым, як паказваючы нейкі фокус, заплюшчыў другое вока — і ўжо другі вус апусціўся ўніз, а той, першы, прыўзняўся над шчарбатым ротам. Ну, далібог, палескі дзед Шчукар. І людзі, мабыць, радаваліся, што вось жыве побач з імі такі дзядок, які і пацешыць у горы, і супакоіць, бо глядзелі на яго з прасветленымі тварамі, а пажылыя кабеты ледзь стрымлівалі ўсмешкі.

— Значыцца, не начальнік, трэнта палкай па спіне, — расчаравана ўздыхнуў дзядок. — А то хацеў цябе папрасіць, каб прадавалка наша ў магазіне не ганьбіла грамаду. Дзе ж тое бачна, каб спраўнаму мужыку ўсяго толькі па пляшцы гарэлкі на цэльны месяц адпускалі. Ці ж такая кропелька ад той радыяцыі вылечыць?..

Мажная прадаўшчыца ў белым халаце, якая, мабыць, пачуўшы гаману, выйшла на ганак і, упершыся рукамі ў клубы, весела зарагатала:

— Ну, ты, дзед Іван, і мацак. Яшчэ і без сугрэву якую маладзіцу можаш прыцісну́ць да плота...

— А нашто мне тая маладзіца? — абурыўся дзядок. — У мяне свая супружніца, дай бог табе такога мужыка... Нездарма яе назад вёз аж ад Мазыра, куды нас вакуіравалі...

Жартаўлівая пікіроўка адразу апала сама па сабе, размова зрабілася цягучай, як разагрэтая на нябачным агні смала, і адкрытай.

Насупраць абкладзенага сіняй пліткай магазіна, дзе мы стаім, — доўгая цаглянная будыніна сельсавета і пошты. Шыбіны ў ёй выбіты: вядома, няма ўлады — няма і парадку. Трохі далей ад сельсавета ўзвышаецца фігура салдата з аўтаматам, помнік загінуўшым аднавяскоўцам, якіх па неверагодным супадзенні ці па злоснай іроніі лёсу паднавілі напярэдадні самай аварыі.

Цяпер, нібы пад ахову гэтага свайго бронзавага аднавяскоўца, з розных куткоў, куды іх раскідала чарнобыльская бяда, у свае незабыўныя Савічы, якіх ужо не існуе на карце, вярнуліся дадому жыхары.

Той жа дзед Іван, ужо без кепікаў і жартаў, растлумачыў мне, чаму вярнуўся назад.

— Далі нам у Мазыры з супружніцай маёй пакойчык. Хлусіць не хачу: нішто сабе пакойчык, хаця і дужа маленькі. Далібог, разоў у пяток меншы за хлеў мой. Сядзім мы, значыцца, склаўшы на каленях рукі, і дзівімся на свет праз акно. А што яшчэ рабіць? Пенсію спраўна плацяць, грошы за хату атрымалі, але вось душа свярбіць. А душу чалавек не можа пачасаць, як свіння аб агароджу свой бок, — уздыхнуў дзед Іван. — Ну, дзень сядзім, месяц, год і нікому мы, выходзіць, не патрэбныя. Памрэм, і пахаваць мо не знойдзецца каму, а тым больш пагаласіць на магілках... А пад новы, восемдзесят восьмы год раптам адчуў, што сэрца маё нібы пратыкнулі прутом... Кажу старой: «Збірай свае бабскія

транты ды паедзем дахаты, як людзі, Новы год святкаваць!..» А жонку, не тое што на грэх у дзявоцтве, і ўгаворваць не трэба: і яна ад тугі і ад непатрэбнасці, без сваіх падружак і работы аж счарнела, сардэчная...

Дзед Іван выцягнуў з кішэні ватоўкі цыгарэту, прыкурыўшы, з відавочнай асалодай і задавальненнем пыхкнуў шызым воблачкам дыму перад сваім зморшчаным, нібы кара на старой асіне, тварам і прадоўжыў:

— Вось так, таварышок-начальнік, мы і вярнуліся. Без ляктрычнасці Новы год адзначылі, па чарцы з маёй паловай кульнулі. А потым хату паднавіў, плот вакол яе, курамі разжыўся... Ну, і, вядома, — стары не стрымаўся і хітравата падміргнуў жанчынам, — пеўніка для іх знайшоў: бо не можа курынае войска несціся без генерала... Так і зажылі патроху. — Ён на хвіліну задумаўся, пашкроб няголены падбародак. — Не, са сваімі людзьмі не прападзеш нават у горы. Не разумеюць твае начальнікі, што мужык — ён і да самай смерці працуе...

— Адзінота яшчэ страшней за тую радыяцыю,— перапыніў дзеда Івана хтосьці з натоўпу. — Мы ж не ад радасці назад вярнуліся: жытло прымусіла...

— То святая праўда, — загаманілі ўсе разам. — Колькі ў нашай рэспубліцы ёсць незаселеных вёсак. Паміраюць яны. А мы ў іх маглі б удыхнуць жыццё. Але, калі няма галавы ў тых, што нас адсяляў, дык гаршчок на пустое месца не начэпіш...

— Ты вось што, міл-чалавек, — узмахнуўшы рукой, перапыніў жанок дзед Іван. — Папрасі ў раёне, каб нам зямлі якой-ніякой нарэзалі, каб на працу хадзіць, а яшчэ не забудзь паштальёнку для нас папрасіць. А то ходзіць для нас паштальёнка з-за літасці сваёй душэўнай няблізкі шлях, аж з чужога калгаса. Не па-людску чужую бабу сплутаваць...

Паабяцаць дапамагчы я не мог. Гэта, як казаў дзед Іван, было б не па-людску, бо пра Савічы стараюцца не ўспамінаць. Ды і не існуе ўжо ў дзяржаўнай праграме такога населенага пункта, які трэба адсяляць. А ў ім, радаваліся людзі, нядаўна ўжо нарадзіліся два палешучкі — новыя маленькія грамадзяне...

У вёсцы Сувіды асфальту няма, як і, дзякуй богу, нованароджаных. Пыльная вулачка, што збочвае проста з шашы, круціцца, нібы бясконцае доўгае тулава

змяі, уздоўж разбураных салдатамі платоў, самотных пустых хат і агародаў, зямлю якіх ужо даўно не кранала ні плуг, ні капачка.

Вакол стаіць такая крохкая цішыня, што нават дыхаць боязна. Але вось на фоне гэтай маўклівай панурасці нечакана, бы ачмурэлыя, выбягаюць аднекуль маленькія, чорненькія, як блізняткі, сабачаняты. Кідаюцца проста пад ногі, так і цэляць ухапіць за штаніну — брэшуць звонка і залівіста, нібы неўзлюбілі людзей яшчэ да свайго нараджэння.

— Вось я вас! Ату, Мілка, — лагодна крычыць жанчына, якая стаіць каля хаты.

Ваяўнічая назойлівасць сабачанят паступова знікае, як і інтарэс да маёй персоны. Млява памахваючы кароткімі хвастамі, яны няспешна вяртаюцца да гаспадыні.

Цяпер самы час перавесці дых і агледзецца. Нейкай нерэальнай, як прыдуманай, здаецца мне гэта жанчына ля моцнай, абмураванай хаты. Амаль ад самага ганка цягнецца прадаўгаваты кавалачак ускапанай зямлі, на якім там-сям віднеюцца зялёныя расткі.

— Заходзь, добры чалавек, — прыязна ўсміхаецца мне гаспадыня, — гасцям заўсёды рады...

На выгляд жанчыне гадоў пад пяцьдзесят. У яе чысты, трохі прадаўгаваты твар і выразныя вочы, якія пазіраюць на мяне з-пад шырокіх выгаралых броваў добразычліва.

Нечакана ў хаце адчыняюцца дзверы, і на ганак выходзіць хударлявы, невысокага росту мужчына ў шэрай кепачцы, брылёк якой насунуты ледзьве не на нос.

— Гэта яшчэ трэба паглядзець, што за госць да нас завітаў, — папраўляючы кепачку, нязлосна бурчыць ён. — А то мяне ўжо некалькі разоў забірала міліцыя. Вярнуліся мы, а вокны ў нашай хаце выбітыя, як і не было іх ніколі. Расстараўся я шкла, толькі прыладзіўся да аканіцы, а тут на сваім «груганятку» прылятае міліцыя: «Што робіш тутака?» Як што? Шклю, адказваю. Мяне, бы шпіёна нейкага, пасадзілі ў машыну і ў райцэнтр. «Што рабіў у Сувідах?» — пытае нейкі сур'ёзны начальнік у пагонах. Што тут адказаць? Зноў, як дзяцел той, дзяўбу сваё: шкліў вокны ва ўласным «маёнтку». Паглядзеў той на мяне спачувальна, а потым, нутром адчуваю, вылаяцца па-мужчынску хоча. Усё ж стрымаўся — не адны мы ў пакоі былі — і толькі мах-

нуў рукой. «Язджай, — кажа, — каб вочы мае цябе больш не бачылі. Толькі не ўздумай яшчэ з паловай сваёй дзяцей згабляваць...» Пажартаваў, значыцца, гэтак.

Прывалокся я пад вечар дахаты, а праз два дні ўсё паўтарылася спачатку. Новыя міліцыянеры наляцелі: мо проста чарговая варта на пост заступіла, а можа, і сігнал аднекуль атрымалі? Пра тое мне не дакладвалі. Зноў у раён мяне павезлі, а там ужо другі начальнік выслухаў мяне і зноў адпусціў на ўсе чатыры бакі. Добрыя людзі, хоць і на службе... А ты, бачу, чалавек цывільны — яшчэ лепш: менш клопату. Значыцца, везці мяне нікуды не збіраешся. Тады заходзь у хату: сапраўды госцем рэдкім будзеш...

Гаспадар шырока расчыніў дзверы, і з вузкай лаўкі, спалохана мяўкнуўшы, саскочыла на падлогу белае, у жоўтую драпінку кацяня. На лаўцы застаўся ляжаць толькі падобны на бліскучую чорную брыкеціну невялічкі транзістарны прыёмнічак.

— Гамоніць? — каб хоць трохі вызваліцца ад пачуцця няёмкасці, пытаю я першае, што прыйшло ў галаву.

— А як жа іначай? — нават пакрыўдзіўся гаспадар. — Ета нам і тэлевізар, і газеты... Без яго мы што тыя аглухлыя шчупакі. А раптам, з жонкай прыдумваем сабе, пачуем, што ўсіх нас, былых сувідчан, нейкая светлая галава да аднаго гурту збіраць пачне. Хаця наўрад ці, — ён з надзеяй глядзіць на мяне і, не дачакаўшыся адказу, нібы ў роздуме, узяўшыся пальцамі за брылёк, круціць на галаве кепачку. — Не, мабыць, наадварот, усё павернецца: пагойсаюць нашы суседзі па белым свеце і ўжо да нас зляцяцца...

Так я пазнаёміўся з Мікалаем Дзмітрыевічам Гайдашам і ягонай жонкай Наталляй Сяргееўнай — апошнімі з «сувідаўскіх магікан».

Гісторыя іх вяртання ў апрамененую радыяцыяй родную вёску як дзве кроплі вады падобная на ўсе тыя, што я чуў раней, як і на лёсы многія палешукоў, якіх з родных мясцін перасялілі па чужых кутках адразу пасля аварыі.

Прычына, якая вымусіла Гайдашаў прыехаць дахаты ў «зону адчужэння», не новая і не патрабуе глыбокага псіхалагічнага даследавання. Гэта застарэлае і пакуль што, нягледзячы на ўсе намаганні грамадскасці,

невылечнае імкненне пэўнай часткі кіраўнікоў датэрмінова рапартаваць «наверх» па адміністрацыйным ланцужку аб паспяховым правядзенні мерапрыемства (у тым ліку і такога маштабу, як перасяленне людзей ад Чарнобыля), памножанае на баязлівую чэрствасць выканаўцаў, якія не дужа задумваюцца над тым, як складуцца на новым месцы чалавечыя лёсы.

Упэўнены, што існуюць дзесьці акуратна пранумараваныя і падшытыя ў папках паперкі з гербавымі пячаткамі і штампамі партыйных і савецкіх устаноў аб паспяховым адсяленні жыхароў Сувідаў, як і ў тым, што няма ў іх ніводнага радка, які сведчыў бы пра тое, як уладкаваны людзі, дзе і кім працуюць. Не забылі, вядома, у тых паперках указаць і памеры грашовых кампенсацый за страчаную жыхарамі пацярпелых раёнаў маёмасць. Парадак ёсць парадак. А Мінфін — не той добры сусед, у якога можна да чарговай зарплаты перахапіць грошы.

Сам Мікалай Дзмітрыевіч Гайдаш — будаўнік. Як гавораць, чалавек з божай іскрынай і вялікім працоўным стажам, жонка ягоная — вопытны палявод. Цяпер яны кожную раніцу на сваім верным матацыкле едуць па той пыльнай дарозе, па якой я дабіраўся да іхняга селішча, на працу ў саўгас «Краснае», што ў дваццаці кіламетрах ад Сувідаў.

Гаспадарка тая таксама не «батанічны сад» пасярод загазаванага аўтамабілямі і заводскімі трубамі вялікага горада. Але Гайдашы рады і таму, што працуюць побач са сваёй хатай, якую разам ставілі на доўгія гады і шчасце і дзе выхавалі дзяцей.

Яшчэ, калі мы толькі знаёміліся з гаспадаром, я звярнуў увагу на вуллі, што стаялі непадалёк ад хлява на гародзе. Упільнаваўшы зручны момант, калі гаспадар па сялянскай звычцы пахваліўся за гаворкай парсючком і курамі, якімі паспеў абзавесціся, я спытаў:

— А пчол таксама трымаеце?

— Якія там пчолы? — па-жаночы працягла і самотна ўздыхнула Наталля Сяргееўна. — Дзесяць сем'яў у нас калісь было. Але пакуль цягалі тыя вуллі за сабой, толькі адна сям'я і засталася з намі гора гараваць...

— От, неразумная, — успляснуў рукамі Мікалай Дзмітрыевіч. — Як жа можна было пчол у бядзе пакідаць? Яны ж толькі зладзеяў джаляць, а добрым людзям мёд і радасць прыносяць. Хоць адну сям'ю, але

збераглі... Да ладу выходзіць: адна наша сям'я на ўсю вёску і адна пчаліная...

— Хай сабе і дурніца я, — згаджаецца жонка, — але і за мяне не надта разумнейшыя ёсць...

— Гэта ўжо як мае быць, — тужліва ўздыхае Гайдаш. — Паехалі мы адразу ў вёску Хваставічы аж пад самы Глуск да яе сястры, — ён ківае галавой у бок жонкі. — Пра тое і расказваць не хочацца. Нават калі птушка параніць крыло, дык над ёй уся птушыная паства кружыцца і лямантуе: кліча, значыцца, за сабой. А нашых вясковых у Хваставічах анікога. Даведаліся мы праз людзей, што трынаццаць сем'яў сувідчан знайшлі прытулак на Рагачоўшчыне ў вёсцы Кашара. Нанялі мы за свой кошт машыну і падаліся да іх разам з пчоламі сваімі...

— Ды скушна чалавеку пра пчол тваіх слухаць, — не вытрымала Наталля Сяргееўна. — Ты пра жыццё наша лепш раскажы...

— А я пра што гавару? — зноў усплёсквае рукамі Гайдаш. — Ніхто ў прыродзе-матухне не можа жыць паасобку: ні людзі, ні пчолы. Гэта наймудрэйшая запаведзь. І ніякім загадам яе не адмяніць. Таму і пацягнуліся мы з табой да сваіх у Кашары. І, мабыць, да самай смерці засталіся б там. Далі нам шчытавы домік, а я — будаўнік: печ паставіў, дай бог кожнаму такую цёплую бабу... Ты не гнявіся на мяне, Сяргееўна, — паварочваецца ён да жонкі. — Гэта к слову прыйшлося... Ну, слухай далей. На Новы, восемдзесят сёмы сабраліся ўсе разам (праўда, святло яшчэ не паспелі правесці, дык лямпу засвяцілі), павесяліліся ды паплакалі. Яно, канешне, і слёзы ў вобчай камуне светлыя...

Але несправядлівасць, што пасля аварыі рабілася, нас і ў Кашарах дагнала. Ну скажы, які ёлуп прыдумаў адрэзаць у карэнных жыхароў частку гародаў, каб паставіць перасяленцам домікі? Гэта ж не ляльку ў дзіцяці адняць: тое трохі параве і супакоіцца. Што, вольных плошчаў не хапала, каб, не адрываючы ад людзей сконную іхнюю зямлю, пасёлак паставіць? Ды яшчэ і лішак быў. Але дадумаліся адрэзаць людское кроўнае, палітую потам зямлю, і нас на яе ўтыкнулі.

— Гэта чалавек мой абураецца, што па дурноце пасёлак будавалі, — пэўна, каб растлумачыць слова «хвантазія», гаворыць Наталля Сяргееўна. — Трэба, каб кожны сусед табе сябрам быў, а не супрацiўнікам...

— То святая праўда, — падхоплівае Гайдаш. — Памыліцца яно не фокус. Але выправіць памылку не ўсім па нутру, асабліва ўладзе нашай. Ніхто і не падумаў разам сабраць людзей, пагаманіць пра жыццё-быццё, паправіць штосьці. Ды і наогул збіраць кашарцаў трэба было яшчэ да таго, як жыллё чарнобыльцам планавалі. Глядзіш, народ і падказаў бы нешта разумнае. А так і людзям гнёзды пабурылі, і нам не паставілі... Ды яшчэ і нічога лепшага не прыдумала начальства (хаця і вінаваціць яго не магу), як зжываць нас з зямлі, з Кашары той. Выдзелілі ўчасткі пад гароды на такой зямельцы, што мы з жонкай дваццаць пяць мяшкоў бульбы пасадзілі, а ўсяго вядро якое і сабралі... Я туды-сюды. Як жа далей жыць? Тутака ж зямля не атручаная. Мне ніхто не супярэчыць, нават, здаецца, спачуваюць; толькі бачу па вачах, што кіраўніцтву мы, сувідаўскія, горш за тых татар нязваных...

Наталля Сяргееўна, якая нейкі час сядзела моўчкі, абапершыся плячыма аб печ, раптам устрапянулася:

— Нас што з панталыку збіла? Чуем па радыё, што былыя суседзі нашы — з вёсак, што непадалёк ад Сувідаў знаходзяцца, — іаруць, і сеюць, і ўраджай неблагі збіраюць. Ды і дачка наша, што са сваім мужыком разышлася, у Брагіне жыве. Дачка ў яе маленькая, дык зноў-такі не адсяляюць. А колькі ад Сувідаў да райцэнтра? Пешкам за якую гадзіну дойдзеш, калі прыпячэ. Параіліся мы і рашылі вяртацца: унучку хоць неяк без бацькі-п'яніцы на ногі паставім. А то прыдумалі, разумнікі, — адны жывуць на Чарнобылі, а другім і няможна. Мо зноў памылілася начальства? А тое, што першымі прыехалі, дык і нічога. Я ўжо, самі, пэўна, бачылі, кветнічок пачала разбіваць. А суседзі нашы, не сумнявайцеся, вернуцца. Не ўсе, канешне, але адны не застанемся. Во, далібог, вернуцца. Жытло прымусіць.

— А куды ж ім дзецца? — згаджаецца Мікалай Дзмітрыевіч. — Калі, напрыклад, усіх адсялілі б на нейкіх сто кіламетраў ад чарнобыльскай пачвары ды дротам калючым тэрыторыю абнеслі, тады зразумела — тут жыць забаронена. А то выходзіць, маладым міліцыянерам можна радыеактыўны пыл глытаць, а нам пад старасць нельга? Ды і веры тым вучоным, што за нас рашаюць, няма. Не бачыў я тых вучоных на сваёй зямлі. Салдат, пабажуся, стракаў на кожным кроку, а начальнікаў не. А пісаць і я магу...

Гайдаш падхопліваецца на ногі, як што ўспомніўшы, хуценька шыбуе ў суседні пакойчык. Праз нейкую хвіліну, прыціскаючы да грудзей тоненькі сшытак, вяртаецца назад.

— Гэта ён зрэдку вершы піша, — неяк збянтэжана тлумачыць мне Наталля Сяргееўна, — зусім здурнеў ад думак...

— Вы не слухайце яе буркатню, — як апраўдваецца Гайдаш. — З маленства вершы нашы беларускія люблю. У іх быццам пра самога сябе чытаеш. Ды і мяне радыяцыя страсянула: дай, думаю, слова-другое пра гора наша надрапаю. А ад думак, — ён з нейкім ласкавым дакорам глядзіць на жонку, — на маёй памяці ніхто яшчэ не звар'яцеў... Ды і не чытаў нешта пра такое. Мо не тыя кніжкі пад руку траплялiся...

Мікалай Дзмітрыевіч з адчуваннем трывогі і неспакоем, які лёгка ўгадваецца ў ягоным, як трохі разгубленым, позірку, кладзе перада мной сшытак. Сам адыходзіць да сцяны і ціхенька садзіцца на табурэтку, стараючыся не глядзець на мяне.

Я таксама адчуваю нязвыклае сціншанае хваляванне быццам чалавек аддаў мне не сшытак, а сваю збалелую, але не спустошаную ад гора душу. Таму неяк асцярожна ўчытваюся ў няроўныя радкі, гартаю старонкі. З іх, хоць і не вельмі дасканала напісаных, на мяне тужліва і самотна пазірае людская бяда. Вочы мае раптам чапляюцца за двухрадкоўе:

...І разляцелася чарада жураўліная,
Згубіўшы ў дарозе важака...

У які-небудзь іншы час і пры іншых абставінах я, мабыць, і не звярнуў бы на іх увагі, а тут неасэнсавана паўтараю гэтыя простыя радкі ўголас. Потым пытаюся ў Мікалая Дзмітрыевіча:

— Пра каго гэта?

Гайдаш уздыхае, доўга і неяк невідушча глядзіць у падлогу, затым адказвае:

— Пра былога дырэктара нашай гаспадаркі. Толькі пад ягоным началам пачалі разгортвацца, і на табе — такая бяда, каб яна здохла, праклятая. Усё жыццё наша перакруціла і высушыла свалата чорная...

— Ну, хопіць, Дзмітрыч, — устаўшы з лаўкі, падыходзіць да мужа Наталля Сяргееўна. — Нічога назад не павернеш. Не скубі дарэмна сэрца.

— Твая праўда. — Гайдаш глядзіць на мяне шырока расплюшчанымі вачамі, з якіх нібы сцякае маўклівая журба, і нечакана, як без прычыны, гаворыць: — А да нас хутка сын вернецца. Ён на граніцы з тым Афганістанам служыць. Тады мы, мусіць, у Брагін пададзімся, а то раней жонка не схацела ў пасёлку жыць. Збярэмся пазноў паствай. Пакуль той Брагін адселяць, дык мы і памерці на сваёй зямлі паспеем. Жывуць жа там людзі...

«Так, — кальнула мяне думка, — людзі сапраўды жывуць і на адселеных землях, і ў гарадскім пасёлку. І застануцца там жыць, — каб калечыць і сябе, і сваіх дзяцей з унукамі, — пакуль Палессе (ды і іншыя мясціны) не толькі абвесцяць, але і ў рэшце рэшт прызнаюць зонай «сусветнага экалагічнага бедства». А пачуццё міласэрнасці і адказнасці за сваё рашэнне і за лёс сённяшняга і будучага пакаленняў не возьмуць верх над высокімі «бастыёнамі» бяздушнасці і элементарнай безадказнасці перад жыхарамі пацярпелых раёнаў».

Але пра гуманізм ужо столькі напісана, што тымі артыкуламі і выступленнямі можна вымасціць дарогу ў рай зямны... А мы пакуль што сядзім у сялянскай хаце, і нас, мабыць, патроху «падсмажваюць» нябачныя промні радыяцыі. Увішныя гаспадары прапануюць мне вячэру, з надзеяй і бацькоўскай пяшчотай гамоняць пра сына, які неўзабаве павінен вярнуцца дадому, вядома, перажываюць за дачку, што засталася адна з малым дзіцем на руках, прыкідваюць і так і гэтак, як дапамагчы ёй у адзіноце выгадаваць унучку, а перада мной на стале, пакрэмзаная сінім чарнілам, нібы ляжыць жывая чалавечая душа вязня Чарнобыля...

Мяне нечакана паклікалі ў райвыканком і ўручылі, неахайна надрукаваную пад капірку паперку, запрашальны білет на сустрэчу з групай экспертаў міжнароднай арганізацыі па атамнай энергіі (МАГАТЭ), якая павінна была на наступны дзень прыляцець у Брагін.

Шчыра прызнаюся, мяне не захапіла знянацку або асабліва ўзрушыла гэта паведамленне, бо я чакаў нейкіх экстранных адміністрацыйных захадаў. У Маскве пачалася чарговая сесія Вярхоўнага Савета СССР, у парадак работы якой пад «наццатым нумарам» было ўключана «чарнобыльскае пытанне», калі народным абраннікам самы час ад гарачых і нярэдка бяссэнсавых

дыскусій, якія ім навязваюць і «злева» і «справа», адпачыць дзесьці з вудамі на беразе ціхай і чыстай рачулкі. А ім, знясіленым пад цяжкасцю «крыжа справядлівасці», які яны ўзвалілі на свае яшчэ неакрэпшыя плечы, прыйдзецца вырашаць праблему ўратавання не дзесяткаў — тысяч людзей.

Дэпутатаў па-чалавечы можна зразумець (не так проста, аказваецца, разбурыць фундамент старога будынка), але можна зразумець і недаўменне жыхароў пацярпелых раёнаў, якія шчыра спадзяваліся на тое, што чарнобыльскае пытанне зойме адно з першых месцаў у «партэры», а не на «галёрцы» Крамлёўскага Палаца з'ездаў, бо такі «гістарычны лёс» наканавалі ёй самая буйная экалагічная катастрофа ў гісторыі нашай планеты і чатыры гады бясконцых медыцынскіх эксперыментаў і даследаванняў на людзях.

За гэты час, мяркуючы па публікацыях у нашай прэсе, ад тых жа дазіметраў павінны былі ламацца паліцы магазінаў, у якіх гандлююць бытавымі таварамі. Пра якія толькі бліскучыя дасягненні ў распрацоўцы і выпуску сучасных прыбораў радыяцыйнага кантролю мы за апошнія гады не чыталі і не чулі. Дазіметры «Сасна», «Пошук», «Вега» — калі іх усе пералічваць, дык не хопіць ніякай паперы, якая таксама занесена ў доўгі рэестр дэфіцытаў.

Пра адсутнасць сродкаў радыяцыйнага кантролю, іх тэхнічную недасканаласць, няўменне імі правільна карыстацца і эксплуатаваць я ведаю не з чужых слоў. Яшчэ перад паездкай у адселеныя Сувіды ў двары раённай ветлячэбніцы я ўбачыў малюнак, які мог упрыгожыць вокладку любога сатырычнага выдання. Двое маладых мужчын хадзілі паміж яблынь: адзін з іх трымаў невялічкую шэра-блакітную скрыню, а другі ў нейкім метры ад першага нёс у руках нешта накшталт студыйнага мікрафона.

— Во, халера! — лаяўся той, што трымаў скрыню. — Зноў ні чорта не паказвае.

— Патузай за дрот, — параіў другі.

— А я што табе казаў? Мабыць, дзесьці кантакту няма...

— Лепш бы прыбор зусім не працаваў. Не бачыш, як шнырае стрэлка. Радыяцыю нос чалавека не ўлоўлівае...

Не хачу, каб чытач успрыняў гэтую сцэну як паро-

дыю на радыяцыйную службу глыбінкі. Справа навat не ў прафесійных вартасцях дазіметрыстаў. Яны карыстаюцца тымі архаічнымі прыборамі, якія яшчэ задоўга да аварыі распрацавалі нашы вучоныя і паставілі ім дзяржаўныя прадпрыемствы.

Тут іншае: нейкаму магутнаму адміністрацыйнаму клану вельмі нявыгадна, каб у пацярпелыя раёны касяком паплылі сучасныя датчыкі. Чаго добрага, пачнецца паніка сярод насельніцтва, ужо не стала б разбіваць кветнічок каля свайго дому Наталля Сяргееўна Гайдаш, а, відаць, ухапіла на рукі сваю ўнучку і пабегла б куды глядзяць вочы.

Словам, магло здарыцца тое, чаго ў свой час так баялася былое кіраўніцтва рэспублікі, хоць палешукі, як і наогул беларусы, не з той кагорты, што ў бядзе страчваюць розум. Гэтую рысу характару таксама не ўлічвалі нашы кіраўнікі, калі з падказкі і пад націскам магутнага «вучонага апарату» замоўчвалі сапраўдныя памеры трагедыі. А цяпер, калі значны адрэзак часу, адпушчаны нам, каб з пазіцый чалавечнасці і міласэрнасці вырашыць праблему Чарнобыля, ужо бясслаўна пройдзены, у тых, хто ўзначальвае шматлікія камісіі, застаўся адзіны шанц хоць неяк кантраляваць сітуацыю — шлях нязбытных абяцанняў і шырока разгорнутая кампанія нерэальных пастаноў, безліч паправак і абмежаванняў да іх, прынятых на самым высокім узроўні.

Пэўна, з такой жа мэтай — супакоіць грамадскасць, шэрагам вучоных было накіравана і пісьмо Міхаілу Сяргеевічу Гарбачову, у якім адстойваліся заганныя па сваёй навуковай і чалавечай сутнасці прынцыпы бяспечнага пражывання на забруджанай радыенуклідамі тэрыторыі і «славутая» канцэпцыя трыццаці пяці бэр. Сярод дзевяноста двух аўтараў, якія падпісалі пісьмо, было шэсць акадэмікаў Акадэміі медыцынскіх навук СССР, тры члены-карэспандэнты Акадэміі медыцынскіх навук, не гаворачы пра дактароў і нейкіх там кандыдатаў навук. Чым не «супер-лакаматыў» навуковага прагрэсу?

Не апошнімі «дэталямі» ў яго стварэнні сталі і гомельскія вучоныя, якія бліжэй за ўсіх знаходзяцца ад аварыйнага атамнага рэактара, — дырэктар Беларускага філіяла Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута сельскагаспадарчай радыялогіі С. К. Фірсакова і цяпер

ужо былы намеснік дырэктара гэтай навуковай установы Ю. М. Жучэнка.

Можна было б толькі вітаць такое аднадушша і прынцыповасць двух кіраўнікоў інстытута, каб не ведаць, што пасля доўгай вандроўкі па гарадах нашай неабсяжнай краіны ў красавіку 1990 года на Брагіншчыну аж з Батумі вярнуліся больш як трыццаць вагонаў з мясам, якое не прайшло радыяцыйны кантроль і патрэбна знішчыць. А ў нас, на Палессі, выходзіць, прайшло? Дык, можа, філіял інстытута знаходзіцца не ў Беларусі, у якіх-небудзь ста кіламетрах ад чыгуначнай станцыі куды вярнулі вагоны, а ў нейкім іншым месцы? Ды і ўсе тыя факты, якія я раней прыводзіў у сваім дзённіку аб рызыкоўным гаспадаранні, ніяк не падмацоўваюць прынцыповую пазіцыю вучоных. Нават цяжка зразумець, якімі данымі яны карысталіся, калі падпісвалі пісьмо нашаму шаноўнаму Прэзідэнту?

Насцярожвае, а яшчэ больш гняце тое, што пытанняў, на якія жыхары пацярпелых раёнаў не атрымалі адказу, з кожным днём становіцца ўсё больш і больш. А тыя, хто ў першую чаргу павінен клапаціцца і думаць пра здароўе людзей, здаецца, за ведамаснай валтузнёй забыліся пра святы абавязак навукі — служыць чалавеку. Пра адну з прычын такога прыкрага становішча палешукі гавораць уголас: «Трэба перастаць плаціць вучоным грошы за міфічныя званні, а заахвочваць канкрэтную работу. Такая пастаноўка пытання падштурхне навукоўцаў да самой навукі, а грошы, што ім пераплочваюць, значна папоўняць чарнобыльскі рахунак...»

Безумоўна, пазіцыя даволі спрэчная, аднак несумненна і тое, што чарнобыльская трагедыя высветліла многія негатыўныя бакі навуковай дзейнасці, нібы акрэсліла вялікую розніцу паміж канкрэтнымі вынікамі работы і той зарплатай і прывілеямі, якімі некаторыя нашы вучоныя карыстаюцца... Вось чаму з такім аптымізмам жыхары Брагіншчыны сустрэлі вестку аб прыездзе ў гарадскі пасёлак міжнароднай групы экспертаў.

Веру ў сэрцах людзей запаліць гэтак жа лёгка, як і печ сухой бярозай. Няпроста апісаць, якой надзеяй гарэлі вочы палешукоў, што сабраліся на плошчы перад будынкам райкома партыі, каб па радыё паслухаць выступленні, калі невысока ў небе засакаталі верталёты, а потым адзін за другім пайшлі на пасадку.

Не буду пералічваць усе прозвішчы вучоных, якія прынялі ўдзел у сустрэчы. Думаю, дастаткова сказаць, што за адным сталом прэзідыума сядзелі побач прафесар Мэтлар са Злучаных Штатаў Амерыкі — краіны, якая першай стварыла атамную бомбу, — і доктар Курамота з Хірасімскага універсітэта, прадстаўнік аднаго з японскіх гарадоў, на жыхарах якога была выпрабавана эфектыўнасць ядзернай зброі. А паміж прэзідыумам і аўдыторыяй быццам нябачна пагойдваўся чорны цень Чарнобыля...

Група экспертаў, якую ўзначальваў пан Розэн, і дэлегацыя незалежных спецыялістаў прыехалі ў пацярпелыя раёны па запрашэнні Старшыні Савета Міністраў СССР Мікалая Іванавіча Рыжкова. Асноўная задача — удакладніць радыяцыйнае становішча і ўздзеянне радыяцыі на людзей, а затым ужо выпрацаваць неабходныя рэкамендацыі. Уся работа разлічана прыкладна на пяць-шэсць месяцаў...

Затым пачалася імправізаваная прэс-канферэнцыя. Пра многае набалелае расказвалі брагінцы, але эксперты, не валодаючы цалкам мясцовай інфармацыяй (і іх можна зразумець), не маглі хоць колькі супакоіць жыхароў.

Тады не вытрымаў і я. Задаў пытанне, якое хвалявала абсалютную большасць жыхароў. А дакладней, выканаў просьбы часам і незнаёмых людзей, якія напярэдадні званілі па тэлефоне або падыходзілі да мяне проста на вуліцы.

— Пан Розэн, нядаўна беларускі ўрад прыняў праграму па ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі. Не ведаю, як гэта гучыць па-англійску, але ў нас гавораць: праграма рыпіць, як нязмазаныя колы воза. (Калі ў падкрэслена строгім касцюме перакладчыца перавяла гэтыя словы, эксперты занівалі галовамі і засмучана заўсміхаліся, а высокія прадстаўнікі нашай рэспублікі замітусіліся на сваіх крэслах.) Вітаючы ваш прыезд, жыхары Брагіна адначасова адчуваюць неспакой: ці не спыніцца выкананне пунктаў праграмы на перыяд работы эспертнай групы?

— Мы з'яўляемся незалежнымі вучонымі і ўнутраныя справы не вырашаем, — адказаў вучоны. — Для нас вельмі важна атрымаць аб'ектыўныя навуковыя даныя. А канкрэтную сітуацыю, думаю, лепш ахарактарызуе пан Бур'як...

Сітуацыю нам і сапраўды абмалявалі. Аказваецца, што «выкананне дзяржаўнай праграмы будзе ісці яшчэ больш хуткімі тэмпамі». А ўся закавыка ў саміх брагінцах, «частка якіх хоча перасяляцца, частка вагаецца, а астатнія — катэгарычна супраць»... Па якіх каналах, з якога апытання атрымана такая інфармацыя, мы так і не ўцямілі, але падаплёку гэтай заявы зразумелі ўсе прысутныя ў зале.

Добра, што я сядзеў непадалёк ад выхаду: плюнуў на дыпламатычны этыкет і праз нейкі час ціхенька выйшаў з залы пакурыць. Спыніўся на прыступках райкома і аслупянеў. На плошчы ўжо не было амаль ніводнага чалавека.

Мне адразу прыйшлі на памяць заключныя кадры з фільма вядомага амерыканскага рэжысёра Стэнлі Крамера «На апошнім беразе». У двух словах прэамбула такая: нашую планету спасцігла атамная катастрофа. І толькі яшчэ ў далёкай Аўстраліі засталіся людзі, але і на іх ужо няўмольна насоўваюцца радыеактыўныя хмары. Пастар на плошчы чытае перад вялізным натоўпам пропаведзь. Яго слухаюць уважліва і моўчкі. Яшчэ кадр. Той жа пастар, але вакол яго ўжо менш людзей... І нарэшце апошняя сцэна: у кадры ні пастара, ні людзей — толькі вецер гоніць па пустой плошчы абрыўкі газет...

Не буду хлусіць, халадок прабег па спіне ад гэтага нечаканага ўспаміну...

І ўсё ж такі на плошчы быў чалавек, які чакаў менавіта мяне, — намеснік галоўнага ветэрынарнага ўрача раёна. Ён запрашальна памахаў мне рукой і, калі я падышоў, моўчкі дастаў з папкі фотаздымак. На ім побач з дазіметрам, бездапаможна выцягнуўшы тонкія ножкі і нібы ў роспачы адкінуўшы назад галаву, ляжала цяля.

— Адкуль гэта? — спытаў я.

— З вёскі Дублін. Чарговы прадукт нашай жывёлагадоўлі, — нібы мяхі новага гармоніка, расцягваючы словы, адгукнуўся ён. — Нарадзілася мёртвым і без валасянога покрыва. Як думаеш, мо паказаць экспертам?

Я прамаўчаў, і мой субяседнік паглядзеў на мяне здзіўлена, ледзьве не з ценем варожасці. Ён па дабрацэ душэўнай, мабыць, падумаў, што калі гэты здымак убачаць замежныя эксперты, дык нашы айчынныя медыцын-

скія прарокі засаромяцца сваёй навуковай слепаты, а жыхароў Брагіншчыны тэрмінова пачнуць вывозіць з забруджаных радыяцыяй раёнаў.

Адкуль яму было ведаць, што, пасля таго як я, задаўшы пытанне пану Розэну, выйшаў у хол райкомаўскага будынка, на мяне, адкуль ні вазьміся, насунуўся шыракаплечы, са старанна паголеным тварам, з якога на мяне паблажліва, але і злосна пазіралі шэрыя вочы, мужчына ў элегантным, таксама шэрым, касцюме.

— Што гэта за дылетанцкія пытанні вы задавалі экспертам? — іранічна спытаў ён.

— Пацікавіўся толькі тым, што хвалюе людзей... — паціснуўшы плячамі, не прыняў выкліку я.

— Не трэба блытаць навуку з бытавымі аспектамі...

— Вось як? — цяпер не вытрымаў я. — Значыцца, лёс людзей, якія штодзень дыхаюць атручаным чарнобыльскім паветрам, кормяцца ад радыеактыўнай зямлі, — катэгорыя бытавая, а не агульначалавечая трагедыя, створаная намаганнямі навукоўцаў?

Мужчына трохі сумеўся.

— Не трэба так катэгарычна завастраць пытанне...

— І працягваць расплочвацца за цярплівасць і святую веру ў нашу навуку здароўем нават тых пакаленняў, якія яшчэ не нарадзіліся?

— Цяжка спрачацца з недасведчанымі апанентамі, — падвёў рысу пад нашым дыспутам мужчына і вярнуўся ў залу пасяджэнняў.

І вось цяпер пасярод амаль пустой плошчы насупраць мяне стаяў яшчэ адзін з такіх жа, як я, «недасведчаных апанентаў» — ветэрынарны ўрач. Ён трымаў на сваёй далоні здымак, а я не ведаў, што параіць чалавеку.

На маё шчасце, да нас падбег рэдактар гомельскага «Экологического вестника» Сяргей Бяспалы — вельмі рухомы, бы той ртутны шарык, жвавы хлопец. Убачыўшы фотаздымак, адразу ўзгарэўся шчырым рэпарцёрскім энтузіязмам:

— Аддайце мне. Мясцовую неафіцыйную цэнзуру бяру на свае хударлявыя плечы. То ж трэба: у «Московских новостях» могуць друкаваць здымак з брагінскага дзіцячага сада, на якім побач з немаўляткамі, што гуляюць у пясочніцы, салдаты ў масках праводзяць дэзактывацыю тэрыторыі, а мы што, не маем права паказаць на старонках газеты мёртвае цяля?..

Не адказаўшы на сваё пытанне, Бяспалы выцягнуў

з кішэні блакнот і пачаў таропка, але з прафесійнай дакладнасцю занатоўваць у яго расказ намесніка галоўнага ветурача раёна.

«Гэты надрукуе, — з нейкай незразумелай палёгкай, нібы энтузіязм рэдактара вырашаў усе праблемы атручанага Палесся, падумаў я. — Абміне хітрым лісам адміністрацыйныя пасткі і засцеленыя ружовымі дыванамі нябачныя «ямы» часу адкрытасці, бо сам Бяспалы, яго родныя і блізкія жывуць побач з «чарнобыльскім навуковым палігонам...».

Ну, а мой вучоны апанент — бачыў я тую замілаваную сцэнку — сеў у машыну і памчаў да сваіх верталётаў. І, можа, праз нейкую гадзіну-другую прызямліцца дзе-небудзь у Нароўлі альбо Ветцы. Ды і ўрэшце якая розніца, куды прывядзе яго «нябесная сцяжынка»? У кожным раённым цэнтры ёсць утульныя залы для пасяджэнняў і людзі, апантаныя нязгаснай верай у справядлівасць...

Во, ледзь не забыў — напэўна, прывык ужо да суровай явы жыцця «зоны асаблівай увагі» — на здымку, што паказваў мне ветэрынарны ўрач, стрэлка дазіметра спынілася каля адзнакі чатырыста мілірэнтген у гадзіну...

Як ні старайся суняць боль і трывогу за лёс людзей, з якімі пасябраваў, ды і за свой асабісты лёс, ад пытання, якое штодзень цягнецца следам, не ўцячэш і не схаваешся, бы мышка ў патаемнай норцы. Гэтае пытанне ў розных варыяцыях і з рознымі адценнямі — са шчымлівай настальгіяй па мінулым, якое палешукам сёння здаецца цудоўнай казкай, альбо з амаль дзіцячым здзіўленнем, што людзі ўжо каторы год жывуць пад пастаянна ўключаным «рэнтгенам», — можна пачуць амаль на кожным кроку. Сутнасць пытання, якое нябачнымі ланцугамі сціскае сэрцы і душы палешукоў, у любых інтэрпрэтацыях зводзіцца да аднаго: «А ці можна было наша жыццё, наш лёс пасля таго, як прачнуўся ядзерны вулкан, вырашыць неяк па-іншаму?»

Адказ на яго гучыць адназначна: толькі поўнае, а не выбарнае адсяленне людзей ад Чарнобыля магло выратаваць не толькі нашую шматпакутную рэспубліку (а і ўсю краіну) ад яшчэ больш жудаснай небяспекі, якая сёння выглядае рэальнай, — стаць назаўсёды заложнікамі Чарнобыля. І гэта не мастацкае перабольшванне

або ўздзеянне радыяфобіі — пацярпелыя раёны сталі носьбітамі радыяцыйнай інфекцыі, якая паступова распаўзаецца па ўсёй нашай вялікай дзяржаве. Не разумець гэтага могуць толькі людзі, якія не зацікаўлены, каб чарнобыльская праўда «выбіла» з-пад іх мяккія крэслы, або тыя, хто ацэньваюць ступень уласнай бяспекі па геаграфічным атласе, не дужа задумваючыся над тым, што атручаная зямля родзіць і атручанае зерне, з якога вырабляюцца прадукты не толькі на абедзенныя сталы жыхароў пацярпелых раёнаў.

Галоўная наша бяда адсюль, з ціхай санлівай Брагіншчыны, бачыцца ў тым, што мы спрабуем з «чарнобыльскага ланцуга» вырваць асобныя звенні. Мы быццам не заўважаем, што гэтая нялёгкая праца, акрамя маральнага задавальнення, не прыносіць пакуль што адчувальных вынікаў, бо кожнае такое звяно складзена з мноства людзей, чымі намаганнямі створана і працягваецца чарнобыльская трагедыя. Калегіяльнасць рашэнняў, засакрэчанасць прозвішчаў іх аўтараў і натхніцеляў даюць магчымасць сапраўдным віноўнікам аварыі выводзіць з-пад удару грамадскага абурэння сваіх аднадумцаў і памочнікаў, нават цэлыя антычалавечыя канцэпцыі бяспечнага пражывання людзей на радыеактыўнай, страчанай на многія дзесяцігоддзі зямлі, а самім пры гэтам заставацца недатыкальнымі.

Часта думкамі я вяртаюся да трагічнага і светлага лёсу акадэміка Андрэя Дзмітрыевіча Сахарава. Успамінаю, як ён, па-старэчы, але не зломлена, апусціўшы плечы, ішоў ад высокай трыбуны сесіі Вярхоўнага Савета пад незадаволены гоман дэпутацкага корпуса. А потым перад вачамі нібы ўсплывае ягоны заспакоены твар у жалобнай труне, мора жывых кветак і самаробны плакат над галовамі людзей, што прыйшлі праводзіць у апошні шлях нябожчыка, якому роўных няшмат засталося і сярод жывых, — «Даруй нам!».

Каб не трапіць пад пачуццё звычайнай чалавечай жаласлівасці, я дастаю са сваёй «чарнобыльскай папкі» газету і пачынаю чытаць: «У 1986 годзе Сахараву не дазволілі прыняць удзел у ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі, хаця менавіта ягоны розум там мог аказацца незаменным» [1].

Цяпер самы час успомніць пра трагічны лёс акадэміка Лягасава і задумацца над тым, як бы разгортва-

[1] Артыкул «Горькая ссылка». «Известия», № 37, 1990 г.

ліся далей падзеі, калі б гэтыя два вялікія вучоныя і сумленныя чалавекі сустрэліся ў Чарнобылі. Думаю, няма патрэбы тлумачыць, якім навуковым і адміністрацыйным сілам, іх кар'еры і дабрабыту пагражала такая сустрэча і што яна магла прынесці тым, каго мы ўжо чатыры гады запар звыкла называем «жыхарамі пацярпелых раёнаў». І калі я вяртаю з мінулага тое шчырае і вінаватае: «Даруй нам!», я нібы яшчэ і чую шматгалосы ўздых палёгкі, які вырваўся з грудзей рулявых нашай радыяцыйнай і медыцынскай навукі — «Дзякуй богу!..».

Цяжка думаць па-іншаму, калі аналізуеш першыя паслячарнобыльскія дні, а таксама спантанныя рашэнні, якія прымаліся і кіраўніцтвам нашай рэспублікі. Пра іх вытокі амаль праз чатыры гады пасля чарнобыльскай трагедыі змог нарэшце расказаць член-карэспандэнт АН БССР, загадчык лабараторыі АЭС Інстытута ядзернай энергетыкі Васіль Несцярэнка. Толькі цяпер мы даведаліся, што ён, маючы на руках трывожную і даволі аб'ектыўную на той час інфармацыю, як апошні назойлівы наведвальнік, вымушаны быў ад самай раніцы і да шасці гадзін вечара сядзець у прыёмнай былога першага сакратара кампартыі рэспублікі М. Слюнькова. Пасля таго як яны ў рэшце рэшт сустрэліся, вучонага адаслалі да былога Старшыні Савета Міністраў БССР Кавалёва, у якога ў той час знаходзіўся і былы міністр аховы здароўя рэспублікі Саўчанка. На прапанову закрыць для гандлю адкрытую частку Камароўскага рынку, абмежаваць выхад дзяцей на прагулкі і на першамайскую дэманстрацыю, міністр зняў трубку і пазваніў у Маскву акадэміку Ільіну (помніце — цяпер ужо Герою Сацыялістычнай Працы), які параіў не праводзіць нават ёдавую прафілактыку сярод мінчан...

Можна толькі ўявіць сабе, як адбіліся вынікі гэтай рэкамендацыі на здароўі і будучыні дзяцей, што знаходзіліся ў зоне амаль непасрэднага ўздзеяння разбуранага атамнага рэактара. Пра тое наша пакаленне можа толькі здагадвацца, хоць фактаў аб захворванні шчытападобнай залозы мноства. (Амаль у кожнай публікацыі на чарнобыльскую тэму гучыць з гэтай прычыны трывога.)

Не баючыся памыліцца, сёння ўжо можна з усёй адказнасцю сцвярджаць, што менавіта нерашучасць у прыняцці экстранных мер, а часам і незразумелая не-

кампетэнтнасць кіраўнікоў нашай рэспублікі, іх залішняя — і таму наіўная — вера ў непаграшальны аўтарытэт сталічных вучоных сталі тым першым каменем у фундаменце, на якім разраслася паслячарнобыльская трагедыя. Як ні цяжка пра гэта пісаць, цяпер не толькі асобныя жыхары, пра якіх я ўжо гаварыў, а і цэлая рэспубліка з магутным, здавалася б, навуковым і эканамічным патэнцыялам, якая мае сваё прадстаўніцтва ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, сталі прасіцелямі...

Становішчу, у якім спачатку не па сваёй віне апынулася наша Беларусь, не пазайздросціш. Але калі мы ўжо вымушаны нешта прасіць, дык трэба думаць не толькі пра дзень сённяшні. Грошы, якія выдзяляюцца на розныя даплаты жыхарам пацярпелых раёнаў, з аднаго боку яскрава сведчаць пра тое, што на атручанай зямлі жыць нельга, а з другога — працягваюць разбэшчваць людзей, бо многія з іх ужо адвучыліся гаспадарнічаць на нармальную радавую зарплату, хоць і добра разумеюць, што грошы тыя «атручаныя цукеркі», якімі іх «частуюць» тыя неўміручыя і неператажныя адміністрацыйныя сілы, якія стаялі ля вытокаў чарнобыльскай катастрофы... І пакуль большасць іх імён будзе па-ранейшаму ахутана тайнай і знаходзіцца пад аховай самых высокіх органаў, нашай улады, «ланцуговая рэакцыя хлусні», пра якую я пісаў, будзе працягвацца, а значыцца, усе самыя гуманныя пастановы і спробы — выратаваць ахвяр Чарнобыля, асуджаны на тое, каб стаць проста чарговымі мерапрыемствамі, якія, можа, на нейкі час і супакояць людзей, але так і не нададуць ім статут паўнапраўных жыхароў нашай краіны...

Што яшчэ сказаць? У нас усё па-старому: трывожна пазірае на свет божы пустымі сталамі мёртвы рынак, а насупраць яго ўжо заканчваюць узводзіць новы будынак райаддзела міліцыі...

Ёсць і яшчэ навіна, пра якую вы, мабыць, не ведаеце: нядаўна нашаму раёну за павышэнне ўраджайнасці, павелічэнне вытворчасці і продажу дзяржаве бульбы *прысудзілі* (падкрэслена мной. — *А. К.*) пераходны Чырвоны сцяг ЦК КПБ, Савета Міністраў БССР, Беларускага Савета прафсаюзаў і ЦК ЛКСМБ па выніках сацыялістычнага спаборніцтва за 1989 год...

***Снежань 1989 — красавік 1990 года***

Гэты ўспамін прыходзіць да мяне і па начах. Здаецца, толькі заплюшчыў вочы, а ён ужо тут як тут — прымасціўся побач на ложку...

Ліпкі дождж шэрымі ніткамі падае з чорна-сініх ускудлачаных хмар на зялёную траву стадыёна. Застылыя постаці ў жалобным адзенні на маленькай трыбуне. Нахіліўшыся, быццам над уласнай магілай, жанчыны прыкрываюць грудзьмі трапяткія і баязлівыя язычкі запаленых свечак. А над прастуджаным, мокрым ад нудлівага дажджу і чалавечых слёз наваколлем рвецца да Гэгруваcткага ўскудлачанага неба голас святога айца Георгія, новага мястэчковага бацюшкі: «Браты і сёстры! Будзем церпялівымі...»

26 красавіка адна тысяча дзевяцьсот дзевяностага года. Паніхіда па мінулым жыцці...

Аленка Раманюк — тыповая маленькая паляшучка. Пэўна, ад бяздоннай празрыстасці азёр і залацістых жнівеньскіх палеткаў ёй дасталіся ў спадчыну вялікія блакітныя вочы і мяккія саламяныя валасы, на якіх нібы расцвіла чырвоным бантам папараць-кветка.

На лістку паперы Аленка малюе хатку. Спачатку старанна вывела жоўтыя сцены, сіненькія аканіцы і пунцовы дах. Потым пасадзіла вакол хаткі ружовыя дрэўцы.

— А ці бачыла ты калі, Аленка, такія дрэўцы? — лагодна спытала выхавацелька.

— Не, — як у чымсьці вінаватая, працягла ўздыхнула дзяўчынка, — але ж татка казаў, што мы з сястрычкай будзем жыць там, дзе няма чорнага колеру...

Ігару Прыходзьку шосты годзік, і па ягоным бясхітрасным твары лёгка здагадацца пра настрой хлапчу-

ка. Калі на душы ў хлопчыка светла і радасна, ляціць з усіх ног па заасфальтаванай алейцы ў дзіцячы сад і, убачыўшы сваіх маленькіх прыяцеляў, яшчэ здалёку крычыць: «А вось і я!..» Абвяшчае, значыцца, усім аб сваім прыбыцці.

Неяк прыцягнуўся ўранні незадаволены і пахмурны, быццам той стары, што незнарок бразнуўся з печы.

— Хто цябе, сонейка, пакрыўдзіў? — спытала ў Ігара выхавацельніца.

— Татка, — трошкі памаўчаўшы, растлумачыў хлапчук. — Навошта ён мне хлусіць, як маленькаму? Казаў, калі пераедзем адсюль, дык пойдзем у лес збіраць грыбы. А ці ж можна ў лесе збіраць грыбы?..

Верачка Ладуцька вучыцца ў трэцім класе. Аднойчы вярнулася са школы, паклала на лаўку партфель, затым прыгарнулася да маці і ціхенька спытала:

— Мамка, а ты ведаеш, што такое шчасце?

— Гэта, дочухна, калі ў чалавека лагодна на сэрцы і ўсё ў жыцці ідзе на лад...

— Не, матуля, то не сапраўднае шчасце, — самотна адгукнулася Верачка. — Шчасце — гэта калі ў цябе не баліць галоўка...

Дзеці шматпакутнага Палесся, як і іх шчаслівейшыя равеснікі, над чымі лёсамі і будучыняй не паспеў яшчэ расхінуць чорныя крылы чарнобыльскі груган, палохаюць сваёй амаль дарослай філасофіяй.

Волечка Крывушэнка шчырая, адкрытая: пачуе нешта на вуліцы або дома і абавязкова падзеліцца ў дзіцячым садзе.

— Толік, а ты ведаеш, чаму самалёты над намі не лётаюць? — за сняданкам спытала яна свайго суседа па століку.

Той адклаў убок лыжку, трошкі падумаў і раптам узрадавана ляпнуў сябе далоняй па лобіку.

— А таму, Волька-молька, што мы з табой жывём у вёсцы, а не ў вялікім горадзе...

— Вось і няпраўда! — бы маці-вераб'іха, павучальна і задаволена зашчабятала дзяўчынка. — Дзед казаў маёй бабе, што самалёты тыя вельмі баяцца «рацыі». Таму і не лётаюць над намі...

— А мне дык пашанцавала! — прызнаўся па сакрэту сваім дзетсадаўскім сябрам Міколка Самусёнак. — Татка мой учора з аўтобуса вярнуўся...

— Адкуля? — ледзь не хорам перапыталі малыя.

— Адтуля, — перадражніў іх Міколка. — З аўтобуса пузатага. Хатку для мяне шукаў. Сказаў, што яшчэ не пабудавалі. Дык і добра: дома застанемся жыць...

Вось так будзённа гавораць пра страшэнную бяду, што, як той каршун-драпежнік, навісла над імі, маленькія палешучкі. Я нічога за іх не прыдумваў — ні слоў, ні прозвішчаў — гэта нашы дзеці, чыё ўсведамленне пра дабро і зло апрамяніў Чарнобыль. Яны рана сталеюць, бо займелі столькі невядомых раней хвароб, колькі не зведалі іх дзяды і бабулі за сваё доўгае жыццё.

Але само ўспрыманне свету ў іх засталося дзіцячым: усе яны — Ігаркі і Волечкі — так да канца і не зразумелі, што з імі т а д ы адбылося? Чаму летам ім нельга бегаць па лужынах, а ўвосень збіраць у лесе грыбы, чаму бацькі забараняюць ім гуляць на лужку і хадзіць па абочыне дарогі?

Яны ніяк не могуць уцяміць, навошта з роднага падвор'я забіраюць кароўку, якая шчодра паіла іх малаком... Яны многага не разумеюць, але пакорна і звыкла цягнуцца за бацькамі ў райбальніцу, хоць інтуітыўна адчуваюць небяспеку — бачаць, як мамы ўпотай выціраюць з вачэй слёзы. Малыя, як загнаныя ў цесную клетку звяркі, спадылба глядзяць на доктарак у белых халатах і не вераць іхнім лагодным, але бы нацягнутым на васковыя маскі, усмешкам. Яны са страхам чакаюць, што доктаркі зробяць ім балюча.

Бяздротавы дзіцячы тэлефон працуе бесперапынна: маленькія палешучкі дакладна ведаюць, у якой школе ці садзіку бяруць кроў, каго з іх сяброў павезлі ў Мінск на лячэнне... І гэтыя зусім недзіцячыя стрэсы — таксама неад'емная частка іхняга гаротнага жыцця пад прыгнётам Радыяцыі...

Некалі я і сам сумняваўся, што ў мяне хопіць сіл і ўпартасці, каб, не спрошчваючы і не ўтойваючы ад людзей чорную праўду, шчыра расказаць пра боль і пакуты дзяцей Палесся. Але не магу, нават у думках, па-

верыць у надушаную бадзёрасць надзеленых уладай клеркаў і іх начальнікаў, якія нібыта займаюцца чарнобыльскай праблемай. Не магу таму, што сёння, як і ўчора, маленькія палешукі жывуць за нябачным калючым дротам.

Былыя першыя асобы рэспублікі, якая па справядлівасці заслугоўвала і лепшай долі, і лепшых кіраўнікоў, даўно паспелі абжыць свае новыя маскоўскія кватэры і дзяржаўныя дачы, а тыя дзеці, якіх яны так любілі запрашаць на святочныя трыбуны з букетамі жывых кветак, пасталеўшыя і знясіленыя хваробамі, у дзень апошняга школьнага званка неслі настаўнікам вялікія і чырвоныя, нібы кроў, півоні са сваіх радыеактыўных кветнікаў, а іх малодшанькія браты і сёстры для сябе і сваіх бацькоў будавалі ў пясочніцах радыеактыўныя хаткі...

Віна за гэтыя нечалавечыя анамаліі ляжыць не толькі на сумленні нашага кіраўніцтва, але і на многіх функцыянерах меншага калібру, якія, пераехаўшы з «зоны жорсткага кантролю» ў старажытны і адносна чысты Мінск, мала што зрабілі, каб змяніць сітуацыю, у якой аказаліся дзеці Палесся. Дык што рабіць няшчасным бацькам? Мо і сапраўды, як заклікаў святы айцец, чакаць, пакуль смерць прыбярэ іхніх дзяцей?

У вёсцы Міхнаўка на вуліцы я сустрэў хударлявую і быццам пераломленую напалам бабулю, якая цягнула дахаты сумку з прадуктамі. Спытаў у яе, як знайсці хату вясковага пенсіянера, які некалі ў вайну абараняў Адэсу і Севастопаль і пра якога трэба было напісаць у газету.

Высветлілася, што бабуля суседка гераічнага дзеда. і мы пайшлі з ёй разам. Як вядзецца, загаманілі пра надвор'е, паскардзіліся адно аднаму, што даўно ўжо не было дажджу, нават дыхаць ад пылу і спякоты няможна. І ўсё ў нас ішло ладком і па-добраму, пакуль я вазьмі і не спытай, ці многа ў Міхнаўцы засталося дзяцей?

Бабуля, як тая ўстрывожаная квактуха, адразу замахала рукамі, затрэслася і ў адно імгненне зрабілася страшна ваяўнічай, нібыта я збіраўся даць цягу з яе сумкай.

«Старыя ўжо, вядома, не родзяць, а маладыя — дур-

ныя, — выплёўваючы са шчарбатага рота словы, мабыць, ад абурэння зашапялявіла яна. — Тыя вялікія начальнікі, не баюся бога, — злыдні, бо яны за нас памі-раць не будуць, і іхнія невіноўныя ўнукі за нашых так-сама...»

Цяжка было спрачацца са старой паляшучкай, што нарадзілася ў куточку, пэўна, асененым самім усемагутным, а адыдзе ў свет нашых продкаў з атручанай зямлі, якую пазначыла атамным сімвалам чарнобыльская пачвара. Ды і як супакоіць бабулю, якая яшчэ да вайны скончыла чатыры класы, а пра вышэйшую партыйную школу і чуць не чула?..

Евангелле сцвярджае: «Пазнай ісціну і яна зробіць цябе вольным».

Жудасная праўда пра атамны выбух над Прыпяццю адкрылася жыхарам пацярпелых раёнаў не адразу, а, бадай, калі пайшоў ужо чацвёрты год з таго чорнага помніка-дня.

У пакутах і трывогах за лёс сваіх дзяцей і блізкіх людзі нарэшце пазналі ісціну: ні дня, ні лішняй хвіліны нельга было жыць на зямлі, пасыпанай ядзерным попелам. Але, пазнаўшы гэтую кашмарную ісціну, палешукі ўсёроўна вольнымі не сталі.

Па засмечаным і пыльным тратуары, які, відаць, ніколі не бачыў веніка, маладыя бацькі няспешна коцяць каляску. Бацька — відны з сябе: шыракаплечы, з прадаўгаватым аскетычным тварам і густой капой светлых валасоў.

Маці — стромкая і па-прыгожаму хударлявая. У яе загарэлы, як высечаны з карычневага мармуру, твар, які акаймоўваюць ледзь не па пояс каштанавыя валасы. У спалучэнні з доўгай, аж па пяты, белай сукенкай яны надаюць ёй даволі імпазантны, зусім невясковы выгляд.

Бацька заклапочана нахіляецца над каляскай, нібы прыслухоўваецца да дыхання свайго нашчадка.

— Мо адхінуць трохі коўдрачку? — няўпэўнена пытае ён у жонкі.

— Ага. Зрабі ласку, — заахвочвае тая мужа ўдзячным позіркам. — Як бы не спацеў Славік. Дужа ўжо горача стала...

З лаўкі, якіх багата параскідана ўздоўж галоўнай вуліцы гарадскога пасёлка, прыхінуўшыся вострымі, як высахлымі, плячамі да зялёнай агароджы, глядзіць ім наўздагон старая. Калі каляска з малым трохі аддаляецца, жанчына пачынае набожна хрысціць паветра.

— Свят-свят, — ледзь чутна крэкча яна, — злітуйся і не карай неразумных бацькоў. Ці ж гэта можна з намі, нябожчыкамі, мальцам жыць?

Другога чэрвеня (я добра запомніў той дзень) брагінскім падпісчыкам прынеслі чарговы нумар «Огонька» за май. Увечары я забег на кубак кавы — хоць урачы і катэгарычна забаранілі тую каву піць — у сям'ю свайго добрага прыяцеля былога дырэктара адселенага саўгаса «Брагінскі» Пятра Пятровіча Кузьмянка.

Сам галава сям'і знайшоў сабе прытулак у Смаргоні, а трое яго дзяцей і жонка, якія сустрэлі дваццаць шостае красавіка непадалёку ад разбуранага рэактара, як гаворыцца, сядзелі на чамаданах.

Малодшанькія Максім і Пеця (або, як яго пяшчотна называе жонка Кузьмянка Наталля Сяргееўна, Пяцюнчык) збіраліся ехаць у санаторый «Дружба», што пад Мінскам. Сама ж гаспадыня разам з прыгожай і разважлівай дачкой Ірынкай чакалі якіх-небудзь пуцёвак у сямейны дом адпачынку. Трэба было перагараваць неяк лета, бо Пятру Пятровічу міласэрнае смаргонскае начальства да пачатку новага навучальнага года абяцала выдзеліць кватэру. Таму пад дахам іх заўсёды гасціннай брагінскай трохпакаёўкі і вітаў дух няўпэўненасці і надзеі.

Першы звярнуў увагу на часопіс Максім.

— Мамка, ты бач: то ж, здаецца, наша школа? — паказаў ён на каляровую вокладку.

На здымку — у нейкім нерэальна яркім блакіце неба віднеўся пасёлак Сонечны, якім некалі так ганарыўся яго бацька.

Нярэдка мы з Кузьмянком, у той час старшынёй раённага камітэта народнага кантролю, вандруючы па радыеактыўных дарогах і крывых вулачках, не згаворваючыся маўчалі, калі шафёр без усялякай каманды ці напаміну заязджаў у Сонечны.

Нават пасля таго як пасёлак паспешліва і на ўсё астатняе жыццё кінулі людзі, з шашы ён здаваўся нібы

новенькім — з'яўлялася такое адчуванне, што вось-вось ва ўсіх прыгожых, быццам на рэкламных фотаздымках, дамах і катэджах расчыняцца вокны і дзверы і з іх выглянуць заспаныя, але шчаслівыя твары вяскоўцаў.

— Максімка мой пасля другой эвакуацыі, калі нас ужо з вёскі Рудня Жураўлёва перакінулі ў Брагін, — неяк расказваў па-мужчынску прыгожы і працавіты, што той флоцкі боцман, Кузьмянок, — усё рваўся вярнуцца ў адселены Сонечны. Ніяк не мог узяць у галаву, што ў нашым доме нельга жыць. «Раней было добра, а цяпер няможна?» — румзаючы, здзіўляўся ён.

І так Максім дапёк мяне сваім недаверам і слязьмі, што аднойчы я не вытрымаў: павёз яго разам з малым Пяцюньчыкам на сваю былую кватэру. Як убачылі яны выбітыя ў дамах шыбіны, мёртвыя вуліцы — дзе ні чалавека стрэць, ні нават пеўніка ўбачыць, — скасабочаныя, як ад зубнога болю, агароджы ды той горкі палын, што вымахаў ледзьве не вышэй за мяне, небаракі, спалатнелі ад страху і хутчэй у машыну...

І вось цяпер у брагінскай кватэры малыя Кузьмянкі старанна і засяроджана разглядвалі каляровы фотаздымак пасёлка Сонечны, у якім, здавалася, яны яшчэ толькі нядаўна жылі.

— А во мой дзіцячы садзік, — торкаючы пальцам у асветлены сонцам двухпавярховы будынак, шчасліва ўсміхаўся Пяцюнчык.

— Ты з яго да нас штодзень у школу ўцякаў, — напомніла яму былы грэх Ірынка.

— Ага, бегаў, — адразу згадзіўся малы, — гэта твая настаўніца вінаватая — навучыла мяне на дошцы мелам пісаць, а мне і спадабалася...

Кардонныя скрынкі ў спальні Кузьмянкоў упакаваныя няхітрымі пажыткамі, а сам пакой чымсьці нагадвае падсобку ўбогага вясковага магазіна «часоў перабудовы» — сумленныя людзі пры нашым хранічным дэфіцыце многага не набудуць...

Вось і збіраюцца Кузьмянкі са сваім небагатым скарбам у няблізкі свет. У трэці раз за чатыры гады. Спачатку з радыяцыі ў радыяцыю па «мясцовым маршруце», вызначаным ім, як і тысячам гаротных палешукоў, бязладнай і антыгуманнай стратэгіяй ліквідацыі вынікаў аварыі: пасёлак Сонечны — вёска Рудня Жураўлёва — Брагін.

Цяпер не сёння-заўтра паедуць у Смаргонь. Дай бог,

каб туды не дацягнулася сваёй кастлявай клюшняй бязлітасная чарнобыльская здань...

У радасці ўсе дзеці шчаслівыя, у горы — безабаронныя. Калі ў акно хаты, нібы тая шаравая маланка, укочваецца Бяда, яны, хоць інтуітыўна, горнуцца пад бацькоўскае крыло, усё роўна робяцца заўчасна самастойнымі і таму яшчэ больш адкрытымі перад незразумелай для іх і таямнічай навалай. Тым больш што бяда, якая прыціснула зямлю іхняга дзяцінства, не мае ні страшнага, як у таго Змея Гарыныча, аблічча, ні грымотнага голасу...

Адчуванне небяспекі ў маленькіх палешукоў засела вострай стрэмкай дзесьці ў тайніках душы і раз-пораз нагадвае пра сябе знянацку і ў самай вычварнай форме.

Амаль кожны дзень я заходжу ў раённую бібліятэку. Дзяўчаты, што ў ёй працуюць, пэўна, прывыклі да маіх рэгулярных візітаў, бо кожны раз, нібы з блізкім чалавекам, дзеляцца сваімі турботамі і клопатамі.

Учора (24 красавіка) забег у чытальню днём. Прыгожая і па-свецку вытрыманая Наталля Несцерава, якая працуе на абанеменце, расказала мне сумную, нават страшную гісторыю.

Яе добрая прыяцелька, як звычайна перад сном, сабралася прачытаць свайму малому казку. Толькі пачала гартаць старонкі кніжкі, як сын, незадаволена і па-даросламу зморшчыўшы тварык, запярэчыў:

— Ты мне, мамка, больш казак не чытай: раскажы лепш пра Чарнобыль...

Праз два дні ў чарнобыльскай памінальнай кнізе рука Гісторыі пачне пісаць пяты раздзел летапісу, які пачаўся з дня выбуху над некалі цудоўнай Прыпяццю, а цень ад разбуранай атамнай станцыі ўсё гусцей кладзецца на светлыя душы дзяцей...

Ад чутак пра радыяцыю, як і ад смяротнага ўплыву на здароўе, дзяцей абараніць немагчыма. Інакш і не можа быць, калі малыя жывуць у яе жорсткіх, бы жалезныя кайданы на целе, абдымках. Сюды нельга, туды — таксама... Але ж куды ад явы схаваешся: і сюды трэба, і туды неабходна... Дзецям не спадабілася

існаваць, як той гаварлівы папугай, у прыгожай клетцы. Ад радыяцыі малых не ўратуе ні свежая бялізна, хоць мяняй яе кожны дзень, ні той жа разрэкламаваны вінаградны сок, якога няма ў меню дзетсадаўскіх сталовак, ні бацькоўскі клопат.

Можа здарыцца так, што нават экстраннае перасяленне дзяцей з чарнобыльскага палігона так і не здолее ў блізкай перспектыве вылечыць іх хворую псіхіку. Неадчэпны страх, суровыя абмежаванні, нарэшце, вандроўнае жыццё, якое па-навуковаму называецца «аздараўленнем» — гэта таксама нябачныя ворагі, якія калечаць дзіцячыя душы.

Неяк у спякотны вясновы дзень, якіх надзіва многа выпала летась, я зайшоў у дзіцячы сад. Хацелася пагутарыць з выхавацельніцай Святланай Пяхотай, якая нядаўна ў складзе дэлегацыі брагінцаў на плошчы перад Домам урада ў Мінску перадала патрабаванні жыхароў пасёлка аж самому касманаўту Уладзіміру Каваленку і зрабілася ў пасёлку знакамітай, як тая маці Тэрэза.

На пляцоўках для дзіцячых гульняў Святлану я не знайшоў, але мне падказалі, што яна дзесьці ў памяшканні. Прайшоўшы па калідоры, я нечакана трапіў у не дужа вялікі, аднак з густам абсталяваны пакой. Непадалёку ад чорнага і бліскучага, нібы кавалак антрацыту, піяніна ўбачыў на шырокім жоўтым дыване бялявага хлапчука ў кароткіх сініх штанах і квяцістай кашулі-безрукаўцы. Падпёршы кулачкамі падбародак, ён ляжаў на тым дыване і стрыг босымі нагамі паветра.

— А ты чаму не гуляеш на двары? — пацікавіўся я.

Хлапчук, быццам ртутны шарык, спрытненька перакаціўся бліжэй да мяне і, мабыць, зразумеўшы, што няма чаго баяцца, шчыра прызнаўся:

— А я збег адтуль. На вуліцы, кажуць, больш атамаў...

Вось такое зусім не дзіцячае ўспрыняцце свету, якое яму наканавалі знакамітыя вучоныя разам з былымі і цяперашнімі кіраўнікамі нашай цярплівай і працавітай, што тыя вясковыя пенсіянеркі, рэспублікі, якія, здаецца, з калыскі і назаўсёды прысягнулі служыць яе Вялікасці Кар'еры.

«Калі вучоныя не могуць знайсці адказу, як на чалавека ўплывае радыяцыя, дык мы паможам ім сваім жыццём і смерцю». (З размовы брагінскіх настаўніц.)

І быў месяц май, і быў месяц чэрвень. У маі восемдзесят шостага — пра гэта я пісаў у першым дзённіку — пасля няўдалай перасадкі касцявога мозгу, на Міцінскіх могілках, што ў журбе раскінуліся на абочыне новай Масквы, таропка, як сарамліва, пахавалі чарнобыльскага хлопца з беларускай вёскі Спярыжжа Васіля Ігнаценку. У чэрвені — ля яго натруджаных ног — безыменную дачку.

Яна нарадзілася ў маскоўскай бальніцы, калі памёр ужо яе бацька, і старая акушэрка, якая прымала ва ўдавы Васіля Ігнаценкі роды, у роспачы сказала тое, чаго не павінна была гаварыць нават пад прымусам: «Лепш бы дзіцяці не выжыць...»

Дзяўчынка і сапраўды доўга не пакутавала: пакрычала трохі, нібы паскардзілася людзям на свой гаротны лёс, і супакоілася. Нават не паспелі даць ёй імя. Але прозвішча ў яе засталося — Ігнаценка. Так і запісалі яе ў могільнікавую кнігу. А яшчэ ва ўлонні маці дваццаць шостага красавіка яе хрысціла Радыяцыя...

Цяпер гэтая безыменная дзяўчынка, святая пакутніца, так і не зведаўшы ні дзіцячай радасці, ні жаночага шчасця, заснула вечным сном на чарнобыльскім алтары бязвінных ахвяр побач з цынкавай труной, у якой ляжыць яе бацька...

Палешукі дзеляць апошняе дзесяцігоддзе на дзве амаль роўныя часткі. Тое, што выпала на іх долю пасля выбуху на атамным рэактары, яны называюць кароткім і трывожным словам «вайна». І вынікі радыяцыйнага нападу ацэньваюць суадносна з падзеямі, хоць ужо і далёкага, але ад гэтага не менш жудаснага, сорак першага года — адных жыхароў пад «бамбёжкай» паспелі эвакуіраваць, другіх — пераважную большасць — у паніцы кінулі на занятай бязлітасным ворагам тэрыторыі.

З тымі чужынцамі, што акупіравалі падвор'і і хаты,

не дужа паваюеш і не выганіш за парог, як няпрошаных і назойлівых гасцей, бо яны вельмі рухомыя і нябачныя нават пад сонечнымі промнямі. Дый яшчэ такія жыццелюбівыя, што пераживуць не адно наша пакаленне. У тым ліку і вінаватых і бязвінных. Так і адыдзем у царства ценяў: адны з цяжкім і невыкупным грахом на душы, а большасць — святымі ахвярамі з вечным і нямым пытаннем: «За што?»

Пражыўшы ў абдымках з Радыяцыяй чатыры бясконца доўгіх і пакутлівых гады, за якія паспела адгрымець мінулая вайна, палешукі ўрэшце знялі са сваіх вачэй каляровыя акуляры, што ад самага нараджэння начапіла ім спачатку таталітарная, а затым каманднаадміністрацыйная Сістэма. Заадно яна выхавала ў людзях непахісную веру ў тое, што мы жывём лепш за ўсіх і ўсе рашэнні, якія прымаліся за кожнага з нас, самыя лепшыя і разумныя. Але цяпер, як ачуняўшы ад глыбокага і цяжкага сну, жыхары пацярпелых раёнаў здзіўлена і спалохана агледзеліся вакол сябе і пачалі пераасэнсоўваць падзеі восемдзесят шостага.

Гэты занятак і страшны, і неабходны, бо разам з дарослымі ў зоне адчужэння ад б у д у ч ы н і жывуць іх дзеці, якія на вачах становяцца духоўнымі і фізічнымі калекамі і ўжо, здаецца мне, змірыліся з тым, што з імі адбываецца. А адбываецца з імі неверагодная трагедыя — на вачах бацькоў і ўсяго белага свету ідзе медыцынскі эксперымент над маім беларускім народам.

Ведаю, абавязкова знойдуцца людзі, якія абвінавацяць мяне ў залішняй катэгарычнасці, а мо і ў ледзьве не наўмысным скажэнні фактаў. Але мой боль — палескія дзеці, якія і сёння ходзяць у садзікі і школы па атручанай зямлі.

Жыць разам з імі і маўчаць пра трагедыю немаўлят і падлеткаў, многім з якіх не наканавана стаць ні жаніхамі, ні нявестамі, адчуць, як іх бацькам, таямніцу і радасць нараджэння на свет свайго дзіцяці, — значыцца свядома прадаць душу самому д'яблу і тым людзям, якія па сваім службовым абавязку маглі (і абавязаны былі!) прадухіліць яшчэ большую катастрофу. Маглі, але толькі млява паварушылі ўказальным пальцам і цяпер, учапіўшыся ў падлакотнікі сваіх монстраўскіх крэслаў, употай мараць пра бестурботную старасць дзесьці на ўтульнай дачы, на ганку якой яшчэ не паспела разлегчыся Радыяцыя...

Паслячарнобыльская ява — за нейкіх пяць-шэсць месяцаў — высмактала з мяне ці не да самага дна той цудадзейны аптымізм, які кожнаму з нас, нібы эліксір ад заўчаснай старасці, падарыла ў дарогу матухна-прырода.

Цяжка, амаль немагчыма паверыць у тое, што мой голас зможа хоць трохі аблегчыць лёс брагінскага хлопца Сярожы Садчанкі. Не цешу сябе нязбытнай надзеяй, што ўратую яго ад невылечнай пакуль што ў нашых айчынных клініках хваробы. Як не веру і ў тое, што, прачытаўшы гэтыя радкі, у дырэктара мясцовага камбіната грамадскага харчавання раптам прачнецца сумленне і яна прапануе Сярожу Садчанку хоць крупінку з тых лекавых далікатэсаў, што зрэдку перападаюць няшчаснаму, загубленаму Палессю, а не будзе чакаць пакуль міласэрныя дзеці з далёкага таежнага пасёлка, якога і не на кожнай карце адшукаеш, вышлюць хлопцу цукеркі з наіўнай надзеяй, што шакалад дапаможа адолець хваробу.

Я раскажу пра Сярожу Садчанку таму, што тая бяда, якая падсцерагла яго знянацку, у адно імгненне перакрэсліла будучыню, прыціснула да зямлі сваім свінцовым цяжарам бацькоў (яны і самі цяпер не вераць, што некалі іх сын рос здаровым і шчаслівым), — не нейкае трагічнае выключэнне або вынік неспрыяльных абставін, а жорсткія, хоць і пад высокім блакітам неба, будні палескіх дзяцей, чыё жыццё з маўклівай згоды нашай народнай улады абрабаваў Чарнобыль...

За той час, што я жыў у «зоне асаблівай увагі і жорсткага кантролю» (удумайцеся ў відавочную супярэчлівасць гэтых двух афіцыйных тэрмінаў), у раённай бальніцы змянілася ўжо ці не тры галоўныя ўрачы. Не буду запыняцца на прычынах ганаровай адстаўкі кожнага, бо ў маральным плане чарнобыльская трагедыя мала што змяніла ў псіхалогіі і паводзінах кіруючых работнікаў: у экстранных сітуацыях яны па-ранейшаму шукаюць «мясцовых стрэлачнікаў», а ў час працоўных перамог — герояў. Прыводжу гэты, у чорным святле трагедыі нічым не прыкметны, факт толькі таму, каб паказаць, у якім жабрацкім стане знаходзіцца служба аховы здароўя беларускай глыбінкі, жыхары якой пацярпелі ад аварыі...

Дзесьці ў сакавіку на мясцовую медыцынскую галгофу ўзышоў новы галоўны ўрач райбальніцы Васіль

Сяргеевіч Пярэу — невысокі, ладна збіты мужчына, з вельмі выразнымі карычневымі вачамі-люстэркамі, па якіх і сябар, і нядобразычлівец можа прачытаць ягоныя думкі.

Паколькі родныя мясціны ні ў горы, ні ў радасці ніколі не забываюцца, у той няпростай сітуацыі, што склалася з харчаваннем для хворых, Пярэу звярнуў свой позірк на зямлю маленства — сонечную Малдову. Праз сваіх сяброў і знаёмых дамовіўся аб пастаўцы ў райцэнтр садавіны і гародніны. Гэта былі практычныя крокі дзелавога чалавека, якія не маглі не спадабацца. (Праўда, не скажу, што ўсім.)

Але як бы там ні было, менавіта прадпрыемлівасць Васіля Сяргеевіча зацікавіла мяне, і я пайшоў у бальніцу, каб запісаць гутарку з новым галоўным урачом.

— Рана! — даведаўшыся аб мэце майго візіту, сказаў Пярэу. — Яблык, які не выспеў, яшчэ не яблык, яечка, што ў курыцы, яшчэ не яечка...

На тым і пагадзіліся. Я ўжо збіраўся выйсці з кабінета, як Васіль Сяргеевіч палез у скрыню стала, дастаў адтуль папку. Паклаўшы яе на стол і развязаўшы тасёмкі, пачаў нетаропка перагортваць старонкі медыцынскай справы. Потым, узняўшы галаву, пацікавіўся, калі я паеду на кароткатэрміновую «пабыўку» ў Мінск. Даведаўшыся, што на днях, узрадаваўся.

— Не давяраю пошце і чыноўнікам, — ледзь прыкметна і горка ўсміхнуўся ён. — Перадай гэтыя дакументы Марату Ягораву ў рэспубліканскі камітэт абароны міру. Ёсць папярэдняя дамоўленасць, каб хворага хлопца адправіць на лячэнне за мяжу.

Пярэу паклаў дакументы ў вялікі канверт, старанна заклеіў яго і перадаў мне.

— Для даведкі: у хлопца саркома, а для яснасці — рак касцей. Адсюль рабі высновы пра тэрміновасць, — растлумачыў Васіль Сяргеевіч.

Так я ўпершыню пачуў прозвішча Сярожы Садчанкі. Перадаўшы ў Мінску дакументы, кожны раз, сустракаючы галоўнага ўрача, я цікавіўся пра іх далейшы лёс. Пярэу апускаў долу вочы і, уздыхнуўшы, як асуджана, махаў рукой: «Пакуль што ніякіх зрухаў...»

А потым прыспеў тэлевізійны «Чарнобыльскі марафон», дзе зноў прагучала прозвішча майго няшчаснага завочнага знаёмца. Родныя хлопца прасілі аб літасці і дапамозе.

Не ведаю, што са мной здарылася: можа, успомніў, як раніцай, ідучы на работу, убачыў шэрае неба, якое, здавалася, ад краю да краю запаланілі крыклівыя і ваўнічыя груганы, а мо цяпер, даведаўшыся, што хлопцу, які амаль што сусед мне, так і не прыйшлі на дапамогу, не падарылі, хай — цяжка гэта ўсведамляць — і нязбытную надзею, — выключыў тэлевізар. Нейкую секунду-другую экран яшчэ свяціўся, потым на ім засталася толькі адна бліскучая кропка, і раптам усё знікла — цемра...

Убачыў я Сярожу, калі веснавое сонейка злізала ўжо з вулачак гарадскога пасёлка апошнія снежныя праталіны. (Я ўжо раней пісаў, што зіма дзевяностага выдалася надзіва цёплая.) Сярожа аказаўся не па гадах высокім, як мы цяпер гаворым, хлопцам-акселератам. Апрануты ён быў проста, але да ягонай вопраткі неяк не пасавала зялёная панама, якія я бачыў на дэсантніках, што служылі ў Афганістане. Садчанка няспешна ішоў па вуліцы, і неяк не верылася, што ён хворы.

Праз некалькі дзён я выпадкова пазнаёміўся з бабуляй Сярожы — сярэдняга росту, круглатварай, з выцвілымі вачыма мо ад старасці, а хутчэй ад гора, што звалілася на яе ўнука і ўсю сям'ю. Працавала Аляксандра Пятроўна ў раённай бібліятэцы прыбіральшчыцай.

— Не, пра лячэнне нешта не чутно, — на маё пытанне пра здароўе ўнука самотна, па-старэчы глытаючы словы, адгукнулася яна. — Але пра Сярожу майго не забыліся. Пасля тэлевізара адгукнуліся, паспачувалі добрыя людзі, — раптам засвяціўшыся тварам — нават пад вачамі разгладзіліся маршчыны. — Аж з самага Сахаліна маракі некалькі бляшанак ікры прыслалі. А адна старая, дай бог ёй здароўя, нейкія лекавыя карэньчыкі назбірала, бо, пісала нам, няма ў яе грошыкаў. А навошта тыя грошыкі? Хоць і не вылечыць, а сагрэе аж да самых пятак чалавечае цяпло. Зяпка (яна так і вымаўляе «зяпка») у бядзе аднаму жыць... Надта зяпка, аж халадзеча да нутры працінае... Хоць і сорамна людзей турбаваць, але ж што зробіш?

Вось і Сярожанька мой сарамлівы. Нават у спякоту панаму з галавы не знімае — саромеецца. Нямашанькі ў яго пад ёй валасоў. Як зрабілі яму ў Мінску тую, дай бог успомніць... Ага, вярнуўся розум — хімітэрапію, дык і павылезлі тыя валасы.

Ці ж думала я, калі яго на руках насіла, што ў трынаццаць гадочкаў унук мой аблысее... Не, не думала... Ай... — яна, як у роспачы, махнула тонкай высахлай рукой. — Ды што па валасах плакаць, калі цела ўражына грызе... Во, халера: да тых не дабярэцца, хто нас за краты гэтыя чарнобыльскія кінуў...

Яна, абапершыся падбародкам на швабру, якой працірала падлогу, яшчэ трохі пастаяла, затым, як ачуняўшы ці нешта ўспомніўшы, замітусілася:

— Дый што я слупом стаю. Загаманілася зусім. Трэба ж хутчэй скончыць прыборку ды дадому бегчы... Унук чакае...

Аляксандра Пятроўна паціхеньку пашкрэбла прыбіраць калідор, а мяне раптам кальнула думка: надта ўжо наша міласэрнасць падобная на дэфіцытныя аднаразовыя шпрыцы, якія апошнім часам з вялікім грукатам і помпай не тысячамі, а сотнямі прывозяць у пацярпелыя раёны дабрачынныя дэлегацыі. Але гэтымі міласэрнымі ін'екцыямі, на жаль, не выратаваць сёння палешукоў: і шпрыцы, і замежныя лякарствы многім ужо не могуць памагчы. І з кожным новым днём эфектыўнасць медыцынскай дапамогі будзе зніжацца і зніжацца, пакуль не дойдзе да нуля альбо і наогул нікому не спатрэбіцца...

Каб гэта зразумець, адчуць усю недасканаласць і замшэласць нашай бюракратычнай сістэмы кіравання, чэрствасць і эгаізм, трэба зноў, хоць і няпроста гэта рабіць, вярнуцца ў разбуджаны ядзерным выбухам трагічны красавік восемдзесят шостага...

*«Пяцідзесяцітрохгадовы савецкі пілот Анатоль Грышчанка на самалёце Аэрафлота дастаўлены ў Сіэтл (ЗША), дзе яму будзе зроблена складаная аперацыя па перасадцы касцявога мозгу».*

(Карэспандэнцыя ТАСС ад 13 красавіка 1990 года.)

Неверагодна. З моманту аварыі на Чарнобыльскай АЭС пайшоў пяты ўжо год, а мы — усё тыя, каго тысячы людзей сваімі грудзьмі засланілі ад спякотнага дыхання ядзернай завеі, і дагэтуль амаль не ведаем іх прозвішчаў. Давайце хоць зараз паглядзім праўдзе ў вочы і зададзім сабе шчырае і непрыемнае пытанне: як

магло здарыцца, што на нашых вачах стваральнікі і замоўчвальнікі трагедыі веку тайна пахавалі пад магільнікавымі плітамі разам з бязвіннымі і гераічнымі ахвярамі іх імёны?

Не будзе перабольшваннем, калі я скажу, што гэта яшчэ адна бязмежная трагедыя Чарнобыля — аддаць забыццю, прыгавораных чужой безадказнасцю і непагрэшнасцю вучоных догмаў да смерці і нечалавечых пакут, мужных людзей — нашых суайчыннікаў, якіх можна назваць і героямі-самазабойцамі. Бо, не паспеўшы вымаліць прабачэння ні ў сваіх бацькоў і жонак, ні ў сваіх дзяцей, што засталіся сіротамі, яны кінуліся ў чарнобыльскае полымя, пакуль яно, як той бледна-ружовы сцяг, — расказвалі відавочцы, — гойсала над разбураным чацвёртым блокам...

Няўжо нехта можа падумаць, што афіцэры войск хімічнай абароны, верталётчыкі і шахцёры, спецыялісты-ядзершчыкі, нарэшце, тыя ж пажарнікі не разумелі радыяцыйнай небяспекі, якая пагражала ім, або не ведалі, на што ідуць? Ведалі, але, стоячы над ядзерным кратэрам, як вымушаную даніну кідалі ў яго ненасытнае жэрла сваё жыццё і будучыню. Дзеля нас з вамі і нашых дзяцей спальвалі сябе ў агні самаахвяравання...

Успомніце на імгненне майскія рэпартажы ў праграме «Час», якія з кожным новым днём усё больш нагадвалі паведамленні аб баявых дзеяннях. Верталёты стомленымі стракозамі над аварыйным рэактарам, доўгая чарада шэрых ад радыяцыйнага пылу машын па дарозе на станцыю, чорныя ад бяды і нечалавечага напружання твары праходчыкаў тунеля пад машынную залу... І, нарэшце, як уздых палёгкі ці адчайны крык радасці — над рэактарам пастаўлены саркафаг...

А пакуль тыя самаадданыя, выхаваныя на гераічных традыцыях нашых продкаў і не зломленыя рэвалюцыйнай дыктатурай, безыменныя выратавальнікі змагаліся з атамным нашэсцем, з экранаў тэлевізараў вучоныя, міністры, высокія кіраўнікі розных рангаў чыталі нам, хоць і трывожныя, але з адценнем бадзёрасці, пропаведзі аб мужнасці і стойкасці нашага пакалення. І чым больш з'яўлялася шанцаў заглушыць рэактар, тым мажорней станавіліся выступленні і інтэрв'ю. А на канцы — калі паставілі ўжо саркафаг — цяжка было вызваліцца ад адчування, што час вярнуўся назад і мы сталі сведкамі новай працоўнай перамогі, а не катастрофы ўкладу на-

шага жыцця і той сістэмы духоўных каштоўнасцей, на якой фарміравалася наша вера ў светлую будучыню...

А ў гэты час там, у дрыготкім, нібы ружовы туман, зарыве Чарнобыля, якое высвеціла ледзьве не кожны куток нашай планеты, усё яшчэ гінулі і атрымлівалі смякротныя праменевыя дозы бязвінныя і гераічныя пакутнікі. Гінулі і не ведалі, што магутны клан бюракратаў і чыноўнікаў прыдумаў ужо для ўсіх іх адно прозвішча — «ліквідатар».

Так па-казённаму суха і лаканічна ахрысцілі тысячы людзей, якія сталі на шляху атамнай навалы, хоць пры гэтым многія з іх назаўсёды ліквідавалі сваю будучыню, і горш таго — асудзілі сябе на страшэнныя пакуты, калі чалавек, як дарагі падарунак, вымольвае ў жыцця смерць...

Імкненне да апошняга ўздыху верай і праўдай служыць сваёй роднай зямлі і яе чыстым душой і працавітым людзям — у крыві беларусаў. Ад Кастуся Каліноўскага і да мінскіх падпольшчыкаў, жыццё і подзвіг якіх спрабавала ачарніць улада, а выратавала ад праклёну і ганьбы сама Гісторыя беларускай нацыі, не парывалася духоўная блізкасць пакаленняў, як і не пераставала пульсаваць вечная крыніца сыноўскай любові да роднай зямлі.

Але чарнобыльская трагедыя быццам задалася мэтай разарваць гэтую высокагуманную, узгадаваную на мацярынскім цяпле і бацькоўскай мужнасці, спадчынную сувязь паміж мінулым і сапраўдным. Той жа Кастусь Каліноўскі свядома ахвяраваў сваёй будучыняй для наступных пакаленняў. Сотні салдат Айчыннай вайны, нашых землякоў, закрывалі сваім целам свінцовае джала дотаў, каб ўратаваць жыццё сяброў-паплечнікаў. Гэта і ёсць пранізлівы, на самай высокай ноце крык чалавека і ягонай светлай бунтарскай душы, які ніколі не растворыцца ў глыбінях Сусвету і не абарвецца ў будзённай мітусні...

Тым, хто прайшоў праз чарнобыльскае полымя, быў наканаваны іншы — горкі і няўдзячны лёс: небыццё, невядомасць і пакуты. У іх адня́лі самае галоўнае — веру ў справядлівасць і ў чалавечнасць. Той жа Анатоль Грышчанка, утрымліваючы ў паветры верталёт над самым цэнтрам разбуранага рэактара, безумоўна, свята верыў у тое, што гэтым ён адваёўвае ў смерці імгненні і хвіліны, якія, бы салдаты, выстройваючыся ў шарэнгі

гадзін і дзён, дадуць час **эвакуіраваць** жыхароў. Адкуль яму было ведаць: па тэлефонных правадах і тэлетайпах у раёны, ахопленыя трывогай і горам, ужо несліся каманды, якія ў многім вызначылі памеры будучай трагедыі: «Не паддавацца панікі!..» А клубы густога пылу, што шызымі языкамі паўзлі па прасёлкавых дарогах (прыйдзе час, і тыя, любыя сэрцу палешукоў, прасёлкі пахаваюць пад чорным асфальтам), зусім не сведчылі пра тое, быццам людзей вывозяць ад Чарнобыля — іх проста, як няшчасных вязняў, памечаных чырвоным трохкутнікам атама, перадыслацыравалі з аднаго «радыяцыйнага лагера» ў іншы: каго бліжэй, каго далей, але як наўмысна, так, каб перасяленцы знаходзіліся ў полі зроку аэсаўскага пастуха — рэактара. А калі нехта ў адчаі і роспачы спрабаваў ратаваць ад атамных аблокаў сваіх дзяцей, адразу трапляў пад цяжкі прэс улады...

Намеснік начальніка Брагінскага аграпрамысловага комплексу Сяргей Каваленя, так і не дачакаўшыся, пакуль да нашых вучоных і кіраўнікоў вернецца розум і яны прывядуць у дзеянне механізм эвакуацыі, у майскія дні восемдзесят шостага выехаў з дзецьмі на Капыльшчыну. Намеснік старшыні райвыканкома Анатоль Кустаў вывез сям'ю ў Жыткавічы. Думка раённых кіраўнікоў была аднадушнай — парушана святая святых — партыйная дысцыпліна, а камуністы, якія ратавалі сваіх дзяцей, заслугоўваюць самага суровага пакарання. Да выключэння з партыі не дайшло, але абое атрымалі па строгай вымове.

Ці мае права любая партыя вырашаць лёс дзяцей, якія належаць сваім бацькам, грамадству і, у рэшце рэшт, самому жыццю? Над гэтым у тыя трагічныя дні ўсеагульнай разгубленасці і духоўнага вар'яцтва не надта задумваліся, бо закасцянелыя ідэалагічныя ўстаноўкі пазбавілі многіх мясцовых і больш высокага рангу функцыянераў нават элементарнага пачуцця самазахавання. І калі задумваешся над тым, што адбывалася ў першыя дні і наступныя месяцы пад Чарнобылем, дык нельга не заўважыць неверагодную размежаванасць і палярнасць у паводзінах людзей, якія належалі адной партыі: частка з іх змагалася з ядзерным полымем, другая — са сваім уласным народам...

Ці не таму ў Хойніцкім раёне з «дэзерцірамі» распраўляюцца яшчэ больш крута і непрымірыма? (Некато-

рых выключылі з КПСС.) А цяпер, калі ўжо ідзе пяты год з моманту аварыі, самы час спытаць: дзе ж тыя першыя асобы раённага маштабу, якія пільна стаялі на варце партыйнай дысцыпліны? Падымі ноччу любога бацьку з Палесся, і ён паўторыць, як у дзяцінстве табліцу памнажэння, — хойніцкі сакратар перайшоў працаваць у апарат ЦК КПБ, брагінскі — у Савет Міністраў.

Вядома, будзе несправядліва ва ўсім, што здарылася і адбываецца сёння з палешукамі, абвінавачваць толькі раённых кіраўнікоў. Не пакарай у свой час той жа няшчасны сакратар няшчаснага бацьку, наўрад ці ягоныя ўласныя дзеці сёння хадзілі б у школу ў сталіцы...

Палітыка ўзаемнай доўгай ракіроўкі, калі рука дапамогі падавалася толькі тым, хто скрупулёзна і пунктуальна выконваў загады зверху, даючы час многім віноўнікам паслячарнобыльскай трагедыі перабрацца далей ад эпіцэнтра грамадскага абурэння, а не прыслухоўвацца да крыку сваёй і суседскай душы, з вяршыні трагедыі веку бачыцца дакладна акрэсленай і адыёзнай.

У маім «Брагінскім дзённіку» занатавана столькі фактаў, на першы погляд, нечаканых службовых перастановак, прыкладаў нявыкананых і забытых абяцанняў дапамагчы ахвярам ядзернага выбуху, што становіцца балюча і страшна. І вось што непакоіць, вярэдзіць душу: калі бярэш гэтыя факты паасобку, дык нічога асаблівага не заўважаеш. Але, калі гэтыя асобныя факты пачынаеш выстройваць, бы алавяных салдацікаў, па ранжыру адзін другому ў патыліцу, адразу ўзнікае безліч недаўменных пытанняў...

«Службовая адысея» Мікалая Мікітавіча Слюнькова добра вядома кожнаму беларусу. Тут, як гавораць, нічога не дадаць і не адняць. Гэта і трагедыя цэлай нацыі, і бяда нашага былога партыйнага лідэра...

У белакаменнай сталіцы цяпер і Георгій Станіслававіч Таразевіч, які меў непасрэднае дачыненне як да ліквідацыі вынікаў аварыі, так і да рашэння разагнаць маніфестацыю ля Курапатаў, якое абурыла і прымусіла ўздрыгнуць сэрцы не толькі жыхароў нашай рэспублікі. Пераехаўшы ў Маскву, былы Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета, быццам і не маячыў за ягонай спіной цень Курапатаў і Чарнобыля, перш-наперш заняўся разборам міжнацыянальнага канфлікту ў Грузіі...

Не лепш у той экстрэмальнай сітуацыі, што склалася вакол Чарнобыля, паводзіў сябе і саюзны ўрад. Я ўжо

расказваў аб наведванні Брагіншчыны членам Палітбюро Ягорам Кузьмічом Лігачовым. Дык вось акрамя антычалавечнага і антыгуманнага рашэння зноў засяліць — праз тры, а не трыста гадоў! — забруджаную радыенуклідамі вёску Сабалі ў кулуарах абмяркоўвалася і пытанне аб рээвакуацыі жывёлагадоўчага комплексу ў вёсцы Піркі, дзе радыяцыйная абстаноўка яшчэ больш цяжкая. Дзякуй богу, што ў мясцовай і саюзнай улады нешта не састыкавалася: цяпер хоць маладыя бычкі ў адрозненне ад старых сабалёўскіх, якіх «шчаслівіў» Ягор Кузьміч, не ходзяць па радыеактыўнай зямлі...

А як забыць інспекцыйную паездку ў раён камісіі па ліквідацыі аварыі, якую ўзначальваў намеснік Старшыні Савета Міністраў СССР У. Дагужыеў? Прычым дзеля справядлівасці трэба сказаць, што першыя яе крокі абнадзейвалі. Кіраўнік камісіі шчыра прызнаўся, што ён нядаўна на сваёй высокай пасадзе, і папрасіў брагінцаў быць гранічна шчырымі, каб хутчэй разабрацца і ацаніць абстаноўку, што склалася ў гарадскім пасёлку. Можаце сабе ўявіць, якія факты пачула камісія?

Пасля сустрэчы з жыхарамі ў раённым Доме культуры Дагужыеў кляўся, што праз два, максімум тры месяцы камісія зноў прыедзе ў райцэнтр з канкрэтнымі прапановамі і рашэннямі. Прайшоў амаль год. Дзе падзелася тая надзвычайная камісія з надзвычайнымі паўнамоцтвамі, ніхто не ведае. Праўда, у прэсе прамільгнула паведамленне, што таварыш Дагужыеў заняўся праблемай крымскіх татар...

Апафеозам абыякавасці да лёсу жыхароў пацярпелых раёнаў стала рэпліка, якая ў час абмеркавання чарнобыльскай праграмы на сесіі Вярхоўнага Савета СССР прагучала з вуснаў Анатоля Іванавіча Лук'янава: «Ведаем, што беларусы хочуць сабе вырваць...»

«Што вырваць? — разгублена пыталіся адзін у другога палешукі. — Права на жыццё?..» Дык няўжо гэтыя працавітыя і маўклівыя, а галоўнае — невіноўныя людзі сваёй нялёгкай доляй і цярплівасцю не заслужылі міласэрнасці і дапамогі?

Так што жорсткія дзеянні раённых кіраўнікоў у восемдзесят шостым ні ў якім разе нельга спісваць на «мясцовую самадзейнасць». Яны — заканамерны вынік палітычных лозунгаў і ўсё тых жа зашмальцаваных ідэалагічных заклікаў: «Не паддавацца паніцы!..»

У паніку жыхары пацярпелых раёнаў не кінуліся, а што атрымалі ўзамен? Час, які сваім жыццём і смерцю адваёўвалі для іх будучыні чарнобыльскія выратавальнікі (не ўзнімаецца рука зноў напісаць «ліквідатары») пад бадзёры акампанемент нерэальных пастаноў, бязДарна і беззваротна аддадзены ва ўласнасць Радыяцыі. І за гэта ніхто не панёс нават сімвалічнага пакарання...

*Сан-Францыска. 3 ліпеня. ТАСС.* «У цэнтры анкалагічных даследаванняў імя Фрэда Хатчынсана ў горадзе Сіэтл (штат Вашынгтон) памёр савецкі лётчык Анатоль Грышчанка, які праявіў сябе героем у ходзе ліквідацыі аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Па словах афіцыйнага прадстаўніка шпіталя С'юзана Эдмандса, 53-гадовы Грышчанка аказаўся цяжкім выпадкам для амерыканскіх урачоў, якія вызначылі ў яго дзве формы лейкеміі...»

Не дагарэўшы да канца, як тая свечка ў галавах нябожчыка, згасла яшчэ адна светлая чалавечая душа, перастала біцца яшчэ адно чуйнае сэрца. Каго сёння вінаваціць у гэтым? Сталічных вучоных з іхнім вар'яцкім разуменнем чалавечай роўнасці — кожнаму па трыццаць пяць бэр — ці сваіх дамарошчаных «правадыроў з народу», якія з радасцю прыкрыліся гэтым «навуковым» адкрыццём, як тыя перафарбаваныя, але стойкія кансерватары ў беларускім парламенце дэпутацкім імунітэтам недатыкальнасці.

Думаецца мне — а гэта адчуванне выпакутавана кожным, хто жыве ў нябачных сценах «радыяцыйнага фарпосту» савецкай навукі, — што толькі нашы нашчадкі, калі над імі злітуецца атамная пачвара, змогуць поўнасцю рассакрэціць «чарнобыльскую картатэку» з пайменным пералікам пасад і ганаровых званняў вінаватых у тым, што адбылося на мяжы некалі радасна-галасістых Беларусі і Украіны.

Цяпер там, дзе спрадвеку з хлебам і соллю, вясёлымі карагодамі і задушэўнымі песнямі сустракаліся крэўныя сёстры і браты — зямля пакут, слёз, адчаю і гора. Там, як гавораць паэты, адбылася жудасная па сваіх памерах і выніках «аварыя сумлення». На бязмежнай чэрствасці і эгаізме, абмежаванасці і страусавым інстын-

кце да самазахавання высокіх саноўнікаў, якія ў адміністрацыйным парадку прысвоілі сабе манапольнае права думаць і прымаць рашэнні за ўвесь народ, разраслася ганебная з'ява, з-пад сякеры якой мы, здавалася, толькі ўчора вырваліся, — генацыд.

Горка і цяжка, быццам адна нага павісла над безданню, на чыстым аркушы паперы выводзіць чорнае слова «генацыд». Здалося, у твар дыхнула халадэча мінулага, з якога ніколі не выкрасліш ні пакутнікаў ГУЛАГу, ні жывых мішэняў у Курапатах... Але, пэўна, прыспеў час збіраць раскіданыя ядзерным выбухам на чацвёртым рэактары камяні, каб насыпаць з іх Курган памяці па ахвярах Чарнобыля...

Я ўжо прыкмеціў, што ў людзей, якія жывуць на радыеактыўнай зямлі, ходзяць па ёй на працу, адпраўляюць сваіх дзяцей у садзік або ў школу, нервы нацягнуты, нібы струны. Адзін неасцярожны дотык — і чалавек, які толькі імгненне таму назад здаваўся вытрыманым і спакойным, можа выбухнуць цэлай гамай эмоцый і пачуццяў. Праўда, неўзабаве ў проціборства з імі ўступаюць нейкія патаемныя сілы тармажэння, дзесьці ў глыбіні свядомасці абуджаецца спадчынная разважлівасць палешукоў, але камертон душы жыхароў «зоны адчужэння» ўсё ж такі высокі і трывожны. Часам палешукі звязваюць паміж сабой падзеі, далёкія адна ад другой і па часе, і па адлегласці.

Каб пацвердзіць свае назіранні, прывяду запіс з майго дзённіка, зроблены дваццаць шостага ліпеня дзевяностага года. На вуліцы Скарахода, дзе я адзін час здымаў пакойчык, да мяне падышла высокая мажная жанчына ў сіняй сукенцы, па якой былі раскіданы яркабелыя гарошыны. На яе малінавых, густа падфарбаваных і амаль па-дзіцячаму прыпухлых вуснах блукала як трохі збянтэжаная не то паўсмешка, не то неасэнсаваная грымаса болю.

— А гэта — усім нам знак, — павітаўшыся, адразу сказала яна і, пакуль я ліхаманкава спрабаваў успомніць, дзе і калі я сустракаў гэтую жанчыну, растлумачыла: — Чулі? Той лётчык Грышчанка памёр у панядзелак...

Я не знайшоўся, што адказаць. Жанчына загаварыла са мной знянацку, з ноткамі незразумелай блізкасці,

нібы мы былі з ёй добрымі прыяцелямі, і нялёгка падалося вось так, адразу, знайсці і адпаведны тон, і патрэбныя словы. Тым больш што я не звярнуў увагі, у які дзень памёр Грышчанка. Смерць яна заўсёды аднолькава страшная, але нябожчыку, пэўна, усё роўна калі яна счакала яго — у нядзелю або панядзелак...

— Не глядзіце на мяне, як на вар'ятку ці на задужа імпульсіўную жанчыну, — пэўна, здагадаўшыся пра мае думкі, папярэдзіла жанчына. — Проста чула, што вы пішаце пра наша жыццё. Тады скажыце мне: ці гуманна пасылаць нашых дзяцей на адпачынак і лячэнне за мяжу, біць у літаўры, каб праз нейкі месяц зноў вярнуць іх на чарнобыльшчыну, хай яна будзе праклятая? Дзесьці месяц назад прачытала ў «Советской культуре» заметку, як хораша сустрэлі дзяцей зоны на Кубе. Нізкі паклон за клопат і чалавечнасць. Але ж везці дзяцей пад промні трапічнага сонца, у клімат, які і не кожнаму здароваму чалавеку спрыяе, — гэта прыгожая, але злачынная акцыя нашых медыкаў. І менавіта так яе калі-небудзь ацэняць. Так, папомніце маё слова, будзе, але, не сумняваюся, ужо не пры нашым жыцці...

Я пра панядзелак вось чаму загаварыла, — на імгненне задумаўшыся, працягвала жанчына. — Учора ўранні збіралася на работу і як нешта цюкнула ў галаву — Толік жа мой нарадзіўся якраз у панядзелак, у ліпені восемдзесят першага. Цёзка ён Грышчанку таму. А я, дурніца, хоць ужо і двойчы вазіла свайго сыночка на абследаванне ў Гомель — дужа паганыя ў яго аналізы крыві — усё яшчэ на нешта спадзявалася, верыла, што, можа, пранясе бокам бяду, не грымне над яго галавой пярун. А вось прачытала пра Грышчанку, і сэрца, як на дыбкі, пад грудзьмі ўзнялося — панядзелак... Ну, ды што тут казаць, — яна безнадзейна махнула рукой, — вы самі бачыце, што робіцца з нашымі дзецьмі...

Мне карцела ўставіць слова-другое пра рознае ўздзеянне радыяцыі — зусім адно знаходзіцца ў час аварыі непасрэдна каля рэактара і трапіць пад апраменьванне ягоных ядзерных нетраў, зусім іншае — уплыў на чалавека астаткавых у спалучэнні з пабочнымі фактарамі: ежа, вада, дождж, пыл... Але я ведаў, што гэтымі доказамі наўрад ці супакою ўстрывожаную маці, якая ўжо ніколі не выкіне з памяці, што яе сын — цёзка Грышчанкі... (Во, ліха дык ліха — цяпер мы гаворым ужо не пра тое, хто як жыве, а колькі кожны з нас атрымаў рэнтген.)

Мы яшчэ трохі пастаялі з жанчынай, перакінуліся нейкімі дужа нязначнымі фразамі, і яна нарэшце, развітаўшыся са мной, пайшла ў бок аўтастанцыі. Я яшчэ падумаў, што, пэўна, жанчына тая працуе дзесьці ў вясковай школе або ў сферы культуры. Але ж не бегчы было за ёй, каб занатаваць у блакнот прозвішча яе хворага сына...

Гэта прыстойна, калі даўно знаёмы з чалавекам ці калі той сам дае на гэта згоду. Тады быццам атрымліваеш крэдыт даверу і галоўная твая задача не карыстацца ім звыш меры, хай нават сабе і на карысць няшчасных людзей...

Мне заставалася толькі знайсці ў бібліятэцы заметку, пра якую гаварыла жанчына. Зрабіць гэта было няцяжка, бо заметка на паверку аказалася грунтоўным артыкулам. У ім гаварылася і пра тое, што, нягледзячы на ўсе намаганні ўрачоў і самую сучасную медыцынскую апаратуру, за той час, што дзеці з пацярпелых раёнаў знаходзіліся на Кубе, двух хлопчыкаў так і не змаглі выратаваць. Называлася імя пяцігадовага Андрушы Харчанкі, які пражыў пасля аварыі роўна чатыры гады — дваццаць восьмага красавіка ў гаванскай клініцы перастала біцца яго маленькае сэрца... Вось і абаранісся пасля ўсяго гэтага ад прымхлівасці. Тут не толькі ў бога паверыш, але і зноў у камунізм...

Так што праблема радыяфобіі, да якой не без поспеху нашы вучоныя мужы спрабуюць звесці вынікі чарнобыльскай катастрофы несумненна існуе. Але не ў «зоне жорсткага кантролю» і «асаблівай увагі», а сярод перасяленцаў, якія ўсё ж такі вырваліся з «радыеактыўнага акружэння». Яны і іх дзеці — расказвалі мне ў Стоўбцах — ніяк не могуць прывыкнуць, што новае асяроддзе, у якім яны жывуць, бяспечнае. Ім псіхалагічна складана вызваліцца ад «чарнобыльскага рэфлексу страху»... Пасля стольніх гадоў пакут і абмежаванняў яны не могуць паверыць, што той доўгі, як бяссонныя ночы цяжкахворага чалавека, беспрасветны кашмар нарэшце скончыўся, хоць перасяленцы добра разумеюць — іх здароўе, відаць, назаўсёды падарвана...

Што ж датычыцца людзей, якія засталіся жыць у зоне адчужэння, то дыягназ «радыяфобіі», што паставілі ім запрэжаныя ў цяжкую калясніцу каманда-адміністрацыйнай сістэмы — медыкі, наўмысна скажоны. Ды і ці можна, паразважаўшы, назваць ненармальным чала-

века, які баіцца зямлі з афіцыйным статутам — р а д ы е а к т ы ў н а я?..

Кожнаму чалавеку, мабыць, для разнастайнасці, жыццё часам падкідвае сітуацыі з папулярнай серыі «наўмысна не прыдумаеш».

Прыехаў на пару дзён у Мінск і неяк вечарам ад нудлівай самоты — за ўвесь дзень ніводнага званка па тэлефоне, нібы ўсе знаёмыя палічылі, што я навек застаўся пад Чарнобылем, — пачаў перабіраць паперы. Сярод іх раптам натыкнуўся на візітную картачку на рускай і англійскай мовах: «Михаил Игнатьевич Савченко, капитан дальнего плавания, кандидат юридических наук. Каспийское морское пароходство».

З Міхасём мы пазнаёміліся даўно — ці не дваццаць гадоў таму назад. Ды і порт агульных інтарэсаў у нас неяк высветліўся сам па сабе — мора. Таму мяне і не здзівіла, што, калі Саўчанка прыняў пад сваю каманду танкер на Каспіі, ён прапанаваў мне зрабіць з ім рэйс-другі, каб штосьці напісаць пра маракоў.

Хадзіла ягонае судна ў далёкі і таямнічы Іран, і, вядома, перспектыва зноў аказацца на палубе, ды яшчэ пад началам свайго выпрабаванага ў «сухапутных бурах» прыяцеля, выглядала заманліва.

Жаданне і ява, як я пераканаўся, рэчы супрацьлеглыя. На парозе ў «акіянскі храм» спачатку мне давялося сутыкнуцца з дантыстам, потым з хірургам, тэрапеўтам, затым... Далей нецікава расказваць. Адным словам, высветлілася, што трэба спачатку набыць адпаведную фізічную форму, а ўжо потым, нават па пратэкцыі, грукаць у дзверы марскога параходства... А тут яшчэ на Блізкім Усходзе ўспыхнула чарговая вайна, ды і ў мяне хапала клопатаў, і застаўся той сіні Каспій нязбытнай марай, па-ранейшаму далёкай і спакуслівай.

З Саўчанкам мы зрэдку сустракаліся, і я радаваўся, што хоць у ягоным жыцці ўсё больш-менш у парадку. Мабыць, таму, убачыўшы сярод паперак візітку, я ўзрадаваўся і адразу ж, без асаблівай надзеі, пазваніў на мінскую кватэру: мо вярнуўся з рэйсу і, як звычайна, прыляцеў на некалькі дзён ва ўлонне сваёй сям'і?

Трубку падняў сам Міхась, і пасля ўзаемных прывітанняў мы дамовіліся пра сустрэчу. Прыйшоў Саўчанка пры ўсіх сваіх флоцкіх рэгаліях — у добра пашытым

светлым кіцелі з чорнымі змеямі-нашыўкамі на плячах і бліскучымі гузікамі. На ягонай з пасярэбранымі скронямі галаве ладна сядзела форменная капітанская фуражка з якарам і акантоўкай над кароткім брыльком.

Мы няспешна пайшлі з ім па праспекце, і вочы стрэчных жанчын нібы стралялі па капітану рэактыўнымі залпамі. А я, шчыра прызнаюся, адчуваў сябе побач з Саўчанкам састарэлым юнгам, які больш ніколі не вернецца ў сваё флоцкае мінулае...

Саўчанка стрымана, без эмоцый расказваў пра марацкае вандроўнае жыццё, быццам мімаходзь успомніў, як у апошнім рэйсе на танкеры выйшлі са строю абодва рухавікі і з іх, сапсаваных, карабельныя матарысты сабралі адзін — так і прышкроб танкер да роднага берага без дапамогі выратавальных буксіраў.

Потым прыспеў час мне высыпаць навіны. Я падзяліўся сваімі ўражаннямі пра жыццё ў «зоне жорсткага кантролю» не забыўшыся пры гэтым кінуць камень у наша рэспубліканскае начальства.

— Значыцца, жывеш цяпер пад самым Чарнобылем? — Я так і не зразумеў, з асуджэннем ці з павагай спытаў Міхась. — А колькі гэта прыкладна кіламетраў ад станцыі?..

Мы ішлі з ім якраз каля кінатэатра «Мір», і я, прыкінуўшы адлегласць, растлумачыў, што ад маёй хаты ў Брагіне да АЭС, як адсюль да Заслаўля. Капітан закруціў галавой, нібы яму замуляў каўнер кашулі, сказаў:

— Баку за тысячы кіламетраў, а Чарнобыль усё роўна дае пра сябе знаць...

Гісторыя, якую я пачуў ад Саўчанкі, думаю, заслугоўвае таго, каб яе расказаць.

Экіпажы, якія рыхтуюцца ў плаванне, заўсёды напярэдадні рэйсу папаўняюць запасы прадуктаў. Вядома, сярод іх не апошняе месца займае і бульба. Атрымалі яе і на базе Каспійскага параходства. Бульба як бульба. І ўсё было б ціха, каб аднекуль не папаўзлі чуткі, што завезлі яе з Гомельшчыны. Праверылі маракі — адрас дакладны.

Экіпажы суднаў — не жыхары пацярпелых раёнаў. Адразу да начальства з ультыматумам: альбо вы вывозіце са склада бульбу, альбо мы не выходзім у мора. Шчадроты атручанага Палесся нам не патрэбныя... Начальства, пастаўленае перад фактам і жорсткімі ўмовамі, «капітулявала»...

Можна, вядома, было б папракнуць Саўчанку, каб не ведаць пра шматлікія парушэнні санітарных нормаў пры вядзенні сельскагаспадарчых работ і кантролю прадукцыі, ды яшчэ пра тыя вагоны з радыеактыўным мясам, якія, добра павандраваўшы па неабсяжных прасторах нашай краіны, і цяпер стаяць на запаснай чыгуначнай ветцы каля Камарына... Так што абвінавачваць маракоў Каспія ў перастрахоўцы або паніцы нельга — каму ахвота рызыкаваць сваім здароўем з-за нейкай злачыннай прыхамаці...

І тут мяне кальнула здагадка.

— Слухай, Ігнатавіч, а ты маеш нейкае дачыненне да былога міністра аховы здароўя рэспублікі Саўчанкі? — спытаў я.

— Самае непасрэднае! — спыніўшыся, адгукнуўся Міхась. — Ён мой родны дзядзька... А чаму да былога?

— На пенсію толькі-толькі пайшоў. А мо і на іншую пасаду. Дакладна не ведаю...

Міхась ніяк не адрэагаваў на мае словы, а я раптам з болем падумаў, як цесна Чарнобыль спавіў чалавечыя лёсы. Можа, каб не прыслухоўваўся пасля чарнобыльскай аварыі Мікалай Яўсеевіч Саўчанка, наш былы міністр, да парад акадэміка Ільіна і яго непатапляльнай каманды, думаў пра свой народ, а не пра ўласны спакой і дабрабыт, дык не завезлі б тую гомельскую бульбу на танкер да роднага пляменніка...

«Але міністры, — з горыччу падумаў я, — мяняюцца нібы ў калейдаскопе, а праблема Чарнобыля і яго жыхароў не прасунулася і на дзюйм...»

Мы — бедная рэспубліка ў беднай краіне. І добра, што мы цяпер гэта ведаем. Але адкуль, ледзь не штодзень задаю сабе пытанне, уздоўж той жа шашы ад Рэчыцы і да самага Гомеля выраслі новенькія дамы і катэджы, у якія па радыяцыйных паказчыках не могуць засяліцца людзі.

Гэта чорныя сляды красавіцкай трагедыі і паслячарнобыльскай спешкі ўздоўж адной шашы, а ў самым Брагіне, дзе ёсць і аддзел капітальнага будаўніцтва і павінен быць свой архітэктар, вы думаеце, лепш? Памыляецеся. Там, пад наглядам раённай улады, якую проста прымушаюць будаваць, таксама хапае помнікаў аша-

ламляльнай безгаспадарчасці, пастаўленых на пастаментах з новага «матэрыялу» — бязглуздзіцы.

Адзін з іх заслугоўвае асобай увагі, бо ў ім нібы спляліся ўсе недарэчнасці і хібы як сістэмы кіравання, так і дзяржаўнай канцэпцыі па ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, якая быццам падштурхоўвае жыхароў пацярпелых раёнаў да бездані. І цяпер толькі час аддзяляе палешукоў і іх дзяцей ад непапраўнага...

Пасля аварыі для жыхароў гарадскога пасёлка — а па крылатым выразе незабыўнага Мікалая Мікітавіча Слюнькова, «будучага квітнеючага аазіса» — пабудавалі амаль у самым цэнтры новы жылы дом. Дом як дом, але ў адрозненне ад сваіх «сваякоў» на яго першым паверсе ніхто не жыве. Вышэй жывуць людзі, унізе — не. Як вы думаеце, адкуль узнік гэты будаўнічы парадокс? Упэўнены — нармальны чалавек, хоць забі яго, не здагадаецца. А між тым, для тых, хто зблізку ведае мясцовае жыццё, разгадка ляжыць амаль на паверхні. Усё проста і разам з тым жудасна. Калі пабудавалі дом і нарэшце ўспомнілі пра радыяцыю, аказалася, што на першым паверсе стрэлку радыяцыйнага прыбора ледзьве не зашкаліла. Вышэй яшчэ можна неяк цярпець, унізе — зусім няможна. Так і атрымалася: першы паверх займаюць нукліды, другі — людзі... Не дай божа каму-небудзь такіх маўклівых і небяспечных суседзяў-невідзімак...

Помнікаў страшнай чарнобыльскай трагедыі на Гомельшчыне шмат, а вось прозвішчы іх «скульптараў» застаюцца, як і ў дні афіцыйных адкрыццяў, невядомымі. Яшчэ адна, цяпер ужо рукатворная загадка для будучых даследчыкаў прычын і вынікаў катастрофы над Прыпяццю.

Але, пакуль праб'е іх час, паспрабую ўсё ж такі на лічыльніку паслячарнобыльскай гісторыі падсумаваць той-сёй рахунак.

Помню, як неверагодна цяжка было яшчэ нейкі год таму назад атрымаць канкрэтныя даныя аб грашовых укладаннях у атручаную зямлю Брагіншчыны. Здавалася, кожны, хто валодаў неабходнай інфармацыяй, ледзь не на мокрай прасціне калыскі пакляўся да апошняга ўздыху ахоўваць тайны мясцовага значэння. Нават

падумалася: навошта нас некалі палохалі замежнымі агентамі, якія нібыта спяць і бачаць, каб нанесці нам шкоду?.. Пра такую шкоду, якую мы пяты год запар наносім самі сабе, не маглі марыць нават адпетыя нашы нядобразычліўцы.

Дык вось пра лічбы. Можа, пра іх я так ніколі і не даведаўся б, каб не тое жорсткае ўздзеянне чорнай явы на псіхіку палешукоў, у тым ліку і начальства. Цяжка стрымаць адчай, калі на вачах марнеюць твае ўласныя дзеці. Глядзець на іх пакуты і маўчаць, адчуваць сябе саўдзельнікам злачынства — вышэй чалавечых сіл. Спачатку ўпотай, азіраючыся па баках, а потым усё мацней і мацней, на поўны голас загаварылі пра сапраўднае становішча ў райвыканкоме. І цяпер, падсумаваўшы лічбы статыстычных справаздач, можна расшыфраваць бухгалтарскую пракладку паслячарнобыльскай катастрофы і эканамічнай дзейнасці нашай няўклюднай, як бегемот, Сістэмы...

Вось як выкарыстоўваліся сродкі з тых трохсот мільёнаў рублёў, якія былі да першага студзеня 1990 года выдзелены раёну — гэта дзесьці на тры з паловай гады — на ліквідацыю вынікаў аварыі. Пяцьдзесят тры з іх — на зарплату па высокім «чарнобыльскім тарыфе», выплаты за страчаную маёмасць склалі шэсцьдзесят дзевяць мільёнаў, мерапрыемствы па дэзактывацыі — семнаццаць мільёнаў, на бясплатнае харчаванне пайшло каля мільёна рублёў, на трыццацірублёвую даплату або, як іранічна жартуюць палешукі, «на труну» — восем мільёнаў...

Гэты пералік далёка не поўны, але і па ім можна прасачыць лінію, якой прытрымліваецца кіраўніцтва нашай рэспублікі і краіны, — чаго б гэта ні каштавала, усімі магчымымі сродкамі ўтрымліваць жыхароў на атручанай зямлі.

Як такое магло здарыцца ў час рэвалюцыйнай перабудовы чалавечага сумлення, сказаць не бяруся. Але для тых, хто калі-небудзь зоймецца разгадкай «чарнобыльскага рэбуса» (веру ў гэта — інакш не пісаў бы), паведамляю: па падліках эканамістаў для таго, каб пабудаваць для ўсіх жыхароў раёна жыллё на чыстай зямлі, патрэбна каля двухсот мільёнаў рублёў. Вось і адыміце ад трохсот дзвесце, і паглядзіце, што атрымаецца.

Так што, мабыць, мы бедныя не толькі на грошы.

За студзень—красавік гэтага года ў нашай рэспубліцы з'явілася на свет аж чатыры мёртванароджаныя ўрадавыя пастановы па ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі. І цяжка чакаць, што нават з дапамогай асобных энтузіястаў яны будуць выкананы хаця б на палову. Бо акрамя тых афіцыйных рашэнняў, якія збіваюць з панталыку гаротных палешукоў, у раён амаль штодзень ідуць паперы з розных сталічных ведамстваў і ўстаноў.

Толькі за апошні год я пабачыў такіх паперак больш, чым за ўсё мінулае жыццё. Так што чым-небудзь здзівіць мяне сёння даволі складана.

Ну, сапраўды, што асаблівага ў прыездзе ў гарадскі пасёлак двух маладых і прыгожых практыкантаў з Беларускага інстытута фізічнай культуры? Пацікавіўся неяк у іх прысутнасці ў старшыні раённага спорткамітэта Віктара Мельнікава, з якой мэтай завіталі да нас хлопцы? Той па-змоўніцку падміргнуў мне, потым вывеў у калідор і растлумачыў:

— То не паверыш. Прыехалі распрацоўваць рэкамендацыі для заняткаў фізкультурай і спортам у зоне пастаяннага радыяцыйнага кантролю... Во даюць, навукоўцы!..

Так, навукоўцы сапраўды «даюць»... І ніхто ўжо не здзіўляецца таму, што перад пачаткам футбольнага сезона нейкія «светлыя галовы» парэкамендавалі зняць з поля радыеактыўны пласт зямлі і потым праводзіць гульні...

Калі да такіх выпадкаў палешукі як правіла адносяцца з пачуццём гумару (во, малайцы, хутка для нас, як для інвалідаў, сваю рэспубліканскую Алімпіяду прыдумаюць), дык на многія «каштоўныя» ўказанні, якія балансуюць на мяжы адміністрацыйнай чэрствасці і непрыхаванага здзеку, рэагуюць вельмі востра і балюча.

Не адзін дзень знаёмы з Леанідам Турчанком. Шмат кіламетраў накруцілі з ім па небяспечных палескіх дарогах на ягонай службовай «антылопе-гну», зірнуўшы на якую, ніколі не скажаш, што яна можа крануцца з месца. Аднак, што там казаць, не проста ездзіць — лётае над калдобінамі, як той працавіты і нястомны самалёт-«кукурузнік»: такія залатыя ў Турчанка рукі. Купіў у калгасе металалом, і на табе: нібы замест рухавіка паставіў сваё сэрца.

Па характары Леанід — хлопец адкрыты, імпульсіўны, але сваю трывогу і непакой стараецца не паказваць на людзях. Спытаеш, як жыццё, — усміхнецца, узніме ўверх вялікі палец: «Лепш за ўсіх!..» А на самай справе ўсё наадварот, і галоўнае — хварэюць малыя. Неяк убачыў ягоную дачку-школьніцу, і аж сэрца самлела — тварык як свеціцца наскрозь...

Дваццаць першага красавіка мы дамовіліся з Турчанком разам праехаць па вёсках. Калі я сеў у машыну, адразу зразумеў: нешта ў Леаніда здарылася.

— Мо зноў браканьеры абвялі вакол пальца? — наўмысна жартаўліва спытаў я. (Турчанок працуе галоўным паляўніцтвазнаўцам раёна.)

— Ды не — горш, — трохі памаўчаўшы, адгукнуўся Леанід. — Сам вось прачытай, пакуль будзем ехаць.

Ён падаў мне аддрукаваныя на ратапрынце лісткі паперы. Дакумент гэты быў падпісаны намеснікам міністра лясной гаспадаркі БССР Раманоўскім і ўзгоднены са старшынёй Дзяржкамітэта па ахове прыроды Казловым. Прывяду толькі некалькі вытрымак з яго.

«У лабараторыі зямных пазванковых жывёл на 1990—1992 гг. запланавана тэма: «Вывучэнне дынамікі накаплення радыенуклідаў дзікімі птушкамі ў сувязі са спецыфікай харчавання птушак у раёнах з рознымі ступенямі забруджанасці.

Просім Вас сумеснымі намаганнямі ў вызначаных для Вашага раёна гаспадарчых падраздзяленнях забяспечыць адстрэл на тэрыторыі раёна для навуковага радыяцыйнага абследавання наступную колькасць птушак: цецерукоў — 5 экз., вальдшнэпаў — 5 экз., крыжанак — 5 экз.

За птушкамі прадстаўнік інстытута заалогіі АН БССР спецыяльна прыедзе да Вас 3—4 мая».

— Ну, як табе падабаецца? — пахмурна спытаў Турчанок.

— Сур'ёзная папера. Асабліва ў той частцы, што навуковая тэма разлічана аж да дзевяноста другога года. Яны што, пастаноў урада аб высяленні не чытаюць?

— Прыедзеш у Мінск, сам спытай, — цяжка ўздыхнуўшы, параіў Леанід. — Можа, да таго дзевяноста другога года апошні цецярук сканае. Ужо не гавару пра нас, грэшных... Ты прачытай далей — там пра маразільнікі напісана...

Рэкамендацыі вучоных я не буду цытаваць. Падпі-

саны яны кіраўніком работ, вядучым навуковым супрацоўнікам Інстытута заалогіі АН БССР, кандыдатам заалагічных навук Вязовічам. Самае галоўнае ў іх тое, што пасля падрыхтоўкі «навуковага матэрыялу» трэба абавязкова забітых птушак, каб яны не сапсаваліся, пакласці ў маразільнік.

— Лёня, а ў цябе на службе ёсць маразільнік? — каб хоць трохі ўзняць майму спадарожніку настрой, пацікавіўся я.

Турчанок не падаўся на мірную пікіроўку.

— Хай яны тых радыяцыйных цецерукоў у свой сямейны халадзільнік кладуць, — узарваўся ён. — Але ж не ў птушках справа — у людзях. Як я свядома пашлю іх у той жа Пучынскі лес, дзе каля пяцісот мілірэнтген у гадзіну? Разумнікі: падрыхтуйце, а мы на хвілінку падскочым у райцэнтр і забяром свой навуковы матэрыял... Дык навошта ім тады той радыеэкалагічны запаведнік?

Ён абарваў фразу на паўслове і ўжо маўчаў усю астатнюю дарогу. Магу толькі здагадвацца, пра што думаў Турчанок, а вось мне стала балюча: «Няўжо за кандыдацкія і доктарскія трэба плаціць такой дарагой цаной — здароўем няшчасных палешукоў, ды яшчэ забіваць у іх надзею на эвакуацыю?..»

Пра гэта я прамаўчаў, толькі папрасіў Турчанка:

— Падары мне на памяць гэты дакумент. Я захаваю яго разам з пастановамі аб эвакуацыі жыхароў...

— Во-во, — падхапіў Турчанок, — ім адна цана. Хай разам і ляжаць...

Быў грэх. Я нейкі час вагаўся: мо і не пісаць пра Турчанка, як бы не пашкодзіць чалавеку? А потым супакоіў сябе думкай — ні адзін начальнік не зробіць Турчанку і ягоным хворым дзецям горш, чым ужо ёсць...

Хто верыць у тое, што нібы ў вызначаных пад высяленне населеных пунктах пачалася планамерная і старанна прадуманая эвакуацыя людзей, жорстка памыляецца і міжволі падыгрывае нашаму кіраўніцтву, якое — наўмысна ці не — уводзіць у зман грамадскасць рэспублікі. Калі меркаваць па рашэннях, змацаваных аўтарытэтнымі подпісамі, здаецца, што перспектыва ў жыхароў пацярпелых раёнаў на лепшую долю акрэсленая і блізкая. З глыбінкі Беларускага Палесся яе амаль не бачна.

Хол Брагінскага райвыканкома вясной гэтага года нагадваў растрывожаны вулей. З самай раніцы тут збіраўся натоўп па эвакуацыйныя пасведчанні. За гэтымі «фількінымі граматамі» спяшаліся на сваю радыяцыйную радзіму нават тыя, хто даўно ўжо на свой страх і рызыку пераехаў за межы нашай рэспублікі. І сапраўды — грошы за страчаную маёмасць, за пераезд людзі маглі атрымаць. А вось з тымі, хто марыў пра свой кут у чыстай зоне, было па-іншаму. Пасведчанні выдаваліся на вольнае адсяленне. На табе грошы — і едзь куды глядзяць вочы. Ну, а куды, хочацца спытаць, кінецца мнагадзетная сям'я, якіх на Палессі шмат?

Толькі з аднаго боку, гэтая, па сутнасці здзеклівая, акцыя прынесла хоць нейкае маральнае задавальненне. Яна нібы афіцыйна прызнала той відавочны факт, што ў «зоне жорсткага кантролю» жыць нельга. Праследжвалася ў ёй і наша трывалая і нязгасная любоў да сімволікі — прымаць рашэнне напярэдадні нейкай даты. І хоць на гэты раз дата набліжалася страшная і чорная, як абгарэлая галавешка на папялішчы, — чацвёртая гадавіна з дня аварыі на Чарнобыльскай АЭС — слаўная традыцыя святкавання з прычыны і без яе была захавана.

А тым часам гарадскі пасёлак ад краю і да краю поўніўся самымі фантастычнымі чуткамі і меркаваннямі. Людзі шэптам папярэджвалі адзін другога, каб не бралі тыя «вольныя» паперкі, бо з іх дапамогай беларускі ўрад хоча раскідаць па свеце людзей, каб потым тым, хто застанецца, было лягчэй знайсці жыллё...

На вуліцы да мяне падыходзілі людзі, прасілі парады, але я і сам амаль нічога не разумеў. Ды што я — рэспубліканскае і абласное кіраўніцтва так заблытала работнікаў райвыканкома, што на іх без шкадавання нельга было глядзець.

Толькі з адной катэгорыяй жыхароў здавалася ўсё больш-менш зразумелым: з сем'ямі, у якіх ёсць дзеці да чатырнаццаці гадоў і цяжарныя жанчыны. Іх павінны адсяляць у чыстыя раёны абавязкова.

Павінны былі, але, калі пачалі рабіць захады па выкананні гэтага рашэння нашага «завоблачнага ўрада», аказалася, што і для гэтых гаротных людзей, якім нібы сам усемагутны крычаў: «Ратуйцеся, людзі добрыя!..», жылля не было.

У славутай пастанове ЦК КПБ, Саўміна і Белсав-

профа за нумарам шэсцьдзесят меўся яшчэ адзін пункт, па якім павінны былі ў самы кароткі тэрмін эвакуіраваць жыхароў, — па медыцынскіх супрацьпаказаннях. Рашэнне па гэтым пытанні існавала, самога пераліку захворванняў — не. І зноў падкрэсліваю, па службовым недаглядзе або наўмысна людзей, быццам тых неразумных авечак, сутыкнулі лбамі на тонкай жэрдачцы...

Гора і шчасце беларусаў, што яны ўсё ж такі ўмеюць стрымліваць свае эмоцыі, цярпець і чакаць справядлівасці. У іншым разе цяжка нават уявіць сабе, да чаго мог прывесці чарговы эксперымент у «зоне асаблівай увагі». Праўда, многія жыхары раёна вырашылі, што ў райбальніцы спецыяльна схавалі ад іх пералік супрацьпаказанняў, і медыкам прыйшлося перажыць не адну трывожную хвіліну. Нездарма ж у майго знаёмага ўрача вырвалася: «Божа, ды ва ўсіх столькі хвароб, што людзей трэба перасяліць не на новыя кватэры, а адразу ў бальніцы...»

Каб быць да канца аб'ектыўным, трэба сказаць, што ў гэтай трагічнай сітуацыі, якая магла стаць выбуховай, не апошнюю ролю адыгралі «людзі акадэміка Ільіна». Менавіта ў высокіх медыцынскіх інстанцыях нашай сталіцы ўзвялі яшчэ адзін «саркафаг». На гэты раз над спісам захворванняў... Але і наша кіраўніцтва далёка не анёлы — мабыць, забыліся, што калоній ужо і ў Афрыцы амаль не засталося... За мяккацеласць, няўпэўненасць і беспрынцыпнасць зноў-такі прыйшлося расплачвацца людзям, якія і так пацярпелі ад аварыі.

Помню разгубленасць галоўнага ўрача райбальніцы, калі да яго на прыём зайшла са сваім мужам старая санітарка. Жанчына была сівая і мажная, а муж ейны — маленькі і хударлявы. І каб не мноства ўзнагарод на грудзях (памятных значкоў і медалёў), яго можна было прыняць за правінцыяльнага небараку, які ўвесь век пакутуе пад жончыным абцасам.

Аказалася, чалавек той праваяваў амаль усю вайну, быў неаднойчы паранены, не раз і не два смерць заглядвала яму ў вочы, але вось гора-бяда: так і не навучыўся прасіць міласціну...

Лёс гэтых старых людзей залежаў усяго ад адной паперкі. Яны знайшлі сабе работу па сіле ў Мазыры, дзе мясцовае начальства абяцала даць ветэрану вайны і ягонай жонцы — ветэрану працы — кватэру. Для гэтага кіраўніцтву гарвыканкома, каб яго не абвінавацілі

ў парушэнні жыллёвага кодэкса, патрэбна было пасведчанне, што па медыцынскіх даных гэтыя людзі не могуць жыць у Брагіне.

Васіль Сяргеевіч Пярэу пагартаў медыцынскія справы, і я ўбачыў, як у яго набрыняў твар. Ды і было ад чаго: на мужа і жонку прыпадала каля дваццаці захворванняў, з якімі не толькі ў гарадскім пасёлку, а і наогул цяжка жыць на зямлі. Аднак выдаць ім патрэбныя паперы Пярэу не мог; гэта было б службовым злоўжываннем. Скласці і заверыць спіс захворванняў мог, напісаць, што пацыентам па медыцынскіх паказчыках нельга заставацца ў «зоне асаблівай увагі» (а гэта значыць прызнаць іх законнае права на атрыманне новага жылля), — не. Во, зачараванае кола!..

Не буду расказваць, якое тлумачэнне прыводзіў галоўны ўрач, пра крыўду, разгубленасць і адчай мужа і жонкі. Падкрэсліваю толькі галоўнае: патрэбнага пасведчання Пярэу не выдаў. Ды і ці можа адзін галоўны ўрач змагацца з запраграмаванай на чэрствасць Сістэмай, якая прыгаварыла да пакут дзесяткі тысяч ні ў чым не вінаватых людзей, што самааддана ўсё жыццё працавалі на яе дабрабыт і сытнасць?

Праўда, тым мужу і жонцы пашанцавала. Праз тыдзень я сустрэў галоўнага ўрача, і той, па-змоўніцку бліснуўшы сваім залатым зубам, сказаў: «Хай сякуць мне галаву, а дакумент бабулі і яе мужу я напісаў...»

Галаву Пярэу не адсеклі, бо ў хуткім часе ў раён прыйшло распараджэнне аб выдачы жыхарам, якія жылі на тэрыторыі з радыеактыўнай забруджанасцю больш пятнаццаці кюры на квадратны кіламетр, эвакуацыйных пасведчанняў на абавязковае адсяленне.

Тое, што было відавочна ўжо неўзабаве пасля аварыі, урад і медыцына ўмудрыліся дакументальна засведчыць толькі, калі быў гатовы закіпець «чарнобыльскі чайнік». Рашэнне азначала, што пацярпелым людзям павінны былі даваць жыллё, але менавіта яго, жылля для перасяленцаў, не існавала...

«Ведаеш, братка, кінулі нас, адвярнуліся ад убогіх... І прачнуліся мы і ўбачылі: Б е л а р у с ь н е м а ц і н а м — м а ч а х а...» (З размовы з Алесем Кірылавічам Лапіцкім, «бежанцам» з вёскі Мікулічы.)

Гісторыя жыцця Лапіцкага — асобная тэма. Да яе я яшчэ ў свой час вярнуся. Але спачатку, хай вас гэта не здзіўляе, раскажу пра надвор'е.

Нават палескія старажылы не могуць прыпомніць такой ранняй, цёплай і сонечнай вясны. Спытаеш у каторага, а той падумае трохі, нібы гусак, пакруціць шыяй дый скажа: «Даўно такое здаралася, ужо і няўпомню калі... Хоць матухна-прырода злітавалася над намі. Едуць людзі па сонейку, усё дарога святлейшая...»

Так, прыціснутыя бядой і страхам перад невядомасцю, сяляне пакідалі свае абжытыя сядзібы. Сонца і гуллівы ветрык высушвалі на шчоках іх горкія слёзы але не маглі сагрэць спустошаную і хворую душу...

Столькі год папакутаваць і ўдосталь нацярпецца ад «шчодрасці» роднай улады і атамнага прыгнёту, вядома, лёгка страціць веру ў міласэрнасць, бо само жыццё пасля Чарнобыля, гісторыя перасялення прымушалі людзей глядзець на свет, у якім яны нарадзіліся, з асцярогай і трывожна. Яны не маглі ўжо верыць гэтаму свету. Нядаўна — не прайшло і пяці гадоў — яны радаваліся жыццю, суседзям, знаёмым, вяселлям, немаўляткам, а вось прывалаклася бяда, і аказаліся яны лішнімі на сваёй зямельцы, хаця — во, азірніся — толькі ўчора хадзілі на ферму, і пра іх працу пісалі ў раёнцы.

Я расказваю пра лёс палескай вёскі Вязок, што ў маі дзевяностага года, якраз напярэдадні Дня Перамогі, перастала існаваць на карце. Пра тую самую гаротную вёску Вязок, малочная ферма якой выйшла пераможцай раённага перадкастрычніцкага сацыялістычнага спаборніцтва, а менш як праз паўгода яе жыхароў вымушаны былі эвакуіраваць. Страшна падумаць, але роўна чатыры гады запар маўклівыя і абыякавыя да бяды сваіх гаспадароў каровы скублі «саракакюрыйную траву» і паілі людзей малаком. (Як горка сказаў мясцовы пастух: «Лепей бы мае кароўкі пілі саракаградусную...»)

Па ўсіх няпісаных законах чалавечага існавання, нават па тых жа сто разоў залапленых і перашытых, як старыя штаны, радыяцыйных паказчыках гэтая вёска яшчэ ў восемдзесят шостым павінна была пацягнуцца з чорнай чарадой у замагільны свет да сваіх закапаных пасля аварыі сяброўак-нябожчыц. А вось перажыла іх, таксама гаротных, на чатыры гады, хоць на бяду і сабе і людзям. Ды яшчэ і на клопат...

Не злічыць, колькі разоў жыхароў гэтай ціхай і працавітай вёсачкі ашуквалі, колькі разоў нібы выбухала ў паветры грымотнае, як дваццаць шостае красавіка, слова «Эвакуацыя», і зноў — цішыня і невядомасць. Куды толькі не ездзілі прадстаўнікі Астраглядаўскага сельсавета і раёна, каб знайсці на Беларусі прытулак яе сынам і дочкам.

Старшыня сельсавета Мікалай Апанасавіч Данчанка, каржакаваты, круглатвары мужчына, расказаў мне, як вазіў сваіх жыхароў на Любаншчыну. Вязкоўцам спадабаліся і мясціны, і новыя суседзі. Старшыня калгаса імя Кірава абнадзеіў гасцей: прыязджайце, калі ласка, паставім вам новыя хаты і зажывеце вы ў іх па-чалавечы.

Праз нейкі час прыйшла ад яго і тэлеграма: чакаем. Сабраліся вязкоўцы і паехалі ў няблізкі свет, а там іх ніхто не чакаў, акрамя старых, як зношаныя боты, хат, у якіх не кожны гаспадар і жывёлу паставіць. Але ж не вяртацца дадому. Пачалі сабе людзі шукаць прытулак у суседніх гаспадарках. З горам напалам уладкаваліся, але вось боль не сціхае...

Так прывячае беларусаў родная зямля. Нават жыхароў Вязка (сто трыццаць сем сем'яў), якім гаротны лёс наканаваў эвакуацыю яшчэ ў дзень аварыі, параскідалі ў трыццаць чатыры населеныя пункты рэспублікі, а некаторыя наогул знайшлі дах над галавой за яе межамі.

Пра якія традыцыі беларусаў і міласэрнасць пасля гэтага можна гаварыць? Ды яшчэ, калі ўлічыць, што семдзесят пяць сем'яў з Вязка пасялілі ў межах самой Гомельшчыны. Вось і задумаешся: а ці не прыйдзецца ім зноў з цягам часу пераязджаць? Такія выпадкі на маёй памяці былі...

Не вер вачам сваім. А як не паверыш? Ездзіў па раёне, і чамусьці пацягнула зноў хоць на хвіліну заглянуць у Вязок. Пастаяць сярод яе маўклівасці і запусцення, нібы назаўсёды развітацца з яе жыхарамі.

Ад вёскі Дуброўнае да Вязка пракладзена нешырокая, выбітая і пыльная дарога. Уздоўж яе ляжалі зялёныя палі, але трактароў не было бачна. І гэта, як ні дзіўна, радавала — хоць і са спазненнем, а вывезлі нарэшце людзей. Раптам наперадзе ўбачыў дзве прыгорб-

леныя жаночыя постаці. Пад'ехаўшы бліжэй, спынілі машыну.

— Вам куды, бабулі? — спытаў я.

— Дык жа ў Вязок, дахаты. Няўжо падвязеце нас, блудных авечак? — засмяялася адна з іх.

Так я пазнаёміўся з Клаўдзіяй Астапаўнай Смусянок і Яўгеніяй Дзям'янаўнай Рабушкай — вясковымі пенсіянеркамі, якія яшчэ заставаліся ў вёсцы.

— Дык вас што, так і не выселілі дагэтуль? — пацікавіўся я.

— А як жа: выселілі, выселілі, — адразу падхапіла, мабыць, байчэйшая з іх, Клаўдзія Астапаўна. — Зараз цэльнымі днямі з начальствам нашым сельсаветаўскім у Брагін ездзім. Усё сабе багатае прыстанішча на вольнае жытло мяняем. Хат пустых хапае, але ўсе, што мы з прыяцелькай маёй пабачылі, дужа старыя. Боязна нам, як тым жаніхам-перастаркам у шлюбную пасцель да маладзіцы класціся, пачынаць жыццё зноўку...

— Што там за жыццё, — не ўцярпела Яўгенія Дзям'янаўна. — Пыл чортаў... Гэта мы ў Дуброўну па прадукты хадзілі. Падружку маю, — засмяяўшыся трохзубым ротам, яна кіўнула галавой у бок Клаўдзіі Астапаўны, — нядаўна медалём ветэрана працы ўзнагародзілі, дык я і жартую — нельга ёй ад голаду паміраць. Бо славутасць яна наша калгасная, ёй вялікія начальнікі калісь руку ціснулі. Праўду я кажу, Клаўка?..

— Во, языкатая дзеўка, — замахала тая рукамі. — Вы яе толькі паслухайце: такога набрэша — сораму не абярэшся... Але як на духу: было і такое... Ды нічога, перабядуем як-небудзь. Толькі вось, як нашы вяскоўцы з'ехалі з двароў, вельмі ўжо адной начаваць страшна стала. Дзе што зашкрабе, адразу душа, хай яе ікаўка возьме, мярцвее. А сёння ўранні правае вока свярбела, так свярбела, ну, далібог, як на канец свету... — Яна раптам успляснула рукамі: — А во, ужо і прыехалі...

Пасярод пустой вуліцы панура стаяла яшчэ адна старая. Пэўна, чакала маіх спадарожніц. Убачыла іх, узрадавалася, нібы перакочваючыся на ссінелых тонкіх нагах, пасунулася да машыны.

— Во, злыдні, бач ты, што робяць, — мабыць, прыняўшы мяне за нейкага начальніка, адразу заквахтала яна. — Як вечар, дык прыязджаюць да нас на машынах, выдзіраюць з хат дзверы, б'юць шыбіны, топчуць кветкі... Як ёсць бандыты...

— Ды не крычы ты чалавеку, — перапыніла яе Клаўдзія Астапаўна. — Хутка ўжо ў Брагін той перабярэмся...

Э в а к у а ц ы я. Амаль сорак кюры ў Вязку, амаль трыццаць — у Брагіне...

Вярталіся назад і па дарозе нагналі малых.

— Куды вам? — прытармазіўшы, спытаў шафёр.

— Дадому, у Дуброўнае, — шмаргануўшы саплівым носам, азваўся адзін з хлапчукоў.

— А ў Вязку што рабілі? Мабыць, па вокнах каменнем кідалі?

— Прыдумаеш, дзядзька, — пакрыўдзіўся хлапчук. — То ж у Вязок мы ў школу ходзім...

Э в а к у а ц ы я...

**Нават у самым кашмарным сне, калі, бывае, падхопліваешся ноччу як ачмурэлы, я ніколі не бачыў і намёку, што лёс наканує некалі мне пісаць пра нявольніцкі рынак. Пра сваіх крэўных братоў і сясцёр, дзядоў і бабуль, што і ў непагадзь, і ў вясёлы сонечны дзень, нібы паднявольныя людзі, якіх падштурхоўваюць у спіны нябачныя наглядчыкі, збіраюцца на распаласаваных уздоўж і поперак коламі трактароў і машын пятачках, перад будынкамі праўленняў калгасаў.**

Звычайна каля праўленняў тых стаіць прадуктовы магазін і сяляне прыхопліваюць з сабой авоські, каб ніхто з суседзяў або знаёмых не падумаў, што прыцягнуўся сюды чалавек без справы ці яго выгналі з хаты надзея і страх, не — ён проста сабраўся ў магазін.

Амаль дзіцячая сарамлівасць беларусаў, імкненне і ў бядзе схаваць ад чужых вачэй сваю пакуту, палохае яшчэ больш, чым сам, то маўклівы, то гаваркі, як узбуджаны ад моцнага наркотыку, натоўп, які сабраўся з розных — блізкіх і далёкіх — вёсак. Людзі ў ім не ведаюць, што рабіць далей: ці то разыходзіцца па хатах, ці то стаяць і чакаць божай літасці.

Гэта і ёсць нявольніцкі рынак Палесся. І маладых, адзначаных працоўнымі ўзнагародамі, і нямоглых старых, чые ганаровыя граматы з каляровымі адбіткамі нашых былых правадыроў ужо даўно зжаўцелі ў куфрах, гоняць на «лобны пятачок» чуткі пра эвакуацыю,

а ў кожным незнаёмым чалавеку, які прыязджае на легкавой аўтамашыне, яны бачаць «пана купца».

Упершыню з чалавекам, які завітаў у раён, каб набраць у сваю гаспадарку рабочую сілу з пацярпелых мясцін, я пазнаёміўся ў рэдакцыі. Было гэта ў пятніцу, калі заканчваўся працоўны тыдзень, і нікога акрамя мяне і карэктара ў рэдакцыі ўжо не засталося.

Нечакана дзверы ў мой кабінет расчыніліся, і на парозе ўзнік высокі, шыракаплечы мужчына ў капелюшы. З яго нібы струменіліся і ўпэўненасць, і невычэрпны аптымізм. Адным словам, на парозе стаяў чалавек з зусім іншым, чым у нас, на Брагіншчыне, светлым абліччам. Потым ужо ў час размовы я зразумеў, што мяне больш за ўсё ўразіла ў ім — ён, ад чаго я паспеў адвыкнуць, выглядаў і сапраўды дужым, і нават шчаслівым чалавекам.

У маім дзённіку занатаваны і ягонае прозвішча, і пасада, але не буду іх называць, бо чалавек прыехаў вербаваць працаздольных калгаснікаў не таму, што счарсцвела ягонае сэрца, а таму, што, як ён сам заўважыў, «урад наш яшчэ не прачнуўся», і трэба ў першую чаргу, па яго разуменні, выратоўваць тых, хто яшчэ можа прынесці карысць рэспубліцы, і іх дзяцей.

Працаваў ён дырэктарам саўгаса на Брэстчыне і, вядома, як і кожны разумны гаспадарнік, які паважае і самога сябе і клапоціцца пра дабрабыт рабочых, імкнуўся займець спецыялістаў, на якіх заўсёды попыт. Што ж датычыцца пенсіянераў, гаварыў ён, дык іх лішак і ў ягоным саўгасе. Таму везці з сабой яшчэ новых — няма ніякага сэнсу, хоць, прыклаўшы руку да сэрца, яму няёмка і за сваю місію, і сорамна перад старымі, якіх на канцы жыццёвай дарогі ўшчэнт абрабавала дзяржава. Каб мелі нашыя высокія кіраўнікі розум, дык не закапвалі б яны народныя грошы ў атручаную зямлю, а перадалі іх разам з фондамі на будаўнічыя матэрыялы гаспадаркам у чыстых зонах, тады там маглі б паклапаціцца і прыняць у сваю сям'ю не толькі працаздольных людзей, а і вясковых пенсіянераў, перад якімі мы ўсе ў неаплачаным даўгу...

Так гаварыў дырэктар саўгаса, і, як ні цяжка ў гэтым прызнавацца, ён меў рацыю і рэальна падыходзіў да вырашэння праблем перасяленцаў. Ён быў не занадта чэрствы і не дужа шчодры. Звычайны прадстаўнік сялянскай вярхушкі нашага сацыялістычнага грамадства

ў тых эканамічных і сацыяльных рамках, у якія яго ўціснула наша Сістэма. Толькі калі ўжо развіталіся, прарвала ў ягонай душы, нібы ў паводку плаціну, мужыцкае і чалавечае.

Я растлумачыў яму, дзе ў пасёлку знаходзіцца пошта, і без усякай тайнай думкі папярэдзіў, што для таго, каб даць аб'яву ў газеце, трэба заплаціць дзесяць рублёў. Мужчына паглядзеў на мяне неяк няўцямна, потым твар ягоны як наліўся чырванню, і мне здалося, што дырэктар ледзь стрымаўся, каб не плюнуць на падлогу.

— Мала ж у нас цэніцца чалавек... — здзіўлена выціснуў ён праз зубы.

Гэтыя словы я заўсёды ўспамінаў, калі размаўляў з людзьмі на «нявольніцкім рынку». Не буду пералічваць усе вёскі і пасёлкі, дзе жыхары нібы здранцвелі перад невядомасцю, якая для іх ў чымсьці страшнейшая за радыяцыю, аздобленую грашовай дапамогай, да якой іх паспелі прыручыць, як тых цыркавых мядзведзяў-нявольнікаў кавалачкамі цукру, што назапашвае ў бяздонныя кішэні дрэсіроўшчык.

Раскажу пра вёску Мікулічы, дзе працягваецца будаўніцтва, а жыхары, нібы ўціснуўшыся са сваімі нехітрымі пажыткамі ў перапоўненую электрычку, ніяк не могуць зразумець, чаму яна не кранаецца з месца: здаецца ж, зялёнае святло семафора ўжо даўно запаленае...

Усё было як звычайна. Толькі на гэты раз неба нагадвала зморшчаны твар старога. Але дождж так і не сабраўся.

Людзі, што сышліся каля магазіна, выглядалі хмура і засяроджана, як і надвор'е. У натоўпе больш пенсіянераў. Яно і зразумела — маладзейшых турбавала не далёкая перспектыва, а блізкі заробак. Заканчвалася сяўба.

Я стаяў сярод маўклівага натоўпу і адчуваў сябе лішнім сярод гэтых змучаных явай і невядомасцю людзей: прыехаў, пагутарыў, устрывожыў і зноў вярнуўся ў райцэнтр, а ім заставацца сам-насам з нявыплаканым горам... І нічога ў іх лёсе не перайначыш...

— Калі б вы да аварыі прыехалі да нас, — парушыла маўклівасць жанчына ў шэрым паношаным ватніку. — Мы б вас прывецілі... Як былі б халасцяком, дык

і маладзіцу добрую сасваталі б. Да нас перад вайной многія прыязджалі. Па грыбы схадзіць, зайцоў папалохаць... Жылі як у Хрыста за пазухай... А цяпер — слёзы. Нават начальства калгаснае лётае па радыяцыі, як з-за вугла пыльным мяшком прыбітае... Чуткі ходзяць пра вакуацыю, а не збяруць людзей, не растлумачаць, што і як...

— А што табе, Ганка, тлумачыць? — аж злосна спытаў невысокі стары мужчына. (Я пасля даведаўся, што гэта быў пенсіянер Пётр Мікалаевіч Смальцар.) — Наша справа — сядзець сабе ціхенька і пасопваць у дзве дзіркі...

— Табе, Пятро, можна і сапці, — пачуўся голас з натоўпу. — Ты вакуіравацца не збіраешся. Яно, канешне, справа твая: калі сэрца хворае, дык яго і ў новай хаце не вылечыш. Мо і па-божскі з хворым сэрцам на сваёй зямельцы памерці... На то твая воля. А вось пра дзяцей нашых падумай...

— От сказаў, — абурыўся Пятро, — што ж мы, сяляне, можам зрабіць для дзяцей сваіх, калі ўся наша вялікая дзяржава заблыталася ў тым Чарнобылі, як баба ў спадніцы...

Па натоўпе, нібы свавольны ветрык, прабег смех. (Не перастаеш здзіўляцца неўміручаму жыццялюбству палешукоў, якія і ў страшэннай бядзе не развучыліся смяяцца.) Адразу, быццам з беспамернай торбы, пасыпаліся жарты і кепікі.

— Што ты там пра спадніцу нясеш? — павярнулася да Пятра высахлая, нібы гарохавы стручок, старая. — Пабойся бога. Нашы бабы ўжо і забыліся, калі на ноч тую спадніцу з сябе скідалі... А што, калі ноччу зноў закамандуюць вакуацыю. У цемры ды спрасонку забудзеш пра спадніцу. Пабяжыш на людзі, срамату не схаваўшы...

— Каб там, наверсе, былі такія сарамлівыя, як нашы бабы, — нейк збянтэжана кашлянуў у кулак высокі мужчына ў карычневым плашчы, — дык не стаялі б мы сёння жабракамі, а ўжо даўно нешта і сабе, і людзям рабілі...

— Дый што казаць: на сперыменты нас тут трымаюць...

— Во ляпнула, кійком табе па патыліцы, — усхадзілася старая ў павязанай на сівыя рэдкія валасы чырвонай хустцы. — Ці ж холадна і галадна мы жылі? —

Яна раптам павярнулася да мяне. — Ты, чалавек, запішы маю анкету: Юля я — Лапніцкая. А то ўсе нашы мікуліцкія, што паны перад рэвалюцыяй, — хаваюць свае прозвішчы, як некалі тыя сваё золата... Яно і сапраўды трохі боязна. Калі яшчэ тая вакуацыя пачнецца, а дровы ў калгасе на зіму трэба прасіць. А што, як вяршыцелям нашым не па нутру гамонка прыйдзецца? Тады памірай на холадзе? Яно і страшна чалавеку ў няміласць трапіць... А мне, — уздыхнуўшы, яна ўзняла на мяне свае выцвілыя светлыя вочы, — баяцца няма чаго. Я яшчэ ў дзявоцтве ва ўладу нашу паверыла. Во, бачыш, і ў труну ў чырвонай хустачцы лягу. Бо ўсе мы, камсамолкі дваццатых, чырвоныя хустачкі на работу павязвалі. І дарогу тую, якую мы тады да Хойнікаў клалі, да самай смерці не забуду... На паглядзі, — старая працягнула мне далоні: — Ад той хойніцкай дарогі і мазалі пайшлі. А тое, што з намі, чарнобыльцамі, не палюдску робяць, то не ўлада наша савецкая вінаватая, а сынкі нашы вясковыя, што ўзняліся да ўлады той ды дармаедамі зрабіліся. Дык сыноў сваіх і ўнукаў можна і да розуму вярнуць. Колькі на маёй памяці начальнікаў тых змянілася, пальцаў на руках ва ўсіх нас, мечаных, не хопіць, а вось хойніцкая дарога і цяпер жыве...

— Юлька праўду кажа, — загаманілі ў натоўпе. — Усё гора ад начальства нашага. Людзі вунь гаварылі, што Камаю, кіраўніку воласці, гамяльчане недавер у дэпутаты выказалі, а ён дзесьці ў іншым месцы тым дэпутатам стаў. Цяпер во ў Мінск перабраўся, а нас варожай сіле чарнобыльскай кінуў...

— І Еўтуха таго, што нас выселіць абяцаў, таксама нешта не чутно...

— Ды што вы ўсё пра начальства, — падаўся трохі наперад яшчэ маладжавы мужчына ў шэрай кепачцы. — Бог высока, а начальства наша — далёка...

— Во, енты скажа, — радасна падштурхнула мяне локцем «камсамолка дваццатых». — То ж наш палявод Мікола Зелянкоў, адчайны чалавек.

— З Мікулічаў я нікуды не паеду, — між тым гаварыў мужчына, — пакуль хоць адзін мой зямляк у вёсцы застанецца. Хопіць нас, беларусаў, як ветрам апалае лісце, па свеце раскідаваць... Няможна ўсіх разам пасяліць — тады бярыце па дваццаць—трыццаць сем'яў. Праўду кажу, мы яшчэ і карэнне пусцім... Па-іншаму здарыцца — зусім высахнем не толькі ад Чарнобыля...

— Вы і мае словы запішыце, — падалася з натоўпу жанчына ў вязанай кофтачцы. — Наталляй Рыжык мяне клічуць. Я нават у Капыльскі раён жыллё шукаць ездзіла. З самім тамашнім старшынёй калгаса размаўляла. Дык ён мне і кажа: «Даражэнькая, ды я вас са шчырай душой вазьму. Мне людзі патрэбныя. Але як забраць для будаўніцтва дамоў тыя матэрыялы, што на вашу радыяцыйную зямлю ідуць?.. Во, у чым закавыка!..» Далібог, чалавек той праўду казаў. І ў нас, каб яно абвалілася, і ў суседніх вёсках будуюць. Як трэба, дык і шыфер той, і цэгла — усё знаходзіцца... Столькі пабудавалі — больш як да чарнобыльскай вайны...

— Таму і будуюць, каб чарнобыльцаў не перасялялі, — перапыніў жанчыну Мікола Зелянкоў. — Разлік у спадароў нашых просты: тут у цябе, хоць і на радыяцыйнай зямлі, свая хата, а там, на чыстай, дзе няма нуклідаў, няма і хаты... — Ён раптам спытаў у мяне: — Даўно, таварыш, у нашых краях?

— З мінулага лета...

— Ну, тады, калі вочы наўмысна не заплюшчваеш, і тлумачыць нічога не трэба. Сам бачыш, які ў нас тут гармідар...

З тым, што адбываецца на Палессі, цяжка звыкнуцца. Здаецца, што ты глядзіш бясконцы спектакль тэатра абсурду. У кожнай дзеі мяняюцца толькі прозвішчы дзеючых асоб, а афармленне сцэны застаецца без змен — чорная сцяна, на фоне якой, нібы доўгая чарада маўклівых жураўлёў, праплываюць цені людзей. А замест музыкі — няспешныя ўдары тапароў...

Гэта ў тых жа Мікулічах, з якіх па праграме ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС не сёння дык заўтра павінны выехаць жыхары, узводзяць будынак праўлення калгаса. (Я ўжо не пералічваю іншыя планавыя аб'екты, бо праўленне — заўсёды сімвал надзейнасці і перспектывы.)

Непадалёку ад Мікулічаў у вёсцы Буркі рыхтуюцца ўвесці ў эксплуатацыю новы водаправод, і мясцовае кіраўніцтва стаптала не адну пару ботаў у пошуках дэфіцытных матэрыялаў.

Плануецца пракласці дарогу паміж Буркамі і Шчарбінамі. Кладуць асфальт у Бакунах. Не сціхае «працоўная пераклічка» малаткоў на рыштаваннях Дуброўнага, што раскінуліся ў кіламетры-другім ад выселенага Вязка.

Самае неверагоднае ў гэтым, ухваленым зверху, адміністрацыйным вар'яцтве тое, што якраз вёскі і пасёлкі, дзе вядзецца інтэнсіўнае будаўніцтва, і падпадаюць у першую чаргу пад высяленне. Тым жа Шчарбінам і Дуброўнаму прадпісана «змоўкнуць назаўсёды» да першага красавіка дзевяноста першага года.

Вось такой чарнобыльскай стратэгіі і авантурнай, з якога боку ні падыходзь, тактыкі прытрымліваецца кіраўніцтва рэспублікі. Ды яшчэ і пакідае сабе замаскіраваны пралаз: калі ўзнікне небяспека для ўласнага дабрабыту і службовай кар'еры, заўсёды можна спасланца на «местачковы энтузіязм і мясцовую самадзейнасць». Але ж кожнаму зразумела, што фонды на будаўніцтва размяркоўваюцца не ў райцэнтры...

І ўсё ж такі разумець сітуацыю яшчэ не азначае дамагчыся справядлівасці. У вёсцы Гдзень, якая бліжэй з усіх «жывых» населеных пунктаў да аварыйнага атамнага рэактара, пачалі будаўніцтва дваццаці аднаго дома на суму амаль мільён рублёў. Гдзеньцы адразу забілі трывогу — не паліць жа, як у часы сялянскіх бунтаў, тыя хаты — і паслалі ліст у адрас сесіі Вярхоўнага Савета БССР. Адказу няма, а будаўніцтва тым часам працягваецца...

Так што глыбокую трывогу і непакой, а галоўнае — неразуменне дзеянняў нашага ўрада жыхарамі Мікулічаў, як і людзьмі дзесяткаў іншых населеных пунктаў, засуджаных самой чарнобыльскай катастрофай на запусценне і паступовае выміранне, можна зразумець. Немагчыма растлумачыць іншае: каму і навошта карціць закапаць народныя грошы ў спаленую чарнобыльскім пажарам зямлю?

Няўжо нехта думае, што так будзе працягвацца бясконца альбо да таго імгнення, пакуль апошні віноўнік трагедыі бязвінным адыдзе ў іншы свет? Хаця, шчыра кажучы, векавая прыгнечанасць палешукоў, іх душэўная чысціня, непераможная пакорлівасць і мужнасць перад ударамі няправеднага лёсу часам палохае — мо і сапраўды так будзе?

А як думаць іначай, калі пасля размовы з жыхарамі Мікулічаў да мяне падышла на вуліцы Наталля Рыжык.

— Вы перадайце там, у раёне: не выходзіць нас сабча вывозіць, дык хай хоць па нейкіх пяць сем'яў. Усё разам будзем...

Нямнога, ой як нямнога просяць за сваё скалечанае жыццё палешукі. Сапраўды, святыя пакутнікі на нявольніцкім рынку...

Быў яшчэ адзін дзень, які, мабыць, не забудзецца і да канца маіх дзён — шостага мая. Напярэдадні свята ў раённай бібліятэцы арганізавалі сустрэчу салдацкіх удоў, і пра гэтую падзею трэба было напісаць у газету.

Так атрымалася, што я спазніўся на сустрэчу. Увайшоў у чытальню, калі ўжо бабулі — жонкі загінуўшых салдат — пакорліва склаўшы на каленях рукі, сядзелі ўздоўж па-святочнаму накрытых сталоў. Яны сядзелі моўчкі і нерухома, не дакранаючыся да цукерак і пячэння, што ляжалі перад імі, а ў іхніх вачах свяціліся і шчырае здзіўленне, і чаканне нечага незвычайнага, і амаль дзявочая сарамлівасць — быццам яны ніяк не маглі зразумець, як так здарылася, што пра іх нарэшце ўспомнілі...

Потым, калі гэтых нямоглых старых, што, здавалася, як тыя фотакарткі іхніх мужоў, выцвілі ад часу, папрасілі сказаць слова-другое, яны, нібы згаварыўшыся, пачалі дзякаваць нашай уладзе, але раптам збіліся з мажорнай ноты і загаласілі працягла і па-сялянску — як бывае на памінках...

Гэты плач ірваў сэрца, і міжволі прыходзілі на памяць успаміны пра Мікулічы. Быццам вярнуліся зноўку пахмурнае, як перад бядой, неба і натоўп на плошчы.

«Вось жылі сабе паціху, непрыкметна адзінокія жанчыны, каму пашчасціла — гадавалі салдацкіх сыноў, гнулі спіны на дзяржаву і не ведалі, што жорсткі лёс накануе перажыць ім яшчэ адну вайну — чарнобыльскую, — тужліва думаў я. — Перажыць яе яшчэ цяжэй. чым мінулую навалу. Не стае ўжо ні сіл, ні ахвоты жыць, а тым «купцам», што прыязджаюць у раён, яны непатрэбныя, бо ўжо не могуць рабіць, а калі так — значыцца, жыццё скончылася, хоць і жывая трапеча душа...»

Патроху старыя супакоіліся, нават папілі чаю, а затым пайшлі ўскладаць кветкі да помніка салдату-вызваліцелю. Помнік той стаяў у нейкіх дзесяці метрах ад бібліятэкі, і цырымонія прайшла адпаведна сцэнарыю і арганізавана. Апрача, мабыць, таго, што замест пра-

моў бабулі старанна хрысціліся і шапталі пра сябе нейкія патаемныя словы, нібы, як у дзявоцтве, прызнаваліся ў каханні сваім жаніхам перад гэтым бронзавым хлопцам...

Праз нейкі час, прыціскаючы да грудзей падораныя ім хустачкі, салдацкія ўдовы пацягнуліся па сваіх хатах. Так і раставалі яны ў сонечным святле — адзінокія, няшчасныя старыя, пра якіх — дзякуй бібліятэкаркам — успомнілі на свята...

Верзлася, што бабулі назаўсёды пайшлі ва ўлонне сонечнай радыяцыі, каб нікога ўжо больш не турбаваць і не прасіць у людзей міласціну...

Вось у гэты момант я і ўбачыў мужчыну. Дакладней, спачатку не самога яго, а ордэн Айчыннай вайны на лацкане пінжака. Узняўшы вочы, я нібы ўтыкнуўся ў маркрэпенькага старога. На яго парэзаным глыбокімі маршчынамі твары маленькімі азярцамі сінелі вочы, а па вусах блукала па-дзядоўску мудрая ўсмешка.

— А скажы мне, чалавеча, ці даўно тутака праходзіў аўтобус? — спытаў ён.

Аўтобуса я не бачыў, але ведаў, што курсіруюць яны па гарадку праз гадзіну, і таму абнадзеіў старога — неўзабаве аўтобус павінен аб'явіцца на прыпынку.

— Во і добра, — узрадаваўся ён. — Настаяўся за вакуцыйным пасведчаннем, аж нагам млосна...

Мне таксама не было куды спяшацца, і я прысеў на лаўку побач са старым. Гэта і быў Алесь Кірылавіч Лапніцкі з Мікулічаў. Высветлілася, што ён спецыяльна прыязджаў у райцэнтр за дакументамі «бежанца» аж з Украіны.

— Няма чаго прыдурвацца, не кожнаму так пашчасціла, як мне, — расказваў Алесь Кірылавіч. — Сын у мяне ў арміі служыць маёрам-юрыстам. Усе законы і параграфы ведае лепей, чым я сваю ўласную бабу. Вось і купіў нам з жонкай пад Львовам хату. Кіламетраў трыццаць усяго ад горада.

Праўду скажу, не хацелі мы туды ехаць. Усё са старой чакалі, што вёску нашу пачнуць высяляць, дык разам з суседзямі і паедзем. Але ж тры зімы перазімавалі, а пра нас, велікамучанікаў, і не ўспомнілі. Тут ужо, хочаш не хочаш, трэба самому змазваць пяткі... Таму што боязна стала: памрэш, людзі выедуць, абнясуць тваю магілу калючым дротам і ні адна жывая душа скрозь яго да цябе не праб'ецца...

Вось і ададралі мы ад сэрца сваю хату — паехалі на Украіну. Дзідалаў наша вёска цяперашняя называецца. Дужа вялікая, аж пад тышчу двароў. Ды і ўлада там свая. Не паверыш, але раніцай можна ў сталоўцы і выпіць трохі, і закусіць. — Лапніцкі, як і сапраўды пасля добрай чаркі, задаволена правёў далоняй па надзіва пушыстых светла-карычневых вусах. — І што не магу зразумець — ніводнага п'янага. Во, культура...

А мясціны там, братка, прыгожыя. Пяць азёраў вакол нашай вёскі. Мой сын разумны — ведаў, што купляць на мае грошы. Унукаў прывязе на лета, сам прыедзе рыбку палавіць. Жыць можна, каб туга не грызла, праклятая. Асабліва ноччу. Заплюшчу вочы і адразу Мікулічы свае бачу. Здаецца, каб суседзі ранейшыя побач жылі, дык і прывык бы да новай хаты. А так грызе і грызе...

На мосце непадалёку ад падфарбаванага нядаўна будынка райвыканкома паказаўся аўтобус, і Лапніцкі заспяшаўся.

— Ты вось што зразумей. Усе мы, Лапніцкія, тутэйшыя. На Палессі і бацька мой, і дзяды мае нарадзіліся і памерлі. А ў Дзідалаве тым суседзі мяне не Алесем клічуць — Олексам. Нібы і не беларус я ўжо... Во якую несправядлівасць нарабіў Чарнобыль і нашы начальнікі, трасца ім у бок...

Ён падняўся на прыступку аўтобуса, азірнуўшыся, прывітальна памахаў мне рукой — Олекса Лапніцкі, адзін са «шчаслівых» бежанцаў Беларускага Палесся, для якіх свая родная зямля ў час бяды стала мачахай...

Акрамя таго, што жыхарам пацярпелых раёнаў нялёгка знайсці жыллё і работу, іх падсцерагае яшчэ шмат адміністрацыйных ямін, пра якія не ведаюць ні самі перасяленцы, ні шырокая грамадскасць рэспублікі.

Ніна Дзмітрыеўна Міхед з Брагіна расказвала, як яна са сваёй сям'ёй ездзіла ў Калінінградскую вобласць. Уладкаваліся ў саўгасе з аптымістычнай назвай «Дзіўны». Сама Ніна Дзмітрыеўна пайшла працаваць выхавацельніцай у дзіцячы сад, мужа, Мікалая Іванавіча, прызначылі брыгадзірам паляводчай брыгады. Пачалі займацца ў новай школе дзеці — пятнаццацігадовы Толік і малодшы Алеська. Саўгас выдзеліў перасяленцам

кватэру, і здавалася, цяпер пасля ўсіх трывог і турбот можна зажыць па-чалавечы.

— Праўда, — расказвала Ніна Дзмітрыеўна, — я спачатку не зразумела, чаму нас на новым месцы прыпісваць не хочуць. Гаварылі: «Пажывіце, прыглядзіцеся да людзей — куды спяшацца?» Калі гаспадары так лічаць, дык нам, пагарэльцам, сумленне не дазваляе свае правы качаць. І ўсё, можа, прыйшло б у нас да ладу, каб не пачалі хварэць дзеці. Як навыпраткі: то Алеська, то Толік... Ды і хварэлі не дай бог бачыць такога: калі закашляе каторы, дык ужо на месяц...

Пасля доктарка мясцовая нам растлумачыла, што нельга нашым дзецям каля мора паўночнага жыць: дужа вільготнае паветра, а Чарнобыль, казала яна, разбурыў у арганізме імунныя клеткі. Для іх любая прастуда такая ж цяжкая, як для кожнага здаровага дзіцяці запаленне лёгкіх. Задумаліся мы з мужам. А тут якраз водпуск прыспеў. Паехалі мы на радзіму, у Брагін. Мне і гавораць прыяцелькі: «Калі дзецям там жыць няможна, вяртайся ты, Нінка, дадому. Ходзяць чуткі, што хутка нас пачнуць вывозіць у чыстыя раёны. Вядома, лепей у Беларусі застацца, чым на чужыне жыць...»

Вярнуліся мы ў «Дзіўны» а словы падружак — нібы стрэмка засела пад сэрцам. А тут зноў Толік, як на тое ліха, захварэў... Вось і вырашылі мы назад вяртацца. Пайшла ў кантору браць разлік, а мяне і ўзрадавалі: вам, гавораць,трынаццатая зарплата не налічаная. Чаму, пытаюся. «А вы ў нас часовая, непрапісаная...»

Потым ужо мне пад вялікім сакрэтам растлумачылі, што ёсць такое «засакрэчанае ўказанне» не прапісваць жыхароў з пацярпелых раёнаў, каб вярталіся яны дадому. У гэта можна паверыць: уладкуй каторага з душой, клопатаў потым не абярэшся. Пойдуць людзі да мора касяком. А мясцовы люд баіцца, што мы, чарнобыльцы, атамам пракажоныя...

— Што тут зробіш, — самотна ўздыхнуўшы, развяла рукамі Ніна Дзмітрыеўна, — такі ўжо ў нас гаротны лёс...

Вось такая балючая споведзь. Такое непрыкаянае жыццё. Так што не толькі Беларусь для палешукоў мачаха...

Ёсць людзі, якія ўсімі праўдамі і няпраўдамі стараюцца затрымаць сялян на радыеактыўнай зямлі, але

кінуць у іх за гэта камень не ўзнімаецца рука. Што зробіш з чалавекам, які свята і наіўна верыць у пралетарскую справядлівасць, а яшчэ больш у тое, што яму пашчасціць захаваць і сваю гаспадарку, і сваіх людзей, да якіх ён прыкіпеў сэрцам.

Раніцай пятага чэрвеня я прыехаў у калгас «Шлях да камунізму». (Нямнога, відаць, знойдзецца гаспадарак з такой жыццесцвярджальнай назвай, якія крочаць у светлае заўтра па радыеактыўнай зямлі.)

У непаглядным і маленькім праўленні калгаса ішла планёрка галоўных спецыялістаў, і я вырашыў, пакуль вызваліцца старшыня, заглянуць на мехдвор — балазе ён быў побач з праўленнем.

Каля загароджы тоўпіліся мужчыны, з відавочнай асалодай папыхвалі цыгарэткамі, і наогул здавалася, што механізатараў на двары значна больш, чым тых камбайнаў.

— А яно так і ёсць, — згадзіўся са мной першы ж механізатар, у якога, каб завязаць знаёмства, я папрасіў запалкі. — Да нас жа многа эвакуіраваных трактарыстаў з суседніх вёсак прыехала, а ворыўныя плошчы ўвесь час скарачаюцца... То па цэзію ад сельгасугоддзяў адрэжуць кавалак зямлі, то па стронцыю. Калі так пойдзе далей, дык прыйдзецца нашы «Нівы» ў палівальныя машыны перарабляць — будзем у райцэнтры змываць з асфальту радыяцыю... Кажуць, іх на ўвесь Брагін усяго дзве. Куды ж з такой малой сілай з атамамі ваяваць...

— Ды кінь ты, Віцька, дурное, — махнуў рукой рабаваты тоўсценькі мужчына ў клятчатай кашулі. — Чуў, што старшыня казаў: «Паеду адсюль толькі з апошнім пенсіянерам...» Мы што, галаштаннікі нейкія? У нас тры мільёны крэўных на рахунку ляжыць. З такімі грашыма нас любая Расея з абдымкамі прымс...

Пазіцыя старшыні калгаса Пятра Іванавіча Бурдука ў пытанні эвакуацыі гаспадаркі мне была вядомая. Зразумелыя і матывы. Але мне было няясна, як на практыцы ажыццявіць перасяленне адразу ўсяго калгаса.

Што нам ні гаварылі б, а чатыры гады, якія мінулі пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС, маруднае таптанне на месцы, адчуванне безвыходнасці прытупілі чалавечы боль, а ў многіх з тых, ад каго залежыць вырашэнне экстранных жыццёва важных для жыхароў пацярпелых раёнаў пытанняў, здаецца, і зусім загаілася

«прыпяцкая рана». Таму і нешта не верылася ў рэальнасць задуманага старшынёй. Але больш падрабязна пагаварыць з механізатарамі пра гэта не ўдалося — на ганак праўлення пачалі выходзіць людзі.

Калі я ўвайшоў у пакой старшыні, там заставалася ўсяго тры-чатыры чалавекі. Бурдук, на выгляд зусім малады яшчэ мужчына, з раннім сівым павуціннем у густой чорнай шавялюры, выглядаў стомлена. Даведаўшыся аб мэце майго візіту, кіўнуў галавой у бок мажнай жанчыны: «Еўдакія Ільінічна ўсё і раскажа. Яна нядаўна ездзіла з дэлегацыяй нашых калгаснікаў у Іванаўскую вобласць».

— Дык што ж тут расказваць, — уздыхнула жанчына. — Не на свята ездзілі — у разведку... І не радасць паклікала ў дарогу — гора горкае...

— Мікалай Лявонцевіч, — Бурдук раптам звярнуўся да мужчыны, які сядзеў насупраць яго, — ты ў нас загартаваны і менш эмацыянальны таварыш. Мо падзелішся сваімі ўражаннямі ад паездкі? — Старшыня зірнуў на мяне і растлумачыў: — Гэта мой намеснік, правая рука і генератар ідэй...

— Дык што расказваць, — зморшчыўся, нібы ад зубнога болю, Мікалай Лявонцевіч. — Ёсць у Іванаўскай вобласці такі калгас «Перамога». Дванаццаць кіламетраў ад райцэнтра, дваццаць два населеныя пункты на семсот семдзесят чалавек, ды і жыхары ўсё больш пенсіянеры. Яшчэ тлумачэнні патрэбныя? — Ён стомлена паглядзеў мне ў вочы. — Значыцца, тлумачэнняў не трэба. Тады пойдзем далей. Ураджайнасць у гаспадарцы ніжэй за нашу амаль у чатыры разы. У нас бывае і пад пяцьдзесят цэнтнераў з гектара, а там больш за чатырнаццаць не бяруць...

— Дык адкуля той ураджай возьмецца, — не вытрымала Еўдакія Ільінічна, — калі яны нават гной з кароўнікаў не вывозяць...

— Пра тое і я кажу, — уздыхнуў Мікалай Лявонцевіч, — але бязглуздзіцу і дурноту мы і выкарчаваць можам. Нам, беларусам, не прывыкаць карчаваць... Вось што мяне больш трывожыць: уклад жыцця ў іх іншы. Ну, дзе вы ў нас бачылі, каб хата і хлеў пад адным дахам стаялі?

Нашых мужыкоў ад таго малюнка аж у халодны пот кінула. Расказвалі нам, што яшчэ на канцы пяцідзесятых у «Перамогу» аж з Узбекістана людзей вербавалі

на працу. Дык не прыжыліся тыя — вярнуліся назад. Ды і цяжка чалавеку на новым месцы прыжыцца...

— Таму і трэба трымацца гуртам, — заклапочана і як жорстка ссунуў на пераноссі густыя бровы Бурдук. — Калі ёсць хоць маленькі шанц не распаўзацца, як прусакі ад голаду, па свеце, не выкарыстаць яго — форменнае злачынства перад людзьмі...

— Яно так, — згадзілася Еўдакія Ільінічна, — ды і мясціны там прыгожыя: лес, рэчка ёсць...

Яна хацела падоўжыць сваю думку, але ў гэты момант на рабочым стале старшыні настойліва і пранізліва зазваніў тэлефон.

Бурдук зняў трубку, і ягоны твар стаў і задаволены, і хітраваты адначасова. Па кароткіх адказах цяжка было зразумець, з кім старшыня размаўляе. Нарэшце Бурдук паклаў на рычаг трубку і абвёў доўгім позіркам прысутных.

— З «Перамогі» званілі, — растлумачыў ён. — Хвалююцца, ці задаволены нашы людзі сустрэчай. Іх зразумець можна. Не кожны раз такі смачны кавалак сам у рот просіцца...

— Дык жа яны гаварылі, што гаспадарку сваю падзеляць на дзве часткі, нават назву нашага калгаса захаваюць, — па-жаночы лагодна напомніла Еўдакія Ільінічна.

— Нас некалі вялікія аўтарытэты запэўнівалі, што на нашай зямлі радыяцыі няма, а цяпер рэжуць яе па жывому... Ды яшчэ і нашы мільёны, і нашы рукі, выходзіць па ўсім, у сваёй рэспубліцы лішнімі сталі, — растлумачыў заклапочанасць старшыні Мікалай Лявонцевіч. — Так што выйсця іншага, Еўдакія, проста ў нас сёння няма...

— І заўтра, мне думаецца, таксама, — узняўся на ўвесь свой высокі рост з-за стала Бурдук. — Цяпер слова за калгаснікамі. Ім самім рашаць, як жыць далей... — Ён павярнуўся да мяне.. — Пытанні ёсць? — тужліва ўсміхнуўся. — Бачу, пытанняў няма.

Я выйшаў на ганак. У вочы адразу пырскнула шчодрым святлом. Камбайны на мехдвары чамусьці нагадалі чырвоных майскіх жукоў: вось узмахнуць зараз крыламі і паляцяць...

Ля загароджы па-ранейшаму стаялі механізатары, мабыць, чакалі нарадаў на работу. Я падышоў да мужчын.

— Ну, што там начальства гамоніць? — спыталі мяне.

— Ад вас, здаецца, залежыць, чакаць тут ці ехаць...

— Няможна ўжо чакаць, — адразу ўзрушана загаманілі людзі. — Ці ж мы разбегліся пасля Чарнобыля, як тыя зайцы? Ды і Расія не за морамі-акіянамі. Вунь калісь паказвалі па тэлевізары, што нават у Канадзе, лічы, на самым небакраі, беларускае зямляцтва ёсць... А мы ж не ў чужую краіну хатулі збіраем...

Расія і сапраўды не за морамі-акіянамі, а побач — такая ж знявечаная атамнай навалай, як і наша Беларусь...

Пад націскам грамадскасці і жорсткім прэсінгам часу праз тысячу пяцьсот дзён і начэй з пачатку ядзернай акупацыі шостага чэрвеня ў зону пастаяннага радыяцыйнага кантролю з «боем» прарвалася, бадай, першае разумнае і гуманнае рашэнне «галоўнага штаба па ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС».

У той памятны, аблашчаны сонцам і богам дзень, у рэдакцыі «Маяка Палесся» раздаўся тэлефонны званок. Нешматслоўны і заўсёды дазіраваны ў праяве сваіх пачуццяў намеснік старшыні Брагінскага райвыканкома Віктар Міхайлавіч Буйневіч, чый аўтарытэт трымаўся не на рытарычных заявах і абяцаннях, а на канкрэтных учынках, голасам, у якім адчуваліся непрыхаваная радасць і аптымізм, паведаміў:

«Нашаму раёну выдзелена жыллё. Трэба даць інфармацыю ў прэсе...»

Гэта была і сапраўды доўгачаканая і выпакутаваная падзея, якая, здавалася, ужо ніколі не прыйдзе на зямлю гаротнай Брагіншчыны. Упершыню афіцыйна называліся населеныя пункты, дзе жыхарам, што пацярпелі ад аварыі на атамнай станцыі, планавалася выдзеліць кватэры.

Зачароўваў і абнадзейваў канкрэтны стыль пастановы, які не пакідаў ніякіх шанцаў недаверу, — у ёй нават агаворваўся тып жылплошчы.

Трэба было бачыць, з якімі натхнёнымі, прасветленымі тварамі чыталі жыхары райцэнтра невялічкую заметку ў раённай газеце. Ды і было ад чаго акрыяць. Сціплыя лічбы ў карэспандэнцыі нагадвалі ластавак,

якія заўсёды на крылах прыносяць вясну, а значыцца, і надзею.

Напрыклад, на Брэстчыне для жыхароў пасёлка меркавалася пабудаваць сто дзевятнаццаць кватэр. З іх — восем аднапакаёвак, семдзесят шэсць — двухпакаёвак, васемнаццаць — трохпакаёвак і дзевяць — чатырохпакаёвак. Астатняе жыллё — для маласямейных.

А неўзабаве на бяду і трагедыю палешукоў адгукнулася і кіраўніцтва іншых абласцей.

Адразу, каб узяць мерапрыемства пад кантроль, у райцэнтры стварылі спецыяльную камісію, у склад якой увайшлі прадстаўнікі працоўных калектываў, грамадскіх арганізацый і Саветаў народных дэпутатаў. У сваёй рабоце члены камісіі ўлічвалі многія фактары: колькі часу пражывае тая або іншая сям'я ў Брагіне, стан здароўя, узрост дзяцей, а таксама радыяцыйную абстаноўку ў месцах пражывання.

(Нават у межах гарпасёлка ступень забруджанасці радыенуклідамі не ўсюль аднолькавая, хоць і высокая.)

Перспектыва жыць на чыстай зямлі, не ў адзіноце, а разам з землякамі, на якіх можна разлічваць па першым часе — што тут крывіць душой: не сустракаюць чарнобыльскіх бежанцаў хлебам-соллю, — узрушыла, устрывожыла людзей, нібы электрычны дрот, агаліла нервы.

На заасфальтаваныя Чарнобылем вуліцы і крывыя завулачкі, як тыя ядавітыя змеі з тэрарыума, выпаўзлі крыўда, плёткі, нядобрая зайздрасць і ледзьве не ваяўнічая непрымірымасць.

Ды і ці магло пасля стольківх гадоў чорнай безнадзейнасці, якіх хапіла б не на адно пакаленне, здарыцца неяк па-іншаму?)

Але паступова хмары над пасёлкам развеяла. Людзі як ачнялі, паглядзелі адзін аднаму ў вочы і жахнуліся: што ж яны робяць? Ці ж вінаваты ў трагедыі Палесся сусед?

То ж не радасць, а гора горкае, што ягонае дзіця нарадзілася ў красавіку восемдзесят шостага, і гэтая страшная акалічнасць стала прывілеяй.

Прымірыла і думка, што кватэры тыя выдзеляць

толькі ў наступным годзе, а да гэтага часу трэба яшчэ па-суседску пражыць і не як-небудзь перагараваць, а ў згодзе.

Усялякае можа здарыцца: ці ж мала за чатыры гады перайначана-перароблена?

А тут яшчэ нейкі мясцовы жартаўнік пусціў чутку: ордэры на жыллё выдадуць толькі пры ўмове, што раённае аграпрамысловае аб'яднанне выканае план па зборы чорнага металу. (У гэта можна было паверыць, бо Брагіншчыну і сапраўды абавязалі сабраць для металургаў тысячу трыста дзевяноста тон радыеактыўнага жалеза.)

Так ці іначай, але і шчасліўцы, і абдзеленыя ўрэшце спусціліся на грэшную зямлю і пачалі займацца тым, чым і займаліся ўвесь час да аварыі — сваімі будзённымі справамі.

Нішто, здавалася, не паказвала на новую бяду і выпрабаванні. І раптам, нібы ў яснае надвор'е, над гарадскім пасёлкам грымнуў гром. Трынаццатага ліпеня — вось і не вер пасля гэтага ў забабоны? — брагінцы даведаліся, што ім адмовіліся выдзеліць кватэры ў Зэльве, Ваўкавыску і Слоніме... Менавіта ў тых населеных пунктах, куды будучыя перасяленцы паспелі ўжо з «чарнобыльскага лататрона» выцягнуць выйгрышныя «білеты»...

Расказаць вам пра тое, што адчулі ў той момант палешукі, з якіх у каторы ўжо раз паздзекавалася родная дзяржава? Як зацята клялі сябе, сваё загубленае жыццё і ўладу?

Расказаў бы, але, далібог, не стае ўжо сіл...

Ад сімвалаў жыцця і надзеі да знакаў бяды і смерці на атручаным Палессі ўсяго адзін крок. Як ад цёмнай бяззоркавай начы да яснай сонечнай раніцы і наадварот...

7 чэрвеня. Усё цела — твар, шыю, рукі — нібы змазвае ліпучым клеем чорная ноч.

Здаецца, што цябе ўвапхнулі ў цесную капсулу, у якой нават няможна варухнуць плячыма. І яшчэ — цяжка дыхаць.

Не, паветра не сухое, як бывае звычайна летам, а

набрынялае вязкай кіславатай вільгаццю — аж склейвае вусны...

Рухавік нашай машыны захлынуўся кашлем на высокім пагорку ў некалькіх кіламетрах ад Брагіна. З шашы добра бачныя дробненькія, што двухкапеечныя манеты, агеньчыкі.

Над гарадскім пасёлкам гэтых дрыготкіх жоўтых агеньчыкаў няшмат, але яны, як гэта заўсёды бывае ў дарозе, не саграваюць сэрца, а нават палохаюць сваёй непрыкаянасцю.

Гэта дзіўнае і трывожнае адчуванне, якое няпроста, а мо і немагчыма перадаць.

— Як светлячкі на могілках, — ківае галавой у бок пасёлка шафёр. — Зблізку яны бачныя, здалёку — не. У гэтым, мабыць, і бяда наша...

10 чэрвеня. Раніца. На аўтастанцыі палешукі моўчкі і спрытна штурмуюць старэнькія аўтобусы мясцовых маршрутаў.

А насупраць прадуктовага магазіна заезджы каапературатар на ўзорчатым дыванку, які накінуў на капот новенькіх «Жугулёў», круціць імпартны магнітафон. З нетраў музычнай скрыні нямым крыкам ірвецца на аўтастанцыю спявак: «Ты меня любишь...»

Прадпрымальны гастралёр прапануе няшчасным палешукам купляць магнітафонныя запісы.

Патроху каля машыны збіраецца натоўп. Да дарослых цікаўнымі птушанятамі горнуцца малыя.

Стаяць, слухаюць. Дзеці як дзеці. Песня як песня. Пра каханне, пра будучыню, якой у маленькіх вязняў Чарнобыля сёння няма...

4 верасня. «У Мінску памірае ад лейкеміі хлопчык Саша Вуглік. Патрэбна валюта...» (Тэлевізійная служба навін.)

Нам патрэбна не толькі валюта. Мы згубілі самае каштоўнае з таго, чым некалі шчодра надзяліў сваю зямную паству ўсемагутны, — трапяткую, чуйную душу. І пакуль у беларускім парламенце народных абраннікаў, як тых галасістых даверлівых шпакоў, падкармлі-

вае і прыручае да шчадрот наша шматвопытная рабоча-сялянская бюракратыя, недзе пад нябёсамі Г і с т о р ы я паставіла ўжо два камяні. На адным з іх — белым — дзень за днём яна выбівае імёны ахвяр атамнай трагедыі.

На другім — чорным — прозвішчы вінаватых у тым, што адбылося т а д ы і адбываецца с ё н н я.

Бо свет можна разбурыць, але душа чалавечая нятленная...

Я ўсё сказаў. А цяпер думайце вы, людзі!..

*Май — верасень 1990 года*

**Крыга А.**

К 85 Выбух над Прыпяццю: Дакум. аповесць. — Мн.: Маст. літ., 1992. — 181 с.

ISBN 5-340-01116-X.

Крыга А. Взрыв над Припятью: Докум. повесть.

Гэта кніга — споведзь беларусаў, над чыімі лёсамі расхінуў чорныя крылы чарнобыльскі груган, заклік да міласэрнасці і чалавечага розуму. Аўтар не выступае ў ролі пабочнага назіральніка, а разам з палешукамі, з якімі жыве побач з эпіцэнтрам ядзернага выбуху, шукае адказы на балючае пытанне: як хутчэй ліквідаваць вынікі аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

**К $\frac{4702120201-133}{М\ 302(03)-92}$ 31—92** **ББК 84Бел7**

Литературно-художественное издание

**КРЫГА АЛЕСЬ**
**(Осипенко Александр Александрович)**

**ВЗРЫВ НАД ПРИПЯТЬЮ**

Документальная повесть

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

**КРЫГА АЛЕСЬ**
**(Асіпенка Аляксандр Аляксандравіч)**

**ВЫБУХ НАД ПРЫПЯЦЦЮ**

Дакументальная аповесць

Рэдактар Л. К. Лявонаў. Мастак М. У. Чуднікаў. Мастацкі рэдактар А. І. Дрозд. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар А. Т. Глушчанка.

ІБ № 3885

Здадзена ў набор 13.05.91. Падп. да друку 10.08.92. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера пісчая. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 9,66. Ум. фарб.-адб. 10,08. Ул.-выд. арк. 9,79. Тыраж 3200 экз. Зак. 554.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. 220 600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Друкарня «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. В. Таўлая, 11.

**ВЫДАВЕЦТВА**
**«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»**
**1992**

---

## Набывайце і чытайце новыя творы беларускіх празаікаў

---

*В. Гардзей*
УРАТУЙ АД НЯЧЫСТАГА
Аповесці, апавяданні

*А. Дзятлаў*
ПАРОГ
Аповесці

*А. Капусцін*
ЦВІЎ БЭЗ, ІГРАЛА СКРЫПКА
Аповесці, апавяданні

*Н. Маеўская*
ТРЫВОЖНА ШУМЯЦЬ ЯСАКАРЫ
Аповесці і апавяданні